**Rocznik Centrum Studiów Białoruskich / Гадавік Цэнтра беларускіх студыяў**
Studium Europy Wschodniej
Uniwersytet Warszawski



**Redakcja techniczna:** Aksana Danilewicz, Joanna Puchalska, Filip Urbański.
**Tłumaczenie i korekta streszczeń** — Filip Urbański (na język polski), Cristopher Moore (na język angielski), Olena Kondratyuk (na język ukraiński).
**Opracowanie graficzne, skład, druk:** Ivan Paulenak.
**Okładka:** Manuel Prada.

**Adres redakcji:**
Krakowskie Przedmieście 26/28, 00–927 Warszawa
wydawnictwa.studium@uw.edu.pl
ISSN 2450–8144




**Druk i oprawa:**Fabryka Druku Sp. z o.o.

# Spis treści / Змест

## DOKUMENTY / ДАКУМЕНТЫ



## ŻYCIE NAUKOWE / НАВУКОВАЕ ЖЫЦЦЁ

### Рэцэнзіі



### Анатацыі

## Канферэнцыі



## Pro Memoriam

# АД РЭДАКТАРА / ВІД РЕДАКТОРА

Дзень 24 лютага 2022 г., калі войскі Расійскай Федэрацыі распачалі ваенныя дзенні супраць Украіны, сёння ўспрымаецца як канец пэўнай эпохі. Да гэтай агрэсіі здавалася, што шырокамаштабны ваенны канфлікт у Еўропе, якая яшчэ добра памятае трагедыю Другой сусветнай вайны, немагчымы, і што крах СССР, нягледзячы на асобныя лакальныя канфлікты, усё ж застанецца прыкладам мірнага распаду імперыі. Іншае спадзяванне, якое таксама засталося ў мінулым, грунтавалася на перакананні, што непрызнанне міжнароднай супольнасцю расійскай анексіі Крыма і часткі Данбаса будзе істотнай перашкодай на шляху далейшай тэрытарыяльнай экспансіі.

Падзеі 24 лютага перакрэслілі ўсе гэтыя спадзяванні. Сёння, калі пішуцца гэтыя радкі, ідзе чацвёрты месяц вайны. Усё больш відавочна, што змаганне ўкраінцаў за ўласную свабоду і незалежнасць адначасна з'яўляецца барацьбой за асновы сучаснай цывілізацыі, якая грунтуецца на дэмакратычных каштоўнасцях і павазе да правоў чалавека.

Згадваючы псеўдагістарычныя разважанні прэзідэнта РФ наконт нібыта штучнасці ўкраінскай дзяржаўнасці (22.02.2022), міжволі задаешся пытаннем пра адказнасць гісторыкаў за трагедыю гэтай вайны. Безумоўна, не яны аддавалі загады генералам, але ідэалагічная падрыхтоўка агрэсіі

День 24 лютого 2022 року, коли війська Російської Федерації розпочали військові дії проти України, сьогодні сприймається як кінець певної епохи. До цієї агресії здавалося, що масштабний військовий конфлікт у Європі, яка досі пам'ятає трагедію Другої світової війни, незважаючи на окремі, і що крах СРСР, не дивлячись на окремі локальні конфлікти, залишиться прикладом мирного розпаду імперії. Ще одне сподівання, яке також залишилася в минулому, ґрунтувалася на переконанні, що невизнання міжнародною спільнотою російської анексії Криму та частини Донбасу буде вагомою перешкодою для подальшої територіальної експансії.

Події 24 лютого перекреслили всі ці сподівання. Сьогодні, коли пишуться ці рядки, триває четвертий місяць війни. Стає дедалі зрозумілішим, що боротьба українців за власну свободу та незалежність водночас є змаганням за основи сучасної цивілізації, заснованої на демократичних цінностях та повазі до прав людини.

Згадуючи псевдоісторичні роздуми Президента РФ про нібито штучність української державності (22 лютого 2022 р.), мимоволі постає питання про відповідальність істориків за трагедію цієї війни. Звісно, вони не віддавали наказів генералам, але ідеологічне обґрунтування агресії не обійшлося без їхньої участі. Анало-

не абышлася без іх удзелу. Аналагічна выглядае сітуацыя ў Беларусі, дзе другі год ідзе вайна супраць уласнага народа. Гісторыкі і тут не аддаюць загадаў, але некаторыя забяспечваюць г. зв. “сілавікоў” ідэалагічнымі “боепрыпасамі”. Шукаючы прычын гэтага, можна разважаць пра савецкія карані гэтай пазіцыі і пра тое, што ў нас так і не склалася карпарацыя прафесійных навукоўцаў, арыентаваных на пошук ісціны. *Homo Soveticus* пакуль перамагае і тут. Можна (і трэба) казаць пра звычайны страх многіх былых калег страціць працу і свабоду, які вітае ў айчынным паветры. Гісторыкі апынуліся перад вельмі складаным выбарам, які патрабуе грамадзянскай мужнасці.

Што рабіць у гэтай сітуацыі? Думаю, што няма адзінага слушнага адказу. Урэшце вайна навязвае свае ўмовы. Але як гісторык і рэдактар хачу звярнуць увагу на важнасць абмеркавання г. зв. “цяжкіх пытанняў” у гісторыі міжнацыянальных і міждзяржаўных адносін у рэгіёне Украіна — Літва — Беларусь, на імкненне зразумець пазіцыю іншага боку і не ператвараць гісторыю ў глярыфікацыю ўласнай нацыі і ўласнай дзяржавы. Галоўнай задачай гісторыка як навукоўца застаецца імкненне да ісціны, якая часам не бывае адзінай. Гэта цяжкі шлях, а яго вынікі не заўсёды цешаць уласную нацыянальную годнасць. Але ён, прынамсі, не дазваляе навукоўцам ператварыцца ў “падносчыкаў снарадаў” і спрыяе разуменню, што гісторыя можа не толькі дзяліць народы, але таксама яднаць іх.

**9 чэрвеня 2022 г.**

гічною виглядає ситуація і в Білорусі, де вже другий рік триває війна проти власного народу. Історики і тут не віддають наказів, однак дехто з них забезпечує т. зв. «силовиків» ідеологічними «боєприпасами». Шукаючи цьому пояснення, можемо говорити про радянське коріння такої позиції чи про те, що серед нас так і не сформувалася корпорація професійних науковців, зорієнтованих на пошук істини. *Homo Soveticus* все ще перемагає. Також можна (і варто) говорити про страх багатьох колишніх колег втратити роботу та свободу, що останнім часом наповнює вітчизняне повітря. Історики опинилися перед надважким вибором, який вимагає громадянської мужності.

Що робити в цій ситуації? Однозначної відповіді на це питання немає. Зрештою, війна диктує свої умови. Але як історик і редактор хочу звернути увагу на важливість обговорення т. зв. «складних питань» історії міжнаціональних та міждержавних відносин у регіоні Україна-Литва-Білорусь, потребі зрозуміти позицію іншої сторони та не перетворювати історію у звеличення власної нації та власної держави. Головним завданням історика як вченого залишається прагнення до істини, яка часом — виявляється не єдиною. Це важкий шлях і його результати незавжди тішать власну національну гордість. Але він принаймні не дозволяє науковцям перетворитися у «постачальників снарядів» і сприяє усвідомленню того, що історія може не лише розділяти народи, а й об’єднувати їх.

**9 червня 2022 р.**

# ДЫСКУСІЯ

## Рэч Паспалітая ў гісторыі народаў і дзяржаў рэгіёна Украіна — Літва — Беларусь

Рэч Паспалітая Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага адыграла важную ролю ў гісторыі Еўропы і асабліва ў мінулым Украіны, Літвы, Беларусі і Польшчы. Гэта роля ацэньвалася гісторыкамі па-рознаму. Так, у польскай гістарыяграфіі пераважае пазітыўная ацэнка існавання Рэчы Паспалітай і яе значэння для гісторыі як Польшчы, так і ўсяго рэгіёна. Прафесар Юліюш Бардах пісаў пра яе "нязмерна істотную ролю ў гісторыі народаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы", падкрэсліваў роўнасць Кароны і Вялікага Княства і захаванне імі палітычнай суб'ектнасці. Ежы Ахманьскі называў Люблінскую унію "геніяльнай", а Аскар Галецкі — "выключнай з'явай", якая не мае аналагаў у сусветнай гісторыі.

Аднак з боку многіх беларускіх, літоўскіх і ўкраінскіх гісторыкаў гучалі і гучаць даволі крытычныя ацэнкі як самой Люблінскай уніі, так і тых сацыяльных і культурных працэсаў, якія адбываліся ў перыяд Рэчы Паспалітай. Міхайла Грушэўскі пісаў пра знішчэнне гістарычна выпрацаваных форм украінскага жыцця ў грамадска-палітычнай і культурнай сферы, якія не адпавядалі польскім узорам. Мітрафан Доўнар-Запольскі ў *Гісторыі Беларусі* (1926) назваў Люблінскую унію "актам выключнай несправядлівасці, якую дапусціў братні народ". Тым самым ён адмовіўся ад ранейшай пазітыўнай ацэнкі Уніі як "грандыёзнага палітычнага плана". Літоўскімі даследчыкамі Люблінская унія і Рэч Паспалітая працяглы час ацэньваліся як адзін з найбольш трагічных эпізодаў нацыянальнай гісторыі.

Геапалітычныя перамены канца XX ст. ва ўсходняй частцы еўрапейскага кантынента актуалізавалі канцэпцыю Цэнтральна-Усходняй Еўропы (Аскар Галецкі). Гэта ў сваю чаргу паспрыяла росту цікавасці да гісторыі Люблінскай уніі, а таксама яе разгляду ў межах "традыцый інтэграцыі" народаў і дзяржаў рэгіёна (Ежы Клачоўскі). Пра гэта таксама ішла гаворка падчас святочных мерапрыемстваў, прысвечаных 450-годдзю Уніі, у Любліне летам 2019 г. Ва ўрачыстасцях прынялі ўдзел дэлегацыі Украіны, Літвы і Беларусі.

Чарговы дыскусійны форум на старонках нашага часопіса прысвечаны Рэчы Паспалітай, якая ўсё яшчэ застаецца “гарачым” месцам памяці (Альвідас Нікжэнтайціс) для гісторыкаў рэгіёна УЛБ. Яго ўдзельнікам прапанавана было адказаць на тры пытанні:

1. Якое месца ў сучаснай гістарыяграфіі чатырох дзяржаў — Украіны, Літвы, Беларусі, Польшчы — займае Люблінская унія і гісторыя Рэчы Паспалітай абодвух народаў? / Jakie miejsce we współczesnej historiografii czterech krajów — Polski, Litwy, Ukrainy i Białorusi — zajmuje Unia Lubelska i historia Rzeczypospolitej Obojga Narodów?
2. Ці Рэч Паспалітая абодвух народаў усё яшчэ застаецца “гарачым” месцам памяці для сучаснага грамадства? / Czy Rzeczpospolita Obojga Narodów wciąż jest „gorącym” miejscem pamięci dla współczesnego społeczeństwa?
3. Ці памяць пра унію 1569 г. можа стаць чыннікам пэўнай інтэграцыі народаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы? / Czy pamięć o unii z 1569 roku może stać się czynnikiem integrującym narody Europy Środkowo-Wschodniej?

**Удзельнікі:**
- доктар габілітаваны, прафесар Варшаўскага ўніверсітэта Генадзь Сагановіч;
- доктар гістарычных навук, прафесар Варшаўскага ўніверсітэта Аляксандр Краўцэвіч;
- кандыдат гістарычных навук Уладзімір Падалінскі (Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт);
- profesor, dr. hab. Andrzej Zakrzewski (Uniwersytet Warszawski);
- dr Łukasz Adamski (Centrum Polsko-Rosyjskiego Dialogu i Porozumienia, Warszawa);
- profesor dr Alfredas Bumblauskas (Uniwersytet Wileński);
- докторка історичних наук Наталія Старченко, старша наукова співробітниця Інституту української археографії та джерелознавства ім. М. С. Грушевського НАНУ (Київ);
- кандидатка історичних наук Наталія Білоус, старша наукова співробітниця Інституту історії України НАНУ (Київ).

## 1. Якое месца ў сучаснай гістарыяграфіі чатырох дзяржаў — Украіны, Літвы, Беларусі, Польшчы — займае Люблінская унія і гісторыя Рэчы Паспалітай абодвух народаў?

### Кандыдат гістарычных навук Уладзімір Падалінскі:

Айчынная гістарычная навука мела пэўныя дасягненні ў вывучэнні мінулага Беларусі канца XVI–XVIII стст. яшчэ ў савецкі час. Аднак, на наш погляд, працэс афармлення ўласна беларускай гістарыяграфіі гісторыі Рэчы Паспалітай пачаўся толькі ў выніку распаду СССР. Менавіта атрыманне незалежнасці падштурхнула беларускае грамадства да пераасэнсавання свайго мінулага, у т.л. і перыяду Рэчы Паспалітай. Хаця і вельмі павольна, але афармляецца самастойны погляд на гісторыю гэтай дзяржавы, які сыходзіць з ацэнкі яе ролі ў развіцці ўласна беларускага народа. У сваю чаргу, гэта дае магчымасць гісторыкам і прадстаўнікам некаторых іншых гуманітарных навук ствараць сваю карціну айчыннай гісторыі XVI–XVIII стст., а не карыстацца састарэлымі схемамі, запазычанымі, як правіла, з расійскай або польскай гістарыяграфіі. Заўважым, што прафесійныя беларускія даследчыкі імкнуцца разглядаць мінулае Беларусі дадзенага перыяду як інтэгральную частку гісторыі ўсяго Вялікага Княства Літоўскага, не ствараючы штучных межаў паміж рознымі рэгіёнамі гэтай дзяржавы. Дарэчы, у сучаснай айчыннай гістарыяграфіі, пры розных ацэнках гістарычнай ролі самой Люблінскай уніі, існуе, хіба, поўная згода ў тым, што Вялікае Княства Літоўскае ў складзе Рэчы Паспалітай не знікла з палітычнай арэны, а захавала шырокую ўнутраную самастойнасць і праіснавала да канца XVIII ст.

У беларускай гістарычнай навуцы ўжо склалася кола даследчыкаў, для якіх перыяд Рэчы Паспалітай з’яўляецца галоўным аб’ектам вывучэння. На дадзены момант выйшла немалая колькасць навуковых манаграфій (аўтарскіх і калектыўных), прысвечаных розным аспектам айчыннага мінулага перыяду Рэчы Паспалітай. З 1990-х гг. найбольш актыўна вывучаецца палітычная гісторыя ВКЛ і гісторыя яго “палітычнага народа” — шляхты. На сённяшні дзень маем шмат публікацый па гісторыі органаў дзяржаўнай улады (галоўным чынам прадстаўнічым інстытутам) ды сацыяльна-палітычных канфліктаў як на лакальным, так і на агульнадзяржаўным узроўні. Хацелася б асабліва адзначыць актыўнае вывучэнне гісторыі асобных шляхецкіх родаў. Напрыклад, у Беларусі на працягу 2011–2020 гг. роду Валовічаў былі прысвечаны тры міжнародныя навуковыя канферэнцыі, а таксама дзве сур’ёзныя калектыўныя манаграфіі.

Такая зацікаўленасць у вывучэнні грамадска-палітычных працэсаў і вышэйшых слаёў шляхецкага саслоўя цалкам зразумелая, паколькі ў савецкі перыяд грунтоўныя даследаванні палітычнай гісторыі ды гісторыі

шляхты беларускіх зямель канца XVI–XVIII стст. па ідэалагічных прычынах былі абмежаваны. З іншага боку, з 1990-х гг. фактычна заняпала вывучэнне эканамічнай гісторыі Беларусі перыяду Рэчы Паспалітай. За выключэннем адзінкавых манаграфічных даследаванняў, амаль няма работ па ўрбаністыцы, хаця яе традыцыі ў айчыннай савецкай навуцы былі даволі моцнымі. Пастутова развіваюцца даследаванні ў галіне гісторыі культуры, рэлігіі і права Беларусі, лакальнай, ваеннай, інтэлектуальнай, сямейнай і гендэрнай гісторыі. Аднак відавочна не хапае даследаванняў, заснаваных на сучасных метадалагічных падыходах, прысвечаных сацыяльным і этнічным працэсам на землях Беларусі і Літвы ў XVI–XVIII стст.

У сучаснай айчыннай гістарыяграфіі існуе выразная нераўнамернасць у вывучэнні розных перыядаў гісторыі Рэчы Паспалітай. Так, найбольшая ўвага надаецца перыяду апошняй трэці XVI — першай паловы XVII ст. Ёсць якасныя напрацоўкі па асобных перыядах XVIII ст. Аднак відавочнай праблемай з'яўляецца ледзьве не поўная адсутнасць грунтоўных даследаванняў па другой палове XVII ст. А менавіта ў гэты час распачаўся сістэмны крызіс Рэчы Паспалітай, які прывёў яе да заняпаду, а затым і ўвогуле да ліквідацыі. Айчынная гістарычная навука так і не выпрацавала ўласнага погляду на прычыны крызісу і падзелаў гэтай дзяржавы, а таму, на вялікі жаль, пры тлумачэнні тых падзей па-ранейшаму часта карыстаецца старымі, шмат у чым палітычна заангажаванымі схемамі і падыходамі.

Трэба звярнуць увагу на праблему пераемнасці навуковых кадраў. Значная актывізацыя даследаванняў гісторыі Рэчы Паспалітай у Беларусі на мяжы XX–XXI стст. была абумоўлена тым, што ў 1990-я — пачатку 2000-х гг. да актыўнага вывучэння беларускага мінулага перыяду Рэчы Паспалітай звярнуліся як ужо дасведчаныя гісторыкі (некаторыя з іх працягвалі свае папярэднія даследаванні), так і значная колькасць маладых навукоўцаў. Аднак за мінулае дзесяцігоддзе прыток новых кадраў рэзка скараціўся.

Да таго ж існуе праблема "абароны дысертацый дзеля самой абароны". Часам малады спецыяліст паспяхова абараняе работу па праблематыцы XVI–XVIII стст., атрымлівае ступень кандыдата навук і, напрыклад, пасаду дацэнта ва ўніверсітэце, пасля чаго канцэнтруецца выключна на выкладчыцкай дзейнасці або пачынае адміністрацыйную кар'еру. Як правіла, матэрыялы такіх дысертацый не друкуюцца (або друкуюцца толькі "для галачкі"), а вывучэнне той ці іншай даследчай праблемы спыняецца. Падобныя з'явы ўскладняюць фармаванне паўнавартасных навуковых асяродкаў і асобных навуковых школ, якія б паслядоўна займаліся гісторыяй Беларусі ў складзе Рэчы Паспалітай.

Такім чынам, гісторыя Рэчы Паспалітай заняла ўжо трывалае месца ў сучаснай гістарычнай навуцы Беларусі. Аднак для выхаду на якасна новы ўзровень яе вывучэння неабходна фармаванне адпаведных навуковых школ, актывізацыя публікацыйнай дзейнасці (найперш выданне мана-

графій і публікацый на замежных мовах), а таксама, што ў цяперашняй сітуацыі выглядае надзвычай складаным, пашырэнне міжнароднага супрацоўніцтва. Нарэшце, трэба сфармуляваць уласны, беларускі погляд на гістарычную і культурную спадчыну Рэчы Паспалітай у гісторыі Беларусі.

## Доктар габілітаваны Генадзь Сагановіч:

У сучаснай беларускай гістарыяграфіі і само заключэнне уніі, і ўтвораная на моцы Люблінскага акта супольная дзяржава застаюцца тэмамі маргінальнымі. Недахоп увагі да іх моцна кантрастуе з тым вялізным значэннем, якое займела ўтварэнне Рэчы Паспалітай у мінулым Беларусі. Хоць падпісанне і ўмовы уніі ў нас ніколі не заставаліся без увагі ў абагульняльных працах і падручніках па айчыннай гісторыі, але спецыяльна імі да апошняга часу беларускія гісторыкі не займаліся. Не дзіўна, што ў гістарычнай літаратуры нашай краіны і пасля абвяшчэння суверэнітэту множыліся стэрэатыпныя трактоўкі Люблінскага акта як інкарпарацыі, капітуляцыі Вялікага Княства Літоўскага перад Польшчай або нават пачатак “трагічнай старонкі” нашай гісторыі, як пачалі пісаць з прыходам да ўлады Лукашэнкі.

Ганьбаванне уніі і негатыўнае стаўленне да Рэчы Паспалітай мае ў нас глыбокія карані. “Чорную легенду” ёй стваралі не толькі пачынальнікі беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі, якім важна было абгрунтаваць права існавання свайго народа як асобнай гістарычна-культурнай супольнасці, але ў яшчэ большай ступені адэпты заходнерусізму, што кіраваліся процілеглымі мэтамі, не кажучы пра афіцыйныя ўстаноўкі гістарычнай палітыкі ў паваеннай БССР. Зразумела, успрыманне падпісанага ў 1569 г. акта як падставы крыўдаў і пачатку бед (страта самастойнасці ВКЛ, паланізацыя, наступ каталіцызму, войны — каталог прэтэнзій да Рэчы Паспалітай, якія да гэтага часу выказваюцца ў нашай гістарычнай літаратуры, можна доўга множыць) само па сабе не натхняла на спецыяльныя працы, прысвечаныя названым праблемам, хоць былі і іншыя прычыны недахопу ўвагі да люблінскай тэматыкі.

Нягледзячы на тое, што ў 1990-х гадах у гістарыяграфіі суверэннай Беларусі вобраз даўняй Рэчы Паспалітай быў істотна скарэктаваны і яна характарызавалася як дзяржава многіх народаў, у якой сваё належнае месца займелі і беларусы, змена ацэнак адбывалася толькі ў абагульняльных працах ці артыкулах і не выклікала прыкметных дыскусій ці спрэчак даследчыкаў.

Як бы там ні было, сёння з акадэмічных манаграфій маем толькі дзве пазіцыі, у якіх даследавалася непасрэдна люблінская тэматыка. Гэта кніга Андрэя Янушкевіча пра Інфлянцкую вайну (*Вялікае Княства Літоўскае і Інфлянцкая вайна 1558–1570 гг.,* Мінск, 2007) і праца адзінага ў нас спецыяліста па Люблінскай уніі Уладзіміра Падалінскага (*Прадстаўніцтва Вялікага Княства Літоўскага на Люблінскім сойме 1569 года: удзел у працы першага вальнага сойма Рэчы Паспалітай*, Мінск, 2017), які прааналізаваў склад

дэлегацыі Вялікага Княства на сойме 1569 г. і паказаў пазіцыі яе прадстаўнікоў па галоўных пытаннях. А. Янушкевіч у даследаванні згаданай вайны звярнуўся, між іншым, да вельмі важнага пытання прычын і ўмоў заключэння ўніі, а гэта тое, з чым звязана і ацэнка Люблінскага акта. Яго праца пацвярджае, што вайна паставіла ВКЛ у такую цяжкую сітуацыю, у якой заключэнне уніі было адзіным выхадам, каб пазбегнуць паражэння. Шкада, што і гэту пазіцыю ўлічваюць нямногія з тых, хто звяртаецца да тэмы Люблінскай уніі.

З многіх важных тэм, што не вывучаны, я б назваў як прыярытэтную рэцэпцыю Люблінскага акта ў шырэйшых колах насельніцтва Беларусі канца XVI–XVIII стст., не толькі шляхты, але і мяшчан, і асабліва — комплексны падыход да выяўлення плюсаў і мінусаў новай сітуацыі, у якой знаходзіліся землі сучаснай Беларусі пасля 1569 г. Карысна было б заняцца далёкімі наступствамі гістарычнага вопыту даўняй Рэчы Паспалітай, у прыватнасці паспрабаваць вызначыць, ці (і як) паўплывалі стагоддзі жыцця ў прасторы жывога кантакту з "лацінскім светам" і суіснавання розных культур ды канфесій на фармаванне ідэнтычнасцей розных пластоў насельніцтва Беларусі, у т.л. на крышталізацыю нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў. Думаю, такія даследаванні маглі б істотна змяніць шаблонныя трактоўкі уніі і Рэчы Паспалітай, успадкаваныя ад гістарыяграфіі мінулых стагоддзяў.

## Доктар гістарычных навук Аляксандр Краўцэвіч:

Люблінская унія не належыць да прыярытэтных тэм беларускай гістарыяграфіі, таксама як і ранейшыя, г. зв. персанальныя уніі Польскага Каралеўства і Вялікага Княства Літоўскага (далей ВКЛ). Гэта вынікае з усяго папярэдняга развіцця, дакладней, абмежаванняў у развіцці гістарычнай навукі ў Беларусі. Манаграфій, прысвечаных Люблінскай уніі, у Беларусі няма, ёй прысвечаны асобныя артыкулы ці раздзелы ў сінтэзах і падручніках.

У Савецкім Саюзе да сярэдзіны 1980-х гг. ці да "перабудовы" Міхаіла Гарбачова беларускім гісторыкам было забаронена займацца палітычнай гісторыяй краіны. Пасля 1994 г. з усталяваннем аўтарытарнага рэжыму ў Рэспубліцы Беларусь кантроль над гістарычнай навукай паспрабавала ўстанавіць адміністрацыя прэзідэнта Лукашэнкі.

Ад 1995 г. у Беларусі канкурыруюць дзве розныя гістарыяграфіі: нацыянальная суб'ектная і афіцыйная неакаланіяльная, ці прарасейская. Афіцыйная знаходзіцца пад моцным уплывам даўняй савецкай і сучаснай расійскай гістарыяграфіі, таму ацэньвае Люблінскую унію і яе значэнне ў беларускай гісторыі выключна негатыўна. Унія прадстаўляецца як прычына гвалтоўнай паланізацыі і акаталічвання беларусаў.

Значна больш стрыманыя ацэнкі ўтрымлівае нацыянальная гістарыяграфія, хоць і там хапае крытычных поглядаў. Беларускія гісторыкі найбольш акцэнтуюць самастойнасць ВКЛ у Рэчы Паспалітай. Найлепшы знаўца тэ-

матыкі уніі Уладзімір Падалінскі лічыць захаванне асобнасці ВКЛ адным з галоўных чыннікаў унутранай трываласці Рэчы Паспалітай.

Прыблізна паміж 2015 і 2020 гг. афіцыёзныя гісторыкі пад уплывам суб'ектнай гістарыяграфіі таксама "змякчалі" негатыўныя ацэнкі уніі і Рэчы Паспалітай. Напрыклад, аўтар афіцыйных падручнікаў прафесар Яўген Новік адной з галоўных прычын уніі лічыць цяжкую сітуацыю ВКЛ у вайне з Масквой. Такое немагчыма было напісаць у савецкія часы.

Пасля беларускай рэвалюцыі жніўня 2020 г. і зычлівай рэакцыі на яе з боку польскіх улад і грамадскасці сітуацыя кардынальна змянілася, афіцыйная прапаганда, а следам і афіцыёзныя гісторыкі пачалі казаць пра "генацыд беларусаў у Рэчы Паспалітай".

## Profesor, dr Alfredas Bumblauskas:

Ocena Unii Lubelskiej i historii Rzeczypospolitej Obojga Narodów w litewskiej historiografii zależy od założeń ideologicznych i stosunku litewskiej Wielkiej Narracji. Stworzył ją na początku XX w. jeden z patriarchów odrodzenia narodowego, ksiądz i poeta Maironis. Według niego uosobieniem „złotego wieku" jest imperium stworzone przez wielkich książąt litewskich, którego kulminację stanowią czasy Witolda. Historia Litwy według Maironisa trwała do śmierci wielkiego księcia Witolda. Potem Litwa była uśpiona. To uśpienie to okres związków z Polską i dominacji kultury polskiej, czyli po śmierci Witolda przyszło kilkaset lat „nocy bez zorzy" (lit. nakties be aušros), a istotą tej „nocy" była właśnie polonizacja.

Ta wersja łączy niespełnione marzenie i tęsknotę za państwem od morza do morza. Słowem, w litewskiej podświadomości historycznej powstał archetyp, że państwo było nie tylko ogromne — stanowiło imperium od morza do morza — ale też, że było to imperium litewskie o charakterze zbliżonym do litewskości z pierwszej połowy XX stulecia.

Nowy etap to oficjalna historia Litwy pod redakcją Adolfasa Šapoki. Należy zaznaczyć, że stulecia od XVI do XVIII zostały w niej omówione o wiele szerzej niż u Maironisa. Autorzy książki pragnęli udowodnić, że państwowość Litwy nie została przerwana nawet po unii lubelskiej. Choć nie zakwestionowano idei Wielkiej Narracji o „nocy bez świtu", to erozję kultury Litwy przeniesiono na późniejsze okresy w dziejach Wielkiego Księstwa. Negatywnie oceniono nawet Uniwersytet Wileński jako ogniwo polonizacji, a także całą kulturę w XVII i XVIII w. W ten sposób pominięto siedemnastowieczne i osiemnastowieczne dziedzictwo barokowe, dziedzictwo demokracji szlacheckiej i Konstytucji 3 maja. Tak oto za sprawą Adolfasa Šapoki idee wyniesione z odrodzenia narodowego podniesione zostały do rangi akademickiego kanonu.

To oznacza, że Litwa jest powściągliwa w odniesieniu do unii, że długowieczna historia współistnienia z Rzeczpospolitą jest oceniana z perspektywy konfliktu z Polską z pierwszej połowy XX w. Patrząc dogłębniej — to właśnie unie są uważane za przyczynę polonizacji kultury litewskiej: unia dała Polsce Adama

Mickiewicza, tym samym zabierając go Litwie. Według opinii Młodej Litwy, która się ukształtowała na przełomie XIX i XX w., Litwini z okresu Adama Mickiewicza stanowili „wyschniętą gałąź narodu", zaś winę za to ponosiła Polska, która przy pomocy unii podporządkowała sobie starą Litwę wraz z jej kulturą. To nie były i nie są ambicje wyłącznie młodych Litwinów, kategorycznie podkreślających znaczenie języka litewskiego w kulturze nacji.

Ta ocena powoli się zmienia. Tomas Venclova, Edvardas Gudavičius i jego uczniowie wiele zrobili, aby historia polubelskiej Litwy stała się częścią badań i świadomości historycznej. I tę zmianę odczuwa się w różnych dziedzinach — w beletrystyce historycznej (powieści Kristiny Sabaliauskaitė „Silva Rerum".), w kulturze i polityce historycznej (upamiętnienie 3 Maja przez Sejm w kalendarzu historycznym; wspólna pamiątkowa moneta Banków Litwy i Polski etc.).

## Profesor, dr hab. Andrzej Zakrzewski:

W historiografii polskiej Unia Lubelska i jej następstwa do schyłku Rzeczypospolitej (i później) są nadal tematem badań szczegółowych. Pojawiają się bowiem zagadnienia nowe lub reinterpretacje ujęć dawnych. Powoli chyba zbliżeniu ulegają stanowiska badaczy różnych krajów — zarówno bezpośrednio zainteresowanych z uwagi na przeszłość własnych narodów, jak i śledzących problem — choćby — ze szkockiej oddali… Ci ostatni dodają do obrazu cenny element porównawczy.

Ciekawym zadaniem jest dokładniejsze przebadanie przedunijnych sejmów Wielkiego Księstwa Litewskiego. Miały bowiem szczególne znaczenie nie tyle ze względu na kształt związku z Koroną, ale również na utworzenie wśród szlachty litewskiej i ruskiej poczucia wpływu na sprawy państwowe i odpowiedzialności za samo Księstwo. Wymaga również pogłębienia wątek stosunku do unii ruskich elit Korony oraz Wołynia i województw ukrainnych Wielkiego Księstwa — pod kątem uzyskania przez „naród ruski" samodzielnej pozycji we wspólnym państwie. Niektóre kwestie, jak choćby rola unii w tworzeniu nowoczesnych narodów białoruskiego i ukraińskiego wymagają staranniejszego prześledzenia. Warto też dogłębniej przebadać wpływ unii na samą Koronę: jej ustrój, kulturę, zachowania polityczne. Przecież proces „rzeczpospolityzacji" — jak to trafnie nazwał Petro Kułakowśkyj — dotyczył i ścisłej Korony, i jej ziem ukrainnych, i Wielkiego Księstwa. Poszczególne człony Rzeczypospolitej oddziaływały bowiem na siebie, przekształcały się, a pogląd o „misji dziejowej Polski" jest zdecydowanie anachroniczny i obecnie żaden sensowny badacz stanowiska takiego nie podziela.

Warto może zbadać — z różnych „narodowych" punktów widzenia — podejście kolonialne do dziejów Rzeczypospolitej. Wprawdzie w mojej opinii nie ma ono — przynajmniej w stosunku do ziem litewsko-ruskich w epoce przedrozbiorowej — większego sensu, ale może **naukowa** dyskusja zmieni ten pogląd, modny obecnie w naukach stroniących od rygorów historycznego warsztatu, a przebijający się do szerszej społecznej świadomości.

## Кандидатка історичних наук Наталія Білоус:

Люблінська унія 1569 р. — переломна подія в українській історії. У вітчизняній історіографії вона трактувалася по-різному, в залежності від часу і обставин та ідеологічних пріоритетів. На зламі XIX–XX століть це була досить дражлива дискусійна тема при обговоренні співжиття народів, що колись населяли єдину Річ Посполиту. Одним із поштовхів до цих дискусій стало прагнення польських консерваторів здобути для Галичини автономію в межах Австро-Угорської імперії і перетворити її на центр відродження польської нації та державності, об'єднавши землі давньої Речі Посполитої в кордонах до 1772 р. Українсько-польське протистояння наклало відбиток і на праці істориків, які перебували під впливом тогочасних політичних обставин і не могли без упереджень оцінювати історію Речі Посполитої, зокрема значення та наслідки Люблінської унії.

Тож висвітлення у негативному світлі спільної історії й акцентування на утисках українського населення «польськими загарбниками» досить помітне у працях професорів Київського університету Св. Володимира, зокрема Володимира Антоновича, та особливо його учня Михайла Грушевського, який посилив антипольську риторику і піддав нищівній критиці значення та здобутки Люблінської унії (М. Грушевський, *Історія України–Руси*, Київ 1993, т. 4, с. 414–415). Запропоновані цими видатними українськими істориками інтерпретації і схеми історіописання перейняли представники державницької історіографії та наступне покоління істориків, нерідко сприймаючи їхні погляди як аксіому.

Напередодні Другої світової війни сталінський режим висунув войовничу тезу про «польське загарбання» України через акт Люблінської унії, що було закріплено у підручнику для вищих шкіл, у спеціальній постанові ЦК КП(б)У від 29.08.1947, а далі — в тезах ЦК КПРС «Про 300-річчя возз'єднання України з Росією (1954). Концепція «загарбання» і «жорсткого поневолення» українського народу на довгі роки зайняла особливе місце у світоглядних орієнтирах радянських людей (у т.ч. істориків), а в деяких підручниках доводилась до абсурду.

Віталій Яремчук, нещодавно аналізуючи радянську історіографію (1930–1989), справедливо зауважив, що Люблінська унія як окрема тема не цікавила радянських істориків, але не через свою «неактуальність», а через те, що була складовою частиною ширшої — більш актуальної: «визначальна для історичної долі українців, поляків, білорусів, литовців подія не відображена в жодній публікації [...] причиною такого ігнорування є те, що угода 1569 р. розглядалася як завершальний акт трагедії «польського поневолення» України, розпочатого завоюванням Галичини у XIV ст. Відтак історики навіть якщо би дуже хотіли, мусили б вписувати Люблін у цю нехитру схему із заздалегідь відомими трактуваннями, а оскільки ця подія не мала для радянських істориків самостійного значення, а суто негативну коно-

тацію, то і вивчати ніби не було що» (В. Яремчук, *Люблінська унія в українській радянській історіографії* [w:] *Річ Посполита обох народів в польській і українській історичній думці XIX і XX ст.*, Херсон 2019, с. 299).

Натомість ця подія розглядалася в синтезах історії України, зокрема авторства Костя Гуслистого, який використав оціночні судження М. Грушевського, підкреслюючи «згубну роль польських загарбників» в історії українського народу, додаючи тезу про «порятунок», що надавався з боку братнього російського народу — визволителя від «польських гнобителів» в результаті Переяславської угоди 1654 р. (К. Гуслистий, *Визвольна боротьба українського народу проти шляхетської Польщі в другій половині XVI і першій половині XVII ст.* [w:] *Нариси з історії України*, Київ 1941, вип. 3).

На жаль, таке викривлене сприйняття Люблінської унії і загалом спільної українсько-польської історії через класиків української історіографії перейшло до сучасної історіографії доби незалежності і що найгірше — у шкільні підручники і посібники для вищих учбових закладів (N. Jakowenko, *Polska i Polacy w szkolnych podręcznikach do historii, albo echo przeszłości dawnej i niedawnej* [w:] *Druga strona lustra. Z historii wyobrażeń i idei na Ukrainie XVI–XVII wieku,* Warszawa 2010, s. 412–423). Тому сучасні школярі і студенти навіть в роки незалежності Української держави отримували хибні уявлення про спільну українсько-польську історію. Тільки у 2016 р. з'явилися нові підручники, де автори спиралися на концепцію Н. М. Яковенко, викладену в *Нарисах історії України* (N. Jakowenko, *Historia Ukrainy od czasów najdawniejszych do końca XVIII wieku*, Lublin 2000), намагалися всебічно та неупереджено висвітлити історію давньої Речі Посполитої, наголошували на позитивних наслідках Люблінської унії для українських земель.

## Докторка історичних наук Наталія Старченко:

Оцінка Люблінської унії тісно пов'язана з характеристикою Речі Посполитої як частини українського минулого в цілому. Для романтичної та народницької історіографії XIX — початку XX ст. унія була подією, що відкрила браму для польської експансії на українські терени, призвела до покатоличення та спольщення руської шляхти, до повної втрати нею своєї ідентичності. Відтак український народ позбувся своєї еліти та можливості впливати на політичне життя Речі Посполитої — чужої держави, що спрямовувала свої зусилля на знищення українців. За Михайлом Грушевським, кодифікатором української історії, «на цілій Україні розкішне і немилосердне панство стало поляками й католиками, а проти них стояв український елемент», «задавлений кріпацьким ярмом», загрожений «небезпекою національної смерти, повної економічної руїни й поневолення». Соціальне протистояння упослідженого українського народу проти польського панства тісно переплітається з антагонізмом Русі й Польщі як непримиренних ворогів, де за Польщею закріплюється місце ворога № 1 української істо-

рії. До цієї риторики Михайла Грушевського додавалася й антизахідна настанова, що було характерно для історіографії Російської імперії в цілому.

Власне, ця схема виявилася зручною й для потреб радянської ідеології з її акцентом на класовій боротьбі та телеологічному простуванню українців до возз'єднання з братнім російським народом. Зайве говорити, що історіографічний наратив методологічно писався за зразком ідеологічних агіток. Прикладом такого письма може служити фрагмент монографії Костя Гуслистого *Україна під литовським пануванням і захоплення її Польщею* (*з XIV по 1569 р.*) (1939), що віддзеркалювала антипольські настрої радянської пропаганди міжвоєнного періоду: «Польські пани зі зброєю в руках почали просуватися вглиб України. Вони захоплювали великі земельні володіння з селами і містами, будували численні замки і укріплення — опорні пункти грабежу і експлуатації українських народних мас, доводили до жахливих розмірів гноблення селян, намагалися обернути в кріпаків широкі шари козацтва, утискали міста, насаджували свою культуру, католицизм, хижацьки нищили природні багатства України».

З цим радянським спадком Україна мусила якось давати раду одразу після здобуття незалежності, що вилилося у повернення до «правдивої» історії народницького штибу. Принципової зміни зазнала хіба трактовка козацького повстання під проводом Богдана Хмельницького як національно-визвольної революції, спрямованої на творення суверенної української держави. Через домінацію гранднаративу Грушевського, який пов'язав ранньомодерне українське минуле чи не виключно з історією козацтва, тривалий час саме ця тематика вважалася пріоритетною. Паралельно, щоправда, започатковуються дослідження української шляхти, поштовхом до яких стали роботи Наталі Яковенко. Так чи так в поле цих істориків-ранномодерників потрапляє низка ширших проблем, пов'язаних із історією українських теренів Речі Посполитої.

А результати досліджень впритул підвели до потреби переосмислення місця Русі у складі Польської корони як окремої провінції, у мешканців якої була «своя повістка» — повноправне членство «руського народу» в Речі Посполитій поруч із двома іншими політичними народами, польським і литовським. Ця повістка трималася на уявленнях руської шляхти про Річ Посполиту як результат договору трьох народів, а легітимаційним фундаментом таких уявлень були Люблінські привілеї для трьох воєводств (Київського, Волинського та Брацлавського).

Довший час, проте, Люблінська унія в українській історіографії принципово не переосмислювалася. Поступ в її оцінках зупинився на поглядах Ярослава Пеленського (J. Pelenski, *Inkorporacja ukraińskich ziem dawnej Rusi do Korony w 1569 roku. Ideologia i korzyści — próba nowego spojrzenia*, «Przegląd Historyczny», 1974, t. 65, z. 2, s. 243–262). Себто йшлося про досить пасивну позицію на Люблінському сеймі волинських князів і шляхти через брак

у них окремішньої ідентичності та інтересів, відмінних від решти еліти Великого князівства Литовського. Новий аналіз подій Люблінського сейму прозвучав допіру на конференції «Рівні до рівних, вільні до вільних? Люблінська унія в історії Центрально-Східної Європи», що відбувалася в Києві 24 травня 2019 р. Генерально він звучав так: волинці з'явилися на сейм із власною повісткою, що відрізнялася від пропозицій поляків і від очікувань литвинів. Вони отримали по-максимуму те, на що могли сподіватися в ситуації, коли їхня суб'єктність не зауважувалася жодним із політичних гравців. Гарантовані привілеями права створили тривкий фундамент для наступних кроків — творення концепції «третього члена Речі Посполитої» та Русі як територіально-правової одиниці, що було чітко оприявнено у першій половині XVII ст.

Тож на сьогодні в історіографії спостерігається значна еклектичність наукових висловлювань щодо річпосполитського періоду українського минулого. Домінування схеми Грушевського в історичних уявленнях українців, легітимізоване підручником і традицією, не задовольняє, проте, значну частину українців, що засвідчують дискусії в масмедіях. Новий сучасний гранднаратив мав би зарезервувати місце в українському минулому й для руської шляхти, яка, зберігаючи власну «руську» ідентичність, під час козацької війни середини XVII ст. пов'язала свій «проєкт буття» з Річчю Посполитою. Однак ця робота потребує широких досліджень політичної історії, історії селянства, але чи не найважливіше — нових питань та сучасного методологічного інструментарію в дослідженні козацької історії, відмови від неонародницької риторики на кошт скрупульозних наукових пошуків й інтерпретацій.

## 2. Ці Рэч Паспалітая ўсё яшчэ застаецца "гарачым" месцам памяці для сучаснага грамадства?

### Profesor, dr hab. Andrzej Zakrzewski:

W pamięci współczesnego społeczeństwa polskiego Unia Lubelska — świętowana z okazji kolejnych rocznic lub oficjalnych wizyt zaprzyjaźnionych głów sąsiednich państw — cokolwiek przytłacza i usuwa w cień inne aspekty stosunków z sąsiadami Polski: Litwą, Białorusią i Ukrainą. Nie zauważa się — lub nie chce zauważać — problemów powstałych po rozbiorach Rzeczypospolitej, w wyniku powstania nowoczesnych narodów etnicznych i stosunku do nich takiegoż narodu polskiego. Nie zauważa się, że przymiotnik „polski" był w XVII–XVIII stuleciu wieloznaczny i nierzadko dotyczył całej Rzeczypospolitej. Relikty wspomnianej już „misji dziejowej Polski" niekiedy jeszcze funkcjonują na marginesie społecznej świadomości, w wykonaniu raczej polityków lub propagandzistów.

Obawiam się, że przedrozbiorowa Rzeczpospolita jest dla społeczeństwa raczej obiektem bezrefleksyjnej czci — zwłaszcza w ramach tzw. polityki historycznej — niż przedmiotem wyważonej refleksji nad własnym narodem i państwem a jego sąsiadami, rozwiewającej nie zawsze sensowne stereotypy. Trzeba dopiero dramatycznych wydarzeń u sąsiadów, by stereotypy owe przełamać.

### Dr Łukasz Adamski:

Okres Rzeczypospolitej Królestwa Polskiego i Wielkiego Księstwa Litewskiego, publicystycznie nazywanej „Rzecząpospolitą Obojga Narodów", jest niezwykle ważny dla polskiej pamięci historycznej i dla polskiej myśli politycznej. Jest tak nie tylko dlatego, że obraz Rzeczypospolitej, przekazywany z pokolenia na pokolenia, a wspaniale sportretowany i uwieczniony przez Sienkiewicza, skłania wielu Polaków po prostu do zainteresowania się historią i refleksji na temat wad i zalet ustroju Rzeczypospolitej czy wyborów politycznych Stanisława Augusta Poniatowskiego. Są co najmniej dwie inne przyczyny takiego stanu rzeczy.

To epoka nowożytna i doświadczenie demokratycznego, republikańskiego ustroju Rzeczypospolitej — państwa integrującego w jednym organizmie państwowym wschodnią część Europy Łacińskiej (zachodniej) oraz zachodnią część Europy Wschodniej — odcisnęły bodaj największe piękno na kształcie polskiej kultury narodowej. Wartości kultury szlacheckiej, rozwinięte zwłaszcza w wieku XVI i XVII, a także doświadczenie walk wolnościowych, skierowanych głównie przeciwko Rosji w XVIII w., np. pamięć o konfederacji barskiej czy powstaniu kościuszkowskim, przeniknęły później pod strzechy, stając się w ten sposób niezwykle ważną częścią ogólnonarodowej kultury polskiej. Po dziś dzień widać, jak mocno polska kultura polityczna jest naznaczona dziedzictwem Rzeczypospolitej, zarówno tym pozytywnym, jak np. idealizmem w myśleniu politycznym, skłonnością do myślenia w kategoriach nie tylko doraźnego zysku materialnego, lecz honoru i wartości, umiłowania wolności i demokratycznego systemu rządów, jak i tym negatywnym. Tutaj wymieńmy choćby skłonność do anarchii czy warcholstwa oraz nadmierny indywidualizm utrudniający myślenie wspólnotowe.

Drugi powód to kształt terytorialny dawnej Rzeczypospolitej, obejmujący większość terenów dzisiejszej Polski, obecną Litwę i Białoruś, część Łotwy oraz sporą część Ukrainy. Sprawił on, że znacząca część spuścizny kulturowej, postrzeganej w Polsce jako polskie dziedzictwo narodowe, pozostała na obszarze niepodległej Litwy, Ukrainy, Łotwy i Białorusi, a nawet na skrawkach Rosji. Ponadto stamtąd wywodzi się też rodowód wielu polskich rodzin, co w sposób naturalny zwiększa zainteresowanie całego narodu całą polityczną przestrzenią dawnej Rzeczypospolitej, tworzy więzi i popycha ku solidarności z innymi narodami — spadkobiercami Rzeczypospolitej — i państwami, które one utworzyły.

## Докторка історичних наук Наталія Старченко:

Потреба в новому перепрочитанні річпосполитського минулого як важливої частини української історії перетворює Люблінську унію та низку пов'язаних із нею тем на принаймні «тепле» місце пам'яті українців. Хоч, звичайно, ця частина історії поступається градусу в темах, що стосуються XX ст. Частину українського суспільства не влаштовує образ українського минулого як історії виключно селянської нації-жертви, скривдженої агресивними сусідами. Орієнтація на європейський вектор розвитку змушує до «пригадування» традицій самоврядування, віротерпимості, поваги до права, свободи висловлювання, всього спектру цінностей протогромадянського суспільства, що їх можна віднайти в історії Речі Посполитої.

Відповідь на нові запити суспільства чітко фіксується в підручниках нового покоління, що постали 2021 р. Їхні автори уникають однозначності у трактуванні Люблінської унії, наголошують на її позитивних сторонах, до яких переважно належать культурні здобутки — поширення освіти та європейських культурних зразків. Як зазначається в одному із підручників, саме культура за відсутності держави є основою збереження самобутності народу. Значно пом'якшені оцінки Речі Посполитої, особливо в підручниках зі всесвітньої історії (на тлі значно консервативніших підручників із історії України). Скажімо, замість педалювання на релігійному гніті, зустрічаємо згадки про віротерпимість в Речі Посполитій, про включеність Акту Варшавської конфедерації до нематеріальної спадщини ЮНЕСКО: «Таким чином, уперше в Європі саме польсько-литовська влада довела можливість мирного співіснування різних напрямів християнства». Звична антишляхетська риторика змінюється в окремих випадках на високу оцінку досягнень шляхетської демократії, а обмеження королівської влади пов'язується не лише зі слабкістю держави й анархією, а й зі здобутками громадянського суспільства.

Тішать і підходи до викладання складних сторінок історії принаймні частиною вчителів. Так на одному із вебінарів у відповідь на питання, як вибудовувати пантеон українських героїв та які критерії брати за основу, вчителі виявилися одностайні: вони вбачали потребу не в конструюванні пантеону, а в поясненні вчинків історичних акторів через властиву для певного стану систему цінностей, через аналіз складних обставин, домінантних життєвих стратегій, врешті допускаючи, що герої могли помилятися у своєму виборі.

Тож поки частина істориків затято захищає схему української історії, яка лише через нещасливі обставини не стала виключно об'єктом історіографічного аналізу, суспільство все активніше голосує за таку версію минулого, в якому сьогоднішній українець захотів би себе впізнавати. В цій історії, звичайно, має бути козацький стан, але проаналізований через призму козацько-шляхетського симбіозу, який забезпечив довге тривання «Речі

Посполитої» в культурі Гетьманщини. Там має бути міщанство, яке жило за законами самоврядних громад на магдебурзькому праві, цих «острівців свободи». Там має бути селянство, але показане через розмаїття можливостей, чиє становище не зводилося лише до нелюдського існування під «кріпосницьким гнітом». Має знайтися місце шляхті та серйозній розмові про множинність ідентичностей, які не були тотожні конфесії та не описувалися поняттями «ополячення».

## Кандидатка історичних наук Наталія Білоус:

Деякі сучасні українські історики і більшість пересічних людей досі перебувають у полоні стереотипів народницької та радянської історіографій. З прикрістю зауважу, що і серед академічних досвідчених істориків є такі особистості. Наприклад Ігор Гирич, характеризуючи погляди В. Антоновича та М. Грушевського на спільну українсько-польську історію трактує ці події так, ніби поділяє їхні думки: «Люблінська унія стала тим вододілом, після якого в Україні запанували польська культура і мова, католицька релігія, польські суспільні порядки, тобто те, що було неможливим для нашої території до 1569 р. Натомість український культурний вплив до середини XVI ст. був відчутний у Польщі. Люблін символізував поступове зникнення старої удільної князівської України. Після Любліна народилася Україна козацька, яка прийняла на себе історичні виклики та боролася за збереження національних основ української території» (І. Гирич, *Концепт Люблінської унії в українській історіографії доби позитивізму* [w:] idem, *Українська історія: через ідентичність до держави*, Київ 2021, с. 200).

Тим не менше за роки незалежності в українській історіографії з'явилася низка праць, де дослідники по-новому трактують події спільної українсько-польської історії ранньомодерної доби і, зокрема, Люблінської унії. Варто згадати дві книги, присвячені цій події — Олександра Шами *Люблінська унія 1569 року*: *історичне дослідження* (Тернопіль 1999) та Віктора Горобця *Україна*: *Люблінська унія та народження нової вітчизни* (Київ 2009).

В останні роки державна політика історичної пам'яті була направлена переважно на подолання міфів XX ст., тому значна увага приділялася інтерпретації й аналізу історичних подій саме цього періоду, у той час як історичні події XVI–XVII ст. залишалися в тіні або поза увагою. Святкування 450-ліття ювілею Люблінської унії в 2019 р. сприяло підвищенню інтересу до цієї проблематики. Унійна тематика стала популярною серед політиків, які підтримують європейський вибір України, для яких поглиблення співпраці з Євросоюзом має важливе значення. Ювілей посприяв переосмисленню тих далеких і давніх подій спільної українсько-польської історії, глибшому їх вивченню та навіть «новому прочитанню» істориками давно відомих джерел, що стосуються цієї події, це засвідчила низка нових наукових публікацій (Н. Старченко, *Люблінська унія як ресурс формуван-*

*ня концепту політичного народу руського* (*1659–1648*), «Український історичний журнал», 2019, вип. 2, с. 4–45; N. Biłous, *Unia Lubelska we współczesnej ukraińskiej historiografii i dydaktyce* [w:] *Unia Lubelska 1569 roku i unie w Europie Środkowo-Wschodniej, red.* J. Krochmal. Warszawa 2020, s. 273–291 та ін.).

Важливе значення мала перша міжнародна конференція, присвячена цій події, проведена в Києві 24 травня 2019 р. у Дипломатичній академії за сприяння МЗС України, Польщі та Литви, спільно з Польським Інститутом та Інститутом історії України НАНУ під гаслом «Рівні до рівних, вільні до вільних? Люблінська унія в історії Центрально-Східної Європи».

Варто згадати нову книжку Наталії Старченко *Українські світи Речі Посполитої* (2021), яка руйнує чимало міфів і стереотипів радянської та пострадянської історіографії з приводу українсько-польських стосунків, чим викликала чималий резонанс у суспільстві. «Українська Річ Посполита», місце і роль українців у давній Речі Посполитій, яка була спільним домом для багатьох народів і націй, — теми, які сьогодні обговорюють завдяки цій книзі у наукових колах, у публіцистиці. Зацікавили вони також журналістів і політологів, і що важливо — пересічних громадян і студентів.

## Доктар гістарычных навук Аляксандр Краўцэвіч:

У калектыўнай свядомасці беларусаў адсутнічае трывалы стэрэатып Рэчы Паспалітай, які б аўтаматычна ўсплываў у памяці падчас якога-небудзь публічнага выступу ці дыскусіі. Напэўна, гэта звязана з сітуацыяй у навуцы: гісторыкі мала пішуць на гэту тэму, таму грамадства няшмат пра яе ведае.

У Беларусі Рэч Паспалітая не адносіцца да “трапяткіх” тэм, якія штодзень бударажаць грамадства. Прычына бачыцца ў пэўным грамадскім кансэнсусе наконт агульна негатыўнага яе ўспрымання, хоць незалежныя гісторыкі ў сваіх працах знаходзяць шмат пазітыўных момантаў для беларусаў у гэтай дзяржаве. Галоўны — затрыманне на некалькі стагоддзяў маскоўскай экспансіі.

Значна больш дыскусій і з мацнейшым эмацыйным запалам вядзецца пра ВКЛ і ролю гэтай дзяржавы ў беларускай гісторыі. Рэч Паспалітая толькі зрэдку згадваецца палітыкамі і публіцыстамі на патрэбу бягучага палітычнага моманту ў кантэксце гістарычнага наратыву. Як прыклад такой згадкі і ілюстрацыю трываласці даўняга, яшчэ савецкага стэрэатыпу можна прывесці выказванне кіраўніка беларускага рэжыму Лукашэнкі, які 6 студзеня 2022 г. прапанаваў абвясціць перыяд Рэчы Паспалітай акупацыяй беларускай зямлі палякамі і этнацыдам беларусаў. Гэтым характэрным стэрэатыпам савецкіх часоў карыстаецца афіцыйная прапаганда ў правядзенні сучаснай антыпольскай палітыкі. Варта для паўнаты ўяўлення прывесці цытату цалкам: “А што гэта было для нашых продкаў? Родная мова, культура, вера пад забаронай. Магнаты на сабак мянялі беларускіх сялян. Але народ выжыў і захаваў самабытнасць” ([online] https://t.me/belta_telegramm/90250, dostęp: 26.04.2022).

На выказванне Лукашэнкі відэатэкстам пра Люблінскую унію і ВКЛ у Рэчы Паспалітай адказаў незалежны журналіст і гісторык Сяргей Абламейка. Характэрна, што ягоны адказ пачынаецца словамі: “У 1569 г. Вялікае Княства Літоўскае страціла незалежнасць” ([online] https://www.svaboda.org/a/31641954.html, dostęp: 26.04.2022).

## Доктар габілітаваны Генадзь Сагановіч:

Перакананы, што тэма даўняй Рэчы Паспалітай, і перш за ўсё само заключэнне уніі, яе прычыны, умовы і вынікі будуць заўсёды выклікаць спрэчкі гісторыкаў, а яшчэ больш — палітыкаў ды грамадскіх дзеячаў, зацікаўленых у гістарычным абгрунтаванні сваіх праграм, таму яна не перастане будзіць цікавасць таксама шырокіх колаў грамадства.

Яна стала калісь вузлавым момантам нашай гісторыі і моцна паўплывала на лёсы народаў Усходняй Еўропы. Без Рэчы Паспалітай мне цяжка ўявіць фармаванне беларусаў як асобнай нацыі. Памяць пра яе, думаю, будзе набываць яшчэ большую сімвалічную каштоўнасць у кантэксце цяперашніх палітычных падзей і абвастрэння вайны за мінулае. Адэпты “русского мира”, для якіх сам акт 1569 г. стварае праблемы, будуць яго ачарняць і ганіць Рэч Паспалітую, а для праеўрапейскай і нацыянальна свядомай часткі беларускага грамадства мінулае былой дзяржавы многіх народаў паслужыць важнай апорай іх ідэнтычнасці.

## Кандыдат гістарычных навук Уладзімір Падалінскі:

Рэч Паспалітая і яе гісторыка-культурная спадчына не належаць да самых “гарачых” месцаў памяці беларускага грамадства. З аднаго боку, мінулае Рэчы Паспалітай з’яўляецца неад’емнай часткай гістарычнай адукацыі Беларусі на ўсіх яе ўзроўнях, ад школы да ўніверсітэта. Са свайго вопыту выкладчыка магу сказаць, што беларускія студэнты самых розных спецыяльнасцей добра памятаюць дату заключэння Люблінскай уніі і гады падзелаў Рэчы Паспалітай. З другога боку, як падаецца, нейкага агульнага вобразу айчыннага мінулага часоў Рэчы Паспалітай да сённяшняга дня так і не сфармавалася. Ды й звяртаюцца ў грамадска-палітычным жыцці сучаснай Беларусі да гэтага перыяду не так часта, як, напрыклад, да разнастайных падзей XX ст.

У беларускім грамадстве ўсё яшчэ суіснуюць ледзьве не дыяметральна супрацьлеглыя погляды на ключавыя падзеі і працэсы ў гісторыі Рэчы Паспалітай. Тая ж Люблінская унія ацэньваецца або як у цэлым станоўчая і аб’ектыўная з’ява, якая дазволіла Вялікаму Княству Літоўскаму захаваць сваю дзяржаўнасць да канца XVIII ст. і не патрапіць пад уладу Маскоўскай (Расійскай) дзяржавы, або як з’ява выключна негатыўная і гвалтоўная з польскага боку, якая прывяла да поўнага заняпаду не толькі беларускую культуру, але й саму новаўтвораную дзяржаву.

Падобную карціну таксама можна назіраць з ацэнкай палітычных рэформ у Рэчы Паспалітай 1788–1792 гг. і паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Для адных гэтыя падзеі з'яўляюцца "нацыянальна-вызваленчай" барацьбой і спробай адкрыць новыя шляхі прагрэсіўнага развіцця беларускага грамадства. Для другіх — імкненнем палякаў да захавання ў Рэчы Паспалітай адсталых сацыяльных парадкаў і спробай забяспечыць панаванне польскай культуры, што нібыта прывяло б да канчатковай паланізацыі беларускага народа.

Можна нават казаць пра два розныя вобразы Рэчы Паспалітай (з пэўнай доляй умоўнасці, пазітыўны і негатыўны) у гістарычнай памяці сучаснага беларускага грамадства. У адным з іх націск робіцца на актыўнае пранікненне "новых і прагрэсіўных" заходнееўрапейскіх уплываў у культурнае, палітычнае ды эканамічнае жыццё беларускіх зямель. Другі вобраз акцэнтуе ўвагу на "прымусовым акаталічванні ды апалячванні" беларусаў, якія ў той час не мелі ўласнай палітычнай эліты і не адыгрывалі ніякай самастойнай ролі ў гісторыі гэтай дзяржавы. Тым не менш, напрыклад, Статут ВКЛ 1588 г. або палацава-паркавыя комплексы магнацкіх родаў ужо сцвердзіліся як "месцы памяці" і адыгрываюць важную ролю ў фармаванні нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў. Тыя ж Статуты, асабліва трэці з іх (1588), у сучаснай Беларусі ўспрымаюцца як адныя з ключавых этапаў яе канстытуцыйнай гісторыі, а значыць, і важны фактар станаўлення беларускай дзяржаўнасці.

Наяўнасць такіх розных вобразаў айчыннай гісторыі перыяду Рэчы Паспалітай абумоўлена саперніцтвам розных карцін мінулага (а значыць, і праектаў будучыні), якія існуюць у беларускім грамадстве. У залежнасці ад палітычных мэт некаторыя пазітыўныя або негатыўныя з'явы пераносяцца на ўсю гісторыю Рэчы Паспалітай, не зважаючы на тое, што гэта дзяржава прайшла праз розныя этапы свайго развіцця, кожны з якіх меў свае асаблівасці ў розных сферах грамадскага жыцця. Дастаткова згадаць хаця б міф пра пастаянны крызіс і выключную неэфектыўнасць яе парламенцкай сістэмы. Праўда, пэўную адказнасць за такую сітуацыю нясуць таксама прафесійныя гісторыкі, вынікі даследаванняў якіх вельмі рэдка гучаць у публічнай прасторы, што спрыяе захаванню старых і нараджэнню новых гістарычных міфаў.

У любым выпадку, калі беларускае грамадства імкнецца да ўсебаковага асэнсавання свайго гістарычнага вопыту, то без уліку гісторыі Рэчы Паспалітай глыбіня і паўната такога звароту да мінулага будзе няпоўнай ды абмежаванай.

## Profesor, dr Alfredas Bumblauskas:

Unia Lubelska już nie jest takim gorącym miejscem pamięci, jakim była 1 lipca 1919 r. (naiwna iluzja Józefa Piłsudskiego) czy nawet w 2009. Ale gorące dyskusje w Sejmie z powodu wprowadzenia liter *Q, W, X* do dokumentów personalnych pokazały, że „trumna" polonizacji nadal panuje nad Litwą.

## 3. Ці памяць пра унію 1569 г. можа стаць чыннікам пэўнай інтэграцыі народаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы?

### Кандыдат гістарычных навук Уладзімір Падалінскі:

Прынамсі, такі патэнцыял у гэтай падзеі ёсць. У 2019 г. навуковая грамадскасць шырока адзначыла 450-я ўгодкі заключэння Люблінскай уніі. Канферэнцыі і разнастайныя мерапрыемствы, прысвечаныя ўтварэнню Рэчы Паспалітай, адбыліся не толькі ў краінах, якія некалі ўваходзілі ў яе склад, але і ў суседніх дзяржавах. Сярод тых падзей згадваецца праведзены ў Мінску прадстаўнічы беларуска-польскі эканамічны форум "Добрасуседства-2019". У яго межах працавала навуковая канферэнцыя, прысвечаная юбілею Люблінскай уніі.

Канферэнцыі, у шэрагу з якіх удалося ўзяць удзел, паказалі, наколькі моцна паўплывала Рэч Паспалітая на гістарычныя шляхі розных народаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы, а таксама наколькі лёсы тых народаў узаемазвязаныя і ўзаемазалежныя. На вялікі жаль, у цяперашні час аб правядзенні падобных міжнародных мерапрыемстваў, якія б сабралі разам прадстаўнікоў розных дзяржаў нашага рэгіёна, цяжка нават і марыць.

Гісторыя Рэчы Паспалітай можа быць адным з фактараў інтэграцыі Цэнтральна-Усходняй Еўропы толькі пры максімальна поўным асвятленні самых складаных момантаў мінулага гэтай дзяржавы. Так, агульныя тэндэнцыі ў развіцці палітычнай культуры Рэчы Паспалітай могуць быць ідэйным падмуркам у развіцці сучасных інстытутаў улады краін рэгіёна, асабліва іх парламенцкіх структур. Разам з тым патрабуецца пільная ўвага да ўнутраных перадумоў і прычын тых крызісных з'яў, якія прывялі палітычную сістэму Рэчы Паспалітай да глыбокага крызісу, а саму дзяржаву да падзелаў і знікнення. Традыцыі мірнага суіснавання розных этнасаў і канфесій, асабліва ў XVI ст., і зараз могуць быць прыкладам урэгулявання міжканфесійных ці міжэтнічных супярэчнасцей. Аднак варта памятаць, што адыход дзяржаўнай улады на мяжы XVI–XVII стст. ад палітыкі рэлігійнай талерантнасці прывёў Рэч Паспалітую да вельмі цяжкіх сацыяльных канфліктаў XVII ст. Пры гэтым нават ва ўмовах канфесійнага і палітычнага супрацьстаяння сфармавалася агульная інтэлектуальная прастора, якая да нашага часу з'яўляецца адной з крыніц культурнага развіцця народаў былой Рэчы Паспалітай.

Важна таксама не замыкацца ў межах асобных нацыянальных гісторый, а імкнуцца даследаваць мінулае Рэчы Паспалітай з улікам тых працэсаў, якія адбываліся як ва ўсёй дзяржаве ў цэлым, так і ў асобных яе складовых частках. Гэта дазволіць выявіць як адметныя, так і агульныя з'явы ў гістарычных лёсах народаў, якія яе насялялі, а таксама разумець (і паважаць!) пазіцыі сучасных гістарыяграфій розных дзяржаў рэгіёна.

Аднак нават у адметнасцях і супярэчнасцях можна знайсці кропкі збліжэння. Так, напярэдадні заключэння Люблінскай уніі тагачасны кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт Аўгуст уключыў некаторыя землі ВКЛ, у т.л. украінскія, у склад Польшчы. У айчыннай гістарычнай навуцы такі крок манарха трактуецца выключна негатыўна, бо ён аслабіў Вялікае Княства ва ўмовах Інфлянцкай вайны і канчаткова штурхнуў яго да падпісання новага саюзу з Каронай. Пры гэтым не будзем забываць, што падзел у 1569 г. тэрыторыі пражывання ўсходнеславянскага насельніцтва (Русі) паміж ВКЛ і Польшчай значна паскорыў працэсы фармавання асобных беларускага і ўкраінскага народаў. Надзвычайныя падзеі сярэдзіны XVII ст. выразна паказалі існаванне розных "нацыянальных праектаў" на землях Беларусі і Украіны, якія немагчыма звесці да простага рэгіяналізму. І ў гэтых супярэчнасцях выяўляецца разнастайнасць і разам з тым цесная сувязь гістарычных шляхоў нашых народаў.

Не дэманстрацыя "прыгладжанай" гісторыі Рэчы Паспалітай, а яе адлюстраванне з усімі праблемамі і супярэчнасцямі дае магчымасць выявіць увесь спектр узаемасувязей у гістарычным развіцці розных зямель у перыяд існавання гэтай дзяржавы і, адпаведна, спрыяць збліжэнню народаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы.

## Доктар гістарычных навук Аляксандр Краўцэвіч:

Падаецца, што памяць пра Люблінскую унію можа стаць інтэгруючым чыннікам для палякаў, летувісаў, украінцаў і беларусаў найперш у справе супрацьстаяння расійскай экспансіі. Гэтаксама, як было ў 1569 г.

Стрымліваючым фактарам для беларусаў з'яўляецца ўсведамленне негатыўных наступстваў Люблінскай уніі для Беларусі. Люблінская унія стала сімвалічнай вехай канца "залатога веку Беларусі" і пачатку сістэмнага крызісу беларускай культуры. Паскарэнне паланізацыі / самапаланізацыі сацыяльных эліт у Рэчы Паспалітай прывяло да страты беларускай культурай і мовай дамінуючай ролі ў ВКЛ, да яе замыкання ў межах традыцыйнай / сялянскай і пераўтварэння беларусаў у "сялянскі" народ.

Паміж 26 лістапада — 16 снежня 2020 г. на замову Асяродка ўсходніх студый (Ośrodek Studiów Wschodnich) было праведзена даследаванне грамадскай думкі беларусаў праз тэлефоннае апытанне тысячы рэспандэнтаў. Сярод іншых было пытанне, на якую гістарычную традыцыю павінна абапірацца Беларусь. За Рэч Паспалітую выказалася 6,3% апытаных, у той жа час найбольшую падтрымку атрымала традыцыя ВКЛ — 39,7%. ([online] https://www.osw.waw.pl/en/publikacje/osw-commentary/2021–01–29/belarusians-poland-russia-and-themselves, dostęp: 26.042022). І хоць значная частка апытаных выказалася за традыцыю Савецкага Саюза (28%), варта прызнаць, што тры дзесяцігоддзі высілкаў незалежных беларускіх гісторыкаў па "прысваенні" беларусамі традыцыі ВКЛ прынеслі свой плён.

### Доктар габілітаваны Генадзь Сагановіч:

Яна ўжо да пэўнай ступені выконвае такую ролю, функцыянуючы ў іпастасі супольных герояў і сімвалаў у культурнай памяці калі не ўсіх, дык некалькіх народаў даўняй Рэчы Паспалітай. Патэнцыял інтэграцыйнай ролі памяці пра Люблінскую унію ды народжаную ёй дзяржаву залежыць ад многіх фактараў, але больш за ўсё — ад добрай волі да дыялогу, да прызнання права іншых на сваю памяць пра тыя часы і падзеі. Мне думаецца, што памнажэнне пазітыўных месцаў памяці эпохі шляхецкай рэспублікі, якія функцыянуюць у падобнай ролі ў суседніх народаў, для большасці насельніцтва Беларусі не будзе праблематычным, бо ў нашым мінулым XVI–XVIII стст. мала такога траўматычнага вопыту, які б служыў падставай антаганізму. Гэта пацвердзілі і 1990-я гады, калі ва ўмовах кароткай дэмакратыі беларуская гістарыяграфія лёгка эвалюцыянавала ў бок узважаных ацэнак уніі 1569 г. і пачала прэзентаваць даўнюю Рэч Паспалітую як свой гістарычны дом.

Паляпшэнне стаўлення да той супольнай дзяржавы ў шырокіх колах нашага грамадства будзе залежаць найперш ад змены палітычнага рэжыму, а далей — ад гістарычнай адукацыі і эмансіпацыі адносна міфалагем заходнерусізму.

### Profesor, dr Alfredas Bumblauskas:

„Od Unii Lubelskiej do Unii Europejskiej!”- tak Papież Jan Paweł II zatytułował swoje przemówienie do pielgrzymów z Polski wygłoszone 19 maja 2003 r. w Rzymie z okazji 25-lecia pontyfikatu, w przeddzień podjęcia decyzji przez Polskę i inne państwa europejskie, dotyczącej wstąpienia do Unii Europejskiej. Już wtedy Papież zauważył, że Unia Europejska jest związkiem równoprawnych państw. Może nie całkiem równoprawna była Unia Lubelska, jednak Litwa przystąpiła do niej z własnej woli. Natomiast o swoje prawa Litwa walczyła zarówno z bronią w ręku na Wschodzie, jak i w trakcie negocjacji z Polską.

Zmiany w pamięci historycznej i w historiografii Litwy mogą stać się przykładem i dla innych narodów, tylko wszyscy musimy pamiętać, że polska kultura była czynnikiem europejskości, a teraźniejsza Polska musi być wielka i kulturą, i odpowiedzialnością za narody ULB. I nie tylko…

### Докторка історичних наук Наталія Старченко:

Сьогоднішньому українцеві недосить сказати про його річпосполитський спадок, він про це знає. Однак той спадок у нього переважно пов'язаний з "пам'яттю" про польсько-українське протистояння, а чи в пом'якшеному вигляді — про боротьбу українців з "польською владою", "з польськими магнатами і шляхтою", "з польським пануванням". Тому так важливо, щоб українці знали про особливості Речі Посполитої як ранньомодерної ста-

нової держави, про її владну структуру (аби не з'являлися в текстах фрази на кшталт «Варшава планувала знищення української ідентичності»), про політичну культуру, про те, що руська/українська шляхта мала свою власну ідентичність, а її становище не зводилося до об'єкту "ополячення" чи "покатоличення".

Потрібно, як видається, "одомашнити" Річ Посполиту, знайти її українське обличчя. Для цього доведеться переформатувати твердження "Річ Посполита не була лише польською" на "Річ Посполита не була польською", адже погодитися на спадок означає визначитися, яка його частина належить кожному зі спадкоємців. Шлях відмови від анахронічних стереотипів, що формувалися в межах ідеологічних лещат Російської імперії та Радянського Союзу, буде тривалим. Однак він того вартий, бо відчуття своєї присутності в минулому серед інших народів Речі Посполитої як "рівних серед рівних" якраз і творить надійну основу для відчуття "спільноти спадкоємців" в нинішньому складному й мінливому світі. У всякому разі, важливі кроки вже зроблені: Люблінська унія постає у новому баченні українців як момент перемоги їхніх предків, а привілеї, здобуті в досить складному протистоянні — як фундамент для формування власної позиції, претензія на повноправне членство в Речі Посполитій.

### Dr Łukasz Adamski:

Dla wszystkich Polaków Litwinów, Ukraińców i niezrusyfikowanych Białorusinów oczywistą korzyścią uzasadniającą potrzebę odwoływania się do dziedzictwa unii z 1569 r. jest antyrosyjski potencjał mobilizacyjny tej tradycji. Dopóki, bowiem w Rosji nie nastąpią fundamentalne, a zarazem trwałe zmiany w systemie politycznym i sposobie definiowania przez to mocarstwo swoich interesów, których integralną częścią będzie poszanowanie suwerenności sąsiadów, należy zakładać, że mocarstwo to będzie stanowiło poważne zagrożenie dla bezpieczeństwa Polski i Litwy, pozostanie wrogiem Ukrainy i egzystencjalnym zagrożeniem dla białoruskiej państwowości i tożsamości narodowej.

Inną korzyścią, choć pewnie mniej dostrzegalną, z odwoływania się do dziedzictwa Rzeczypospolitej będzie wzmocnienie legitymizacji europejskich aspiracji Ukrainy, a w przyszłości może Białorusi, popieranych w równym stopniu przez Polskę i Litwę. Obecnie bowiem w niektórych krajach europejskich Ukraina i Białoruś są przez spore odłamy tamtejszych elit postrzegane jako historyczne części Rosji, które z takich czy owakich powodów usamodzielniły się wbrew woli Moskwy. Taka percepcja sprawia, że chęć wspierania ich związków z UE bądź NATO, z różnych powodów i tak niezbyt duża, dodatkowo jest nadwątlana świadomością konsekwencji podjęcia takiej decyzji — uwikłania się w konflikt z Moskwą postrzeganą jako „historyczny gospodarz" obszaru tych dwóch państw.

Tradycje republikańskie, demokratyczne i wolnościowej dawnej Rzeczypospolitej, sprzeciw wobec tyranii ustrojowej i ideologicznej, są też do wykorzystania

w polityce europejskiej. Mogą posłużyć do osłabienia popularności i siły oddziaływania politycznego popularnej na Zachodzie argumentacji o zacofaniu nie tylko gospodarczym, ale i cywilizacyjnym, w tym ustrojowym, Europy Środkowo-Wschodniej.

Natomiast wyłania się też dylemat, w jaki sposób odwoływać się do dziedzictwa Rzeczypospolitej w sposób politycznie atrakcyjny dla Litwinów, Ukraińców i Białorusinów, a więc podkreślając wielonarodowość tego państwa oraz traktując je jako źródło rodowodu obecnych kultur narodowych Białorusi, Ukrainy i Litwy, a zarazem pozostać wiernym wymowie źródeł historycznych. Te ostatnie tymczasem wskazują na ewidentny proces powolnego przetapiania w Rzeczypospolitej z unii wczesnonowożytnych wspólnot narodowych czy kulturowych — a więc polskiej, litewskiej i ruskiej — w jeden naród, nazywany polskim i funkcjonujący na poziomie elit przez część wieku XVII, a zwłaszcza przez cały wiek XVIII i częściowo również XIX. W ten sposób w XVIII w. Rzeczpospolita polsko-litewsko-ruska stała się nawet oficjalnie Rzecząpospolitą Polską lub Polską — co widać choćby po analizie zawieranych wówczas traktatów międzynarodowych czy Konstytucji 3 maja.

W II połowie XIX w. doszło wprawdzie do rozczłonkowania, trwającego dotychczas na poziomie elit narodu polskiego w jego przedrozbiorowej postaci, opartej na paradygmacie obywatelskiej więzi z państwem i utożsamiającej się z potrzebą odbudowy — przypominał on znany z Francji model narodu politycznego — na współczesne narody: polski, ukraiński, białoruski i litewski oparte na modelu wspólnoty językowej. Jednak naturę tego procesu mogą łatwo rozumieć intelektualiści, zwłaszcza o wykształceniu historycznym lub socjologicznym, natomiast jest on trudny do wytłumaczenia szerszej opinii publicznej, przyzwyczajonej do myślenia prezentystycznego o wiekach minionych. W ten sposób wyłania się niebezpieczeństwo celowego podsycania lub spontanicznego podsycania się tlejących się sporów na tle interpretacji historii, np. o narodowość np. Mickiewicza czy Kościuszki. Ta okoliczność nie sprzyja konsolidacji narodów regionu wokół dziedzictwa Rzeczypospolitej.

## Profesor, dr hab. Andrzej Zakrzewski:

Pamięć o unii — zwłaszcza w aktualnej sytuacji politycznej — może stać się czynnikiem integrującym narody naszej części Europy. Pamięć taka przypomina bowiem wspólne dla nich wartości polityczne i kulturalne Rzeczypospolitej. Są one odmienne od innych krajów regionu, a zaryzykowałbym twierdzenie, że późnym reliktem ostatniego punktu artykułów henrykowskich 1573 r. — *iuris de non praestanda oboedientia* — były już w XXI wieku kolejne ukraińskie rewolucje i niedawne protesty na Białorusi. To przyczynia się — między innymi w świetle fenomenu „Solidarności" sprzed ponad 40 lat — do przypomnienia wspólnych korzeni kultury politycznej regionu.

Oczywiście zdarzają się — jak obecnie na Białorusi — administracyjnie sterowane i politycznie motywowane powroty do ujęć charakterystycznych dla

XIX-wiecznej historiografii rosyjskiej i XX-wiecznej radzieckiej. Nie wiem jednak, w jakim stopniu propaganda taka trafia do społeczeństwa. Spotykają się one wprawdzie z rzeczową polemiką tamtejszych badaczy, o ile ci mają możliwość wypowiedzenia się…

Jeśli jednak chodzi o konkretne kroki polityczne — kierunek integracji jest już szerszy. Nasuwają się bowiem analogie w sytuacji międzynarodowej. Związek Korony i Litwy zacieśniono przecież pod wpływem bezpośredniego zagrożenia zewnętrznego, które — paradoksalnie — jest nadal aktualnie. Obecnie jest to więc — oczywiście — raczej rozważenie integracji ze strukturami europejskimi i północnoatlantyckimi. Jedynymi, które mogą zapewnić bezpieczeństwo i w naszym regionie.

**10.02.2022**

# АРТЫКУЛЫ І ПАВЕДАМЛЕННІ

**Вадзім Аніпяркоў,**
**кандыдат гіст. навук (Варшава)**
**ORCID: 0000-0001-7058-1275**

## Канстытуцыя 3 мая 1791 г. у цені стэрэатыпаў

„Аўтару варта было б памерці, скончыўшы кнігу. Каб не станавіцца на шляху тэксту”[1]. Гэтыя словы Умберта Эка надзвычай падыходзяць да Канстытуцыі 3 мая 1791 г. Хуткае спыненне (не па сваёй волі) існавання Рэчы Паспалітай выклікала палітычную смерць галоўных стваральнікаў гэтага дакумента, а яго тэкст пачаў жыць уласным жыццём, адчуваючы да сённяшняга часу зменлівасць палітычных кантэкстаў, перапляценне нацыянальных “запытаў” і нязменна моцны ціск грамадскай кан’юнктуры з новымі ды нярэдка ўзаемавыключальнымі трактоўкамі ды інтэрпрэтацыямі.

Частка польскіх гісторыкаў бачыла ў Канстытуцыі 3 мая яскравае сведчанне нацыянальнай ідэнтычнасці і прававой адметнасці, іншыя апісвалі яе стварэнне як частку характэрнага для перыяду кіравання Станіслава Аўгуста працэса еўрапеізацыі Рэчы Паспалітай[2]. Носьбіты ідэй “левага кірунку” хвалілі і крытыкавалі Канстытуцыю за частковае ўвасабленне прынцыпаў Французскай рэвалюцыі, у той час як прыхільнікі “правых поглядаў” асноўным крытэрыем яе станоўчай ацэнкі лічылі кампрамісны характар і пераемнасць сацыяльных адносін[3].

У Вільні міжваеннага перыяду дзень 3 мая святкаваўся як сімвал унітарнага дзяржаўнага адзінства з Варшавай. Зараз жа, як бачым, акцэнт ссунуты ў бок падкрэслення дзяржаўнага дуалізму Рэчы Паспалітай. У 2021 г. святкаванне юбілею ў Вільні з удзелам прэзідэнтаў Польшчы і Літвы адбылося

---

[1] У. Эко, *Заметки на полях имени Розы*, in: idem, Имя розы, Москва 1989, с. 430. Тут і далей, калі іншае не пазначана, пераклад на беларускую мову.

[2] У дачыненні да Рэчы Паспалітай тэрмін “еўрапеізацыя” першым выкарыстаў Юзаф Фельдман (Józef Feldman). Гл.: J. Michalski, *Sarmatyzm a europeizacja Polski w XVIII wieku* [w:] *Swojskość i cudzoziemszczyzna w dziejach kultury polskiej*, red. Z. Stefanowska, Warszawa 1973, s. 113.

[3] Гл.: A. Wierzbicki, *Konstytucja 3 maja w historiografii polskiej*, Warszawa 1993, s. 7 ды інш.

20 кастрычніка і было спалучана з юбілеем падпісання *Узаемных заручын абодвух народаў*[4].

Для гісторыка сітуацыя з прыкладамі такога кшталту суправаджаецца відавочнымі выклікамі, паколькі ўтрымлівае пагрозу стэрэатыпнасці і дагматызацыі ацэнак, падпарадкавання навуковых поглядаў актуальнай палітычнай і грамадскай кан›юнктуры. У якасці ілюстрацыі гэтай тэзы я закрану пытанне, якое ў дачыненні да агучанай тэматыкі прыцягвае, бадай, найбольшую ўвагу беларускага чытача, а менавіта ацэнкі суб’ектнасці Вялікага Княства Літоўскага і эвалюцыі яго адносін з Польскай Каронай у канцы XVIII ст.

Калі звярнуцца да польскай гістарыяграфіі першай паловы XX ст., то мэйнстрымам была тэза аб унітарным тыпе дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай (прынамсі, пасля прыняцця Канстытуцыі 3 мая) і паэтапным, завершаным у 1791 г., уваходжанні Вялікага Княства Літоўскага ў склад Польшчы[5]. У міжваенны перыяд дадзены тэзіс празрыста карэляваў з патрэбамі дзяржаўнай ідэалогіі II Рэчы Паспалітай, але найбольш моцна ён быў прадстаўлены ў пасляваенным даследаванні Багуслава Леснадорскага (1951), прысвечаным заканадаўству Чатырохгадовага сейма. Высновы аўтара пасля аналізу Канстытуцыі не пакідалі шансаў федэралізму ў гістарычнай спадчыне Рэчы Паспалітай: „З маўчання Канстытуцыі аб Літве і з самога тону закона (3 мая — *В. А.*), таксама з папярэдніх заўваг аб адзінстве «польскага народа» заключыць можна, вядома, адну толькі лагічную выснову, што не можа быць і гаворкі аб прынцыповай дзяржаўнай адасобленасці Літвы і аб рэальнай уніі, хоць гэтага *expressis verbis* не сказалі. Унія была адменена. На месцы саюза дзвюх дзяржаў [...] утварылася нарэшце адна польская дзяржава”[6].

Хоць у наступныя дзесяцігоддзі дадзены тэзіс быў пастаўлены пад сумнеў польскімі гісторыкамі[7], ён панаваў у беларускай навукова-папулярнай літара-

---

4 Прапанова адзначаць 20 кастрычніка замест 3 мая гучала яшчэ ў міжваенны перыяд у асяродку віленскіх „краёўцаў”: „Kraj nasz, jeżeli ma obchodzić rocznice historyczne, to powinien czcić nie dzień 3 maja, kiedy usiłowano uszczuplić jego prawa, poniżyć i podporządkować jego interesy interesom Korony, lecz dzień 20 października, w którym kraj nasz chociaż częściowo odzyskał swą samodzielność” (K. Waga [L. Abramowicz], *Zaręczenie wzajemne obojga narodów,* „Przegląd Wileński” 1926, 30 kwietnia, nr 8, s. 5).

5 S. Kutrzeba, *Unia Polski z Litwa* [w:] *Polska i Litwa w dziejowym stosunku*, Warszawa 1914, s. 657; idem, *Historia ustroju Polski. Korona,* Warszawa 1949; O. Halecki, *Dzieje Unii Jagiellońskiej,* t. II, Kraków 1920, s. 353.

6 B. Leśnodorski*, Dzieło Sejmu Czteroletniego (1788–1792),* Wrocław 1951, s. 240. Гэта тэза была паўторана пры ацэнцы Б. Леснадорскім Узаемных заручын абодвух народаў: *„Заручыны былі недакладна названы* “*актам уніі”, бо ў рэчаіснасці гэты акт абвяшчаў пра інкарпарацыю Літвы да Польшчы з прадастаўленнем адзіна што мясцовай, гэта значыць польскай або спаланізаванай, шляхце шырокага самакіравання*”, ibidem, s. 242.

7 E. Rostworowski, *„Marzenie dobrego obywatela”, czyli królewski projekt Konstytucji* [w:] idem, *Legendy i fakty XVIII w.*, Warszawa 1963, s. 439–440, 451–452; J. Malec, *Problem stosunku Polski*

туры аж да канца 1990-х гг., часткова дзякуючы вядомасці і даступнасці ў перакладзе 1980 г. на рускую мову іншага выдання з удзелам Б. Леснадорскага *Гісторыя дзяржавы і права Польшчы*[8]. Пазней ён быў заменены іншай, але запазычанай таксама з польскай гістарыяграфіі, канцэпцыяй Юліюша Бардаха[9].

Свой першы артыкул аб эвалюцыі польска-літоўскай уніі ў перыяд пасля 3 мая 1791 г. у выніку дапаўнення і пэўнай рэвізіі Канстытуцыі *Узаемнымі заручынамі абодвух народаў* Ю. Бардах напісаў у 1991 г.[10] Двухсотгоддзе Канстытуцыі 3 мая сімвалічна супала з распадам СССР, калі ў чарговы раз паўставала пытанне аб новай геапалітычнай прасторы Сярэдне-Усходняй Еўропы, ролі Польшчы і яе адносінах да незалежных Літвы, Беларусі, Украіны[11].

---

*do Litwy w dobie Sejmu Wielkiego (1788–1792),* „Czasopismo Prawno-Historyczne" 1982, t. 34, z. 1, s. 47; J. Michalski, *Zagadnienie unii polsko-litewskiej w czasie panowania Stanisława Augusta*, „Zapiski Historyczne" 1986, t. LI, z. 1, s. 59.

8 Ю. Бардах, Б. Леснодорский, М. Пиетрчак, *История государства и права Польши*, Москва 1980, с. 293 (у напісаным Б. Леснадорскім падраздзеле «Дзяржаўная пабудова» было адзначана, што «ў дадатковым да Канстытуцыі акце Узаемных заручын зафіксавана поўнае зліццё Польшчы і Літвы»).

9 Пар., з аднаго боку, выданні са сцвярджэннямі пра ўнітарную Рэч Паспалітую: *100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі*, уклад. І. Саверчанка, Зм. Санько, Мінск 1993, с. 48; *Нарысы гісторыі Беларусі,* Мінск, 1994, т. 1, с. 236; *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі,* Мінск 1997, т. 4, с. 88, а з другога боку – з акцэнтам на захаванне федэрацыі і відавочным уплывам публікацый Ю. Бардаха: Г. Сагановіч, *Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII ст.,* Мінск 2001, с. 338–340; Ц. Акудовіч, *Прынцып „трох правінцый" і ўніфікацыйныя тэндэнцыі на Чатырохгадовым сойме (1788–92),* "Беларускі гістарычны агляд", 2009, т. 16, сш. 2, с. 403–420.

10 J. Bardach, *Konstytucja 3 Maja a unia polsko-litewska*, „Przegląd Historyczny" 1991, t. LXXXII, z. 3–4, s. 383–410 (беларускі пераклад: Ю. Бардах, *Канстытуцыя 3 мая і Ўзаемныя Заручыны Абодвух Народаў 1791 г.* [w:]: idem, Штудыі з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, Мінск 2002, с. 364–408). Наступныя публікацыі па тэме можна трактаваць як імкненне Ю. Бардаха да папулярызацыі прадстаўленай канцэпцыі: *Konstytucja 3 maja a unia polsko-litewska*, „Nauka Polska" 1991, nr 2, s. 3–27; *Konstytucja 3 maja a Zaręczenie Wzajemne Obojga Narodów 1791 roku*, „Studia Iuridica" 1992, t. XXIV, s. 15–26; *Konstytucja 3 maja a Zaręczenie Wzajemne Obojga Narodów 1791 roku*, „Lithuania" 2001, nr 40/41, s. 33–37; *Od aktu w Krewie do Zaręczenia Wzajemnego Obojga Narodów* [w:] *Unia Lubelska i tradycje integracyjne w Europie Środkowo-Wschodniej*, red. J. Kłoczowski, H. Łaszkiewicz, Lublin 1999, s. 12–44. На англ. і франц. мовах: *The Constitution of May Third and the Mutual Assurance Two Nations*, „The Polish Review" (New York) 1991, t. 36, nr 4, s. 407–420; *Le principe fédéraliste et le principe unitaire dans la législation de la Diete polonolituanienne de Quatre Ans (1788–1792)*, „Acta Poloniae Historica" 1994, t. 70, p. 75–86; *Constitution du 3 Mai 1791 et la Garantie Mutuelle de Deux Nations du 20 octobre 1791*, [in:] *La Costituzione Polacca del 3 Maggio 1791 e il costituzionalismus europeo del XVII secolo.* Atti dei Colloquio italo-polacœ 1991 a cura di J. Żurawska, Napoli 1995, p. 13–29; *Constitution of 3 May and the Mutual Guarantee of the Two Nations*, [in:] *Constitutions and Reform in Eighteenth-Century Poland. The Constitution of 3 May 1791*, Bloomington-Indianapolis 1997, p. 367–376 (паводле бібліяграфіі, складзенай В. Суднік у выданні: Ю. Бардах, *Штудыі з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага*, с. 441–452).

11 Пра беларускі кантэкст гэтай праблематыкі пісаў А. Ластоўскі, *Значэнне ідэі "Сярэдняй Еўропы" і імперскай спадчыны для самавызначэння Беларусі* [w:] *Пути европеизации*

Нельга дакладна сказаць, што больш паўплывала на высновы аўтара: сам гістарычны момант напісання артыкула ці асаблівасці яго біяграфіі, – але моцны ўплыў суб’ектыўных фактараў у гэтым тэксце, безумоўна, прасочваецца. Застаючыся шчырым прыхільнікам адметнасці гістарычнай Літвы і пры гэтым імкнучыся да захавання яе сувязяў з Польшчай, Ю. Бардах выступіў з тэзамі, якія не маглі не імпанаваць шырокай грамадскасці ў Варшаве, Вільні ці Менску. Асобна падкрэсліўшы значэнне дзяржаўнасці ВКЛ для сучаснай літоўскай самасвядомасці, Ю. Бардах па сутнасці апісаў падзеі лета–восені 1791 г. як прыклад умацавання сувязі Літвы з Польшчай — пры захаванні дзяржаўнасці кожнага з двух “палітычных народаў”, іх раўнапраўя, узаемнай павазе і адказным кампрамісе: „І так як прыняцце літоўскімі сенатарамі і пасламі Статута аб Праўленні (Ustawa Rządowa — В. А.) 3 мая было саступкаю польскаму боку ў імя вышэйшых інтарэсаў усяе Рэчы Паспалітае, гэтак і *Ўзаемныя Заручыны Абодвух Народаў* былі саступкаю літвінам, якія баранілі сваю палітычную суб’ектнасць. Кампраміс адбыўся ў рамках існуючай федэрацыі […] на аснове раўнапраўя”[12].

У гэтай блізкай да ідэалу формуле (літвіны падтрымалі Канстытуцыю, палякі ў адказ — *Узаемныя Заручыны*, і першыя, і другія — кіруючыся пры гэтым прыярытэтам агульнага дабра) утрымліваўся безумоўны гістарычны аптымізм. Складаней было з навуковай аргументацыяй.

Ю. Бардах не выкарыстоўваў уласныя архіўныя крыніцы. Іх ён запазычыў у іншых аўтараў, перш за ўсё з ключавых па дадзенай тэматыцы работ Эмануэля Раствароўскага і Ежы Міхальскага[13], але пры гэтым, у параўнанні з апошнімі, выступіў з больш катэгарычнымі высновамі. Так, калі Е. Міхальскі не выводзіў генезіс *Заручын* за межы гісторыі са складаным абмеркаваннем на сойме ў кастрычніку 1791 г. пытання аб’яднання скарбовых камісій[14], то Ю. Бардах палічыў, што з’яўленне закона такога кшталту было наканавана самой логікай прыняцця Канстытуцыі 3 мая, як свайго роду негалосная ўмова згоды з Канстытуцыяй літоўскай часткі сойма[15].

Ацэньваючы *Узаемныя заручыны абодвух народаў* з прававога пункту гледжання, Бардах адзначыў іх больш высокі статус, нават у параўнанні з Канстытуцыяй 3 мая па прычыне ўключэння ў *pacta conventa*[16]. Гэта тэза суадносілася з цытатай Адольфаса Шапокі аб тым, што *Заручыны* сталі ак-

---

*Беларуси: между политикой и конструированием идентичности (1991–2010),* под ред. О. Шпараги, Минск 2011, с. 198–224. Пар. J. Bardach, *Dlaczego Europa Środkowo-Wschodnia?,* „Nauka Polska” 1992, nr 5–6, s. 65–71.

[12] Ю. Бардах, *Канстытуцыя 3 мая і Ўзаемныя Заручыны Абодвух Народаў 1791 г.,* с. 400.

[13] Гл. спасылку 7. Э. Раствароўскі абапіраўся на матэрыялы Ігнацыя Патоцкага, у т.л. на папярэднія праекты Канстытуцыі, Е. Міхальскі — на невядомы дагэтуль рукапісны дыярыюш сойма.

[14] J. Michalski, *Zagadnienie unii polsko-litewskiej...*, s. 121.

[15] Ю. Бардах, *Канстытуцыя 3 мая і Ўзаемныя Заручыны Абодвух Народаў 1791 г.,* с. 374.

[16] Ibidem, с. 390–391.

там, да якога "*Літва імкнулася больш як 200 гадоў*"[17]. Яе таксама пацвярджала адзначаная ў артыкуле атмасфера ўрачыстых мерапрыемстваў, звязаных з прыняццем на сойме закона 20 кастрычніка, і ў першую чаргу бал, што быў арганізаваны літоўскай часткай сойма ў Радзівілаўскім палацы ў гонар гадавіны каранацыі Станіслава Аўгуста з удзелам прадстаўнікоў дыпламатычнага корпуса.

Я вазьму паўзу ў перказе канцэпцыі Ю. Бардаха, каб падзяліцца фрагментамі сведчанняў і ацэнкамі дадзеных падзей у Варшаве менавіта з боку замежных дыпламатаў, паколькі гэта карэспандэнцыя не выкарыстоўвалася пры вывучэнні польска-літоўскай уніі названага перыяду. Гаворка ідзе пра данясенні з Варшавы ў Пецярбург, Вену, Берлін, Дрэздэн і Парыж.

Адзначаны Ю. Бардахам, а яшчэ раней Уладзіславам Смаленскім і А. Шапокам, бал у Радзівілаўскім палацы адбыўся 26 лістапада, г. зн. праз месяц з невялікім пасля прыняцця *Заручын*[18]. У большай частцы дыпламатычных паведамленняў, нягледзячы на свой сапраўды вялікі размах, ён не згаданы, але быў апісаны ў паведамленні аўстрыйскага пасла Бенедыкта дэ Кашэ. На прыём, злучаны з балам, было запрошана 2 000 чалавек, пры выдатках у 1 500 дукатаў. Такі маштаб, на думку Б. дэ Кашэ, павінен быў схаваць страх і нервовасць, якія ўзмацняліся ў Варшаве пад уплывам звестак аб падрыхтоўцы Расіяй антысеймавай канфедэрацыі і нападу на Рэч Паспалітую[19].

Аўстрыйскі пасол паведамляў свайму двару, што нагодай урачыстасцей, акрамя даты каранацыі Станіслава Аўгуста, былі змены ў адносінах Кароны і Літвы, характарызуючы іх эвалюцыю наступным чынам: „Нагодай гэтага з'яўляецца ўмацаванне ў апошні час сувязяў паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Польскай Каронай праз ухваленне соймам будучай агульнай адмі-

[17] Ibidem, с. 399. Погляды А. Шапокі не адрозніваліся пастаянствам, бо ён таксама пісаў пра непрыманне літоўцамі як Канстытуцыі 3 мая, так і Узаемных заручын абодвух народаў, а ў якасці доказу іх дзяржаўнай самасвядомасці ў канцы XVIII ст. памылкова прыводзіў аргумент шырокай падтрымкі ў ВКЛ Таргавіцкай канфедэрацыі 1792–1793 гг., накіраванай супраць Канстытуцыі і Чатырохгадовага сейма (A. Šapoka, *Lietuva ir Lenkija po 1569 m. Liublino unijos*, [in:] *Raštai*, t. 3, tekstus parengė, įvadą ir komentarus parašė R. Jurgaitis, A. Ragauskas, Vilnius 2018 (перавыданне 1938 г.), p. 317–320. Пра мінімальную падтрымку ў ВКЛ "Таргавіцы" і расійскіх палітычных ініцыятыў гл. V. Anipiarkou, *Konfederacja targowicka w 1792 r. w świetle korespondencji służbowej rosyjskiego generała Michaiła Kreczetnikowa*, „Studia z dziejów Rosji i Europy Środkowo-Wschodniej" 2019, vol. LIV, nr 1, s. 75–97.

[18] W. Smoleński, *Sprawa stosunku Litwy do Polski na Sejmie Wielkim*, „Studja historyczne" 1925, s. 444; A. Šapoka, *Lietuva ir Lenkija po 1569 m. Liublino unijos*, [in:] *Raštai*, t. 3, p. 317.

[19] B. De Caché an W. Kaunitz, Warschau, 26 XI 1791, *Austria wobec Konstytucji 3 maja w świetle relacji posła austriackiego Benedykta Cachégo przesyłanych do Wacława Kaunitza i Filipa Cobenzla*, oprac. H. Kocój, Kraków 2007, s. 140. Пар. „*Gazeta Narodowa y Obca*", 30 XI 1791, nr 96, s. 384 [online] https://crispa.uw.edu.pl/object/files/150410/display/Default [доступ: 19.02.2022].

ністрацыі са скарбам Абодвух Народаў і аб›яднанне таксама іншых розных унутраных спраў, у выніку чаго Літва ахвяравала большай часткай сваіх даўніх прывілеяў часоў уніі і адрозненняў, прынятых падчас яе далучэння" (падкрэслена мной — *В. А.*)[20].

Падобным чынам Б. дэ Кашэ раней паведамляў у Вену і пра пастанову 20 кастрычніка 1791 г., адзначаючы прынцып роўнасці прадстаўнікоў Кароны і Літвы ў сумесных урадавых камісіях як своеасаблівую высокую плату за паступовую адмову літвінаў ад традыцый уласнай суб'ектнасці: "Паколькі дагэтуль толькі адна траціна прадстаўнікоў была стандартам, які вызначаў удзел Літвы ва ўсіх сферах кіравання і заканадаўства, здаецца, што літоўскі народ шмат выйграе ад змен. Аднак у выніку памяць і ўплыў прывілеяў, захаваных у былой формуле уніі, на якіх калісьці ажыццявілася далучэнне Вялікага Княства Літоўскага да Польскай Кароны, паступова адыходзяць у нябыт" (падкрэслена мной — *В. А.*)[21].

Не менш красамоўнымі былі паведамленні дыпламатаў іншых краін аб прыняцці *Заручын*, напр., сакратара французкага пасольства Жана Бано: "Няма больш Кароны, больш Літвы, абвяшчаюць яны з усіх бакоў, зараз ёсць толькі адна нацыя, ёсць толькі палякі; што ўсе старажытныя адрозненні, усе рэшткі асобнага ўрада знікаюць у супольнасці грамадзян і братоў"[22].

[20] „Seine Polnische Majestät haben gestern bei Gelegenheit Höchstdero 27-ten Kronungsfestes eine außerordentliche Hof-Cour gehalten. Heute geben die litauischen Senatoren und Landboten eine öffentliches Festin mit Ball für mehr als 2.000 Personen, wozu die Unkosten der großen Vorbereitungen sich auf 1.500 Dukaten belaufen sollen. Die Veranlassung hinzu ist das neulich enger, als es vorhin gewesen verknüpfte Band zwischen dem Großherzogtum Litauen und der Krone Polen durch die beim Reichstag beschlossenen künftighin gemeinschaftliche Administration des Schatzes beider Nationen, und durch die Adoption der Gleichförmigkeit noch mancher andern innerlichen Einrichtungen wobei also Litauen seine alte Unions-Pacten, und Incorporations-Reservaten grösten Teils aufgeopfert hat" (B. de Caché an W. Kaunitz, Warschau, 26 XI 1791, op. cit., s. 140). Пашыраны нямецкі арыгінал прыводжу ў сувязі з наяўнасцю некарэктнага польскага перакладу ў выданні *Konstytucja 3 Maja w świetle relacji posła austriackiego Benedykta de Cachégo*: wybór, z oryg. odczytał, przetł. i przypisami opatrzył H. Kocój, Kraków 2000, s. 121–122: "люблінскія" паслы (польск. *lubelskie*) замест "літоўскіх" (ням. *litauischen*), "атрымала больш" (польск. *zyskała więcej*) замест "ахвяравала большай часткай" (ням. *grösten Teils aufgeopfert hat*) і г.д. Выказваю падзяку праф. Ежы Дыгдалу (Jerzy Dygdała) за дапамогу з перакладамі.

[21] „Da bishero der dritte Teil der eigentliche Maßstab wäre, nach welchem man den Concours Litauens zu allen Legislations und Administrations-Zweigen der Republik berechnete, so scheint zwar die litauische Nation durch die jetzige Neuerungen allerdings zu gewinnen. Indessen verschwindet durch selbige nach und nach das Andenken und die Wirkung jener in dem alten Unions-Art sich vorbehaltenen Vorrechte, unter deren Bedingung vormals die Einverleibung des Großherzogtum Litauen mit der Krone Polen geschah" (B. De Caché an W. Kaunitz, Warschau, 22 X 1791, op. cit., s. 129 (гл. таксама ранейшы каментар).

[22] „Plus de Couronne plus de Lithuanie, s'écrie-t-on, de toute part, il n'y a plus désormais qu'une seule nation, il n'y a plus que des Polonais; que toutes les anciennes distinctions, que tous les restes d'un gouvernement séparé, disparaissent entre un peuple de citoyens et de frères" (J. Bonneau à A. Montmorin, Varsovie, 22 X 1791, *Dyplomaci francuscy o Konstytucji 3* Maja, [wyd.] H. Kocój,

Як адзначаў прускі пасол Аўгуст Гольц, “гэта аб’яднанне двух інстытуцый (скарбовых камісій — *В. А.*), цалкам асобных да гэтага часу, […] развенчвае міф, згодна з якім Літву прымалі за незалежную краіну […] з асобнай арганізацыяй”[23], а згодна данясенню расійскага пасла Якава Булгакава, “дали сему установлению (*Узаемныя заручыны абодвух народаў — В. А.*) громкий вид акта, как бы ныне только Литовское княжество приступало к Польше и составляло с нею одно государство”[24].

Паўторна зазначу, што ацэнкі такога кшталту датычылі не Канстытуцыі 3 мая, а менавіта характару і атмасферы прыняцця ў кастрычніку 1791 г. *Узаемных заручын абодвух народаў*. Тут не было гаворкі пра іх супрацьпастаўленне Канстытуцыі 3 мая. У *Заручынах* замежныя дыпламаты бачылі працяг тэндэнцый, характэрных для рэформ Чатырохгадовага сойма, а менавіта па інтэграцыі Рэчы Паспалітай і паэтапнай цэнтралізацыі яе дзяржаўнага апарату.

Такая інтэрпрэтацыя падзей супярэчыць тэзе Ю. Бардаха, пабудаванай на супрацьпастаўленні зместа Канстытуцыі і *Заручын*, але добра су-

Kraków 2009, s. 231). Адзначу, што тэрміны “нацыя” (фр. *nation*), “палякі” (фр. *Polonais*) трэба разумець, зыходзячы з кантэксту эпохі. У канцы XVIII ст. этнічны наратыў у гэтых паняццях мог прысутнічаць, але ён саступаў іншым значэнням: палітычнага народа і супольнасці грамадзян (адной дзяржавы).

23 “Cette jonction de deux dicastères entièrement séparés jusqu’ici, outre qu’elle détruit le préjugé, qui faisait, qu’on regardait toujours la Lithuanie comme un pays à part, qui ne faisait corps avec la République, que pour ses rapports externes et politiques, ayant du reste une organisation intérieure différente de celle de la Couronne” (A F. Goltz à Frédéric Guillaume II, Varsovie, 22 X 1791, *Berlin wobec Konstytucji 3 Maja w świetle korespondencji Fryderyka Wilhelma II z posłami pruskimi w Warszawie Augustem Fryderykiem Goltzem i Giorolamo Lucchesinim,* [oprac.] H. Kocój, Kraków 2006, s. 266).

24 “Имею честь всепокорнейше представить вашему сиятельству конституцию о соединении скарбовых комиссий: коронной и литовской. Хотя войсковые комиссии были уже прежде соединены, но нашли за полезно и об них упомянуть, и дали сему установлению громкой вид акта, как бы ныне только Литовское княжество приступало к Польше и составляло с нею одно государство. Литовцы думают, что чрез половинное число комиссаров они сравнялись во всем с Короною, а коронные, может быть, предвидят в сем сравнении надежду заставить Литву платить половину податей и содержать половину армии, вместо третьей части, как то ныне делается. Но на настоящее время скрывается в сем поступке политика уверить не только курфюста саксонского, но и другие державы, что дела делаются тут единомышлено, с согласием всех провинций, и следовательно, с согласия всех обывателей. Сие доказывается и тем, что король присылал господина Дзедушицкого (*Антоні Дзедушыцкі, сакратар замежных спраў ва ўрадзе Рэчы Паспалітай — В. А.*) к саксонскому министру (*Аўгуст Эсэн, пасол Саксоніі ў Варшаве — В. А.)* объявить о соединении скарбовых комиссий и просить его донести о том министериально своему государю с точным примечанием, что сие новое учреждение есть следствием согласия царствующего во всех частях и отраслях польского правительства” (Я. И. Булгаков — И. А. Остерману, Варшава, 15/26 X 1791, Архив внешней политики Российской империи (далей — АВПРИ), ф. «Сношения России с Польшею», оп. 79/6, д. 1300, л. 39) (пар. A. Essen à A. Loss, Varsovie, 26 X 1791, *Dyplomaci sascy wobec Konstytucji 3 maja*, [wyd.] H. Kocój, Kraków 2010, s. 228).

адносіцца з прыведзенымі ім жа прыкладамі сувязі Люблінскай уніі з *Заручынамі* ва ўяўленні саміх ініцыятараў тых апошніх падзей. Тэкст на медалі: "Пры Станіславе Аўгусце скончана найцяснейшая унія, здзейсненая спачатку Жыгімонтам Аўгустам"[25], — безумоўна, мае сэнс, падобны да сцвярджэння Гуга Калантая і іншых аўтараў кнігі "Аб усталяванні і ўпадку Канстытуцыі 3 мая" (1793) пра тое, што ў кастрычніку 1791 г., "былі аднаўлены паміж Літвой і Каронай святыя уніі шлюбы". Дастаткова зірнуць у тагачасную публіцыстыку, каб пераканацца, што ў інтэрпрэтацыі караля, Г. Калантая ды іншых публіцыстаў варшаўскай "Кузніцы" „*святыя ўніі шлюбы*" — гэта словы не пра фэдэралізм і роўнасьць "абодвух народаў", а пра рэалізацыю палажэнняў Люблінскай уніі ў напрамку завяршэння злучэння Літвы з Каронай, ажно да патрабаванняў інкарпарацыі (да канца не рэалізаваных)[26].

Сама цытата з кнігі была выкарыстана Ю. Бардахам па-за агульным кантэкстам. У дадзеным фрагменце выдання, якое стала своеасаблівым палітычным тэстаментам стваральнікаў Канстытуцыі 3 мая, спачатку востра крытыкуюцца склад і праца асобнай Скарбовай камісіі Вялікага Княства Літоўскага, пасля чаго адзначана, што яе аб'яднанне з камісіяй Кароны прывяло да паляпшэння кіравання фінансамі, але запатрабавала "высакароднай, а дакладней брацкай ахвяры каронных правінцый", якія пагадзіліся, што Вялікае Княства Літоўскае, меншае па насельніцтве і рэсурсах, будзе мець ва ўрадавых камісіях роўную з Каронай колькасць прадстаўнікоў[27]. Тут, калі адкінуць словы, якія надавалі тэксту ўзнеслую форму, утылітарна фіксуецца мэта і высокая цана пытання — сугучна данясенню аўстрыйскага пасла Б. дэ Кашэ (ад 22 X 1791, гл. вышэй).

Дадам яшчэ два прыклады, якія прымушаюць успрымаць тэксты Ю. Бардаха пра Канстытуцыю і *Заручыны* з пэўнай асцярогай.

Першы прыклад — часам неабгрунтаванае наданне тагачасным паняццям (асабліва такім, як Польшча, Рэч Паспалітая, Польская Рэч Паспалітая, Рэч Паспалітая абодвух народаў, дзяржава, краіна, правінцыя і г.д.) значэння і сэнсу, характэрных для сучаснасці. У першую чаргу — тэрмін Рэч Паспалітая абодвух народаў. Гэты звышпапулярны ў сённяшняй

[25] Ю. Бардах, *Канстытуцыя 3 мая і Ўзаемныя Заручыны Абодвух Народаў 1791 г.*, с. 392. Пар. Н. И. Костомаров, *Последние годы Речи Посполитой*, 2-е изд., Санкт-Петербург 1870, с. 376.

[26] [F. S. Jezierski], *Wzmianka krótka o zjednoczeniu Księstwa Litewskiego z Królestwem Polskim w duchu wolności i równości,* [w :] *G. Kołłątaj i inni. Z publicystyki doby Sejmu Czteroletnego*, Warszawa 1991, s. 176–186; W. Arcimowicz, *Wielkie Księstwo Litewskie za czasów Stanisława Augusta,* Wilno 1938, z. l, s. 9–10 (цытаты Г. Калантая пра унію); J. Michalski, *Zagadnienie unii...*, s. 102-105 (пра намеры караля ў праекце 1766 г. пад назвай *Uchwalenie Unii Wielkiego Księstwa Litewskiego z Koroną Polską*).

[27] *O ustanowieniu i upadku konstytucji polskiej 3 maja.* Metz [i.e. Kraków] 1793, część 2, s. 96–97 [online] https://www.dbc.wroc.pl/dlibra/publication/24953/edition/22472?language=pl [dostęp: 01.03.2022].

гістарыяграфіі тэрмін, насуперак сцвярджэнню Ю. Бардаха (а за ім, напр., Ежы Мальца), не быў «паўсюдна распаўсюджаны» ў канцы XVIII ст[28]. Адпаведна, не выпадае здзіўляцца, што яго няма і ў Канстытуцыі 3 мая (як, дарэчы, няма і ў тэксце *Узаемных заручын абодвух народаў*. Затое ў тэксце *Заручын* прысутнічае тэрмін "Польская Рэч Паспалітая". Адзначу, што гэты тэрмін меў шырокі афіцыйны ўжытак яшчэ да Чатырохгадовага сойма. Між іншым, ігнараванне беларускім навуковым асяродкам таго факта, што ў канцы XVIII ст. многія падобныя тэрміны шырока выкарыстоўваліся як сінанімічныя і ўзаемазамяняльныя без намеру надаць ім пэўную сэнсавую розніцу, вядзе часам да пашырэння відавочных "падробак" накшталт сцвярджэння пра замену ў выніку прыняцця Канстытуцыі 3 мая назвы "Рэч Паспалітая абодвух народаў" на "Польская Рэч Паспалітая".

Другі прыклад датычыць кантэксту і суаднясення маштаба падзей. Галоўныя матывы ўключэння *Заручын* у *pacta conventa* — зноў жа, калі ісці ўслед за зместам дыпламатычнай карэспандэнцыі, а іншых крыніц па гэтаму пытанню няма, — ляжалі ў сферы знешняй, а не ўнутранай палітыкі. Такім чынам, дэманстравалася адзінства палітычных эліт[29].

Фон працы сойма ў кастрычніку 1791 г. з нервовай перыядычнасцю фармавалі навіны аб падрыхтоўцы ў Ясах (рэзідэнцыя расійскага фельдмаршала Рыгора Пацёмкіна) ваеннай інтэрвенцыі супраць Рэчы Паспалітай і — што мела не меншы ўплыў — узмацненне разумення ў Варшаве пагрозы застацца ў гэтым выпадку сам-насам з Расіяй на міжнароднай арэне. Аптымізацыя кіравання скарбам была адным з крокаў на кароткім шляху да пачатку адкрытага канфлікту Рэчы Паспалітай з усходнім суседам. Пры гэтым у агульным маштабе падзей, якія адбываліся на Чатырохгадовым сойме і добра перадаюцца эпісталярнымі і публіцыстычнымі крыніцамі, прыняцце *Заручын* было хаця і заўважнай падзеяй, але не большай, чым, напрыклад, вострае і працяглае абмеркаванне на сойме ў наступныя тыдні пасля *Заручын* рэформы старостваў.

Як падаецца, публікацыі Ю. Бардаха папулярызуюць і адначасова міфалагізуюць праблематыку польска-літоўскай уніі ў канцы XVIII ст. між іншым таму, што ствараюць уяўленне пра *Заручыны* як пра падзею, сувымерную па значэнні і грамадскай увазе з Канстытуцыяй 3 мая. Так, відавочна, не было. Канстытуцыя мела непараўнальна іншую вагу з пункту гледжання ўплыву на жыццё краіны і, адпаведна, увагі да яе ўнутры і за межамі.

Таксама патрабуе карэкціроўкі пашыраная ў гістарыяграфіі тэза пра Канстытуцыю і *Заручыны* як пра два супрацьлеглыя кірункі дынамікі польска-літоўскіх адносін у канцы XVIII ст. Абодва дакументы, пры ўнікальнасці

---

[28] Ю. Бардах, *Канстытуцыя 3 мая і Ўзаемныя Заручыны Абодвух Народаў 1791 г.*, с. 374; J. Malec, *Zaręczenie Wzajemne Obojga Narodów — w 220. rocznicę uchwalenia,* „Studia Iuridica Toruniensia", t. 10, 2012, s. 151.

[29] Гл. спасылку 24.

ня, пасля канцылярыі намесніка <… >, скласці прысягу ў магістраце на вернасць каралю Польшчы, і, нарэшце, выдалі легітымацыйную кніжачку з чырвоным кантам"[16]. Дадзены тып дакумента (даваўся замест пашпарта тэрмінам на адзін месяц) азначаў, што яго ўладар знаходзіўся пад пільным паліцэйскім наглядам цягам трох гадоў. Такой асобе забаранялася пакідаць месца сваёй прыпіскі, а таксама прадпісвалася кожныя два тыдні адзначацца ў паліцэйскім пастарунку. Адсутнасць чырвонага канта на дакуменце давала былым ссыльным большую свабоду, але таксама прадугледжвала захаванне абмежаванняў на перамяшчэнне (у больш лагоднай форме) і абавязковае назіранне ў паліцэйскім участку (не так часта)[17].

Татальны кантроль за асобай з боку праваахоўных органаў, забарона пакідаць месца свайго жыхарства былі першымі складанасцямі, з якімі сутыкаліся былыя ссыльныя ў Каралеўстве Польскім. Некаторыя з іх, як, напрыклад, Віталіс Апанецкі, не вытрымлівалі нават і гэтага выпрабавання: "У Варшаве жандараў на вуліцах больш, чым ліхтароў", — адзначаў ён. Не здолеўшы адаптавацца да падобных умоў, ён вырашыў паехаць назад у Сібір[18]. Выпадкі вяртання былых ссыльных на месца сваёй былой ссылкі ў якасці вольных пасяленцаў не былі ўжо такой рэдкай з'явай у 60–80-я гады XIX ст.

Яшчэ адным наступствам, якое вынікала з паліцэйскага нагляду, была забарона на працаўладкаванне ў дзяржаўных, а таксама большасці грамадскіх устаноў. Дадзены від абмежавання наносіў моцны ўдар па матэрыяльным становішчы былых ссыльных. Неабходна таксама ўлічваць і той факт (які часта падкрэсліваецца ў мемуарнай літаратуры), што жыццё ў Польшчы (асабліва ў Варшаве) было нашмат даражэйшым, чым у Сібіры ці нават у суседніх рэгіёнах.

Наступным, далёка не апошнім з фактараў, якія аказвалі ўплыў на працэс адаптавання асоб, што вярнуліся з Сібіры, былі адносіны да іх з боку мясцовых жыхароў. Іх не віталі як герояў. Больш за тое, стаўленне да іх (за рэдкім выключэннем) было рэзка негатыўным. Вось як прадстаўляў сітуацыю ў Каралеўстве Польскім пасля выхаду амністыйнага ўказа 1867 г. адзін з мясцовых, карэспандэнт львоўскай "Gazety Narodowej": "Для нас [жыхароў Каралеўства — А. Р.] вяртанне тысяч літвінаў, каторыя згодна апошняй амністыі мусяць асесці ў Каралеўстве, будзе катастрофай. Ужо некалькі дзён масы дэпартаваных без прысуду літвінаў вяртаюцца ў Каралеўства Польскае"[19].

Пра незайздроснае становішча ў Каралеўстве тых, хто вяртаўся з ссылкі, сведчыць і мемуарная літаратура. Найбольш яскравыя ўспаміны па тэме,

[16] Adolf Sawicki, *Wspomnienia mojej przeszłośći*, rękopis bez paginacji.
[17] S. Wiech, *op. cit*., s. 236-237.
[18] С. Лапшина, *Ссыльные в Кунгуре* [online], https://uraloved.ru/istoriya/ssilnie-v-kungure [доступ: 20.11.2021].
[19] Цытата па S. Wiech, *op. cit*., s. 235-236.

якая нас цікавіць, пакінуў мастак Эдвард Паўловіч, які паходзіў з Менскай губерні: "Гэта быў час, калі цэлыя партыі памілаваных выгнаннікаў прывозілі і выкідалі іх на вуліцу, не пытаючыся, ці маюць яны дзе прытуліць галаву. […] [Палякам — А. Р.] было добра — яны былі ў сябе. З намі было іначай"[20]. Сярод тых складанасцей, з якімі яму давялося сутыкнуцца ў Варшаве, ён адзначае цяжкасці з пошукам работы, фанабэрыстае і нават пагардлівае стаўленне мясцовага грамадства да "ліцвінаў", а таксама тых, хто зарабляў на хлеб сваёй працай: "Дом сям'і гр[афа] Аўг[уста] Замойскага, дзе гаспадыня дома — сапраўднае ўвасабленне міласэрнасці, была таксама ўвасабленнем літоўскай ветлівасці, а што яшчэ больш важна, тут не падавалі адзін палец для пацiскання мазолістай ад працы рукі"[21]. Таксама ён звяртае ўвагу на суцэльны паліцэйскі кантроль за тымі, хто вярнуўся з ссылкі: "Залежныя ад паліцыі, мы не маглі нават выехаць за заставу без дазволу. Словам, давялося нам у Варшаве пакаштаваць таго, чаго мы да гэтага не ведалі ў Расіі — горыч выгнання і няволі"[22].

Пра тое становішча, у якім апынуліся асобы дадзенай катэгорыі ў Каралеўстве Польскім, між іншым сведчыць афіцыйная перапіска на самым вышэйшым узроўні. З яе вынікае, што гаротны стан былых ссыльных, якія пасля амністый перасяліліся ў гэты аўтаномны рэгіён імперыі, выклікаў заклапочанасць нават у імператара. Зыходзячы з таго, што, згодна звесткам мясцовага начальства, "з прычыны вяртання і перасялення ў Царства Польскае ў значнай колькасці памілаваных палітычных ссыльных і эмігрантаў, з якіх большая частка знаходзіцца ў надзвычай бедным стане і некаторыя пазбаўлены абсалютна ўсякіх сродкаў да існавання", менавіта Аляксандр II у 1873 г. ініцыяваў стварэнне адмысловай камісіі "для паляпшэння становішча азначаных асоб"[23].

Як і кожны іншы бюракратычны механізм, дадзеная камісія, якая дзейнічала ў рамках Камітэта па справах Царства Польскага, распачала сваю дзейнасць са збору статыстычнай інфармацыі. Паводле дадзеных, якія, як магчыма меркаваць, былі атрыманы ад паліцэйскага ведамства, на тэрыторыі Каралеўства на той час знаходзілася 7398 падобных асоб, у тым ліку 1126 былых пасляпаўстанцкіх эмігрантаў, якія таксама атрымалі амністыю і вярнуліся з-за мяжы. 28% былых ссыльных (1322 чалавекі) ад іх агульнай колькасці паходзілі з тэрыторыі так званага Заходняга краю. Яшчэ 3% (186 чалавек) былі ўраджэнцамі ўкраінскіх губерняў.

Апрача звестак аб рэгіянальным падзеле, камісіяй была зроблена спроба ажыццявіць структурны аналіз дадзенай катэгорыі грамадзян, зыходзячы з іх сацыяльнай прыналежнасці. У адпаведнасці з ім, асобы маёмасна-

---

20 E. Pawłowicz, *Wspomnienia. Nowogródek, więzienie, wygnanie*, Lwów 1887, s. 394.

21 Ibidem, s. 398.

22 Ibidem, s. 394.

23 РДГА, ф. 1286, воп. 34, спр. 1087, арк. 1.

га класу складалі крыху менш за 10% ад іх агульнай колькасці, а большую частку (55%) — прадстаўнікі сярэдняга класу, рэшта (каля 35%) характарызавалася як "простыя людзі". Выснова, якая была зроблена чыноўнікамі паводле разгляду дадзенай аналітычнай нататкі, была досыць нечаканай. На іх думку, людзі, што былі аднесены да другой катэгорыі, мелі больш шанцаў уладкаваць сваё жыццё ("паколькі яны знаёмыя з фізічнай працай"), чым асобы вышэйшага класу[24]. Адсюль, працягваючы дадзеную логіку, рабілася заключэнне, што менавіта першая група былых ссыльных, на думку чыноўнікаў, мела найбольш пільную патрэбу ў грашовай дапамозе. Пастановы, якія былі прыняты паводле вынікаў работы дадзенай Камісіі, тычыліся стварэння адмысловага фонду (50 тыс. руб.) для аказання падтрымкі былым ссыльным, а таксама дазвалялі займаць ніжэйшыя пасады на дзяржаўнай службе тым, хто меў цэнз аселасці не менш за тры гады і ў гэты час "паводзіў сабе беззаганна"[25].

Прыняцце рашэння аб матэрыяльнай падтрымцы былых ссыльных (хоць яго дзеянне і абмяжоўвалася выключна тэрыторыяй Каралеўства Польскага) супярэчыла ранейшым пастановам па дадзеным прадмеце і агульнапрынятым практыкам у цэлым. Справа ў тым, што падчас вызвалення ад пакарання, перад ад'ездам на радзіму, улады заўсёды бралі падпіску аб тым, што такія асобы не будуць на месцы турбаваць іх "просьбамі аб дапамозе" [9, арк. 5]. Іншай абавязковай умовай вяртання дамоў была пісьмовая згода каго-небудзь са сваякоў ці блізкіх ссыльных аб гатоўнасці забяспечыць яго матэрыяльнае ўтрыманне. І толькі пры наяўнасці гэтых двух дакументаў, а таксама згоды мясцовага начальства (што не заўсёды было пустой фармальнасцю), ім даваўся адпаведны дазвол.

Зразумела, што ў той складанай сацыяльна-эканамічнай і грамадскай сітуацыі, у якой апынулася большасць былых ссыльных з тэрыторыі заходніх губерняў, працэс іх прыстасавання да новых умоў у Каралеўстве адбываўся досыць цяжка. Пры гэтым на выбар той ці іншай адаптацыйнай мадэлі канкрэтным індывідам у значнай ступені ўплывала неаднароднасць структуры самой ссылкі. Апошняя выяўлялася ў разнастайнасці сацыяльнага паходжання высланых, узроўню адукацыі, узроставых характарыстык, матэрыяльнага становішча, наяўнасці прафесійных навыкаў і інш. Таксама варта адзначыць, што ў кожным асобным выпадку выбар на карысць той ці іншай мадэлі быў выключна індывідуальны. Нават прадстаўнікі адной сацыяльнай групы ў аднолькавай сітуацыі паводзілі сабе па-рознаму. У якасці ілюстрацыі дадзенай тэзы можна прывесці прыклад знішчаных і сасланых у розныя рэгіёны імперыі шляхецкіх ваколіц. У якасці аб'екта для правядзення падобнага параўнання былі абраны Шчукі і Лукавіцы, што знаходзіліся ў Гродзенскай губерні. Абедзве гэтыя ваколіцы былі спалены царскімі

[24] Ibidem, арк. 35-36.
[25] Ibidem, арк. 39.

войскамі ў 1863 г., а ўсе іх жыхары дэпартаваны на ўсход. Вывучэнне далейшага іх лёсу засведчыла, што абсалютная большасць ваколічнай шляхты, якая паходзіла з Лукавіцаў, скарыстаўшыся амністыяй 1867 г., перасялілася ў сумежныя з Гродзенскай губерняй паветы Каралеўства Польскага, дзе займалася сельскай гаспадаркай, арандуючы зямельныя надзелы. Адносна жыхароў ваколіцы Шчукі выразна прасочваецца супрацьлеглая тэндэнцыя. У іх выпадку толькі нязначная колькасць выказала пазней жаданне вярнуцца на радзіму, у той час як пераважная большасць сямей засталася, урэшце, на месцы сваёй ссылкі[26]. Вывучэнне дадзенага пытання засведчыла, што разнастайнасць спосабаў адаптацыйных паводзін у некаторых выпадках была характэрна не толькі для пэўных сацыяльных груп, але нават унутры асобных сем'яў[27].

Зварот да традыцыйнага земляробства быў у першую чаргу ўласцівы для асоб непрывілеяваных сацыяльных груп, якія ў якасці месца свайго часовага жыхарства абіралі сельскую мясцовасць. Аднак большасць былых ссыльных асядалі ў гарадах і мястэчках Каралеўства. І тут вельмі часта выяўлялася, што ўвесь іх папярэдні жыццёвы вопыт і прафесійныя навыкі (калі такія меліся) аказваліся непрыдатнымі для забеспячэння свайго бязбеднага існавання. Справа ў тым, што ў пераважнай большасці выпадкаў гэты іх папярэдні вопыт быў у той ці іншай меры звязаны з вядзеннем сельскай гаспадаркі ці службай у розных грамадскіх і дзяржаўных установах. Вось чаму ў новых умовах такія асобы былі вымушаны шукаць іншыя віды дзейнасці, каб утрымліваць сабе.

Як можна меркаваць, найбольш часта змена асноўнага занятка адбывалася шляхам "пралетарызацыі" тых, хто вярнуўся з ссылкі. Каралеўства Польскае (і асабліва Варшава) у 1870–1880-я гады ўяўляла сабой адзін з рэгіёнаў Расійскай імперыі, прамысловасць якога развівалася найбольш дынамічна. І таму найчасцей былыя ссыльныя, якія не мелі за сабой салднага матэрыяльнага заплечча, знаходзілі тут працу на фабрыках, заводах, у майстэрнях, на чыгунцы, тэлеграфе і пад. Такі від дзейнасці хоць і не быў абавязкова звязаны з фізічнай працай, усё роўна прыводзіў да паніжэння сацыяльнага статусу былога ссыльнага, садзейнічаў размыццю сацыяльных граніц тагачаснага грамадства. Тут можна прывесці прыклад былога памешчыка Гродзенскай губерні Станіслава Лазоўскага, які пасля атрымання амністыі быў вымушаны зарабляць на хлеб працай сваіх рук. Некалькі разоў ён нелегальна наведваўся ў Беластоцкі павет, скуль і паходзіў, дзе ў 1871 г. быў чарговы раз затрыманы, на гэты раз на вяселлі, якое ладзілі рабочыя шкляной фабрыкі. Мясцовая паліцыя, якая дзейнічала ў адпаведна-

---

[26] А. Радюк, *Ссылка шляхецких околиц 1863-1864 (на примере Гродненской губернии)* [w] *Drogi Polaków do niepodległości*, red. W. Caban, L. Bracha, Warszawa 2015, s. 405-436.

[27] НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 8, спр. 577, арк. 10; спр. 740, арк. 188, 190, 370; воп. 6, спр. 372, арк. 254.

сці з парадыгмай, закладзенай М. Мураўёвым і яго пераемнікамі, убачыла ў гэтым факце перш за ўсё палітычную крамолу: "Прысутнасць паляка дваніна і памешчыка на вяселлі работніка, дзе сабралася таварыства з ніжэйшага класа народа, пры вядомай раздзельнасці саслоўяў у здзешнім краі, дае нагоду меркаваць, што Лазоўскі прыязджае ў Беластоцкі павет з нейкай палітычнай мэтай"[28].

Натуральна, што выпадак С. Лазоўскага не быў адзінкавы ці ўнікальны. Тагачасная афіцыйная перапіска захавала шматлікія факты зваротаў былых дваран, памешчыкаў, чыноўнікаў і канцылярыстаў з разнастайнымі просьбамі, у якіх тыя ў самых чорных фарбах апісвалі тое становішча, у якім апынуліся ў Каралеўстве: "вядзе самае бядацкае жыццё", "знаходзіцца ў самым безвыходным становішчы", "не мае пэўнага занятку", "займаецца падзённай працай" (дарэчы апошняя фармулёўка сустракаецца ў тагачасным справаводстве найбольш часта) і пад. Для ілюстрацыі падобнай сітуацыі тут вельмі дарэчным будзе прывесці прыклад мужа Элізы Ажэшкі Пятра, які за дапамогу паўстанцам у 1863 г. быў высланы ў Пермскую губ. У адпаведнасці з указам ад 10 снежня 1865 г. ён быў вымушаны прадаць свой маёнтак у Кобрынскім павеце, а пасля дазволу ў 1867 г. пераехаць у Варшаву зарабляў сабе на жыццё прыватнымі ўрокамі музыкі. Памёр у Варшаве ў 1874 г., так і не вярнуўшыся дамоў[29].

Выпадак Элізы Ажэшкі, якая парвала ўсе стасункі з мужам пасля яго ссылкі, быў хутчэй выключэннем з тагачасных правілаў. У большасці выпадкаў сем'і любымі даступнымі спосабамі імкнуліся падтрымаць сваіх сваякоў, якія апынуліся ў цяжкім матэрыяльным становішчы. Менавіта дапамога і апека з боку родных і блізкіх была важным чыннікам на шляху адаптацыі многіх былых ссыльных у Каралеўстве Польскім. Канешне, у пераважнай большасці гэта дапамога тычылася асоб маёмаснага класу. Аднак акрамя матэрыяльнай сем'і аказвалі псіхалагічную і эмацыйную падтрымку былым выгнанцам. Афіцыйныя дакументы канца 60-х — пачатку 80-х гадоў XIX ст. фіксуюць масавыя выпадкі пераходу граніцы такімі асобамі і факты іх нелегальнага знаходжання на тэрыторыі так званых прыгранічных губерняў. Дзеля падтрымання больш цеснай сувязі са сваякамі некаторыя ссыльныя сяліліся ў непасрэднай блізкасці да мяжы. Нягледзячы на прымусовыя дэпартацыі і накладанне штрафаў, паліцэйскія органы былі вымушаны прызнаць безвыніковасць барацьбы з падобнай з'явай: "падчас уручэння ссыльным Дамініку Гілюку і Якаву Касперскаму, якія жывуць у вёсцы Жукевічы, пастановы ад 10 снежня 1884 г. яны далі абавязак выселіцца з Гродзенскай у Сувалкаўскую губ. у Сапоцкінскую гміну, але сёння, 26 снежня, ізноў былі выяўлены ў вёсцы Жукевічы, таму прыстаў 1-га ста-

[28] Ibidem, воп. 7, спр. 58, арк. 1.

[29] A. Sauczuk, A. Radziuk, *Album powstańców 1863 roku z Grodzieńszczyzny*, red. W. Caban, Kielce 2021, s. 99.

ну аддаў распараджэнне аб высяленні іх з Жукевіч […] і 29 снежня Гілюк і Касперскі ў суправаджэнні дзясяцкіх высланы ў Аўгустоўскі павет. Прымаючы да ўвагі, што Сапоцкінская гміна амаль мяжуе з Горніцкай воласцю, таму падобнае высяленне Гілюка і Касперскага ў іншую губерню не мае істотнага значэння, вярнуцца ж назад у Сібір у Гілюка і Касперскага няма дастатковых сродкаў"[30], — распісваўся ва ўласным бяссіллі гродзенскі павятовы спраўнік у 1884 г.

Такім чынам, падводзячы пэўныя вынікі, неабходна адзначыць, што значны ўплыў як на працэс вяртання, так і на працэс наступнай адаптацыі асоб, пакараных за ўдзел і дачыненне да паўстання 1863–1864 гг., аказала прававое рэгуляванне гэтага працэсу з боку імперскіх улад. Разнастайныя пастановы па гэтым прадмеце вызначылі розны парадак амністыі для жыхароў Каралеўства Польскага і так званага Заходняга краю. Пры гэтым для апошніх ён быў больш складаны і меў больш абмежаваны характар у параўнанні з першымі. У выніку для часткі былых ссыльных дарога дамоў складалася з некалькіх этапаў.

Важным прамежкавым этапам на шляху дадому для жыхароў беларускіх, літоўскіх і ўкраінскіх зямель у 1867–1884 гг. была тэрыторыя Каралеўства Польскага, якое на пэўны час стала для іх своеасаблівай рэзервацыяй. У выніку прымянення ў адносінах да іх комплексу абмежавальных мер, а таксама ў выніку хуткіх сацыяльна-эканамічных змен большасць былых ссыльных апынулася ў вельмі складанай матэрыяльнай сітуацыі, а некаторыя з іх — нават на грані выжывання.

У цэлым працэс адаптацыі тых асоб, якія атрымалі амністыю, адбываўся досыць складана. Вялікі ўплыў на яго аказалі тры галоўныя фактары: змяненні ў сацыяльна-эканамічнай, палітычнай сітуацыі на радзіме, трансфармацыя ўнутранага свету саміх ссыльных і прававое рэгуляванне іх становішча з боку расійскіх улад. З фактараў, якія садзейнічалі іх хутчэйшай адаптацыі, на першае месца, безумоўна, неабходна паставіць апеку з боку сям'і і блізкіх. Паколькі структура ссылкі вызначалася разнароднасцю зыходзячы з сацыяльнага паходжання, узроўню адукацыі, узросту і наяўнасці прафесійных навыкаў, то ў рамках кожнай з гэтых груп працэс інтэграцыі ў лакальную супольнасць меў свае адметнасці. Найбольш хутка адаптаваліся тыя прадстаўнікі прывілеяваных груп, якім удавалася захаваць зямельную уласнасць. Разам з тым не ўсім асобам, якія былі вызвалены ад ссылкі, удавалася паспяхова рэінтэгравацца ў мясцовую супольнасць.

[30] НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 8, спр. 1248, арк. 9.

## Królestwo Polskie jako miejsce readaptacji byłych zesłańców z terytoriów Białorusi i Litwy w drugiej połowie XIX w.

W artykule przedstawiono zagadnienie powrotu byłych zesłańców po powstaniu styczniowym i ich dalszej adaptacji. Istotnym czynnikiem determinującym terminy i warunki przebiegu tego procesu były zarządzenia władz carskich z lat 1867–1887. W okresie przygotowania i realizacji konkretnych postanowień o amnestii w wyższych kręgach administracji imperium rosyjskiego pojawiły się dwa sprzeczne podejścia do tej kwestii. Z jednej strony władze guberni wileńskiej wszelkimi sposobami starały się nie dopuścić do powrotu zesłańców. Z drugiej zaś niektóre kręgi rządowe w Petersburgu oraz wyżsi urzędnicy wschodnich regionów imperium, występowali za postępowym osłabieniem represji w odniesieniu do byłych uczestników powstania i ich rodzin. W wyniku tarć pomiędzy tymi dwoma kręgami amnestia wobec mieszkańców tak zwanego Kraju Zachodniego miała ograniczony zakres.

Jednym z najważniejszych aktów prawnych zmierzających do amnestii zesłańców stał się carski ukaz z 17 maja 1867 r. Dokument ten, choć zezwalał pewnym kategoriom zesłańców na opuszczenie miejsc odbywania kary, równocześnie wprowadzał rygorystyczne ograniczenia w zakresie miejsca ich osiedlenia. W najszerszym zakresie dotknęły one mieszkańców ziem białoruskich i litewskich, zabraniając im osiedlania się w dziewięciu tzw. guberniach przygranicznych. W podobnych sytuacjach większość osób, które skorzystały z „największej łaski," wybrała jako miejsce swego dalszego życia Królestwo Polskie.

W okresie 1867–1883 terytorium Królestwa stało się swego rodzaju „rezerwatem" dla tysięcy byłych powstańców z ziem współczesnej Białorusi, Litwy i Ukrainy. Kwerenda archiwalna oraz analiza literatury wspomnieniowej dają podstawy do postawienia tezy, że proces przystosowania amnestionowanych do nowych warunków życia przebiegał dla większości z nich w sposób złożony. Jedną z głównych przeszkód na drodze do rozwiązania wielu codziennych problemów była nieustanna kontrola policyjna, w znacznym stopniu ograniczająca swobodę przemieszczania się. Do innych przyczyn należały w przypadku większości z nich brak wyuczonego zawodu oraz negatywne, a nawet wrogie nastawienie ludności miejscowej.

Wśród czynników przyczyniających się do adaptacji byłych zesłańców na pierwszym miejscu należy wymienić wsparcie materialne i emocjonalne ze strony rodzin i bliskich. Władze carskie poprzez stworzenie specjalnego funduszu starały się udzielać pomocy finansowej osobom w ciężkiej sytuacji materialnej. Jednakże ostatecznie działanie te nie przyniosły znaczących skutków.

## Polish Kingdom as a place of readoption of former exiled from Belarus and Lithuania in the second half of the XVIIIth century

The article focuses on the problem of former 1863–1864 uprising participants coming back from exile and their further adaptation. The most important factors that influenced these two processes were regulations of imperial

authorities issued within the period of 1867–1883. The problem of amnesty and its details divided the Russian administration into two contradicting groups: the first one (represented by the local administration in Vilnius) opposed by all means any attempts to better the lot of those in exile, while the other one (including some high-ranking officials in Saint-Petersburg and the Eastern provinces of Russia) initially supported the idea of gradual easing of repressive components within former insurgents and their families. As a result of this confrontation, the amnesty aimed at those who came from the so-called Northwest Province was significantly restricted.

Perhaps one of the most important, among many, amnesty acts was the tsar's decree issued on 17 May 1867. This document, thus allowed some categories of political "criminals" to leave the place of their exile but introduced strict territorial restrictions. As a matter of fact, they concerned primarily citizens of the so-called Northwest Province who were prohibited to enter the territories of nine borderland gubernias. Actually most of the former exiled chose, as a place of their permanent residence, the Kingdom of Poland (which was also a part of the Russian Empire in those times).

The author argues that within the period of 1867–1883 the territory of the Kingdom was turned into a kind of "reservation" for those who had come from the lands of modern Belarus, Lithuania and Ukraine. Different types of historical sources show evidence of very hard conditions for those who returned from exile (in some cases they were even harder than those they had experienced in Siberia). Among the many impediments in their everyday life was police surveillance, which limited freedom of movement to a great extent. Other ones included a lack of professional skills among the majority of former insurgents and the rather negative attitude of the local citizens towards "newcomers".

Among the factors that furthered the process of adaptation, families' material and emotional support was considered of prime importance. It is worth mentioning that the Russian authorities, through creating a special fund, also tried to provide financial help for those who found themselves in a really tight position, but the result of this activity was of rather low efficiency.

**Мікалай Мязга,**
**доктар гіст. навук, прафесар (Гомель)**

# Пазіцыя Польшчы адносна ўдзелу беларускай дэлегацыі ў савецка-польскіх мірных перамовах (жнівень 1920 — сакавік 1921 г.)

Рыжскі дагавор з'яўляецца прававым дакументам, які вызначыў міжнароднае становішча Беларусі пасля заканчэння польска-савецкай вайны і істотна паўплываў на гістарычныя працэсы на заходнебеларускіх землях і на тэрыторыі БССР у міжваенны перыяд. У беларускай гістарыяграфіі традыцыйна адзначаецца такі негатыўны момант Рыжскага дагавора, як падзел Беларусі паміж Польшчай і савецкай Расіяй. Пры гэтым падкрэсліваецца, што падзел адбыўся пры адсутнасці на перамовах прадстаўнікоў беларускага народа[1]. Вядома, што ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) на чале з Вацлавам Ластоўскім прыкладаў намаганні, каб прыняць удзел у мірнай канферэнцыі. Таксама як дэлегат Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта БССР у Рыгу прыехаў Аляксандр Чарвякоў. Аднак ні БНР, ні БССР да ўдзелу ў перамовах не былі дапушчаны.

У дадзеным артыкуле паспрабую высветліць, у якой ступені пазіцыя польскай дэлегацыі на перагаворах у Менску і Рызе паспрыяла таму, што беларускія дзеячы так і не змаглі прыняць у іх удзел?

17 жніўня 1920 г. у Менску пачаліся мірныя перамовы паміж савецкай Расіяй і савецкай Украінай, з аднаго боку, і Польшчай, з другога. Пытанні, якія на іх абмяркоўваліся, і перш за ўсё тэрытарыяльнае, непасрэдна закраналі інтарэсы Беларусі. Адпаведна, вялікае значэнне меў удзел у мірнай канферэнцыі прадстаўнікоў Беларусі, якія маглі б адстойваць беларускія нацыянальныя інтарэсы. Гэтае прадстаўніцтва ва ўмовах таго часу магла забяспечыць або БССР, або БНР. Пытанне ў тым, у якой ступені дзве абвешчаныя беларускія рэспублікі мелі магчымасць прыняць удзел у савецка-польскіх перамовах.

Напрыканцы лета 1920 г. для ўрада БНР склалася даволі неспрыяльная сітуацыя. Гэта прадэманстравала, у прыватнасці, яго няўдалая спроба стаць удзельнікам канферэнцыі Балтыйскіх дзяржаў у жніўні 1920 г. Беларуская дэлегацыя не была на яе дапушчана, у т.л. з прычыны негатыўнай пазіцыі

---

[1] *Рижский мир в судьбе белорусского народа. 1921–1953 гг.*, кн. 2. Редкол. А. А. Коваленя и др., Минск 2014, с. 7–8.

Польшчы[2]. Удзел БНР у канферэнцыі Балтыйскіх дзяржаў мог бы стаць крокам у бок яе міжнароднага прызнання і ўзмацніў бы прэтэнзіі на ўдзел у мірных перамовах паміж савецкай Расіяй і Польшчай. Але, як паказала абмеркаванне дадзенага пытання ўдзельнікамі Балтыйскай канферэнцыі, гэта не адпавядала інтарэсам Польшчы.

Пасля пачатку менскіх перамоў урад БНР паспрабаваў дамагчыся ад польскага і савецкага ўрадаў падтрымкі ў справе дапушчэння на перамовы сваіх прадстаўнікоў. 20 жніўня 1920 г. Рада БНР накіравала адпаведную ноту ўрадам савецкай Расіі і Польшчы. У ноце адзначалася, што адсутнасць у Менску дэлегатаў ад БНР можа чарговы раз прывесці да парушэння суверэнных праў беларускага народа, як гэта ўжо мела месца пры заключэнні Брэсцкага міра паміж Расіяй і Германіяй, а таксама Маскоўскага дагавора паміж Расіяй і Літвой. Каб пазбегнуць такога развіцця падзей, БНР настойвала на сваім удзеле ў мірнай канферэнцыі. Аднак ніякай рэакцыі ўдзельнікаў перамоў на гэты зварот не было[3].

Намаганні ўрада Ластоўскага падтрымала Цэнтральная беларуская рада Віленшчыны і Гродзеншчыны. 21 верасня Рада звярнулася да міністра замежных спраў Польшчы Яўстафія Сапегі з заявай, у якой адзначыла, што "ўсю абарону інтарэсаў Віленшчыны і Гродзеншчыны, як і інтарэсаў усёй Беларусі… давярае і даручае Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі з гр. Ластоўскім на чале"[4].

У пачатку верасня ў Рызе адбылася сустрэча В. Ластоўскага і сябра польскай дэлегацыі Леана Васілеўскага. Польскі палітык прапанаваў кіраўніку ўрада БНР "здаць свае мандаты Найвышэйшай Радзе", з якой польскі ўрад у сакавіку 1920 г. заключыў дагавор[5]. Дадзеная сустрэча не прасунула наперад вырашэнне пытання аб удзеле беларусаў у Рыжскіх перамовах. 7 верасня ўрад БНР накіраваў новую ноту польскаму міністру замежных спраў. У ёй узгадвалася палажэнне Віленскай заявы Юзафа Пілсудскага аб тым, што польскі меч нясе беларускім землям волю і незалежнасць. Выказвалася шкадаванне, што польскі ўрад гэта абяцанне так і не выканаў, і ўтрымлівалася чарговая просьба прызнаць БНР. На думку аўтараў ноты, гэта было важна для арганізацыі барацьбы супраць расійскай акупацыі Беларусі[6]. Прызнанне польскім урадам БНР зрабіла б больш абгрунтаванымі яе прэтэнзіі на ўдзел у Рыжскай мірнай канферэнцыі. Аднак і гэты зварот не знайшоў падтрымкі з польскага боку. Відавочна, што да пачатку мірных

2 *Беларусь у палітыцы суседніх і заходніх дзяржаў (1914–1991 гг.): зборнік дакументаў і матэрыялаў*, т. 1, ч. 2, Мінск 2008, с. 95–96, 124–126.

3 *Знешняя палітыка Беларусі: зборнік дакументаў і матэрыялаў,* т. 1, (1917–1922 гг.), складальнікі У. М. Міхнюк і інш. Мінск 1997, с. 194.

4 *Беларусь у палітыцы суседніх і заходніх дзяржаў* (1914–1991): зборнік дакументаў і матэрыялаў у 4 тамах, т. 1, ч. 2, складальнікі: А. Ф. Вялікі і інш., Мінск 2008, с. 130–131.

5 А. Н. Чернякевич, *БНР. Триумф побежденных,* Минск 2018, с. 177.

6 Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ), ф. 325, воп. 1, спр. 99, арк. 12.

перамоў у Рызе абазначылася адмоўнае стаўленне польскіх улад да ўдзелу прадстаўнікоў БНР.

Даволі дакладнае тлумачэнне, чаму Польшча не будзе дамагацца запрашэння беларусаў на перамовы, даў наркам замежных спраў РСФСР Георгій Чычэрын. У тэлеграме на імя кіраўніка савецкай дэлегацыі Адольфа Іофе ад 14 верасня ён пісаў, што праграма “буферных дзяржаў” сябе вычарпала, у сувязі з гэтым палякам няма сэнсу дабівацца ўдзелу прадстаўнікоў БНР у перамовах[7]. Сапраўды, пасля правалу Кіеўскага паходу Ю. Пілсудскага федэралісцкі праект, у т.л. стварэнне Літоўска-Беларускай дзяржавы, перастаў карыстацца ў польскіх правячых колах падтрымкай. Большасць польскай эліты зрабіла выснову, што нават украінскі народ не валодае дастатковым патэнцыялам, каб стварыць сваю суверэнную дзяржаву. Узровень нацыянальнай свядомасці і дзяржаватворчага патэнцыялу беларусаў польскімі палітыкамі ацэньваўся значна ніжэй, чым украінцаў. Адпаведна, польскія палітыкі не бачылі падстаў спрыяць удзелу прадстаўнікоў БНР у перамовах. Нават Ю. Пілсудскі яшчэ да іх пачатку адмоўна выказаўся адносна ўдзелу якой-небудзь беларускай дэлегацыі[8].

Пасля адхілення праекта федэрацыі было відавочна, што мірны дагавор паміж Польшчай і савецкай Расіяй павінен грунтавацца на аснове падзелу г. зв. “усходніх крэсаў” былой Рэчы Паспалітай. Яшчэ ў канцы жніўня на нефармальнай сустрэчы з удзелам Карла Радэка, Карла Данішэўскага і сябра польскай дэлегацыі Норберта Барліцкага Беларусь разглядалася як прадмет магчымага “гандлю” паміж РСФСР і Польшчай[9]. Польская дэлегацыя лічыла, што для савецкага боку прынцыповым з’яўляецца вырашэнне пытання аб незалежнасці Беларусі і Украіны. Узамен Польшча разлічвала дабіцца тэрытарыяльных саступак, перш за ўсё ўключэння ў яе склад чыгункі Роўна — Сарны — Лунінец — Баранавічы[10].

Пасля таго як польскі бок адмовіўся ад рэалізацыі канцэпцыі федэрацыі пры вырашэнні “ўсходняга пытання”, савецкая дэлегацыя выказала гатоўнасць ісці на тэрытарыяльныя саступкі Польшчы, аб чым кіраўнік польскай дэлегацыі Ян Домбскі паведаміў міністру замежных спраў Польшчы ў тэлеграме ад 26 жніўня[11]. Такі падыход да мірнага ўрэгулявання рабіў для абодвух бакоў непатрэбным удзел беларусаў у перамовах. На пасяджэнні

---

7 *Беларусь у палітыцы суседніх і заходніх дзяржаў (1914–1991)*, т. 1, ч. 2, с. 157–158.

8 В. Матэрскі, *Польшча, Беларуская Народная Рэспубліка, Рыжскі дагавор [у:] Рыжскі дагавор: погляд праз стагоддзе:* зборнік навуковых артыкулаў, рэдкал.: М. М. Мязга (гал. рэд.) і інш., Гомель 2021, с. 16.

9 Р. Р. Лазько, *Адкінутая альтэрнатыва (старонкі з гісторыі польска-савецкіх преагавораў 1920 года)* [у:] *Рыжскі дагавор: погляд праз стагоддзе*, с. 59.

10 У. Е. Снапкоўскі, *Да пытання аб удзеле ССРБ у савецка-польскіх мірных перагаворах* [у:] *Рыжскі дагавор: погляд праз стагоддзе*, с. 6.

11 В. М. Бароўская, *Беларускае пытанне на савецка-польскіх перагаворах 1918–1921 гг.*, Мінск 2017, с. 95–96.

Рады абароны дзяржавы 11 верасня Я. Домбскі заявіў, што на менскім этапе перамоў паўставала толькі пытанне аб незалежнасці Украіны. Пра Беларусь не згадвалі[12].

Савецкая Расія напярэдадні перамоў рыхтавала глебу, каб прадставіць савецкую Украіну як суб'ект міжнародных адносін. Яшчэ 9 лютага 1920 г. Г. Чычэрын накіраваў ліст у Палітбюро ЦК РКП(б), у якім прапаноўваў "зноў правесці незалежнасць Украінскай Савецкай рэспублікі, адклаўшы федэрацыю на будучы час"[13]. У запісцы ад 14 лютага Чычэрын тлумачыць, што гэта неабходна, каб савецкую Украіну супрацьпаставіць Украіне Пятлюры. Паводле меркавання наркама замежных спраў, кіраўнік УНР карыстаўся папулярнасцю на Захадзе як лідар прыгнечанага народа ў барацьбе супраць "маскоўскіх заваёўнікаў"[14]. Тым самым для бальшавікоў станавіўся прынцыпова важным удзел савецкай Украіны ў перамовах з Польшчай, каб зняць пытанне аб урадзе Пятлюры як прадстаўніку ўкраінскага народа. Іншай была сітуацыя з Беларуссю. Урад Ластоўскага не меў міжнароднага прызнання і не разглядаўся ў Варшаве яе рэальная сіла. Адпаведна, Масква не дачыла патрэбы ў прадстаўніцтве БССР як альтэрнатыве магчымым дэлегатам ад БНР.

Для польскага ўрада фармальнай падставай адмовы В. Ластоўскаму ва ўдзеле ў перамовах дэлегацыі БНР было пагадненне з Найвышэйшай радай у сакавіку 1920 г. Польскі бок прыводзіў той аргумент, што беларусы адмовіліся ад праў на самастойны ўдзел у мірнай канферэнцыі, калі падпісалі названы дагавор і пагадзіліся на культурна-нацыянальную аўтаномію[15].

У пачатку кастрычніка 1920 г. дэлегацыя БНР прыбыла ў Рыгу. 5 кастрычніка яна абнародавала дэкларацыю да прэзідыума Рыжскай канферэнцыі. У ёй прыгадвалася заява Ю. Пілсудскага падчас яго знаходжання ў Менску ў верасні 1919 г., у якой ён падтрымаў незалежнасць Беларусі. ЦВК РСФСР таксама прызнаў незалежнасць Беларусі сваёй пастановай ад 23 верасня 1920 г. Менавіта таму ні Польшча, ні Расія не мелі права выступаць ад імя Беларусі. У дэкларацыі таксама звярталася ўвага на тое, што РСФСР і Польшча не мелі агульнай мяжы. Адпаведна Польшча аб усталяванні сваёй паўночна-ўсходняй мяжы, а Савецкая Расія аб мяжы заходняй павінны былі весці перамовы з урадам БНР. Заканчвалася дэкларацыя патрабаваннем прызнаць незалежнасць БНР і дапусціць яе да ўдзелу ў Рыжскай канферэнцыі[16]. Аднак ніякай рэакцыі ўдзельнікаў мірных перамоў на гэты зварот не было.

---

[12] *Документы и материалы по истории советско-польских отношений*, т. III, апрель 1920 г. – март 1921 г. Ред. И. А. Хренов, Н. Гонсеровская-Грабовская и др., Москва 1965, с. 380.

[13] Расійскі дзяржаўны архіў сацыяльна-палітычнай гісторыі (РДАСПГ), ф. 17, воп. 84, спр. 93, арк. 10.

[14] Тамсама, арк. 12.

[15] В. М. Бароўская, *Беларускае пытанне на савецка-польскіх перагаворах 1918–1921 гг.*, с. 97.

[16] *Знешняя палітыка Беларусі: зборнік дакументаў і матэрыялаў*, т. 1, с. 194.

У пачатку кастрычніка Вацлаў Ластоўскі праводзіў неафіцыйныя перамовы з прадстаўнікамі польскай дэлегацыі ў Рызе. У польскай дэлегацыі адсутнічала адзінства па беларускім пытанні. Меліся прыхільнікі канцэпцыі федэрацыі (В. Камянецкі, Л. Васілеўскі), якія былі схільныя да кантактаў з беларусамі. Аднак і гэтая сустрэча не прынесла беларусам станоўчых вынікаў. Беларуская дэлегацыя па-ранейшаму настойвала на прызнанні Польшчай незалежнасці і недзялімасці беларускіх зямель у этнаграфічных межах[17]. У адказ палякі прапанавалі аб'яднаць усе беларускія сілы вакол аднаго цэнтра. І, сапраўды, Найвышэйшая рада і Народная рада паядналі свае намаганні пасля перадачы К. Цярэшчанкам мандата на ўдзел у перамовах у Рызе дэлегацыі на чале з В. Ластоўскім. Але і гэта не дапамагло беларускім дзеячам у вырашэнні галоўнай задачы — атрымаць падтрымку Польшчы ў пытанні ўдзелу беларусаў у Рыжскай канферэнцыі. Максімум, чаго дабілася БНР, — гэта дазвол ад польскай дэлегацыі прадстаўніку Міністэрства замежных спраў БНР Івану Чарапуку прымаць удзел у пленарным пасяджэнні мірнай канферэнцыі[18].

У лідараў БНР склалася ўражанне, што менавіта Польшча ў першую чаргу пазбавіла іх магчымасці ўдзельнічаць у перамовах у Рызе. Васіль Захарка пісаў у Парыж Яўгену Ладнову 14 кастрычніка, што палякі адарвалі ад Беларусі дзве з лішнім губерні. Па яго словах, А. Іофе заявіў, што савецкая Расія гатова прызнаць "Беларускі буржуазны ўрад Ластоўскага". Але палякі адказалі, што такога куска "сваёй тэрыторыі не саступяць", выказаліся супраць прызнання ўрада Ластоўскага і "прызналі савецкі ўрад"[19].

Не ўсе факты ў лісце В. Захаркі дакладныя, але заяву савецкай дэлегацыі аб тым, што яна выступае ад імя БССР, польская дэлегацыя не аспрэчвала. Як адзначыў польскі даследчык Войцех Матэрскі, у Рызе польская дэлегацыя нават не зрабіла жэста, каб спрыяць удзелу ў канферэнцыі дэлегацыі БНР. Такі жэст не мог мець вялікага ўплыву на вынік перамоў, але яго значэнне для польска-беларускіх адносін у будучым было важным[20]. Але спрыяць запрашэнню прадстаўнікоў БНР на мірную канферэнцыю польскі бок не мог, бо ўрад Ластоўскага выступаў носьбітам альтэрнатывы савецка-польскаму падзелу Беларусі, які ўжо на менскім этапе Варшава и Масква вырашылі пакласці ў аснову будучага дагавора.

Цяпер звернемся да пытання аб магчымасці ўдзелу прадстаўнікоў БССР у савецка-польскіх перагаворах. Польскім бокам яно вырашалася адназначна негатыўна. Такі падыход грунтаваўся на стаўленні польскіх улад да БССР як дзяржавы ў прынцыпе. Кіраўнік польскай дэлегацыі на мірных перагаворах

---

[17] *Рижский мир в судьбе белорусского народа. 1921–1953 гг.*, кн. 2, с. 172–173.

[18] В. М. Бароўская, *Беларускае пытанне на савецка-польскіх перагаворах 1918–1921 гг.,* с. 157.

[19] *Беларусь у палітыцы суседніх і заходніх дзяржаў (1914–1991 гг.),* т. 1, ч. 2, с. 204–205.

[20] В. Матэрскі, *Польшча, Беларуская Народная Рэспубліка, Рыжскі дагавор*, с. 58.

Я. Домбскі назваў савецкую Беларусь аўтаномнай адзінкай у складзе РСФСР, створанай не мясцовым насельніцтвам, а ўладамі савецкай Расіі[21].

Праўда, негатыўная пазіцыя польскай дэлегацыі адносна ўдзелу прадстаўнікоў БССР у мірных перагаворах мела істотную слабасць. Польшча пагадзілася на ўдзел у перагаворах дэлегацыі савецкай Украіны. Сумнеўна, што становішча УССР у плане ўзаемаадносін з савецкай Расіяй прынцыпова адрознівалася ад становішча БССР, хоць фармальна Масква надала ўраду савецкай Украіны статус самастойнага органа ўлады, аб чым гаворка ішла вышэй. Па аналогіі з УССР савецкая Расія магла настойваць на ўдзеле ў перамовах і савецкай Беларусі, і Польшчы было б складана знаходзіць контраргументы.

Іншая справа, што савецкая Расія нават не збіралася ставіць гэта пытанне. Было відавочна, што тэрытарыяльныя страты Беларусі ў адпаведнасці з будучым мірным дагаворам будуць велізарнымі, і цалкам магчыма, што прадстаўнікі Беларускага рэўкама маглі іх аспрэчваць. А гэта б стварыла праблемы ў дасягненні кампрамісу з Польшчай. Яшчэ 17 жніўня Г. Чычэрын пісаў К. Данішэўскаму пра неабходнасць пацвердзіць перад польскай дэлегацыяй "факт самастойнасці Украінскай Савецкай Рэспублікі", каб польскія прадстаўнікі ў Рызе атрымалі мандат на вядзенне перамоў з савецкай Украінай. А вось савецкая Беларусь не прыгадвалася[22]. Масква фактычна прымусіла кіраўніцтва БССР адмяніць рашэнне аб скліканні з'езда Саветаў рэспублікі ў верасні 1920 г., які мог садзейнічаць фармаванню ўладных структур савецкай Беларусі.

У такой сітуацыі для Масквы найбольш падыходзячым варыянтам вырашэння пытання аб прадстаўніцтве БССР на Рыжскай канферэнцыі стала пастанова ВРК БССР ад 10 верасня 1920 г., паводле якой савецкая Беларусь выдавала РСФСР самы шырокі мандат на вядзенне мірных перамоў "з Польшчай па пытанні, галоўным чынам, аб вызначэнні межаў Беларусі"[23].

На пасяджэнні ВРК БССР 16 верасня А. Чарвякову быў выдадзены мандат на вядзенне перамоў у Рызе як адзінаму беларускаму прадстаўніку. Яму былі прадастаўлены паўнамоцтвы заключаць з польскай дэлегацыяй любыя дагаворы, у т.л. адносна межаў і гандлёвых адносін паміж БССР і Польшчай[24]. Але польская дэлегацыя не прызнавала БССР як самастойную дзяржаву, таму і мандат А. Чарвякова прызнаць не магла. А савецкая дэлегацыя настойваць на гэтым не збіралася. У размове па прамым провадзе Чычэрын даў указанне кіраўніку савецкай дэлегацыі ў Рызе не выкарыстоўваць мандат Чарвякова ад 16 верасня да больш зручнага моманту, а польскай дэлегацыі прадставіць дакумент, які дае савецкай Расіі права вызначаць межы

[21] Р. Р. Лазько, *Адкінутая альтэрнатыва (старонкі з гісторыі польска-савецкіх преагавораў 1920 года)*, с. 58.

[22] *Документы и материалы по истории советско-польских отношений*, т. III, с. 303.

[23] *Беларусь у палітыцы суседніх і заходніх дзяржаў (1914–1991 гг.)*, т. 1, ч. 2, с. 195.

[24] *Рижский мир в судьбе белорусского народа. 1921–1953 гг.*, кн. 2, с. 164.

Беларусі, г. зн. мандат ВРК БССР ад 10 верасня 1920 г..[25] У выніку прозвішча прыбыўшага ў Рыгу Аляксандра Чарвякова ў спісе савецкай мірнай дэлегацыі, які быў апублікаваны 28 верасня, нават не значылася[26]. Для савецкай Расіі было важна, што II Усебеларускі з'езд Саветаў 14 снежня 1920 г. пацвердзіў яе мандат на прадстаўленне на перамовах інтарэсаў БССР.

Пасля рашэння ВРК ад 10 верасня савецкая дэлегацыя магла прад'явіць польскаму боку свае паўнамоцтвы на вызначэнне ўсходняй мяжы Польшчы і пры адсутнасці беларускай дэлегацыі. Гэта цалкам задавальняла польскі бок. 1 кастрычніка на сустрэчы з Домбскім Іофе заявіў, што калі польская дэлегацыя хоча, то савецкі ўрад можа "паклапаціцца наконт дэлегацыі беларускага ўрада, якая дапоўніць расійска-ўкраінскую дэлегацыю". Але далей кіраўнік савецкай дэлегацыі выказаў меркаванне, што для Польшчы было б выгадней, каб такой дэлегацыі не было. Пасля гэтага дэлегацыі перайшлі да абмеркавання пытання мяжы[27].

У гэты ж дзень польская дэлегацыя заявіла, што Польшча можа згадзіцца або на стварэнне на сваіх усходніх межах буферных дзяржаў (у т.л. і Беларусі), або правесці лінію мяжы так, каб чыгунка Ліда — Баранавічы — Лунінец — Роўна — Броды знаходзілася на польскай тэрыторыі. Савецкі бок, якому палякі аддалі права выбару, спыніўся на другім варыянце[28]. У гэтыя ж дні характарыстыку пазіцыі польскай дэлегацыі адносна ўдзелу беларусаў у перамовах даў у сваім лісце з Рыгі ў Менск А. Чарвякоў. Ён адзначаў, што польская дэлегацыя забылася пра ўласныя прамовы аб лёсе народаў, якія жывуць на тэрыторыі паміж Расіяй і Польшчай. А гэта, на яго думку, не дае шансаў для "існавання якой-небудзь Беларусі" і, адпаведна, для ўдзелу беларусаў у мірнай канферэнцыі[29].

На другім этапе перамоў у Рызе, які пачаўся 17 лістапада 1920 г., пытанне аб удзеле прадстаўнікоў БНР ужо не было актуальным. Урад В. Ластоўскага пасля падпісання папярэдняга савецка-польскага мірнага дагавора накіраваў намаганні ўжо на барацьбу супраць яго. У прыватнасці ён звярнуўся ў Лігу Нацый з пратэстам супраць заключэння Рыжскага дагавора. Што тычыцца ўдзелу прадстаўнікоў БССР у перамовах, то негатыўнае для беларусаў вырашэнне гэтага пытання ў той момант у першую чаргу было звязана з пазіцыяй савецкай Расіі, а Польшча не збіралася ў гэтым пытанні праяўляць уласную ініцыятыву.

---

25 *Польско-советская война 1919–1920. (Ранее не опубликованные документы)*, ч. 2, Москва 1994, с. 157–158.

26 *Беларусь у палітыцы суседніх і заходніх дзяржаў (1914–1991 гг.)*, т. 1, ч. 2, с. 170.

27 Р. Р. Лазько, *Адкінутая альтэрнатыва старонкі з гісторыі польска-савецкіх перагавораў 1920 года*, с. 62.

28 J. Kumaniecki, *Pokój polsko-radziecki, 1921. Geneza, rokowania, traktat, komisje mieszane*, Warszawa 1986, s. 48–49.

29 *Знешняя палітыка Беларусі: зборнік дакументаў і матэрыялаў*, т. 1, с. 199.

Такім чынам, у пытанні ўдзелу прадстаўнікоў Беларусі ў мірных савецка-польскіх перамовах польскі ўрад заняў адмоўную пазіцыю. Гэта тлумачыцца ў першую чаргу тагачасным разуменнем правячымі коламі Польшчы ўласных нацыянальных інтарэсаў. Лічылася неабходным стварэнне значнай па тэрыторыі Польскай дзяржавы, бо толькі такая Польшча магла супрацьстаяць расійскіму і германскаму “геапалітычнаму ціску”. Рэалізацыя гэтай задачы прадугледжвалася за кошт далучэння да Польшчы ў т.л. і значных беларускіх тэрыторый. Удзел у перамовах прадстаўнікоў БССР і асабліва БНР мог стварыць дадатковыя складанасці ў рэалізацыі гэтага праекта. Да таго ж пазіцыя Польшчы па нядопуску беларусаў на мірныя канферэнцыі ў Менску і Рызе рабілася больш абгрунтаванай і ўстойлівай дзякуючы таму, што савецкі бок не праяўляў зацікаўленасці ва ўдзеле ў іх беларускіх прадстаўнікоў.


## Stanowisko Polski wobec udziału delegacji białoruskiej w radziecko-polskich rozmowach pokojowych (sierpień 1920 — marzec 1921 r.)

Artykuł poświęcony jest zagadnieniu udziału przedstawicieli Białorusi w rozmowach pokojowych między Rosją Radziecką i Ukrainą Radziecką a Polską w okresie od sierpnia 1920 r. do marca 1921 r., w szczególności zaś charakterystyce stanowiska Polski. Dowiedziono, że starania przedstawicieli rządu Wacława Łastouskiego, aby wziąć udział w rozmowach ze strony BRL nie znalazły poparcia Polski. Było to związane przede wszystkim z leżącą u podstaw polsko-radzieckiego porozumienia pokojowego decyzji o podziale Białorusi. BSRS nie była uznawana przez polskie władze za suwerenne państwo. W związku z tym Polska nie miała zamiaru popierać postulatu udziału jej przedstawicieli w rozmowach pokojowych. Stanowisko polskiego rządu spowodowało, że przedstawiciele Białorusi nie otrzymali możliwości wzięcia udziału w pracach nad traktatem ryskim.



## Poland’s position on the participation of the Belarusian delegation in the Soviet-Polish peace talks (August 1920 — March 1921)

The article discusses the participation of Belarus in the peace talks in August 1920 — March 1921 between Soviet Russia and Soviet Ukraine on one side and Poland on the other side and describes the position of Poland during these negotiations. It has been established that any attempts by representatives of the government of Vaclav Lastovsky to take part in the negotiations on behalf of the BNR did not find any support from Poland. This was primarily due to the fact that the Polish-Soviet compromise that allowed for the signing of the peace treaty was based on the division of Belarus. The BSSR was not recognized as a sovereign state by the Polish government. Therefore, Poland did not intend to advocate for the participation of its representatives in the peace talks. The position of the Polish government contributed to the fact that representatives of Belarus did not have the opportunity to participate in the development of the Riga Treaty.

**Сяргей Токць,**
**доктар гіст. навук (Варшава)**
**ORCID: 0000–0003–4543–7903**

# Парламенцкія выбары 1922 г. у Гродзенскім павеце Беластоцкага ваяводства

Першы раз у гісторыі прадстаўнікі ўсіх станаў Беларусі прынялі ўдзел у выбарах складу вышэйшага дзяржаўнага органа ў 1906 г., калі ў выніку рэвалюцыі імператар Мікалай II дазволіў стварэнне ў Расійскай імперыі прадстаўнічага органа з абмежаванымі паўнамоцтвамі — Дзяржаўнай Думы. Але выбары ў Дзяржаўную Думу з'яўляліся шматступеннымі і няроўнымі. Так, багатыя землеўладальнікі атрымлівалі вялізную перавагу над сялянамі, а гарадская буржуазія — над гарадскімі нізамі.

Першыя ўсеагульныя, прамыя і тайныя выбары былі праведзены ва Устаноўчы сход Расійскай рэспублікі ў лістападзе 1917 г. У іх прынялі ўдзел жыхары ўсходніх рэгіёнаў Беларусі, паколькі краіна тады была падзелена фронтам Першай сусветнай вайны. Гэтыя выбары адпавядалі самым перадавым дэмакратычным патрабаванням свайго часу, права голасу ўпершыню атрымалі і жанчыны. Але на той час уладу ў Расіі ўжо захапіла партыя бальшавікоў, якая пачала рэалізоўваць палітыку ваеннага камунізму і неўзабаве сілай разагнала дэмакратычна абраны Устаноўчы сход. Гэтыя выбары засталіся толькі цікавым эпізодам нашай гісторыі.

У заходніх рэгіёнах Беларусі, якія пасля Рыжскай мірнай дамовы 1921 г. увайшлі ў склад Польскай дзяржавы, першыя выбары ў вышэйшую дзяржаўную прадстаўнічую ўстанову — парламент — адбыліся ўвосень 1922 г. Гэтыя выбары таксама адпавядалі самым дэмакратычным патрабаванням свайго часу. Згодна з канстытуцыяй маладой Польскай дзяржавы, яны з'яўляліся ўсеагульнымі, роўнымі, тайнымі і прамымі. Права голасу таксама надавалася жанчынам. Праводзіліся выбары паводле прапарцыянальнага прынцыпу — гэта значыць, што выбаршчыкі аддавалі свае галасы за партыйныя спісы, а пасля партыі размяркоўвалі мандаты паводле набраных галасоў. Актыўнае выбарчае права на выбарах у Сейм мелі асобы, якім споўніўся 21 год, а на выбарах у Сенат — старэйшыя за 30 гадоў. Пасіўнае выбарчае права (права быць абранымі) мелі на выбарах у Сейм асобы ва ўзросце пасля 30 гадоў, а ў Сенат — пасля 40 гадоў.

У беларускай гістарыяграфіі самым грунтоўным даследаваннем выбараў і парламенцкай дзейнасці беларускіх палітыкаў у міжваеннай Польскай дзяржаве з'яўляецца кандыдацкая дысертацыя Алеся Пашкевіча "Парла-

менцкія формы змагання за нацыянальныя і сацыяльныя правы беларускага народа ў міжваеннай Польшчы (1921–1930-я гады)"[1]. Парламенцкім выбарам 1922 г. у гэтай працы прысвечаны асобны параграф. Пашкевіч ахарактарызаваў тактыку беларускіх палітыкаў, іх узаемадзеянні з іншымі нацыянальнымі меншасцямі, прааналізаваў ход выбарчай кампаніі і вынікі выбараў. У 2013 г. у часопісе "ARCHE" А. Пашкевіч апублікаваў грунтоўны артыкул (па сутнасці, манаграфічную працу) "Нацыянальныя працэсы ў Палескім ваяводстве ў 1920-я гг. праз прызму вынікаў выбарчых кампаній у польскі парламент"[2].

З польскіх гісторыкаў сюжэты, прысвечаныя выбарчай кампаніі на заходнебеларускіх землях, маем у працах Крысціны Гамулкі, Міхала Куркевіча, Зафіі Тамчонак, Ежы Мілеўскага, Пятра Ціхарацкага[3]. Напрыклад, у кнізе З. Тамчонак, прысвечанай дзейнасці ў Заходняй Беларусі польскіх левацэнтрысцкіх партый, ёсць інфармацыя пра ход выбарчых кампаній у паўночна-заходніх выбарчых акругах. П. Ціхарацкі аналізуе вынікі выбараў 1922 г. у Палескім ваяводстве. Аўтар прыйшоў да высновы, што тамтэйшае палітычные жыццё здамінавала польская "лявіца", а ў выбарах польскія сацыялісты сабралі больш за палову ўсіх галасоў. У той жа час Блок нацыянальных меншасцей здабыў на Палессі толькі каля трэці галасоў выбаршчыкаў. Поўнае паражэнне панеслі на Палессі таксама правыя партыі, хаця якраз сярод іх было найбольш кандыдатаў мясцовага паходжання. Дастаткова ўзгадаць толькі прозвішча былога прэм'ера БНР Рамана Скірмунта. Вельмі нізкі паказчык мясцовых сярод кандыдатаў у выбарчых спісах сведчыў, на думку Ціхарацкага, пра нізкі ўзровень развіцця мясцовага палітычнага жыцця і беларускага нацыянальнага руху[4].

У дадзеным артыкуле зроблена спроба аналізу вынікаў парламенцкіх выбараў 1922 г. на ўзроўні Гродзенскага павета ў Беластоцкім ваяводстве. Галоўнай мэтай стала вызначэнне асноўных фактараў, якія ўплывалі на вынікі выбараў у дадзенай мясцовасці. Крыніцамі для правядзення даследавання паслужылі архіўныя матэрыялы Дзяржаўнага архіва Гродзенскай

---

1 А. В. Пашкевіч, *Парламенцкія формы змагання за нацыянальныя і сацыяльныя правы беларускага народа ў міжваеннай Польшчы (1921–1930 гг.)*: дысертацыя… кандыдата гістарычных навук: 07.00.02. Мінск 2006.

2 А. Пашкевіч, *Нацыянальныя працэсы ў Палескім ваяводстве ў 1920-я гг. праз прызму вынікаў выбарчых кампаній у польскі парламент*, "ARCHE", 2013, № 4, с. 99–210.

3 M. Kurkiewicz, *Sprawy białoruskie w polityce rządu Władysława Grabskiego*, Warszawa 2005; J. Milewski, *Frekwencja w wyborach do Sejmu w okresie międzywojennym (Białystok, pow. Białystok, Bielsk Podlaski, Sokółka)* „Białostocczyzna", 1991, nr 1, s. 23–25; Z. Tomczonek, *Ruch ludowy na kresach północno-wschodnich Drugiej Rzeczypospolitej*, Białystok 1996; K. Gomółka, *Białorusini w II Rzeczypospolitej,* Gdańsk 1992; idem, *Między Polską a Rosją,* Warszawa 1994; idem, *Polskie ugrupowania polityczne wobec kwestii białoruskiej. 1918–1922*, Warszawa 1994; P. Cichoracki, *Województwo poleskie 1921–1939. Z dziejów politycznych*, Łomianki 2014.

4 P. Cichoracki, *Województwo poleskie 1921–1939…*, s. 114.

вобл., а ў першую чаргу — дакументы фонда выбарчай камісіі Гродзенскай выбарчай акругі № 6.

Як справядліва адзначаў А. Пашкевіч, выбарчая кампанія 1922 г. аб'яднала большасць беларускіх палітычных арганізацый. Быў створаны Беларускі цэнтральны выбарчы камітэт на чале з Антонам Луцкевічам. Праграма камітэта прадугледжвала прызнанне Польскай дзяржавы, патрабаванні тэрытарыяльнай аўтаноміі для беларусаў, школьнай адукацыі на роднай мове, зямельнай рэформы, роўнасці ўсіх веравызнанняў, тэрытарыяльнай арганізацыі войска і г. д[5].

Але магчымасці беларусаў у надыходзячых выбарах сур'ёзна ўскладняў выбарчы закон, прыняты Сеймам 28 ліпеня 1922 г. Гэты закон уводзіў т. зв. агульнадзяржаўныя спісы. Гэта значыла, што з 444 паслоў Сейма 372 выбіраліся ў акругах паводле мясцовых спісаў, а 72 уваходзілі ў парламент з агульнадзяржаўных. Тое ж правіла дзейнічала і адносна сенатараў, дзе 18 з 111 праходзілі з агульнадзяржаўных спісаў[6]. Мандаты з гэтых спісаў дзяліліся паміж партыямі і блокамі прапарцыянальна агульнай колькасці галасоў, пададзеных за іх па ўсёй тэрыторыі дзяржавы. Больш таго, права на іх атрымлівалі толькі тыя партыі і блокі, якія здабылі мандаты па мясцовых спісах як мінімум у шасці розных акругах. Усё гэта рабіла шансы беларусаў мізэрнымі.

Да таго ж дзяржаўная ўлада стварыла яшчэ шэраг перашкод для ўкраінцаў і беларусаў. Так, Сеймам была прынята прапанова, што на "крэсах усходніх" 1 мандат павінен прыпадаць на 86 000 чал. (у цэнтральнай Польшчы — на 70 000). У суме гэта азначала на 19 мандатаў меней ва ўсходніх акругах[7]. Да таго ж пры вызначэнні межаў выбарчых акругаў улады імкнуліся далучаць да паветаў з перавагай няпольскага насельніцтва чыста польскія тэрыторыі. Напрыклад, Гродзенскі павет быў улучаны ў адну акругу з Аўгустоўскім, Сувалкаўскім і Сейненскім паветамі, дзе абсалютную большасць складала польскае насельніцтва. Менавіта таму БНК на пасяджэнні 29 мая 1922 г. прызнаў праект выбарчага закона несправядлівым, бо ён абмяжоўваў магчымасці стварэння адпаведнага беларускага прадстаўніцтва ў Сейме[8].

Апроч усяго вышэйсказанага, беларускія партыі банальна не мелі дастатковых фінансавых сродкаў на правядзенне эфектыўнай кампаніі. Але сродкі былі ў палітычных прадстаўніцтвах іншых нацыянальных меншасцей, якія сутыкнуліся з такімі ж перашкодамі, як і беларусы. Так паўстала ідэя стварэння Блока нацыянальных меншасцей. Рэалізацыя такой ідэі на пачатку выглядала амаль нерэальнай з увагі на этнічныя стэрэатыпы і арга-

[5] А. В. Пашкевіч, *Парламенцкія формы змагання*…, с. 40.
[6] T. i W. Rzepeccy, *Sejm i Senat 1922–1927*, Poznań 1923, s. 28.
[7] А. В. Пашкевіч, *Парламенцкія формы змагання*…, с. 37.
[8] K. Gomółka, *Między Polską a Rosją...*, s. 221.

нізацыйныя цяжкасці. Патрэбны былі шматлікія кампрамісы ад кожнага з бакоў. Але паволі адбывалася збліжэнне пазіцый у выніку сустрэч паміж прадстаўнікамі нацыянальных меншасцей. 14 жніўня 1922 г. адбылася вырашальная сустрэча, а 17 жніўня ў Варшаве было абвешчана стварэнне Блока нацыянальных меншасцей (БНМ), у які ўступілі прадстаўнікі беларускага, украінскага, рускага, нямецкага і яўрэйскага народаў[9].

Самай арганізаванай палітычнай сілай у гэтым блоку былі немцы. Але на "крэсах усходніх" колькасна пераважалі яўрэі, украінцы і беларусы. Улічваючы колькасную большасць беларусаў і ўкраінцаў сярод насельніцтва ўсходніх ваяводстваў, яўрэйскія палітыкі пагадзіліся на размяшчэнне на першых месцах спісаў блока ва ўсходніх акругах іх прадстаўнікоў, што фактычна гарантавала беларусам і ўкраінцам месцы ў будучым парламенце за кошт падтрымкі яўрэйскіх выбаршчыкаў[10]. Рашэнне далучыцца да БНМ з'яўлялася, несумненна, вельмі мудрым з боку беларускіх дзеячаў.

Як зазначыў Алесь Пашкевіч, падчас выбарчай кампаніі 1922 г. беларусам удалося дасягнуць самага высокага ўзроўню нацыянальнага адзінства за ўвесь міжваенны перыяд. У склад БЦВК увайшлі прадстаўнікі ўсіх найбуйнейшых беларускіх партый у краіне. Толькі нешматлікія групоўкі, звязаныя з эміграцыйным урадам Вацлава Ластоўскага ў Коўне, заклікалі да байкоту выбараў. У выбарчую кампанію масава ўключылася беларуская інтэлігенцыя і прабеларуска арыентаванае святарства, як праваслаўнае, так і каталіцкае[11].

Галоўнымі сапернікамі БНМ на выбарах сталі не правыя польскія нацыяналісты, якія не мелі шансаў здабыць галасы беларускага сялянства, а левыя польскія партыі, якія высоўвалі пастулаты радыкальных сацыяльных рэформ і ўлічвалі ў сваіх праграмах імкненні нацыянальных меншасцей. Гэта былі Польская народная партыя (ПНП) „Вызваленне" і Польская партыя сацыялістычная (ППС). Напрыклад, у перадвыбарчых плакатах „Вызвалення" прапагандаваліся адбудова вёскі, бясплатная адукацыя, раздача зямлі, роўныя правы ўсіх грамадзян без розніцы мовы і веравызнання[12]. У шэрагі агітатараў гэтых партый уступіла нямала адукаваных беларусаў, якія карысталіся аўтарытэтам.

Канкурэнтамі БНМ былі таксама камуністы, якія выставілі спіс "Камуністычнае адзінства пралетарыяту горада і вёскі". Газета камуністаў "Барацьба" акрэсліла БНМ як "саюз буржуазіі і спекулянтаў супраць працоўнага народа"[13]. Аднак, як адзначыў А. Пашкевіч, на практыцы мясцовыя каму-

---

9 А. В. Пашкевіч, *Парламенцкія формы змагання…*, с. 38.

10 *Кандыдаты ў Сойм і Сэнат ад Блёку (хаўрусу) Нацыянальных Меншасьцей*, "Беларускі Звон", 1922, 14 кастр., с. 2–3.

11 A. Bergman, *Rzecz o Bronisławie Taraszkiewiczu*, Warszawa 1977, s. 72–73.

12 K. Gomółka, *Między Polską a Rosją...*, s. 223–224.

13 А. В. Пашкевіч, *Парламенцкія формы змагання…*, с. 41.

ністы нярэдка ставілі нацыянальныя інтарэсы вышэй за класавыя і далучаліся да выбарчай кампаніі БНМ.

У выбарах у Сейм, якія адбыліся 5 лістапада, узялі ўдзел 8,8 млн. грамадзян II Рэчы Паспалітай з ліку 13 млн., што мелі права голасу. Такім чынам яўка электарату склала 67,7%. Найбольш галасоў (29,1%) атрымаў правы Хрысціянскі Звяз нацыянальнага адзінства (Chrześcijański Związek Jedności Narodowej). А на другім месцы апынуўся Блок нацыянальных меншасцей — 16%. Польская народная партыя "Пяст" (Polskie Stronnictwo Ludowe „Piast") атрымала 13,2% галасоў, Польская народная партыя "Вызваленне" (Polskie Stronnictwo Ludowe „Wyzwolenie") — 11%, Польская партыя сацыялістычная (Polska Partia Socjalistyczna) — 10,3%, Нацыянальная рабочая партыя (Narodowa Partia Robotnicza) — 5,4%. Камуністы здабылі ўсяго 1,5%, але ўлады аказвалі на іх найбольш моцны ціск.

Такім чынам, вынікі выбараў засведчылі несумненны поспех БНМ, за які аддалі свае галасы 1 397 538 выбаршчыкаў (амаль 16% агульнай колькасці). БНМ здабыў па ўсёй краіне 66 пасольскіх мандатаў, з ліку якіх 11 былі аддадзены беларусам. Найлепшымі для беларусаў былі вынікі ў Наваградскай акрузе, дзе яны атрымалі 4 мандаты[14].

Праз тыдзень пасля выбараў у Сейм 12 лістапада 1922 г. адбыліся выбары ў Сенат. З ліку 9,1 млн. выбаршчыкаў прагаласавалі 5,8 млн. або 61,5%. Большасць галасоў атрымалі польскія правыя партыі — 36,1%, у т.л. Народна-нацыянальны звяз — 26,1% і Хрысціянска-нацыянальны звяз — 10%. Цэнтрысты здабылі 24,4% мандатаў: хадэкі — 6,3%, ПНП „Пяст" — 15,3% і Нацыянальная рабочая партыя — 2,8%. Левыя партыі атрымалі 13,4% галасоў, у т.л. ППС — 6,2%. А Блок нацыянальных меншасцей меў яшчэ лепшыя вынікі ў параўнанні з выбарамі ў Сейм — 919 407 галасоў выбаршчыкаў (больш за 18% ад агульнай колькасці), што дало 24,3% сенатарскіх месцаў. З 23 мандатаў БНМ 3 былі аддадзены беларусам.

Пасля выбараў у польскім парламенце паўстаў новы расклад палітычных сіл, які патрабаваў стварэння партыйных кааліцый, паколькі ніводная з партый не атрымала дастатковай колькасці мандатаў для аднаасобнага кіравання. БНМ цяпер мог прэтэндаваць на ўдзел ва ўладзе. Але польскія нацыяналісты не маглі гэтага дапусціць. Адпаведна паўстала кааліцыя польскіх цэнтрыстаў і правых. Пасля выбараў узмацніліся пазіцыі правых у польскім урадзе.

Вынікі выбараў выклікалі сярод правячай вярхушкі сур'ёзную занепакоенасць ростам нацыянальнай свядомасці сярод беларускага насельніцтва, якое дагэтуль разглядалася ўрадам як этнічны субстрат, падатлівы на дзяржаўна-нацыянальную асіміляцыю. У дакладзе спецслужбаў адзначалася, што „завязанне беларускай выбарчай сеткай шырокага і сталага кан-

[14] Тамсама, с. 43.

такту з народнымі масамі — з'ява, якая першы раз сустракаецца ў гісторыі адраджэнцкага беларускага руху: народ і палітызаваная інтэлігенцыя непасрэдна сутыкнуліся і пачалі ўзаемадзейнічаць паміж сабой"[15].

На Гродзеншчыне выбары 1922 г. адбываліся ў вельмі складаных палітычных умовах. Большасць праваслаўнага насельніцтва толькі нядаўна вярнулася з "бежанства" з розных куткоў былой Расійскай імперыі, куды была вывезена ў 1915 г. Матэрыяльнае становішча гэтых нядаўніх бежанцаў было катастрафічным, паколькі гаспадаркі былі зруйнаваныя за час адсутнасці людзей. Сяляне наракалі на высокія падаткі, адсутнасць дапамогі з боку дзяржавы. У 1922 г. у Гродзенскім павеце пры падтрымцы літоўскага ўрада паўстала беларуска-літоўская канспірацыйная сетка, мэтай якой была падрыхтоўка партызанскай барацьбы на выпадак вайны паміж Літвой і Польшчай[16].

Дастакова хутка на Гродзеншчыне аформіліся лакальныя структуры, якія пачалі праводзіць агітацыю на карысць кандыдатаў Блока нацыянальных меншасцей. У верасні 1922 г. у Гродне быў створаны Беларускі выбарчы камітэт[17]. Хутка пасля гэтага ў павеце ўтварыліся лакальныя выбарчыя камітэты ў вёсках Ляткі, Стругі, Алекшыцы, Берастафіца, Кавалі, Ярмолічы, Жыдомля, Верцялішкі, Берштаы, Гарковічы, Дубна, Баранава, Лаша, Лазы і ў мястэчку Скідзель[18]. Гэта засведчыла ўжо дастатковую моц і разгалінаванасць структур беларускага руху. Забягаючы наперад, можна сцвердзіць, што найлепшыя вынікі ў сельскай мясцовасці БНМ дасягнуў менавіта там, дзе дзейнічалі лакальныя Беларускія выбарчыя камітэты.

У Гродзенскай выбарчай акрузе ў акружны спіс кандыдатаў ад БНМ увайшлі 6 асоб[19]. На першым месцы знаходзіўся кандыдат ад Беларускага выбарчага камітэта Сяргей Баран. Гэта была вельмі вядомая ў палітычным жыцці Гродна асоба. Сяргей Баран належаў да партыі беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў, быў сябрам рады Беларускай Народнай Рэспублікі, старшынёй Грамады беларускай моладзі, адным з заснавальнікаў беларускай гімназіі ў Гродне. У кароткім часе савецкай улады на Гродзеншчыне ў 1920 г. стаў кіраўніком юрыдычнай секцыі Гродзенскага рэўкама, але быў арыштаваны бальшавікамі і ўцякаў з-пад арышту. С. Баран з'яўляўся адным з арганізатараў Беларускага выбарчага камітэта ў Вільні. Паходзіў ён з вёскі Віцькі Гор-

---

15 Тамсама.

16 С. Токць, *Беларуска-літоўскія партызаны ў Гродзенскім павеце Беластоцкага ваяводства і Лідскім павеце Навагрудскага ваяводства ў 1922–1923 гг.* "Rocznik Centrum Studiów Białoruskich", nr 7, 2021, s. 152–178.

17 Л. Глагоўская, *З дзейнасці беларускіх парламентарыяў на Гродзеншчыне ў гадах 1922–1930* [у:] *Культура Гродзенскага рэгіёна: праблемы развіцця ва ўмовах поліэтнічнага сумежжа*, Гродна 2003, с. 128.

18 Тамсама, с. 129.

19 Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці (ДАГВ), ф. 59, воп. 1, спр. 10, арк. 223.

ніцкай воласці, але дзяцінства правёў у Гродне[20].

На пятым месце ў акруговым спісе БНМ знаходзіўся яшчэ адзін прадстаўнік Беларускага выбарчага камітэта Аляксандр Сініла. Сініла быў сынам заможнага палясоўшчыка з вёскі Засады Берштаўскай гміны. У бежанстве ён працаваў у Яраслаўскім земстве і скончыў курсы землямераў. Вярнуўся ў родную вёску яшчэ пры нямецкай акупацыйнай уладзе і заняў пасаду ляснічага ў Берштаўскім лясніцтве. Тады ж уступіў у Літоўска-Беларускую арганізацыю[21].

На другім месцы гродзенскага акруговага спіса знаходзіўся прадстаўнік яўрэяў Шыя-Хэссель Фарбштэйн. 52-гадовы купец на той момант ужо быў паслом Сейма. Фарбштэйн знаходзіўся таксама на першых месцах агульнадзяржаўнага спіса БНМ і гарантавана праходзіў у Сейм. Яго знаходжанне ў акружным спісе павінна было мабілізаваць мясцовых выбаршчыкаў-яўрэяў. На трэцім месцы быў 40-гадовы адвакат з Кракава Давыд Бульва, а чацвертае аддалі прадстаўніку расійскай меншасці Анатолю Лілееву, 45-гадоваму юрысту з Гродна, які таксама быў уключаны ў агульнадзяржаўны спіс. На шостым месцы знаходзіўся Барыс Паўлоўскі, 28-гадовы юрыст з Аўгустова[22].

У агульнадзяржаўным спісе БНМ на чацвёртым месцы знаходзіўся адзін з беларускіх лідараў Браніслаў Тарашкевіч. Таксама ў гэты спіс былі ўключаны ад беларусаў Фабіян Ярэміч, Міхал Кахановіч, Антон Аўсянік, Сяргей Баранаў. Усяго агульнадзяржаўны спіс БНМ налічваў 39 прозвішчаў.

Асноўным прэтэндэнтам на перамогу ў Гродзенскай выбарчай акрузе быў правы Хрысціянскі звяз нацыянальнага адзінства. Акруговы спіс № 8 гэтага звяза ўключаў 8 месцаў. З жыхароў Гродзенскага павета сюды ўваходзілі войт гміны Горніца Міхал Шымански і працаўнік чыгункі Францішак Твардоўскі[23].

Сярод кандыдатаў Уніі нацыянальна-дзяржаўнай бачым міністра юстыцыі Вацлава Макоўскага, а таксама войтаў гміны Капцёўка Яна Андрукевіча і Індура Яна Рынкевіча[24].

Галоўным канкурэнтам БНМ у барацьбе за галасы беларусаў на Гродзеншчыне стала Польская народная партыя "Вызваленне". У акруговы спіс гэтай партыі ўваходзілі тры прадстаўнікі Гродзенскага павета. На трэцім месцы быў 37-гадовы аграном з мястэчка Скідзель Яўген Атаназевіч[25]. Ён паходзіў з Бельска, быў праваслаўным. Пра яго нацыянальную свядомасць на той момант цяжка штосьці сказаць. На чацвёртым месцы знаходзіўся

[20] Тамсама.
[21] Тамсама, ф. 689, воп. 1, спр. 70, арк. 24–24 адв.
[22] Тамсама, ф. 59, воп. 1, спр. 10, арк. 223.
[23] Тамсама.
[24] Тамсама, ф. 59, воп. 1, спр. 4, арк. 143.
[25] Тамсама, ф. 59, воп. 1, спр. 10, арк. 223.

37-гадовы гаспадар Юзаф Пачабут са шляхецкай ваколіцы Пачабуты. А на шостым быў селянін Юзаф Каленік са шляхецкай ваколіцы Жукевічы Горніцкай гміны. У агульнадзяржаўным спісе ПНП "Вызваленне" і "Народая лявіца" налічвалася 96 асоб[26].

Яшчэ адным сур'ёзным канкурэнтам БНМ у беларускай вёсцы выступала Польская партыя сацыялістычная. Гэтая партыя абапіралася пераважна на гарадскі электарат. Але, як адзначыў А. Пашкевіч, найлепшыя вынікі яна атрымала ў беларускім Палессі, дзе гарадскога пралетарыяту фактычна не было[27]. У гарадзенскі акруговы спіс Польскай сацыялістычнай партыі ўваходзілі 8 асоб. З мясцовых бачым там 59-гадовага селяніна вёскі Гожа Вінцэнта Казмерчыка[28].

Таксама канкурэнтам для беларускіх кандыдатаў былі камуністы. У гродзенскі акруговы спіс камуністычнага Звяза пралетарыяту горада і вёскі ўваходзілі 29-гадовы "бюраліст" Шыя Кашэўнік з Гродна і малазямельны селянін Мікалай Хвасцюк з вёскі Пятроўцы гміны Малая Бераставіца[29].

Для забеспячэння сумленнасці і справядлівасці ў правядзенні выбараў і асабліва самога працэсу галасавання вельмі важную ролю адыгрываў асабовы склад участковых выбарчых камісій. Кандыдатаў на старшыняў гэтых камісій і іх намеснікаў прапаноўваў павятовы стараста. У большасці гэта былі прадстаўнікі мясцовай дзяржаўнай адміністрацыі і памешчыкі. Так, старшынямі ўчастковых камісій сталі буйныя землеўласнікі Антон Бутаўт-Анджэйковіч, Станіслаў і Ежы Урсын-Нямцэвічы, Эдвард Тарасовіч, Антон Ваўкавыцкі, Сафія Незабітоўская, Міхал Дашкевіч-Карыбут, Тадэвуш Хасціцкі, Тадэвуш Лавіцкі[30]. Бачым тут прадстаўнікоў арыстакратычных родаў, якія пагадзіліся ўдзельнічаць у арганізацыі і правядзенні парламенцкіх выбараў.

Кандыдатаў на шараговых сяброў камісіі выбіралі гарадскія магістраты і гмінныя праўленні. У Гродзенскім павеце назіралася выразная перавага каталікоў. Было шмат настаўнікаў, прадстаўнікоў тэхнічнай інтэлігенцыі, сустракаліся лекары, эканомы панскіх маёнткаў. Зрэшты гэта вынікала і з той простай прычыны, што для працы ў камісіі патрэбна было веданне польскай мовы.

Аднак прадстаўнікі беларусаў былі ў большасці камісій. Напрыклад, на выбарчым участку ў вёсцы Пагарэнда Берштаўскай гміны старшынёй камісіі быў мясцовы дзяржаўны ляснічы Стэфан Копец. А ў склад камісіі ўвайшлі беларускія актывісты Баляслаў Федаровіч і Клімент Грымута[31].

---

[26] Тамсама, ф. 59, воп. 1, спр. 4, арк. 44.
[27] А. Пашкевіч, *Нацыянальныя працэсы ў Палескім ваяводстве ў 1920-ыя…*, с. 124–125.
[28] ДАГВ, ф. 59, воп. 1, спр. 10, арк.223.
[29] Тамсама.
[30] Тамсама, ф. 59, воп. 1, спр. 7, арк. 83–113.
[31] Тамсама, арк. 103.

Апошні арганізаваў прыватную беларускую школу ў вёсцы Матылі[32]. Сярод запасных сяброў камісіі бачым беларускага актывіста Уладзіміра Сінілу, які быў родным братам Аляксандра Сінілы, кандыдата на пасла ад БНМ.

У вёсцы Берsuccessors старшынёй камісіі быў войт гміны Ян Мілінкевіч[33]. У склад камісіі ўваходзіў настаўнік і мясцовы ўраджэнец Уладзімір Русілка. Таксама сярод сяброў камісіі быў актывіст літоўскага нацыянальнага руху Антон Траяновіч з вёскі Кабялі, хаця літоўская меншасць у большасці байкатавала выбары. У запасе быў настаўнік і беларускі актывіст Віктар Дарашкевіч.

Як ужо адзначалася, у барацьбе за вясковае насельніцтва актывістам Беларускага выбарчага камітэта даводзілася канкурыраваць з камуністамі і польскімі партыямі левай арыентацыі. Беларускія дзеячы вялі выбарчую кампанію пад лозунгамі барацьбы за правы мясцовага "тутэйшага" насельніцтва: "Хочаш, каб уся ***тутэйшая*** (выдзелена аўтарам — С. Т.) зямля дасталася ***тутэйшаму*** працоўнаму сялянству? Хочаш школы ў ***роднай*** мове? Хочаш, каб уся адміністрацыя была ***свая, тутэйшая***, каб урадоўцамі былі ***нашы*** людзі? Хочаш служыць у войску ў ***сваім родным*** краю? Хочаш быць гаспадаром на ***сваёй*** зямлі, хочаш аўтаноміі ***нашага*** краю з ***сваім*** Соймам у Вільні?"[34]. Дадзеныя лозунгі выразна сведчылі пра імкненне выкарыстаць характэрную для сялян свядомасць *тутэйшасці*, давер да *сваіх*, *нашых*, замілаванне малой айчынай ці *роднай* старонкай.

Беларускі пасол Васіль Рагуля, які балаціраваўся на Навагрудчыне, пазней так успамінаў пра ход гэтай выбарчай кампаніі: "Нам заставалася іграць галоўным чынам на дзвюх струнах: нацыянальнай і эканамічнай. Першая была ў той час слабая, другая — моцная. Мы націскалі на адсутнасць беларускіх школаў і на польскае вайсковае асадніцтва. Гэты другі выбарчы конік быў вельмі карысны. Ён вырашыў пытаньне галасаваньня сялянскай масы на нашую карысьць"[35].

Але, на нашу думку, пры ўсёй важнасці сацыяльнага фактару і праблемы польскага асадніцтва, усё ж нацыянальны быў дамінуючым. Так, у Гродзенскім павеце поспех спадарожнічаў беларускім кандыдатам у тых лясных мясцовасцях, дзе не было ні асаднікаў, ні абшарнікаў. У той жа час многія каталіцкія вёскі, дзе былі ў наяўнасці ўсе сацыяльныя праблемы, галасавалі, аднак, за польскія спісы, паколькі мясцовыя сяляне-каталікі лічылі сябе палякамі, хаця нічым не адрозніваліся ад сваіх суседзяў праваслаўных у моўных адносінах. Усе сяляне Гродзенскага павета, як каталікі, так і праваслаўныя, размаўлялі на мясцовых беларускіх гаворках, ці на "простай"

[32] *„Сялянская праўда"*, № 9, 12 лістапада 1924 г.

[33] ДАГВ, ф. 59, воп. 1, спр. 7, арк. 103.

[34] *„Беларускі звон"*, № 30, 1 лістапада 1922 г.

[35] В. Рагуля, *Успаміны*, Менск 1993, с. 18. Падчас цытавання захаваны асаблівасці аўтарскага тэксту.

мове. Аднак канфесійны фактар у гэтым павеце быў важнейшым за моўны ў адносінах да нацыянальнай самаідэнтыфікацыі. Беларускія дзеячы разглядалі беларускамоўных каталікоў Гарадзеншчыны як беларусаў, якіх неабходна нацыянальна ўсвядоміць. Але падчас выбарчай кампаніі дасягнуць заўважных поспехаў у гэтым кірунку не ўдалося.

Трэба звярнуць увагу на яшчэ адзін важны аспект выбараў 1922 г. у Заходняй Беларусі. У галасаванні бралі ўдзел людзі, якія амаль не мелі досведу дэмакратычных працэдур, калі не ўлічваць валасныя і гарадскія выбары ў царскія часы. Вялікая частка насельніцтва, асабліва жаночага, з'яўлялася непісьменнай. Гэта ўзвышала ролю мясцовых адукаваных актывістаў, якія трансліравалі ідэі партый і выбарчых блокаў і адаптавалі іх да разумення малаадукаванага селяніна.

Працэдура галасавання была прадумана такім чынам, каб нават непісьменны выбаршчык здолеў аддаць свой голас. Для гэтага трэба было мець толькі аркуш белай паперы з нумарам таго выбарчага спіса, за які выбаршчык хацеў галасаваць. Усе зарэгістраваныя спісы ад партый і блокаў атрымлівалі адпаведныя нумары. Выбаршчык павінен быў прыйсці ў памяшканне ўчастковай камісіі, пацвердзіць сваю асобу і атрымаць ад члена ўчастковай камісіі канверт з пячаткай. Ён укладваў свой аркуш з нумарам у канверт, апячатваў і аддаваў камісіі. Пасля заканчэння выбараў адзін з членаў камісіі ўскрываў канверты, даставаў аркуш, паказваў прадстаўнікам кандыдатаў і гучна называў нумар, а пасля перадаваў канверт з нумарам старшыні камісіі. Пасля падлічваліся ўсе пададзеныя галасы. Такая сістэма ў цэлым спраўдзілася, і нараканняў на працу камісій і падробку вынікаў выбараў не было.

Зрэшты, на практыцы такі спосаб выбараў фактычна пазбаўляў іх тайнага характару. Выбаршчык ішоў на ўчастак з падрыхтаваным ужо аркушам з нумарам. З увагі на спецыфіку ўзаемаадносін у вясковай супольнасці цяжка ўявіць, што хтосьці мог хаваць гэты нумар ад сваіх аднавяскоўцаў. Адпаведна, ціск з боку калектыўнага меркавання быў вельмі вялікі. І таксама вялікай была роля мясцовых аўтарытэтаў.

Перадвыбарчая кампанія ў Гродзенскім павеце праходзіла адносна спакойна. Хаця часам здараліся інцыдэнты. Так, газета "Беларускі звон" пісала 11 кастрычніка, што паліцыя арыштавала пасля перадвыбарчага мітынгу за БНМ у мястэчку Скідзель настаўніка Каялу, якога два дні пратрымалі ў пастарунку пад арыштам[36].

У Гродзенскай выбарчай акрузе права голасу належала 156 417 асобам. Прынялі ўдзел у выбарах 103 008, а "важных" галасоў было 102 384[37]. Такім чынам, яўка склала 65,85%, што было трохі ніжэй за агульнадзяржаўны паказчык. Першае месца ў Гродзенскай акрузе заняў Хрысціянскі звяз на-

[36] *Перадвыбарная свабода*, *"Беларускі звон"*, № 25, 11 кастрычніка 1922 г., с. 2.
[37] ДАГВ, ф. 59, воп. 1, спр. 6.

цыянальнага адзінства, які атрымаў 27 968 галасоў і здабыў два пасольскія мандаты. А на другім месцы апынуўся БНМ — 26 732 галасы (25,95%). Далей галасы размеркаваліся наступным чынам: Польская народная партыя "Пяст" — 21 507 галасоў (20,88%), Польская народная партыя "Вызваленне" і "Народная лявіца" — 12 566 (12,20%), Хрысціянскі звяз нацыянальнага адзінства — 7 698, Звяз пралетарыяту горада і вёскі — 4 425, Польскі цэнтр — 3 425, Польская сацыялістычная партыя — 2 892, Нацыянальная рабочая партыя — 1 125, Нацыянальна-дзяржаўная унія — 680, Агульна-яўрэйскі рабочы звяз — 500, Звяз вайсковых інвалідаў — 271, Народная партыя працы — 155, Яўрэйскі нацыянальна-дэмакратычны блок — 111[38]. Такім чынам, БНМ заняў у Гродзенскай акрузе другое месца, як і па ўсёй краіне. Праз тыдзень падчас сенацкіх выбараў за БНМ тут прагаласаваў 10 541 выбаршчык.

Пасламі Сейма ў Гродзенскай акрузе ад блока "Хрысціянскі звяз нацыянальнага адзінства" сталі былы пасол 28-гадовы каталіцкі ксёндз і доктар права Зыгмунт Качыньскі з Варшавы і 43-гадовы юрыст з Сувалкаў Зыгмунт Кадлубоўскі. Паслом ад спісу № 1 Польскай народнай партыі "Пяст" стаў 33-гадовы настаўнік і былы рэдактар гарадзенскай польскамоўнай газеты "Echo Grodzieńskie" Казімір Лашкевіч. А чацверты мандат ад Гродзенскай акругі атрымаў беларус Сяргей Баран[39].

У Гродзенскім павеце налічвалася 80 392 асобы, якія мелі права голасу. На выбарчыя ўчасткі на сеймавых выбарах прыйшло 51 930 выбаршчыкаў, а важных галасоў было 51 738. Такім чынам, яўка склала 64,4%. Дастаткова ўпэўненую перамогу ў выніку атрымаў Блок нацыянальных меншасцей — 21 645 галасоў (42,8%). За спіс № 8 "Хрысціянскі звяз нацыянальнага адзінства" аддалі галасы 10 463 выбаршчыкі (20,2%). На трэцім месцы апынуўся спіс № 3 "ПНП "Вызваленне" і "Лявіца народная" — 6 378 (12,3%). Астатнія партыі і блокі атрымалі такія вынікі: № 1 (Польская партыя сацыялістычная) — 4 847 (9,4%), № 5 (Звяз пралетарыяту горада і вёскі) — 3 616 (6,7%), № 12 —1 387 (2,7%), № 2 —1 262 (2,4%), № 7 —806 (1,6%), № 4 —500 (1,0%), № 10 —417 (0,8%), № 18 —213 (0,4%), № 20 —94 (0,2%), № 23 (Нацыянальная партыя працы) — 110 (0,2%)[40].

На падставе аналізу спісаў участковых выбарчых камісій намі атрыманы вынікі выбараў на асобных выбарчых участках Гродзенскага павета, у тым ліку і г. Гродна[41]. Не захаваліся ў фондзе Гродзенскай акруговай выбарчай камісіі спісы з участкаў у Казловічах, Азёрах, Вялікіх Эйсмантах, Гожы, Ка-

[38] Тамсама, арк. 27, 33.

[39] Тамсама, арк. 33.

[40] *Statystyka wyborów do Sejmu i Senatu odbytych w dniu 5 i 12 listopada 1922 roku,* Warszawa 1926, s. 20.

[41] ДАГВ, ф. 59, воп. 1, спр. 10, арк. 1–229; спр. 13, арк. 1–191; спр. 11, арк. 1–130; спр. 15, арк. 1–155; спр. 18, арк. 1–111; спр. 21, арк. 1–213.

менцы і Ротніцы. Дадзеныя па гэтых участках былі вылічаны на падставе апублікаваных вынікаў выбараў 1922 г. па асобных гмінах[42].

У самім Гродне перамога БНМ выглядала яшчэ больш пэўнай — 54,7% галасоў выбаршчыкаў, на другое месца выйшаў "Хрысціянскі звяз нацыянальнага адзінства" — 22,6%, а на трэцім аказаліся камуністы — 10,5%. ПНП "Пяст" і ПНП "Вызваленне" і "Народная лявіца" панеслі ў Гродне сакрушальнае паражэнне. Несумненна, што пераканаўчую перамогу БНМ забяспечыла дысцыплінаванасць яўрэйскага электарату.

У сельскай мясцовасці павета (без уліку самога Гродна, а таксама Друскенікаў, Крынак, Індуры і Скідзеля) перавага БНМ выглядала больш сціплай, чым у Гродне, — 37,0% галасоў. На другім месцы быў "Хрысціянскі звяз нацыянальнага адзінства" — 20,2%, на трэцім ПНП "Вызваленне" і "Народная лявіца" — 16,7%. Польская партыя сацыялістычная атрымала 12,8%, камуністы — 5,6%[43] (Табліца 1). Найбольш галасоў БНМ здабыў у Галынкаўскай гміне — 81,9%. Гэты паказчык амаль раўняўся адсотку праваслаўнага насельніцтва ў гміне.

Таксама вельмі высокі паказчык (75,8%) БНМ атрымаў у Дубнаўскай гміне, дзе праваслаўныя складалі 96,2% насельніцтва. На трэцім месцы была Берштаўская гміна — 69,4%. Ва ўсіх гэтых гмінах падчас перапісу 1921 г. большасць праваслаўных жыхароў запісаліся беларусамі, што сведчыла пра высокі ўзровень нацыянальнай свядомасці. Самы нізкі паказчык (0,7%) БНМ атрымаў у Гожскай гміне, дзе такі самы адсотак складалі беларусы.

Увогуле паказчык галасоў, пададзеных за БНМ, звычайна быў меншы за працэнтны паказчык праваслаўнага насельніцтва ў гміне, але вышэйшы за паказчык беларускага насельніцтва паводле дадзеных перапісу 1921 г. З аднаго боку, гэта сведчыла, што дадзеныя перапісу не адпавядалі рэальнай карціне, пра што пісалі многія даследчыкі. Але, з другога боку, прагледжваецца сувязь паміж паказчыкам беларусаў і колькасцю галасоў за БНМ. Такім чынам, дзе была вышэйшай беларуская самасвядомасць, назіраўся вышэйшы паказчык беларусаў паводле перапісу.

[42] *Statystyka wyborów do Sejmu i Senatu*…, s. 20.
[43] Тамсама.

**Табліца 1. Асаблівасці складу насельніцтва і вынікі выбараў 1922 г. у Сейм паводле вясковых гмін Гродзенскага павета**

| Гміна | % яўкі на выбары | % праваслаўнага насельніцтва (паводле перапісу 1921 г.) | % беларускага насельніцтва (паводле перапісу 1921 г.) | % галасоў выбаршчыкаў, пададзеных за БНМ |
|---|---|---|---|---|
| Бершты | 55,1 | 69,4 | 67,3 | 69,7 |
| Вялікая Бераставіца | 61,6 | 61,4 | 47,2 | 65,5 |
| Малая Бераставіца | 58,5 | 71,0 | 39,3 | 47,4 |
| Дубна | 50,6 | 96,2 | 90,0 | 76,3 |
| Галынка | 52,1 | 82,5 | 72,5 | 82,3 |
| Горніца | 61,0 | 33,3 | 24,0 | 23,6 |
| Гожа | 65,7 | 3,5 | 0,7 | 0,7 |
| Гудзевічы | 63,8 | 52,6 | 21,2 | 43,4 |
| Індура | 74,9 | 31,4 | 18,5 | 18,0 |
| Азёры | 65,3 | 64,8 | 30,1 | 54,2 |
| Каменка | 72,8 | 38,7 | 13,6 | 30,7 |
| Крынкі | 73,3 | 25,7 | 12,0 | 17,6 |
| Лаша | 64,1 | 65,4 | 53,4 | 50,5 |
| Лунна | 56,1 | 45,0 | 28,2 | 28,7 |
| Марцінканцы | 15,8 | Н.зв. | Н.зв. | 25,8 |
| Масаляны | 77,1 | 49,7 | 43,2 | 39,8 |
| Масты | 64,2 | 31,2 | 18,9 | 18,0 |
| Парэчча | 60,7 | 6,5 | 13,0 | 8,3 |
| Скідзель | 46,1 | 86,5 | 75,4 | 25,6 |
| Верцялішкі | 77,3 | 49,1 | 36,0 | 51,4 |
| Волпа | 71,9 | 43,0 | 14,4 | 37,5 |
| Жыдомля | 61,0 | 69,9 | 64,4 | 44,2 |
| Разам | 61,8 | 49,0 | 35,4 | 37,0 |

**Крыніца:** *Skorowidz Miejscowości Rzeczypospolitej Polskiej. Opracowany na podstawie wyników Pierwszego Powszechnego Spisu Ludności z dn. 30 września 1921 r. i innych źródeł urzędowych*, t. V, Województwo Białostockie, Warszawa 1924, s. 30–43; *Statystyka wyborów do Sejmu i Senatu odbytych w dniu 5 i 12 listopada 1922 roku*, Warszawa 1926, s. 20.

Аналіз вынікаў галасавання па асобных участках таксама паказвае даволі жорсткую карэляцыю з веравызнаннем і нацыянальнай прыналежнасцю выбаршчыкаў. За Блок нацыянальных меншасцей аддавалі галасы яўрэі і праваслаўныя беларусы. Каталікі галасавалі за "Хрысціянскі звяз нацыянальнага адзінства", спіс Польскай народнай партыі "Вызваленне" і "Народнай лявіцы", Польскую партыю сацыялістычную, Польскую народную партыю "Пяст".

Найлепшы ў павеце вынік БНМ атрымаў на ўчастку ў вёсцы Свіслачаны Галынскай гміны — 92,5%[44]. Да гэтага ўчастка належалі вёскі з суцэльным праваслаўным насельніцтвам. Сімвалічна, што сярод іх была радзіма Канстанціна Каліноўскага — вёска Мастаўляны. Таксама высокія вынікі БНМ былі зафіксаваны на выбарчых участках у Пагарэндзе — 88,9%[45], Вялікай Бераставіцы (без самога мястэчка) — 85,8%[46], Верцялішках — 82,8%[47], Карашаве — 82,2%[48], Галынцы — 80,7%[49].

Але не на ўсіх участках з колькаснай перавагай праваслаўнага насельніцтва БНМ атрымаў перамогу. Напрыклад, у Скідзельскай гміне (без уліку самога мястэчка), дзе праваслаўныя складалі 86,5% ад агульнай лічбы жыхароў, перамогу святкавалі камуністы — 36% галасоў. БНМ здабыў у гэтай гміне 25,6%, а ПНП "Вызваленне" і "Народная Лявіца" — 20,1%[50].

На Скідзельскім выбарчым участку, дзе галасавалі сяляне навакольных вёсак, за Блок нацыянальных меншасцей аддалі галасы 183 выбаршчыкі, а за пракамуністычны спіс № 5 —102[51]. Але перамог на гэтым участку спіс ПНП "Вызваленне" і "Народная Лявіца" — 245 галасоў. Прыгадаем, што ў акружным спісе гэтага блока знаходзіўся аграном са Скідзеля Яўген Атаназевіч, а яго даверанай асобай выступаў 29-гадовы селянін з вёскі Гліняны Рыгор Гуліда[52]. Пазней Гуліда стаў прыхільнікам Таварыства беларускай школы і збіраў подпісы за адкрыццё беларускіх школ.

А на іншым выбарчым участку Скідзельскай гміны ў вёсцы Карашава за спіс № 16 прагаласавалі 246 выбаршчыкаў з 311, што прынялі ўдзел у галасаванні, і гэта склала 79%[53]. Іншыя партыі і блокі набралі тут усяго 38 галасоў. А вось на Хвайнянскім участку Скідзельскай гміны ўпэўнена перамаглі камуністы — 432 галасы (57,9%). На другім месцы аказаўся тут спіс № 3 (ППС "Вызваленне" і "Народная Лявіца"). Блок нацыянальных мен-

---

44 ДАГВ, ф. 59, воп. 1, спр. 10, арк. 58.
45 Тамсама, арк. 172.
46 Тамсама, арк. 102.
47 Тамсама, спр. 15, арк. 6.
48 Тамсама, спр. 10, арк. 137.
49 Тамсама, арк. 64.
50 *Statystyka wyborów do Sejmu i Senatu*…, s. 20.
51 ДАГВ, ф. 59, воп. 1, спр. 10, арк. 145.
52 ДАГВ, ф. 59, воп. 1, спр. 4, арк. 34.
53 Тамсама, спр. 10, арк. 137.

шасцей атрымаў у Хвайнянах усяго 11 галосоў[54]. Гэтыя вынікі паказваюць, што вялікую ролю маглі адыгрываць мясцовыя актывісты, якія часам схілялі сімпатыі выбаршчыкаў-аднавяскоўцаў на карысць сваёй партыі ці блока.

У мястэчку ж Скідзель, дзе большасць выбаршчыкаў складалі яўрэі, упэўненая перамога заставался за спісам БНМ — 615 галасоў (68,5%). Камуністычны звяз пралетарыяту горада і вёскі набраў у мястэчку 222 галасы (24,7%). Спіс ПНП "Вызваленне" і "Народная Лявіца" атрымаў тут усяго 9 галасоў, нягледзячы на асобу аграномa Атаназевіча, які ўваходзіў у акруговы спісак гэтага блоку[55].

У Горніцкай гміне, адкуль паходзіў галоўны беларускі кандыдат па Гродзенскай акрузе Сяргей Баранаў, БНМ набраў 23,6% галасоў і заняў трэцяе месца пасля Хрысціянскага звяза нацыянальнага адзінства (34,2%) і ПНП "Вызваленне" і "Народнай лявіцы" (32,5%)[56]. Праваслаўныя жыхары складалі ў Горніцкай гміне каля 33,3% насельніцтва. Яўрэяў было ўсяго 17 чалавек. Але беларусаў, паводле перапісу 1921 г., налічвалася каля 24%. Такім чынам, працэнт галасоў за БНМ фактычна адпавядаў працэнту беларусаў паводле перапісу 1921 г.

Другі беларускі кандыдат Аляксандр Сініла паходзіў з Берштаўскай гміны. Гэтая гміна ў 1922 г. стала асноўнай базай для рэкрутацыі байцоў беларуска-літоўскай партызанкі, якія дзейнічала ў памежных з Літоўскай рэспублікай гмінах Беластоцкага ваяводства. У Берштаўскай гміне за спіс № 16 аддалі галасы 1 064 выбаршчыкі, ці амаль 70% тых, хто прыйшоў на выбарчыя ўчасткі. Другое месца заняў спіс № 3 ПНП "Вызваленне" і "Народная лявіца" — 119 галасоў. За гэты спіс прагаласавалі жыхары двух беларускамоўных каталіцкіх вёсак[57]. Агульная лічба праваслаўных і іўдзеяў (апошніх было зусім няшмат) у гэтай гміне складала, паводле перапісу1921 г., 71,1%. Магчыма, што тут БНМ атрымаў таксама і галасы літоўцаў. Хаця большасць літоўскага насельніцтва байкатавала выбары 1922 г., але ў Берштаўскай гміне літоўцы пастанавілі падтрымаць суседзяў-беларусаў, а адзін з лідараў лакальнай літоўскай супольнасці Антон Траяновіч увайшоў у склад выбарчай камісіі.

У некаторых гмінах нават праваслаўныя беларусы галасавалі не за БНМ, а за польскія партыі. Вельмі слабыя вынікі атрымаў БНМ у Лунненскай гміне, дзе праваслаўныя колькасна пераважалі над каталікамі. Праўда, у самім мястэчку Лунна выбаршчыкі-яўрэі запэўнілі перамогу — 236 галасоў (40,5%)[58]. Але ў вёсках БНМ заняў трэцяе месцы пасля "Хрысціянскага звяза нацыянальнага адзінства" і ПНП "Вызваленне" і "Народнай Лявіцы".

---

54 Тамсама, арк. 150.
55 Тамсама, арк. 153.
56 *Statystyka wyborów do Sejmu i Senatu*…, s. 20.
57 Тамсама.
58 ДАГВ, ф. 59, воп. 1, спр. 10, арк. 11.

А ў суседняй Гудзевіцкай гміне БНМ набраў 43,4% галасоў. На другім месцы тут апынуўся ПНП "Вызваленне" і "Народная Лявіца" — 32,3%, на трэцім "Хрысціянскі звяз нацыянальнага адзінства" — 20,0%. Праваслаўныя складалі ў гэтай гміне 52,6% насельніцтва паводле перапісу 1921 г., а беларусы паводле нацыянальнасці — 21,2%[59]. Такім чынам, выбары істотна верыфікавалі тут дадзеныя перапісу.

Найгоршы ж вынік атрымаў БНМ на выбарчым участку ў вёсцы Стрыеўка Азёрскай гміны, дзе атрымаў усяго 4 галасы з 392[60], хаця на гэтым участку праваслаўных было нават трохі больш за каталікоў. Але праваслаўныя беларусы прагаласавалі тут за блок ПНП "Вызваленне" і "Народную лявіцу", які ў выніку і перамог, набраўшы 49,7% галасоў. Таксама вельмі слабымі былі вынікі БНМ у прыгарадзенскіх каталіцкіх вёсках.

Для правага блока "Хрысціянскага звяза нацыянальнага адзінства" большасць галасоў у павеце давалі жыхары засцянковых шляхецкіх ваколіц. Сяляне-каталікі больш ахвотна аддавалі галасы за ПНП "Пяст" і ПНП "Вызваленне" і "Народную Лявіцу", а таксама за Польскую партыю сацыялістычную. Так, у Парэцкай гміне, дзе абсалютную большасць насельніцтва складалі сяляне-каталікі лясных вёсак, ПНП "Пяст" здабыў 55,9% галасоў, а ПНП "Вызваленне" і "Народная Лявіца" — 22,6%. У Гожскай гміне сакрушальную перамогу атрымаў спіс ПНП "Пяст" — 74,9% галасоў[61]. А на Гожскім выбарчым участку гэты спіс здабыў аж 94%[62]. На другім месцы ў гэтай гміне апынуўся спіс блока "Хрысціянскі звяз нацыянальнага адзінства" — 14,6%, а на трэцім ПНП "Вызваленне" і "Народнай лявіцы" — 6,4%. Цікава, што селянін з Гожы Вінцэнт Казмерчык трапіў у спіс № 2 Польскай партыі сацыялістычнай. На сваім вясковым участку Казмерчык здолеў загітаваць усяго 7 выбаршчыкаў. Такім чынам, наяўнасць у спіску мясцовага жыхара зусім не гарантавала поспех, а часам вяла да правалу. За БНМ на участку ў Гожы не было аніводнага голасу, а за камуністаў — толькі адзін[63]. У Гожскай гміне за БНМ аддалі галасы ўсяго 13 выбаршчыкаў, напэўна яўрэяў з прыгараднай вёскі Грандзічы.

Такім чынам, у Гродзенскім павеце вызначальны ўплыў на вынікі выбараў у асобных мясцовасцях аказвалі два цесна пераплеценыя паміж сабой чыннікі — канфесійны і нацыянальны. Як можна меркаваць, беларускамоўныя сяляне-каталікі галасавалі не за кандыдатаў Блока нацыянальных меншасцей, але за польскія партыі левага кірунку. А большасць яўрэяў і праваслаўных беларусаў аддалі свае галасы менавіта за гэты блок. Але несфармаванасць беларускай нацыянальнай свядомасці паўплывала на тое,

59 *Statystyka wyborów do Sejmu i Senatu*…, s. 20.
60 ДАГВ, ф. 59, воп. 1, спр. 15, арк. 88.
61 Тамсама.
62 ДАГВ, ф. 59, воп. 1, спр. 10, арк. 131–135.
63 Тамсамм, арк. 131.

што даволі вялікая частка праваслаўных беларусаў аддала свае галасы польскім левым партыям і камуністам. Вельмі важным фактарам з’яўлялася наяўнасць харызматычных прыхільнікаў тых ці іншых партый і блокаў, якія маглі пацягнуць за сабой аднавяскоўцаў.

Той факт, што кіраўнікамі некаторых участковых выбарчых камісій былі мясцовыя памешчыкі, не аказваў заўважнага ўплыву на вынікі выбараў. Напрыклад, на выбарчым участку ў Галынцы ў склад камісіі ўваходзілі адразу два мясцовыя памешыкі. Старшынёй быў Тадэвуш Хасціцкі, а членам каміі Станіслаў Бруноф[64]. Але БНМ атрымаў на гэтым участку больш чым пераканаўчую перамогу — 80,7% галасоў. У мястэчку Малая Бераставіца старшынёй камісіі быў мясцовы памешчык Антон Ваўкавыцкі, а членам камісіі — каталіцкі ксёндз Ян Яновіч[65]. Але і тут перамог БНМ — 51,5%, а на другое месца выйшлі камуністы — 24,6%[66]. Памешчыца Сафія Незабітоўская з’яўлялася адзінай жанчынай на месцы старшыні ўчастковай выбарчай камісіі ў вёсцы Мілаўцы[67]. Тут таксама перамог БНМ — 57,0% галасоў, а другое месца заняў спіс ПНП “Вызваленне” і “Народная Лявіца”. Такім чынам, уваходжанне ў склад выбарчых камісій памешчыкаў і дзяржаўных служачых не ўплывала істотным чынам на вынік галасавання.

У цэлым выбары прайшлі даволі спакойна і іх вынікі ніхто не аспрэчваў. Нягледзячы на адсутнасць досведу дэмакратычных працэдур і нізкі ўзровень адукаванасці сялянскага насельніцтва, выбаршчыкі праявілі высокую актыўнасць і здолелі выказаць свае палітычныя сімпатыі. Для Беларускага выбарчага камітэта вынікі выбараў у Гродзенскім павеце можна лічыць паспяховымі. Там, дзе паўсталі лакальныя структуры гэтага камітэта, перамога звычайна была за БНМ. Можна сцвердзіць, што станаўленне гэтых структур якраз адбывалася ў часе выбарчай кампаніі, г. зн. выбары сталі каталізатарам беларускага нацыятворчага працэсу. Для беларускіх дзеячаў вынікі выбараў стваралі добрыя магчымасці для структурызацыі і далейшага развіцця нацыянальнага руху. На жаль, гэтыя магчымасці не былі выкарыстаны, і ў наступныя гады назіраліся працэсы ідэалагічнага падзелу былых удзельнікаў беларускіх выбарчых камітэтаў, а беларуская вёска падпадала пад усё большыя ўплывы радыкальнай камуністычнай прапаганды.

---

[64] ДАГВ, ф. 59, воп. 1, спр. 7, арк. 100.
[65] Тамсама, арк. 97.
[66] Тамсама, арк. 47.
[67] Тамсама, арк. 110.

**Табліца 2. Вынікі выбараў 1922 г. у Сейм па выбарчых участках Гродзенскага павета**

| п/п | Выбарчы ўчастак | Колькасць галасоў за асобныя выбарчыя спіскі | | | | | | | | | | | | | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | № 1 | № 2 | № 3 | № 4 | № 5 | № 7 | № 8 | № 10 | № 12 | № 16 | № 18 | № 20 | № 23 | |
| 1 | Капліца | 400 | 76 | 38 | | 21 | 2 | 102 | 30 | | 128 | 12 | | | 809 |
| 2 | Казловічы | 27 | 34 | 29 | | 2 | | 18 | 4 | | 550 | | | | 664 |
| 3 | Верцялішкі | 60 | 5 | 8 | | 3 | | 138 | 21 | 1 | 413 | 1 | | | 650 |
| 4 | Жыдомля | 1 | 5 | | | 28 | | 244 | | 116 | 342 | 1 | | 1 | 738 |
| 5 | Абуховічы | 36 | 2 | | | 167 | | 132 | | 23 | 261 | | | | 621 |
| 6 | Калбасіно | 31 | 10 | 292 | | | 7 | 230 | 46 | 9 | 37 | 4 | | | 666 |
| 7 | Капцёўка | 4 | | 153 | | | | 231 | 1 | 5 | 162 | 4 | | | 560 |
| 8 | Жукевічы | | 1 | 160 | | 7 | | 176 | | 45 | 245 | | | | 637 |
| 9 | Макараўцы | 396 | 21 | 7 | | 22 | 3 | 202 | | 42 | 178 | 2 | | | 873 |
| 10 | Нятупа | 256 | 1 | 70 | | 2 | 2 | 266 | | 14 | 102 | | | | 713 |
| 11 | Крынкі (мяст.) | 17 | 1 | 64 | 196 | 64 | 2 | 38 | | | 377 | | 2 | 1 | 762 |
| 12 | Крынкі (мяст.) | 65 | 1 | 75 | 128 | 31 | 1 | 74 | | 10 | 395 | 1 | 1 | | 782 |
| 13 | Лікаўка | | 12 | 81 | | 38 | | 305 | 17 | 1 | 481 | | | | 935 |
| 14 | Свіслач | 7 | 76 | 23 | | 118 | | 97 | | 5 | 315 | | | | 641 |
| 15 | Азёры | 2 | 4 | 74 | | | 65 | 50 | 8 | 15 | 520 | | | 4 | 742 |
| 16 | Стрыеўка | 39 | | 195 | | 40 | 1 | 81 | 30 | | 4 | 2 | | | 392 |
| 17 | Губінка | 35 | 1 | 1 | | 35 | 1 | 6 | 15 | 1 | 218 | | | | 313 |
| 18 | Бандары | | | 151 | | 29 | 1 | 3 | 2 | | 311 | | | | 497 |

| | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 19 | Індура | | 21 | 119 | | 4 | | 457 | 3 | 6 | 40 | | | | 650 |
| 20 | Пракапавічы | 3 | 19 | 72 | | 69 | | 467 | 1 | 35 | 306 | 1 | | | 973 |
| 21 | Глябовічы | 335 | | 17 | | 2 | | 585 | 1 | 9 | 143 | | | | 1112 |
| 22 | Індура (мяст.) | | 2 | 52 | | 49 | | 168 | | 12 | 646 | | | | 929 |
| 23 | Малыя Ёдкавічы | | | 69 | | | | 438 | | 12 | 182 | | | | 701 |
| 24 | Вялікія Эйсманты | 2 | | 202 | | 11 | | 200 | | 20 | 340 | 1 | | | 778 |
| 25 | Трацякі | | | 73 | | 25 | | 22 | | 6 | 194 | | | | 320 |
| 26 | Гудзевічы | 10 | | 424 | | 1 | 3 | 171 | | 1 | 175 | 1 | | | 786 |
| 27 | Струга | 9 | | 32 | | 3 | 1 | 105 | | 18 | 423 | | | | 596 |
| 28 | Лунна (мяст.) | 2 | 17 | 78 | | 102 | 47 | 92 | 4 | 5 | 236 | | | | 583 |
| 29 | Лунна | 2 | | 250 | | 98 | 8 | 172 | 1 | 1 | 25 | | | | 557 |
| 30 | Жылічы | 26 | | 75 | | 42 | 3 | 173 | | | 223 | | | | 542 |
| 31 | Дубна | | 3 | 28 | | 66 | | 1 | 4 | | 354 | | | | 464 |
| 32 | Сухінічы | 19 | | 5 | 75 | | 1 | 15 | 2 | 1 | 356 | | | | 474 |
| 33 | Волпа | 28 | | 38 | | | | 414 | | 135 | 417 | | 13 | | 1045 |
| 34 | Дубовая | 55 | | 12 | | 15 | | 68 | | 118 | 209 | | | | 477 |
| 35 | Татаршчына (фальв.) | 1 | | 142 | | 4 | | 68 | | 27 | 59 | | | | 301 |
| 36 | Пятрулін (фальв.) | 6 | 18 | 91 | | 92 | | 110 | 1 | 17 | 235 | 1 | 1 | | 572 |
| 37 | Малая Бераставіца (мяст.) | 1 | 23 | 29 | | 213 | | 151 | | 3 | 446 | | | | 866 |
| 38 | Свіслачаны | 8 | 1 | | 2 | 1 | | 1 | 1 | 4 | 376 | | 1 | | 395 |
| 39 | Крушыняны | 23 | | 28 | | 10 | | 52 | | 7 | 297 | | | | 417 |

| | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 40 | Галынка | | | 14 | | 15 | | 36 | 2 | 4 | 296 | | | | 367 |
| 41 | Вялікая Бераставіца | | 5 | 114 | 37 | 50 | | 162 | 20 | 3 | 452 | | 4 | | 847 |
| 42 | Вялікая Бераставіца | | | 14 | | 1 | | 2 6 | 2 | 5 | 290 | | | | 338 |
| 43 | Цецераўка | | | | | 12 | | 43 | | 16 | 242 | 2 | | 1 | 316 |
| 44 | Ротніца | 416 | | 20 | | | 12 | 45 | | | 21 | | | 2 | 516 |
| 45 | Парэча | 579 | | 234 | | | 50 | 50 | | 15 | 65 | | | 7 | 1000 |
| 46 | Сабаляны | 24 | | 159 | | | | 3 | | 1 | 61 | | | | 248 |
| 47 | Пагарэнда | | | 19 | | | | 2 | | 25 | 370 | | | | 416 |
| 48 | Бершвы | 202 | 1 | 28 | | | 1 | 46 | 1 | 13 | 515 | | | | 827 |
| 49 | Сухары | 2 | 1 | 62 | | 36 | 2 | | 1 | | 179 | | | | 283 |
| 50 | Гожа | 958 | 1 | 31 | | 1 | | 14 | 1 | | | | | | 1019 |
| 51 | Грандзічы | 517 | 18 | 95 | | | 4 | 272 | 4 | 4 | 13 | 13 | | 12 | 952 |
| 52 | Карашава | | | 12 | | 16 | 1 | 19 | | 1 | 245 | 3 | | 1 | 298 |
| 53 | Скідзель | | 33 | 245 | | 102 | | 79 | | 43 | 183 | | | 1 | 686 |
| 54 | Хвайняны | | 36 | 250 | | 432 | | 11 | 1 | 5 | 11 | | | | 746 |
| 55 | Скідзель (мяст.) | | 3 | 9 | 12 | 222 | | 11 | 3 | 12 | 615 | | | 11 | 898 |
| 56 | Каменка | - | 24 | 837 | 1 | - | | 131 | 4 | 18 | 215 | 9 | | | 1174 |
| 57 | Мілаўцы | 1 | 5 | 228 | | 4 | | 63 | | 4 | 404 | | | | 709 |
| 58 | Мікелеўшчына | 29 | | 241 | | | | 175 | | 4 | 181 | | | | 630 |
| 59 | Масты | 5 | | 386 | | 12 | | 180 | 1 | 171 | 88 | | | | 843 |
| 60 | Марцінканцы | | 4 | 17 | | | | 9 | | 16 | 37 | | | 6 | 89 |
| 61 | Ротніца | 126 | | 13 | | | | 2 | | | 30 | | | | 171 |
| 62 | Друскенікі (мяст.) | | 4 | 4 | | | 33 | 176 | 1 | 1 | 118 | | | 1 | 338 |
| 63 | Гродна | 23 | 153 | 8 | 1 | 25 | 78 | 375 | 30 | 60 | 242 | 17 | | 21 | 1033 |
| 64 | Гродна | 3 | 60 | | 8 | 161 | 61 | 178 | 15 | 17 | 429 | 7 | 3 | 14 | 956 |

| | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 65 | Гродна | | 41 | | 6 | 259 | 20 | 56 | 1 | 9 | 474 | 11 | 7 | 5 | 889 |
| 66 | Гродна | | 21 | | 17 | 229 | 1 | 48 | 2 | 7 | 638 | 3 | 5 | 2 | 973 |
| 67 | Гродна | 9 | 95 | 2 | 10 | 18 | 55 | 342 | 33 | 50 | 293 | 17 | 1 | 7 | 932 |
| 68 | Гродна | 7 | 61 | 4 | 11 | 34 | 43 | 283 | 55 | 41 | 358 | 3 | 15 | 8 | 923 |
| 69 | Гродна | 2 | 13 | | 6 | 57 | 11 | 133 | 17 | 9 | 784 | 4 | 3 | | 1039 |
| 70 | Гродна | 8 | 11 | | 10 | 42 | 6 | 48 | 2 | 7 | 488 | 2 | 13 | | 637 |
| 71 | Гродна | 1 | 3 | | 5 | 25 | 3 | 161 | 5 | 10 | 503 | 4 | 9 | | 730 |
| 72 | Гродна | 3 | 31 | 4 | 12 | 68 | 17 | 195 | 4 | 8 | 521 | 5 | 6 | | 874 |
| 73 | Гродна | 2 | 71 | | 17 | 82 | 52 | 124 | 3 | 9 | 280 | 16 | 1 | 3 | 660 |
| 74 | Гродна | 5 | 48 | 2 | 4 | 32 | 58 | 135 | 5 | 8 | 160 | 39 | 3 | | 499 |
| 75 | Гродна | | 43 | | 4 | 102 | 46 | 139 | 2 | 4 | 227 | 2 | 3 | | 572 |
| 76 | Гродна | | 54 | 2 | 1 | 36 | 28 | 97 | 3 | 19 | 392 | 14 | 1 | | 647 |
| 77 | Гродна | | 29 | 1 | 27 | 38 | 73 | 282 | 3 | 37 | 496 | 7 | 1 | 1 | 995 |

**Крыніца:** Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці, ф. 59, воп. 1, спр. 10, арк. 1–181; спр. 13, арк. 3, 102, 191; спр. 11, арк. 27,124; спр. 15, арк. 1–149; спр. 18, арк. 46, 67, 68, 111; спр. 21, арк. 27, 52,102.

№ 1 — Польская народная партыя “Пяст” (PSL-Piast); № 2 — Польская сацыялістычная партыя (PPS); № 3 — Польская народная партыя “Вызваленне” і “Народная лявіца” (PSL „Wyzwolenie” і „Lewica Ludowa”); № 4 — “БУНД” Агульнаяўрэйскі работніцкі звяз у Польшчы (Ogólnożydowski Związek robotniczy w Polsce); № 5 — Камуністычны Звяз пралетарыяту горада і вёскі (Komunistyczny Związek Proletariatu Miast i Wsi); № 7 — Нацыянальная рабочая партыя (Narodowa Partja Robotnicza; № 8 — Хрысціянскі звяз нацыянальнага адзінства (Chrześcijański Związek Jedności Narodowej); № 10 — Нацыянальна-дзяржаўная унія (Unia Narodowo-Państwowa); № 12 — Польскі цэнтр (Polskie Centrum); № 16 — Блок нацыянальных меншасцей Польскай Рэчы Паспалітай (Blok Mniejszości Narodowych Rzeczypospolitej Polskiej; № 18 — Выбарчы камітэт інвалідаў і дэмабілізаваных вайскоўцаў (Komitet Wyborczy Inwalidów i Zdemobilizowanych Wojskowych); № 20 — Яўрэйскі дэмакратычны народны блок (Żydowski Demokratyczny Blok Ludowy); № 23 — Нацыянальная партыя працы (Narodowa Partia Pracy).

## Wybory parlamentarne 1922 r. w powiecie grodzieńskim województwa białostockiego

Pierwsze w historii włączonych w skład Polski po pokoju ryskim 1921 r. zachodnich regionów Białorusi wybory do najważniejszego organu przedstawicielskiego — parlamentu — odbyły się jesienią 1922 r. Wybory te spełniały najwyższe standardy demokratyczne, obowiązujące w ówczesnym świecie. Zgodnie z obowiązująca konstytucją marcową były one powszechne, równe, bezpośrednie, a także odbywały się w głosowaniu tajnym. Zarówno bierne, jak i czynne prawo wyborcze zagwarantowano kobietom.

W niniejszym artykule dokonano próby szczegółowej analizy wyników wyborów parlamentarnych roku 1922 w powiecie grodzieńskim województwa białostockiego. Główny jego cel stanowi określenie czynników wpływających na wyniki wyborów na tym obszarze. Podstawę źródłową badań stanowiły dokumenty komisji wyborczej grodzieńskiego okręgu wyborczego.

Kampania wyborcza roku 1922 zjednoczyła większość białoruskich organizacji politycznych. Utworzono Centralny Białoruski Komitet Wyborczy, którego program przewidywał uznanie państwa polskiego, wskazywał na konieczność przyznania Białorusinom autonomii terytorialnej, wprowadzenia edukacji szkolnej w języku ojczystym, przeprowadzenia reformy rolnej, zrównania wszystkich wyznań religijnych, tworzenia terytorialnej organizacji wojska itd. Białoruscy działacze zdecydowali o utworzeniu jednego bloku wyborczego z przedstawicielami innych mniejszości narodowych.

W powiecie grodzieńskim znaczący wpływ na wyniki wyborów w poszczególnych miejscowościach miały dwa nierozerwalnie związane ze sobą czynniki — wyznaniowy i narodowościowy. Większość żydów i prawosławnych Białorusinów oddała swoje głosy na Blok Mniejszości Narodowych (BMN). Jednakże brak ukształtowanej białoruskiej świadomości narodowej spowodował, że znaczna część prawosławnych Białorusinów zagłosowała na polskie partie lewicowe i komunistów. Bardzo ważnym czynnikiem była aktywność w poszczególnych wsiach cieszących się autorytetem charyzmatycznych zwolenników różnych partii i bloków wyborczych, mogących pociągnąć za sobą wszystkich mieszkańców.

Wybory przebiegały spokojnie, a ich wyniki nie były przez nikogo kwestionowane. Wynik wyborczy Białoruskiego Komitetu Wyborczego w powiecie grodzieńskim można uznać za sukces. Tam, gdzie powstały lokalne struktury Komitetu, zwykle zwycięstwo odniósł BMN. Ich utworzenie można uznać za jednoznacznie związane z przebiegiem kampanii wyborczej, zatem wybory stanowiły swoisty katalizator białoruskiego procesu narodotwórczego. Wyniki wyborów dały szansę strukturyzacji i dalszego rozwoju ruchu narodowego.

каталікаў. Культурны набытак адной канфесійнай групы становіцца запатрабаваным і для другой. Да прыкладу, хлеб, асвечаны ў касцёле ў дзень Св. Агаты (05.02), які лічыцца каталікамі надзвычай эфектыўным абярэгам, у зоне канфесійнага памежжа актыўна запазычваецца і выкарыстоўваецца праваслаўнымі. [А калі выганялі скаціну першы раз?] — *Ну, давалі ей свянцоны хлеб Агацін, гэта ў палякаў свенцяць, вады свянцонай і вербай яе сцебалі на першы раз. А гэтыт хлеб очэнь маіць сілу, Агацін. Гаварылі, дом гарэў і як укінулі хлеба ў агонь гэтага свянцонага — агонь нікуды не пайшоў*[6].

З другога боку, у крызіснай сітуацыі і каталікі маглі разглядаць “рускі” храм як сакральнае месца, дзе можна выправіць жыццёвыя дэвіяцыі ці вылечыць хваробу. *Вось як мне вельмі балела нага, я няпоўныя два месяцы ляжала ў бальніцы, там мне яе і абагравалі, і уколы давалі, быта нага і не баліць. Пакуль я прыйшла з аўтобуса дамоў, я апяць на нагу ступіць не магу. Тады прыйшла да мяне падруга праваслаўная. У мяне ўзяла кветкі півоні, яна кажа — занясу ў цэркаў. Я нарвала ей самых лепшых і кажу ей, каб занесла іх бацюшку, каб ён памаліўся. Кветкі ў алтар пастаўце, мне можа перастанець балець нага — і па сей дзень у мяне нага не баліць. І паколькі я каталічка, але кветкі баба занясла ў праваслаўную цэркву, і мне памагло* (Браслаўскі р-н)[7].

Трэба адзначыць, што выкарыстанне “чужога” храма як дзейснай рытуальнай прасторы фіксавалася яшчэ ў пачатку XX ст. і, верагодна, мае куды больш даўнюю гісторыю. Вядомы этнограф Еўдакім Раманаў назіраў падобную традыцыю ў Гомельскім павеце. “Калі хвароба сур’ёзная, заказваюць літыя ці розныя металічныя выявы розных хворых частак цела: галавы, ног, рук, вушэй, вачэй, грудзей, тулава і г.д. Гэтыя выявы нясуць у бліжэйшы касцёл (але ніяк не ў царкву) і кладуць там перад шанаваным абразом як ахвяру. Адначасова просяць ксяндза адслужыць за плату імшу перад тым абразом за здароўе хворага. Так робяць праваслаўныя. Каталікі, наадварот, просяць адслужыць абедню ў праваслаўнай царкве”[8].

Паказальным выпадкам міжканфесійнага ўзаемадзеяння ў экстрэмальнай сітуацыі ёсць гісторыя, якая адбылася на пажары, калі “польскія” і “рускія” святыні выкарыстоўваліся вернікамі абсалютна некананічным чынам. Пры гэтым праваслаўная жанчына ставіцца да каталіцкіх абразоў з абсалютнай пашанай. *Я пліту вытапіла, пасадзіла дзяўчыну купаць, а ён* (муж — У. Л.) *тут як прыляцеў каля хаты, як закрычаў: “Гарым!” Я глядзь у вакно — дыму поўна. Выбягаю, а ў іх ужо на страху агонь вылятаў, а вецер увесь на нашу старану. Я тады ўзяла, во, Ефрасінню* (абраз — У. Л.). *Пайшла, нічога. Ляціць мая суседка — Мядзвецкая, а ейны мужык — каталік, і Пан Езус*

---

[6] Ж., 1934 г.н., в. Германавічы Шаркаўшчынскага р-на, зап. у 2008 г. У. Лобач.

[7] У. Лобач, *Міф. Прастора. Чалавек: традыцыйны культурны ландшафт беларусаў у семіятычнай перспектыве*, Мінск 2013, с. 302.

[8] Е. Романов, *Белорусский сборник,* т. 8, *Быт белоруса*, Вильно 1912, с. 309.

*укаранаваны, вянок адзеты цярновы. З гэтай іконай туды, на поле, вот тама, тады кругом і туды. Каб вы відзелі, як збунтаваўся агонь! Як з арудзія выстрэліла, і за ёю агонь, усё пайшло на поле. Дык вот, хай бы нас Езус Хрыстос польскі, нас рускіх спасаў. А ён маёй унучцы, ксёндз, абраз Божай Маці аддаў, стары, а ён* (праваслаўны святар — У. Л.) *сказаў католікам аддаць. А я ёй кажу: "Унучка, пастаў на месца, ня ён іх устаўляў, і ня ён іх доўжан убіраць"*[9].

Аднак уяўляць сабе ўзаемаадносіны паміж "палякамі" і "рускімі" выключна ідэальнымі не выпадае. Ставала канфліктаў і на рэлігійнай, і на побытавай глебе. У в. Чарневічы, што на Глыбоччыне, старажылы дагэтуль памятаюць, як "палякі" ў даваенны час хацелі адабраць у іх драўляную скульптуру Св. Яна, што знаходзілася ў праваслаўнай капліцы пад-над святой крыніцай. *Эта была цэлая барба за фігуру Святога Яна, бо палякі сказалі, што ён іхны, а нашы, праваслаўныя, — што наш. Ну і вот, гавораць, што ужэ сягоння палякі будуць красці фігуру Святога Яна. Ну, тада як зазвонюць у цэркві у калакала. Значыць, трывога, сабірацца нада. І тада з акрэсных дзеравень людзі збігаюцца, ну, і начынаецца ругня. Ну, усё раўно асталася, асталася фігура*[10].

Прыналежнасць да розных канфесій цягнула за сабой вельмі істотныя адрозненні ў сферы каляндарных свят, у прыватнасці ў традыцыі шанавання продкаў. Тое, што было святым і неадменным для адных, станавілася прадметам кпінаў для іншых. Прыкладам могуць быць Стаўроўскія дзяды, якія спраўляюцца праваслаўнымі беларусамі Докшыччыны. *Ну, дык гэта палякі смяяліся з беларусоў, што вот Дзяды справляюць, Стаўры-гаўры, гам! Гэта, як шалёна сабака гаўкаець. Эта католікі гэдак смеяліся ўсё*[11].

На побытавым узроўні сварка магла адбыцца паміж суседзямі, калі ў якасці аргументаў выкарыстоўвалася блюзнерства супраць "чужой веры". [А ў чым разніца з той польскай верай?] — *А я не знаю, гэтыя палякі ж рускіх дужа ня любяць, а рускія нічога. Адна баба гаварыла: "Лепей схадзіць у хлеў, чым у цэркву". Мама гаварыць: "Ну, і сядзі ты ў сваім хлеве". Каб ты не вылезла з яго.* [Гэта так полька гаварыла?] — *Ну*[12].

Але агульнай тэндэнцыяй, якую зафіксавалі палявыя даследаванні ў поліканфесійных вёсках памежжа, было імкненне захаваць згоду і добрасуседскія адносіны паміж "палякамі" (каталікамі) і "рускімі" (праваслаўнымі). Напрыклад, валачобнікі на Вялікдзень (польскі ці рускі) абыходзілі ўсе хаты паселішча. Таксама паказальна, што ў міжваенны час шлюбы паміж прадстаўнікамі розных канфесій у рамках лакальнай вясковай супольнасці, хоць і не надта віталіся бацькамі маладых, але былі куды больш пажа-

[9] Ж., 1927 г.н., в. Парадні Мёрскага р-на, зап. у 2019 г. У. Лобач.
[10] Ж., 1929 г.н., в. Чарневічы Глыбоцкага р-на, зап. у 2018 г. У. Лобач.
[11] Ж., 1926 г.н., в. Стараселле Докшыцкага р-на, зап. у 2009 г. У. Аўсейчык, У. Лобач.
[12] Ж., 1927 г.н., в. Ёдлавічы Браслаўскага р-на, зап. у 2018 г. В. Сяргун.

данымі, чым шлюб з “чужынцам”. [А бацькі не былі супраць, што дзеўка хацела пайсці замуж, а ён другой веры?] — *Еслі адзін аднаго любіў, то гэта не страшна было. Гэта не прычом была вера. Як жа тыя хахлы прыехалі, у дванаццатым, трынаццатым гаду прыехалі, то ж не хацелі, каб з імі. Са сваей хацелі, каб жаніліся, адзін с адным*[13].

Апрача шырока распаўсюджанага і гістарычна больш даўняга, чым феномен мяжы 1921 г., канфесійнага чынніка слова “паляк”, сустракаецца і дзяржаўна-палітычнае напаўненне гэтага этноніма. Абапал мяжы палітонім “паляк” азначае адно і тое ж, а менавіта — усё насельніцтва, якое апынулася на тэрыторыі II Рэчы Паспалітай у выніку заключэння Рыжскай дамовы. *Гэта была граніца. Яна тут радам прахадзіла. Мы атнасілісь к Польшы, палякі. Пры Польшчы тады як жылі, як палякі тут былі. А як пасля вайны, Расея стала адно*[14]. [Строга на граніцы было? Ці можна было да ракі падхадзіць?] — *Нельзя. С той стораны можна было. Стаяць, ну, а мы што, сена грабілі… Дак яны, палякі гэныя на нас крычаць, нам здароваюцца. “Што ў вас, — гаворацЬ, — мову адняло? Чаго ня хочыце з намі гаварыць?” А нам нельзя было, барані Бог, к Дзвіне, к раке падходзіць нельзя было*[15].

У першыя пасляваенныя гады выразны кантраст паміж адносна стабільнымі ў эканамічным плане заходнімі раёнамі і спустошанымі ўсходнімі абшарамі ўзмацняў і дыстанцыю паміж “усходнікамі” і “палякамі”, калі апошнія маглі разумецца як асобная нацыя са спецыфічнымі рысамі характару і адметным гаспадарчым укладам. Пры гэтым даволі часта ва ўспамінах гучыць матыў пагарды і “нелюбові” жыхароў Заходняй Беларусі да “ўсходнікаў”, якія вымушаны былі здабываць харчаванне на тэрыторыі былой Польшчы. *Людзі туды хадзілі,* ***але нас не любілі палякі***. [Чаму не любілі?] — *Ну,* ***у іх жа свая нацыя была***. *Яны жылі, свіней многа ў іх, свіны і парасяты малыя. І калі папросяць, ну, хочацца ж есці, а з мамай пойдзеш, усё ж хатомачак нейкі дадуць, вот*. [Вы сказалі, што тыя палякі, яны не такія] — *Не, не, не! Ну, не так, як нашы. Нашы і дадуць, і скарэй у хату завуць, за руку возьмуць і завядуць. І там, што ёсць, які там булён — і хоць ты лопні ды еш. А яны не так. У іх, вот мы прыхадзілі, а ў іх дажэ работніц дзержалі. Вот скоту многа, а ён* (“паляк” — У. Л.) *ходзіць, усы так во толька круціць. Вот такі. Яны людзі ня очэнь харошые. Яны жадные, яны нешта не ўважалі* (нас)[16]; *У Польшчы, канешне, палякі жылі багата*. [А чаго? Чым яны багацейшыя былі?] — *Ну, яны разумнейшыя, мажа, за нас. Там не было калхозаў гэтых, нічога. Жылі едзіналічна — свая ферма, свае скаты, усё сваё было*[17].

[13] Ж., 1936 г.н., в. Чарневічы Глыбоцкага р-на, зап. у 2019 г. У. Лобач, А. Сумко.

[14] М., 1933 г.н., в. Цвеціна Мёрскага р-на, зап. у 2019 г. А. Сумко.

[15] Ж., 1930 г.н., в. Нурава Верхнядзвінскага р-на, зап. у 2019 г. У. Лобач.

[16] Ж., 1928 г.н., в. Махірова Полацкага р-на, зап. у 2019 г. У. Лобач, А. Сумко.

[17] Ж., 1930 г.н., в. Нурава Верхнядзвінскага р-на, зап. у 2019 г. У. Лобач.

Этнічная мянушка "пшэкі" ў дачыненні да палякаў адлюстроўвае ўспрыняцце беларусамі фанетычных асаблівасцей польскай мовы і ёсць актуальнай толькі для "ўсходнікаў". Можна меркаваць, што актуалізацыя гэтай мянушкі адбываецца пасля рэальнага скасавання савецка-польскай мяжы, калі кантакты паміж "заходнікамі" і "ўсходнікамі" сталі інтэнсіўнымі і масавымі. *Вот тут, у том напраўленіі, там ужо была Польша. Ну, і нашы беларусы, абыкнавенные, прастые… аказаліся пад Польшай. Ну, у нас і сталі зваць пшэкамі гэтых. І па сей дзень кажаць: "Хто прышоў у магазін?" — "Пшэкі сёння явіліся"*[18]. Матэрыялы іншых даследаванняў пацвярджаюць, што мянушка "пшэкі" стала актуальнай для зоны савецка-польскага памежжа ўжо пасля 1939 г. *Ужо як адкрылася граніца, тады ўжо пашлі людзі перахадзіць і туды, і сюды. У нас багацей жылі, а там бядней. Нас не любілі гэны.* […] *«Пшэкі вы», — так звалі па-польску*[19]. Трэба адзначыць, што ў паваенны час этнічная мянушка "пшэкі" далёка перасягнула памежную зону і стала папулярнай іранічнай назвай палякаў практычна на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

Для вяскоўцаў заходняй часткі памежжа (калі вынесці за дужкі канфесійны чыннік) паняцце "паляк" было абсалютна канкрэтным і прадметным. Паны, асаднікі, паліцыянты, вайскоўцы, памежнікі, настаўнікі… У пераважнай колькасці выпадкаў ва ўспамінах фігуруюць людзі, якія прадстаўлялі ў Заходняй Беларусі польскія дзяржаўныя інстытуцыі. Ацэначныя характарыстыкі ў кожным асобным выпадку могуць адрозніваццa, але практычна заўсёды ў аповедах рэспандэнтаў задаецца дыстанцыя "мы – яны", бо ніколі тыя палякі не трактаваліся як "нашы". *Ваабшчэ, **палякі, яны малайцы** былі. Такі ў нас быў парадак. Вы можыце прэдставіць, штоб каждый дзень мялі уліцы? Прыдстаўце сабе, штоб падкрашыны былі туалеты, штоб быў парадак усюды*[20]; *У трыццаць дзявятым Польшу разагналі, а тут да трыццаць дзявятага былі ў нас палякі*[21]; *Гасударственныя святы палякі тожа святкавалі, Пілсуцкага смерць… Дык паліцыя ездзіла, людзей дажа с поля ганяла, каб святкавалі*[22].

Звяртае на сябе ўвагу тая акалічнасць, што нават пры ідэнтыфікацыйнай дыстанцыі "мы – яны" палякі ва ўспамінах беларусаў фігуруюць як фактар больш высокай культуры ў параўнанні з мясцовымі рэаліямі і, асабліва, з новай савецкай рэчаіснасцю. [На Дзяды адкладалі троху ежы на стол ці на талерку?] — *На талерку. У нас дзярэўня зачуханыя людзі такія. А ў нас, у Гаражанке, тут многа палякаў было. Тут і пан быў, у нас былі*

[18] Ж., 1935 г.н., в. Шпакоўшчына Полацкага р-на, зап. у 2019 г. Д. Жукаў.

[19] *«За першымі саветамі»: польска-беларускае памежжа 1939–1941 гг. у вусных успамінах жыхароў Беларусі*, уклад. В. Іванова; рэд. А. Смалянчук, Мінск 2019, с. 264.

[20] Ж., 1932 г.н., г. Дзісна Мёрскага р-на, зап. у 2019 г. У. Аўсейчык.

[21] М., 1933 г.н., в. Кадушкі Мёрскага р-на, зап. у 2019 г. А. Саланевіч.

[22] Ж., 1927 г.н., в. Парадні Мёрскага р-на, зап. у 2019 г. У. Лобач.

*культурныя такія людзі*[23]*; У Польшчы добра было, культурна было! Такія тавары, такія кірмашы, такія двары, такія паны красівыя, такія дзеці ў іх! О, пры Польшчы! Вылупілі салдаты вочы, як прышлі ў 39-м сюды. Бедныя, гаротныя салдаты*[24].

Польскія паны і асаднікі ва ўспамінах вяскоўцаў заходняй часткі памежжа характарызуюцца пераважна пазітыўна альбо нейтральна. Пераважна ўзгадваюцца выпадкі асабістых стасункаў пана з сялянскай сям'ёй альбо праца ў панскай гаспадарцы. У наратывах, дзе адлюстраваны перамены 1939 г., даволі часта падкрэсліваецца прадбачлівасць і кемлівасць паноў, якія паспелі ўцячы ў Польшчу да прыходу "саветаў". У адной з такіх гісторый пан дае слушную параду селяніну — не набываць зямлю напярэдадні пераломных падзей. *Там пан быў Юзыфовіч. Тата мой быў кузнец, дык ён прыязджаў, казаў: "Не купляй зямлю". А тады ўсе зямлю куплялі, і мае бацькі купілі дзесяцін шэсць. А ён кажыць: "Не купляй, прадавай. Там, дзе я жыву, будуць бярозы шумець, а дзе я хажу — хлеб будзець расці". Дык і праўда, цяпер паразворывалі і сеюць хлеб, а дзе маёнтак панскі быў — бярозы шумяць*[25]*; А палякі паўязджалі ў Польшчу, пааставаліся дамы іхныя. І тут двор быў… Былі, значыць, такія людзі, мала зямлі было, яны ў пана работалі, а пан ім плаціў.* [Ці добра плаціў?] — *Ну, усяк плаціў, як харашо работаець — болей заплоціць.* [Ці добры пан той быў, што людзі гаварылі?] — *Харошы чалавек быў, харошы. Яны і цяпер у Польшчы жывуць, ужо ня дзеці іхныя, а іхных дзяцей дзеці*[26].

Кемлівасць польскіх паноў, якія прадбачылі перамену ўлады з усімі вынікаючымі наступствамі і своечасова прадалі зямлю, з'ехалі ў Польшчу, у развагах вяскоўцаў проціпастаўляецца неабачлівасці беларускіх сялян, якія ніяк не маглі ўпусціць магчымасць прыдбаць жаданую зямлю па ніжэйшых коштах, але з прыходам "саветаў" усё згубілі. *Мы ж жылі на тэрыторыі Польшчы. І знаеш, што тады цанілася? Зямля. Свая праца не цанілася так, і пуд свой. А цанілася зямля. Болі зямлі — значыць, ты будзеш багацейшы чалавек… Яны (палякі), навернае, зналі, што будуць перамены. Нашы накуплялі зямлю ў палякаў. Яны папрадалі ўсё гэта. Толька некатарые, каторыя асталіся. А так, бальшанство эціх самых, яны з'ехалі ў Польшчу, з гэтым золатам. Тут прыйшлі… эці самыя… у 39-м гаду, сюда, памянялася власць. І нашыя асталіся бяз золата, бяз зямлі. Ну, гэтае золата ўсі роўна ім не патрэбнае было, еслі б на тое пайшло, но факт таго, што іхні пот і гэтат самы, усё гэтае прапала. Ну, а тыя людзі паехалі з карманамі, і яны там нешта змаглі арганізаваць. Тут як бы і абмана няма, но факт таго, што нашы асталіся апяць у гэтах, у дурнях*[27].

[23] Ж., 1938 г.н., в. Гаражанка Докшыцкага р-на, зап. у 2009 г. У. Аўсейчык.
[24] Ж., 1933 г.н., в. Дзедзіна Докшыцкага р-на, зап. у 2009 г. У. Аўсейчык.
[25] Ж., 1928 г.н., в. Несцераўшчына Докшыцкага р-на, зап. у 2009 г. У. Філіпенка.
[26] Ж., 1934 г.н., в. Парадні Мёрскага р-на, зап. у 2019 г. А. Саланевіч.
[27] Ж., 1954 г.н., в. Янкі Докшыцкага р-на, зап. у 2019 г. Ю. Згірскі.

Успаміны пра рэпрэсіі ў дачыненні польскіх паноў і асаднікаў маюць даволі безэмацыйны характар і рэтранслююцца на ўзроўні простай канстатацыі фактаў. *Паноў было многа. Во гэтат лес — пан Буйніцкі, дык яго сразу бальшавікі забралі. Маёнтак быў у Острава. А другі пан з Перавоза, яго даверанае ліцо, лес прадаваў, яго тожа забралі*[28]; *У нас тут людзі абыкнавенныя жылі, каторыя тут паны былі, тыя паўцікалі, тых не было. Тыя, як стала вайна (1939 — У. Л.), тут як сталі наступаць, так яны ўцяклі хто куды. Ну, гэтат адзін Банецкі жыў. Такі ён, ну, якія яны асаднікі былі. Яны, што вайну ваявалі, мусіць ім зямлі надзялілі тутака. Адзін быў Бансероўскі, врачом. Ну, але ён тут не жыў. Тут толькі зямля ягоная, хата была. А ён жыў у Варшаве сам. Прыязжаў, як на дачу. Ну, тады трэці тожа, такі Бялевіч быў. Ай, той ён і бедны быў, але яго тожа забралі, як прыйшлі бальшэвікі, тожа яго забралі. Ён толькі з жонкай быў. Яны старыя былі, а сын нейкі хваравіты, і іх болі не было з сям'і. Яны небагата жылі, ну, і яго сразу забралі. Ён нікуды і не ўцякаў. Ён думаў, што яго ніхто і не зачэпіць. Аж яго і забралі. Тожа забралі і вывезлі*[29].

Можна меркаваць, што нейтральны эмацыйны фон наратываў абумоўлены сацыяльнай і сітуацыйнай дыстанцыяй рэспандэнтаў (іх сем'яў) і ахвяр сталінскага рэжыму з ліку мясцовай польскай эліты, калі пра факт арышту "пана" людзі толькі чулі, але відавочцамі не былі. Не менш важнай акалічнасцю, якая зарэтушавала рэпрэсіі 1939–1940 гг. супраць палякаў у калектыўнай памяці вясковага насельніцтва, сталіся трагічныя падзеі перыяду нацысцкай акупацыі. На тэрыторыях, якія перажылі партызанскую вайну і жудасць нямецкіх карных экспедыцый, даваенныя рэпрэсіі як "месца памяці" ўспрымаліся знакавымі толькі ў тым выпадку, калі яны закранулі сям'ю чалавека і ягоных блізкіх сваякоў, а не "польскага пана".

Адстароненасць і нейтральнасць ёсць адзнакаю ўспамінаў і пра польскіх памежнікаў. Гэта тычыцца як побытавых ці святочных сітуацый мірнага жыцця, так і драматычных падзей верасня 1939 г. [А як Івана Купала святкавалі?] — *Ну, сабіраліс, агонь палілі. Па палякак на кладбішчэ яны палілі агонь, палякі. Аркестр у іх быў, трубы. Стражніца тут была недалёка іхня, там было чэраз рэчку савецкая застава… І вот яны хадзілі гэтую граніцу ахранялі. І на кладбішчэ, пачаму-та на кладбішчэ яны прыязжалі, палілі агонь і піялі: "Нех жые пан Пілсудскі!", — крычалі крэпка. "Нех жые пан Пілсудскі!" Тады быў іхні рукавадзіцель, польскі*[30]; *Стрэляніна была, но не очень жэ, патаму што внезапна, внезапна. Там жэ была польская ж граніца была, былі і жолнежы тада. Но ані былі не гатовы. Не гатовы былі встречаць, встрецідь врагов. А эці ціхонька Дзвіну перабраліся і занялі эту Дзісну. Ну, былі жэртвы, былі жэртвы. Вот Гаёвка была тожэ, стражніца польская называлась. Тут тожэ немножка пастралялі, была жэртв, была нескалька*

[28] М., 1919 г.н., в. Перавоз Глыбоцкага р-на, зап. у 2001 г. У. Лобач.
[29] Ж., 1926 г.н., в. Хралы Глыбоцкага р-на, зап. у 2010 г. У. Філіпенка.
[30] М., 1933 г.н., в. Кадушкі Мёрскага р-на, зап. у 2019 г. А. Саланевіч.

*салдат убіта. Вот польскіх жалнежаў. Ну, а так спакойна прашлі, как эта мы звалі тады, бальшэвікі. Бальшэвікі спакойна прашлі, асоба сапрацівлення не была, вот. Крэпкава такова атпора ад палякав не была*[31].

Калі на ўсходняй старане памежжа матыў узаемнай "нелюбові" актуальны пры апісанні ўзаемадачыненняў з "заходнікамі", трактаванымі як "палякі", то ў заходніх раёнах негатыўныя ацэнкі ва ўспамінах датычацца ўжо этнічных палякаў і Польскай дзяржавы ў цэлым. Перш за ўсё размова ідзе пра вяскоўцаў праваслаўнага веравызнання, сям'я якіх у даваенны час мела значныя матэрыяльныя праблемы (напрыклад, малазямелле).

Трэба ўлічваць і тое, што цяжкае сацыяльна-эканамічнае становішча беларускай вёскі было спрыяльнай глебай для камуністычнай антыпольскай агітацыі і прапаганды. Выпадкі ўцёкаў цераз мяжу ў прывідны "савецкі рай" былі даволі шматлікімі і частымі, пра што пераканаўча сведчаць матэрыялы палявых даследаванняў. Але пры "нелюбові" да палякаў ідэнтычнасць людзей вельмі часта заставалася няпэўнай і неакрэсленай, што ў пэўнай ступені характэрна для пажылых рэспандэнтаў і сёння: *Ну вот, значыт і мсцілі палякі, што ўродзе прадалі эту Польшу, (што) хадзілі, значыт, всё за Расію. Цянулі ўсё, што ў Расіі харашо жыць і ўсё. А ў Польшы не любілі, што Польша толька для палякаў, а для праваслаўных — ніхто*. [Так праваслаўных не любілі палякі?] — *Да, да! Палякі, ані самі сабе цянулі, да! Яўрэі такіе! Як цыгане!*[32]; *Дзед ні любіў дужа польскай уласці. Ён рускі, па-руску умеў гаварыць, а па-польску нада ўжо і ні так гаварыць, дык палякаў дужа ні любіў.* [А дзед размаўляў на такой мове, як і вы?] — *Дык ён размаўляў, умеў жа, па-польску ня умеў, а па-руску, гэтак як мы, ці па-беларуску, ці па-руску, хоць якіі словы скажым па-прастому. Дужа ж чыстых такіх мы ж ня умелі, малаграматныя*[33].

Паказальным ёсць і ўспамін дачкі Паўла Іванавіча Шчарбіцкага, які быў абраны ў кастрычніку 1939 г. дэлегатам Народнага сходу Заходняй Беларусі, што адбыўся ў Беластоку і фармальна задэклараваў факт далучэння Заходняй Беларусі да БССР. *Папа очэнь абажаў рускіх, а палякаў нет.* [А чаго палякаў не любіў?] — *А палякаў не любіў, што Польска толькі для паляка. Вот мы сядзім на печы з братам, а яны гаворуць за сталом, у карты гуляюць: "Польска толькі для паляка, а не для рускага". Значыць, рускія былі, як вам сказаць, як беднякі такія былі яны вродзе. Значыць, палякам не друзья былі, што рускія яны.* [Тата сябе лічыў рускім ці беларусам?] — *Ну, беларус ён быў. Ну, значыць, любіў рускіх і дажа за граніцу хадзіў*[34].

Разам з тым падчас экспедыцый на заходняй старане былога савецка-польскага памежжа сустракаліся пажылыя вяскоўцы з выразнай беларускай

31 Ж., 1927 г.н., г. Дзісна Мёрскага р-на, зап. у 2019 г. А. Сумко.
32 Ж., 1934 г.н., в. Парадні Мёрскага р-на, зап. у 2019 г. А. Саланевіч.
33 Ж., 1922 г.н., в. Янкава Полацкага р-на, зап. у 2010 г. А. Круткін.
34 Ж., 1934 г.н., в. Парадні Мёрскага р-на, зап. у 2020 г. У. Лобач, А. Сумко.

самаідэнтыфікацыяй, сфармаванай яшчэ ў міжваенны час. Адной з адзнак беларускага самаўсведамлення ёсць паняверка ў дачыненні канфесіёнімаў. [Можа тут і палякі жылі?] — *Німа тут. Тока веры не аднэй. Эта якіі гэта палякі? Беларусы! Вера ні адна. Адныя праваслаўныя, другія каталікі*[35]. Успаміны рэспандэнтаў сведчаць, што значную ролю ў фармаванні беларускай свядомасці адыграла міжваеннае беларускае школьніцтва, папулярны друк і, верагодна, дзейнасць гурткоў Таварыства беларускай школы (ТБШ). [А ў Польскую школу хадзілі?] — *Ага, у польскую, рускіх не было. Была беларуская. Тут у саседней дзярэўні, у Баярах была, а после ўжо закрылі. А тады былі беларускія календары, а "Рускае слова" мы выпісвалі з Варшавы. Брат ужо старшы, дык ён перапісаў мне польскія буквы, рускія, і я навучыўся чытаць і пісаць. І тады гэта, любіў календары беларускія чытаць*[36].

Пра актыўнасць ТБШ у памежнай зоне сведчыць факт, калі пажылая вясковая жанчына на памяць дэкламавала патрыятычную беларускую калыханку вядомага грамадскага дзеяча Заходняй Беларусі Міхася Васілька (Міхаіла Касцевіча), якую развучыла яшчэ "за польскім часам": *Ціха у сялянскай хаце / Спіць усё даўно / Толькі бура вые, плача / Стукае ў вакно. / Но на печы стара маці / Кудзельку прадзе / Над павешаннай калыскай / Ціханька пяе: / Спі, сынок мой даражэнькі, / Спі, мой родны сын, / Спі, маленькі, даражэнькі, / Ты ў мяне адзін. / Падрасцеш — тады ўзнаеш, / Хто твой татка быў. / Ён за праўду быў павешан, / Бедненькі Максім. / Ён за праўду быў павешан, / За свой родны край / Ты ж радзіўся беларусам, / Сынок, памятай…*[37].

У прасторы разнастайных ідэнтычнасцей, актуальных для жыхароў памежжа, значную цікавасць уяўляе польская самаідэнтыфікацыя чалавека, якому давялося нарадзіцца і жыць у II Рэчы Паспалітай. Метафарычна яе можна пазначыць як *прывідную польскасць*, якая вызначала самасць чалавека ў даваенны час, але ўжо не актуальная ў жыцці цяперашнім, хоць і працягвае існаваць у ягонай свядомасці і памяці. [А вы сябе кім лічыце?] — *Я быў паляк, тады зробілі беларусам. Ну, так ужо і паміраць прыйдзецца.* [А калі зрабілі?] — *Ну, вот гэта я не магу табе харашо сказаць. Калі з вайны прыйшлі, была перапісь. Ва врэмя вайны мяне прызывалі, быў у польскіх вайсках, і ў ваенным білеце пісалася "паляк". Родны язык — польскі, а тады далі новы білет і перапісалі — "беларус". А мне розьніцы нет — і так жыў, і так жыву*[38].

*Прывідная польскасць*, з аднаго боку, і нібыта актуальная, але не да канца ўсвядомленая і прынятая *беларускасць*, з другога, робіць самаўсведамленне чалавека дваістым, што ўспрымаецца не як трагедыя, але як наканаванасць лёсу, якую трэба проста прыняць. [А кім сябе лічыце?] — *Ну, уродзе,*

[35] Ж., 1934 г.н., в. Рускі Завулак Глыбоцкага р-на, зап. у 2010 г. А. Круткін.
[36] М., 1919 г.н., в. Теравоз Глыбоцкага р-на, зап. у 2001 г. У. Лобач.
[37] Ж., 1915 г.н., в. Псуя Глыбоцкага р-на, зап. у 2001 г. У. Лобач.
[38] М., 1921 г.н., в. Данькі Браслаўскага р-на, зап. у 1993 г. У. Лобач.

*полька.* — [Таму што ў касцёл ходзіце?] — *Ну, не. Ну, пры Польшчы жылі ж, радзіўшыся. І гаварылі ў маладосці па-польску. Тут усе вот такія палякі — ні то палякі, ні то беларусы, ні Богу свечка, ні чорту качарэшка.* ***Палавінікі*** *— ні мы не беларусы шчырыя, ні мы палякі. Язык жа ў нас ня шчыра беларускі. Ну вот у нас "глядзелі", а па-беларуску — "бачылі"*[39].

Палявыя даследаванні на адносна невялікім адрэзку былога савецка-польскага памежжа паказалі, што дзяржаўная мяжа паміж Польшчай і БССР, якая праіснавала 18 гадоў, стала важным фактарам спараджэння новых форм самаідэнтыфікацыі жыхароў усходніх і заходніх раёнаў Віцебшчыны (шырэй — Беларусі). Катэгорыя "паляк" набывае значэнне "жыхар Заходняй Беларусі", якое накладваецца на канфесіянальнае значэнне гэтага тэрміна (каталік = "чалавек польскай веры"). Пры гэтым вяскоўцы Заходняй Беларусі выразна адрозніваюць уласна этнічных палякаў, якія ва ўспамінах пра міжваенны час дакладна суадносяцца альбо з прадстаўнікамі мясцовай польскай эліты ("паны", "асаднікі"), альбо з польскімі дзяржаўнымі службоўцамі.

Пры сітуацыйнай адрознасці характарыстык палякаў (па шкале "добры — дрэнны") ва ўспамінах пра іх заўсёды вытрымліваецца антыномія "мы — яны", пры гэтым самавызначэнне вясковага чалавека можа быць крайне няпэўным. Выключэннем з правіла ёсць два супрацьлеглыя полюсы самаідэнтыфікацыі: выразная беларуская і "прывідная польская", угрунтаваная не на прыналежнасці да касцёла, але на ўсвядомленым факце колішняга польскага грамадзянства і далучнасці да інстытутаў польскай сацыялізацыі (школа, войска). "Прывіднасць" польскасці падобнага роду палягае ў тым, што яна не ўсведамляецца актуальнай яе носьбітамі, але застаецца важным фактам асабістай гісторыі.


### „Polacy" z radziecko-polskiego pogranicza: punkt widzenia ze Wschodniej i Zachodniej Białorusi

Artykuł prezentuje analizę kategorii „Polaka" w różnych wariantach jej rozumienia i interpretacjach ludności wiejskiej byłego pogranicza radziecko-polskiego w obwodzie witebskim. Podstawę źródłową badań stanowią materiały historii mówionej (wspomnienia mieszkańców) zebrane podczas badań terenowych przez Centrum Historii Mówionej Połockiego Uniwersytetu Państwowego.

Analiza zebranych materiałów pozwala stwierdzić, że istniejąca jedynie 18 lat granica pomiędzy Polską a BSRR stała się ważnym czynnikiem wpływającym na powstanie nowych form samoidentyfikacji mieszkańców wschodnich i zachodnich rejonów obwodu witebskiego (szerzej całej Białorusi). Kategoria „Polaka" nabiera znaczenia „mieszkaniec Zachodniej Białorusi", co pokrywa się z


[39] Ж., 1924 г.н., в. Шვяды Браслаўскага р-на, зап. у 1993 г. У. Лобач.

wyznaniowym znaczeniem tego terminu (katolik = „człowiek polskiej wiary"). Przy czym mieszkańcy wsi na Zachodniej Białorusi wyraźnie odróżniali właściwych etnicznych Polaków, którzy w ich wspomnieniach o okresie międzywojennym kojarzyli się albo z przedstawicielami miejscowej polskiej elity („panowie", „osadnicy"), albo z urzędnikami państwowymi. Sytuacyjne rozróżnienie charakterystyk Polaków we wspomnieniach zawsze pojawia się w formie opozycji myoni jednakże własna identyfikacja mieszkańca wsi może być skrajnie niepełna. Wyjątkiem od zasady są dwa przeciwległe bieguny samoidentyfikacji: wyraźnie białoruski i „prawdopodobnie polski", ugruntowane nie na podstawie przynależności do religii, ale na fakcie posiadania dawniej polskiego obywatelstwa i przynależności do instytucji polskiej socjalizacji (szkoła, wojsko). „Widmo" polskości tego rodzaju polega na tym, że nie jest częścią aktualnej świadomości, ale staje się ważnym elementem osobistej historii.

## «Poles» of the Soviet-Polish Border: A View from Eastern and Western Belarus

The article is devoted to the study of the category of «Poles» in various versions of its understanding and interpretation by the rural population living on the Soviet-Polish border in the Vitebsk region. The main source of research was gathered through the collection of oral history of locals, recorded during the expeditions of the Center for Oral History and Field Studies from Polotsk State University.

The analysis of field materials showed that the state border between Poland and the BSSR, which existed for 18 years, became an important factor in generating new forms of self-identification for residents of the eastern and western regions of the Vitebsk region (more broadly — Belarus). The category «Pole» acquires the meaning «resident of Western Belarus», which is superimposed on the confessional meaning of this term (Catholic = «man of the Polish faith»). At the same time, the villagers of Western Belarus clearly distinguished themselves from ethnic Poles, who in their memories of the interwar period clearly relate either to representatives of the local Polish elite («gentlemen», «settlers»), or to Polish civil servants. Given the situational differences in the characteristics of Poles (on the scale of «good — bad»), the antinomy «we – they» is always maintained in the memories of them, and the self-determination of the village man can be extremely uncertain. Exceptions to the rule are two opposite poles of self-identification: clear Belarusian and «ghostly Polish», based not on church affiliation, but on the conscious fact of former Polish citizenship and an affiliation with the institutions of Polish society (school, army). The «appearance» of Polishness of this kind is that it is not realized by its actual bearers, but remains an important fact in personal history.

**Тадэвуш Гавін,**
**доктар габ. (Варшава)**
**ORCID: 0000–0003–3491–5818**

# Палітыка польскіх улад у дачыненні да польскай меншасці ў Беларусі ў 1991–2021 гг.

Палітыку ўлад Польшчы ў дачыненні да беларускіх палякаў у 1991–2021 гг. варта распачаць з канстатацыі таго факта, што камуністычнае кіраўніцтва Польскай Народнай Рэспублікі цалкам ігнаравала сітуацыю польскай меншасці ў БССР[1]. Гэта пацвярджае сакрэтная запіска Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі (ПАРП) ад 14 кастрычніка 1987 г., дзе адзначалася: „Тэма польскай этнічнай групы ў СССР складае адну з г. зв. белых плям у гісторыі народаў Польшчы і СССР. Наша дзяржава, звязаная з Савецкім Саюзам палітычнымі, гаспадарчымі, культурнымі, навуковымі сувязямі і ваенным саюзам, фактычна не займалася праблемамі польскай этнічнай групы ў СССР. Гэта не знаходзіла адабрэння ў польскім грамадстве, а асабліва ў той яго частцы, якая звязана сямейнымі сувязямі з савецкімі грамадзянамі польскага паходжання. Адначасова гэты факт з'яўляецца важным аргументам у барацьбе супраць ПНР, які часта эксплуатуецца заходняй прапагандай, а таксама прадметам вострай крытыкі з боку польскай эміграцыі на Захадзе"[2].

Адсутнасць выразнай палітыкі ПНР у дачыненні да беларускіх палякаў прывяла да таго, што польская этнічная група ў БССР не мела ніякіх арганізаваных форм культурнага і грамадскага жыцця[3]. Пры гэтым палякі БССР не былі выключэннем. Аналагічная сітуацыя склалася ў адносінах да палякаў Літоўскай ССР, дзе ў адрозненне ад БССР функцыянавалі поль-

[1] Палітыка перасялення беларускіх палякаў у Польшчу ў 1944–1948 гг. і г. зв. "рэпатрыяцыя" 1955–1959 гг. сур'ёзным чынам пагоршылі становішча тых, хто вырашыў застацца ў БССР. Гэта была палітыка, якая праводзілася выключна ў інтарэсах улад дзвюх камуністычных дзяржаў. СССР пазбаўлялася нацыянальна свядомай і патрыятычна настроенай часткі польскага насельніцтва ў БССР, а ПНР вырашала праблему засялення заходніх зямель Польшчы, што адышлі ёй ад Германіі. Ад канца "рэпатрыяцыі" і да пачатку "перабудовы" беларускія ўлады працягвалі палітыку, накіраваную на русіфікацыю і дэнацыяналізацыю польскай нацыянальнай меншасці. Культурна-адукацыйнае жыццё ў беларускіх палякаў цалкам адсутнічала.

[2] Archiwum Akt Nowych w Warszawie (AAN), z. 1354, sygn. LXXVI-936, k. 1. Poufna notatka na temat polskiej grupy etnicznej w ZSRR, 14.10.1987; T. Gawin, *O bycie Polakiem. Polacy w Białoruskiej Socjalistycznej Republice Sowieckiej 1944–1991,* Grodno – Białystok 2013, s. 506.

[3] Ibidem.

скія школы і тэатры, дзейнічалі ансамблі і клубы, дзе польскае грамадскае жыццё „квітнела”[4].

Пазней найбольшую актыўнасць у наладжванні супрацы з палякамі СССР (БССР) праяўляла таварыства „Polonia”. З ініцыятывы яго генеральнага сакратара Юзафа Клясы 13 снежня 1987 г. галоўная рада “Паловіі” прыняла рэзалюцыю, у якой заклікала да нармалізацыі кантактаў таварыства з савецкімі грамадзянамі польскага паходжання дзеля задавальнення іх культурных патрэб[5].

У гэтай жа рэзалюцыі рада прызнала памылкай адсутнасць зацікаўленасці палякамі ў СССР з боку “Polonia”. Рада прызнала “справядлівымі і правільнымі […] прэтэнзіі, што ў цяжкія для іх часы мы пакінулі іх сам-насам з іх уласным лёсам. Адказнасць за гэта кладзецца, без усякага сумнення, на польскі бок”[6].

Дзеля гістарычнай праўды трэба прызнаць, што ў 1957 г. была няўдалая спроба польскага боку змяніць сітуацыю з бяспраўным становішчам палякаў у СССР (БССР). Аб гэтым сведчыць інфармацыя Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла ПНР у СССР, накіраваная ў маі 1957 г. у МЗС ПНР, у якой падкрэслівалася неабходнасць таго, каб палякі ў СССР мелі польскія школы з адпаведнымі праграмамі і польскімі падручнікамі, маглі рэалізаваць уласнае права на арганізацыю культурнага жыцця і каб яны разглядаліся нароўні з украінскай, беларускай, літоўскай меншасцямі ў Польшчы і мелі магчымасці стварэння культурна-грамадскіх арганізацый кшталту тых, што маюцца ў Польшчы[7]. На жаль, ЦК ПАРП і польскі ўрад не адважыліся заклікаць улады ў Маскве і Менску да дыялогу, накіраванага на вырашэнне праблем, акрэсленых у лісце польскага пасла ў Маскве.

Бяздзейнасць ЦК ПАРП і польскага ўрада прывяла да таго, што ў гэты выключна спрыяльны час, звязаны з палітычнай адлігай, не адбылося польскага нацыянальнага адраджэння ў БССР. У выніку польскія дзеці па-ранейшаму былі пазбаўлены магчымасці не толькі навучання на роднай мове, але і вывучэння яе ў школах у якасці школьнага прадмета. Гэта, у сваю чаргу, прывяло да мэтанакіраванага пазбаўлення іх нацыянальнай свядомасці, гвалтоўнай русіфікацыі і саветызацыі. На гэтым базіравалася нацыянальная палітыка беларускіх камуністычных улад, якая служыла інтарэсам Крамля, а не ўласнага карэннага народа.

Пералом у палітыцы польскіх улад у дачыненні да палякаў БССР звязаны з візітам Генеральнага сакратара ЦК КПСС Міхаіла Гарбачова ў ПНР 11–16 ліпеня 1988 г. Яго выступ у Сейме, а таксама перад польскай інтэлігенцыяй да-

---

4 AAN, z. 1354, sygn. LXXVI-973, k. 5.
5 Ibidem, sygn. LXXVII-83, k.b.n.
6 Ibidem.
7 *Polskie dokumenty dyplomatyczne 1957*, red. K. Ruchniewicz, T. Szumowski, współpr. P. Długołęcki, Warszawa 2006, s. 281.

ваў надзею на тое, што ў адносінах паміж дзвюма краінамі пачынаецца новы перыяд, у якім становішча палякаў у СССР павінна змяніцца ў лепшы бок[8]. Выступ Войцеха Ярузэльскага быў сігналам да таго, што сітуацыя палякаў у СССР з гэтага моманту знаходзіцца ў сферы інтарэсаў вышэйшай улады Польшчы[9]. Сумесная заява, зробленая 14 ліпеня 1988 г. у Варшаве В. Ярузэльскім і М. Гарбачовым, пацвярджала магчымасць для палякаў у БССР ствараць свае культурна-адукацыйныя арганізацыі, весці грамадскую дзейнасць, накіраваную на развіццё польскай мовы і культуры[10].

23 жніўня 1988 г. Палітбюро ЦК ПАРП загадала польскім структурам улады і польскай дыпламатыі ў СССР распрацаваць план узаемадзеяння з польскай нацыянальнай меншасцю ў СССР (БССР)[11]. У гэту працу актыўна ўключылася Генеральнае консульства ПНР у Менску[12].

Ужо праз 10 месяцаў, у чэрвені 1989 г., у часткова свабодных выбарах у ПНР перамогу атрымала „Solidarność". Роля камуністычнай улады ў працы з польскай нацыянальнай меншасцю ў БССР скончылася. Сур'ёзных змен у становішчы палякаў БССР не адбылося.

У перыяд з чэрвеня 1989 г. па жнівень 1991 г. у Польшчы адбыліся важныя палітычныя падзеі. Першым некамуністычным прэм'ерам стаў Тадэвуш Мазавецкі, а прэзідэнтам, абраным у свабодных дэмакратычных выбарах — Лех Валэнса.

25 лістапада 1989 г. польскія грамадскія дзеячы з СССР былі запрошаны ў польскае пасольства ў Маскве на сустрэчу з Тадэвушам Мазавецкім, які знаходзіўся ў Маскве з афіцыйным візітам. У прамове прэм'ер-міністра прагучала: „Вашы сённяшнія праблемы і магчымасць нашага ўдзелу ў іх пераадоленні былі важным элементам маіх перамоў з Генеральным сакратаром ЦК КПСС і Старшынёй Вярхоўнага Савета СССР Міхаілам Гарбачовым і Старшынёй Савета Міністраў Мікалаем Рыжковым. Польскі ўрад будзе праводзіць актыўную палітыку ў дачыненні да сітуацыі польскай этнічнай групы ў СССР"[13].

---

8 Падрабязней на гэту тэму гл.: *Spotkanie z Polską 11–16 lipca 1988*, Warszawa 1988; *Inteligencja wobec nowych problemów socjalizmu.* Spotkanie Michaiła Gorbaczowa z przedstawicielami polskiej inteligencji. Warszawa 1988; AAN, z. 1354, sygn. LXXVII-70, k. 5.

9 Ibidem.

10 Ibidem, sygn. LXXVI-958, k. 10.

11 Даследаванне палітыкі польскіх улад у дачыненні да палякаў у БССР у 1986–1990 гг. правёў прафесар універсітэта кардынала Стэфана Вышынскага ў Варшаве Марыюш Машкевіч, які працаваў у Беларусі на пасадзе Генеральнага консула РП у Гродне (1994–1997) і быў паслом РП у Менску (1998–2002). Гл.: M. Maszkiewicz, *Repatriacja czy repatriotyzacja? Wybrane problemy polskich strategii politycznych wobec rodaków za wschodnią granicą (1986–1990),* Wojnowice 2017.

12 Гл.: T. Gawin, *O bycie Polakiem...*, s. 502–527.

13 T. Mazowiecki, *Słowo do Polonii Radzieckiej,* „Czerwony Sztandar" 1989, nr 273.



**Прэм'ер-міністр Польшчы Т. Мазавецкі на сустрэчы з польскімі дзеячамі з СССР 25 лістапада 1989 г. Крыніца: архіў СПБ А. Борыс**

Сітуацыя польскай нацыянальнай меншасці ў БССР пачала змяняцца да лепшага. У чэрвені 1990 г. быў створаны Саюз палякаў Беларусі, які стаўся галоўным прадстаўніком польскай нацыянальнай меншасці ў адстойванні яе інтарэсаў як перад беларускімі, так і перад польскімі ўладамі. Распачаліся выезды моладзі на навучанне ў польскія ВНУ на стыпендыі польскага ўрада, а дзяцей — на адпачынак. У Гродне ў 1991 г. у выніку паспяховых перамоў СПБ з гарадскімі ўладамі быў закладзены „падмурак" будучай польскай школы[14]. З дапамогай Польшчы і польскіх грамадскіх арганізацый пачала выдавацца газета „Głos znad Niemna". Гэта было спачатку штомесячнае, а пазней штотыднёвае выданне.

Важнай падзеяй для адраджэння польскасці ў БССР стала стварэнне ў 1990 г. у Варшаве асацыяцыі „Wspólnota Polska", якое замяніла таварыства „Polonia", што дзейнічала ў таталітарнай дзяржаве. Яго супрацоўнікі не былі ў стане працаваць у новых палітычных умовах, а польскія арганізацыі на Захадзе адмаўляліся ад супрацоўніцтва з таварыствам. На пасаду старшыні

[14] Маецца на ўвазе дазвол улад Гродна на адкрыццё двух першых класаў з вывучэннем усіх прадметаў на польскай мове. Таксама ўлады дазволілі запрасіць з Польшчы двух настаўнікаў для працы ў гэтых класах.

асацыяцыі „Wspólnota Polska" быў абраны маршал Сената Польшчы праф. Анджэй Стэльмахоўскі[15].

Перыяд 1988–1991 гг. быў вырашальным для актывізацыі дзейнасці польскіх арганізацый у БССР. Савецкі Саюз, які пачаў распадацца, ператварыўся ў нетрывалае палітычнае ўтварэнне. У выніку скарачаліся магчымасці ўлады БССР супрацьдзейнічаць польскаму нацыянальнаму адраджэнню. СПБ, выкарыстоўваючы спрыяльны палітычны момант і атрымаўшы падтрымку беларускіх дэмакратычных сіл, прымушаў чыноўнікаў ісці на ўступкі ў вырашэнні польскіх праблем. Дзякуючы гэтаму быў закладзены падмурак будучага польскага нацыянальнага адраджэння. СПБ з'яўляўся генератарам ідэй у аднаўленні цалкам разбуранай польскасці ў Беларусі. Адначасна СПБ адыграў важную ролю ў грамадска-палітычным жыцці БССР. Яго дзейнасць была накіравана на набыццё беларускай дзяржавай суверэнітэту і незалежнасці і спрыяла стварэнню адкрытай грамадзянскай супольнасці. Саюз палякаў Беларусі стаў часткай беларускіх дэмакратычных сіл[16].

Распад Савецкага Саюза ў 1991 г. стварыў умовы для атрымання Беларуссю незалежнасці мірным шляхам. Незалежная і суверэнная Беларусь, якая імкнулася трымацца дэмакратычных каштоўнасцей і гарантаваць правы чалавека, узяла пад кіраўніцтвам Станіслава Шушкевіча курс на рэалізацыю патрэб нацыянальных меншасцей, у тым ліку і польскай[17].

Ёсць падставы вылучыць пяць перыядаў у палітыцы польскіх улад у дачыненні да палякаў Беларусі ў 1991–2021 гг.: першы перыяд — 1991–1994 гг., другі — 1994–2000 гг., трэці — 2000–2005 гг., чацвёрты — 2005 г. — сакавік 2021 г. і пяты, які працягваецца і сёння.

## Перыяд вялікіх надзей. 1991–1994 гг.

Гэты пачатковы перыяд для палякаў Беларусі з'яўляўся найбольш спрыяльным для дзейнасці, звязанай з нацыянальным адраджэннем. Палітыка польскай дзяржавы выбудоўвалася такім чынам, каб, з аднаго боку,

[15] Прафесар Анджэй Стэльмахоўскі зрабіў вялікі ўнёсак у развіццё польскага адраджэння ў былых рэспубліках СССР, у т.л. у Беларусі. Дзякуючы яго непасрэднаму ўдзелу і палітычнаму заангажаванню СПБ здолеў здзейсніць план будаўніцтва і адкрыцця польскіх школ у Гродне (1996) і Ваўкавыску (1999). Усе гады яго працы на пасадзе старшыні асацыяцыі „Wspólnota Polska" (1990–2008) СПБ мог разлічваць на яго дапамогу ва ўсіх сферах сваёй культурна-адукацыйнай дзейнасці. Гл.: *Andrzej Stelmachowski. Pragmatyczny Romantyk. Szkic do biografii*. Rozmowy z Profesorem i red. Krystyna Zienkiewicz, Warszawa 2011.

[16] Т. Гавін, *Пад прэсінгам палітыкі. Польская нацыянальная меншасць у Беларусі ў 1919–2017 гг.*, Беласток 2018, с. 289.

[17] VI Пазачарговая сесія Вярхоўнага Савета БССР 19 верасня 1991 г. абрала Станіслава Шушкевіча на пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета БССР.

падтрымліваць незалежнасць і суверэнітэт Рэспублікі Беларусь, а з другога — імкнуцца да таго, каб правы польскай меншасці ў Беларусі на нацыянальнае развіццё былі заканадаўча замацаваны.

Пачатак двухбаковых дыпламатычных адносін паміж Польшчай і Беларуссю да распаду Савецкага Саюза (1989–1991) быў складаны. Так, візіт польскага міністра замежных спраў Кшыштафа Скубішэўскага ў кастрычніку 1990 г. у Менск не прынёс чаканых вынікаў[18]. Галоўнай прычынай было тое, што Беларусь у прыняцці міжнародных рашэнняў працягвала аглядацца на Маскву[19].

Пасля жнівеньскага путчу ў Маскве Вярхоўны Савет БССР 25 жніўня 1991 г. надаў Дэкларацыі аб незалежнасці статус канстытуцыйнага закона. 19 верасня гэтага года назва краіны была зменена на Рэспубліку Беларусь і зацверджана нацыянальная сімволіка — герб „Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг.

Гэты час быў спрыяльны для падпісання паміж Польшчай і Беларуссю дэкларацыі „Аб добрасуседстве"[20], што і адбылося 10 кастрычніка 1991 г. у Варшаве. Дэкларацыю падпісалі прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Кебіч і прэм'ер-міністр Польшчы Ян Кшыштаф Бялецкі. Трэба адзначыць, што падпісаная дэкларацыя нічым не адрознівалася ад той, якую планавалі падпісаць падчас візіту міністра Скубішэўскага ў Менск. Пасля аслаблення пазіцый СССР у свеце пачала зніжацца залежнасць Беларусі ад Масквы[21].

Дэкларацыя пацвярджала прынцыпы непарушнасці пасляваенных межаў, тэрытарыяльнай цэласнасці, мірнага вырашэння спрэчак, неўмяшання ва ўнутраныя справы, забеспячэння правоў і асноўных свабод чалавека, а таксама абодва бакі абавязваліся прытрымлівацца міжнародных норм па іх абароне. Гэта дэкларацыя была першым дакументам, які рэгуляваў адносіны паміж Польшчай і Беларуссю. Таксама яна адкрыла шлях да наладжвання сталых дыпламатычных узаемаадносін, што адбылося 2 сакавіка 1992 г.[22]

---

[18] Гл.: Т. Гавін, *Пад прэсінгам палітыкі…*, с. 332–344; H. Głogowska, *Stosunki polsko-białoruskie w XX wieku. Od Imperium Rosyjskiego do Unii Europejskiej*, Białystok 2012, s. 384–385. K. Fedorowicz, *Białoruś w polskiej polityce wschodniej* [w:] *Stosunki polsko-białoruskie. Historia i polityka*, t. I, Siedlce 2009, s. 89–90; K. Skubiszewski, *Polityka zagraniczna i odzyskanie niepodległości. Przemówienia, oświadczenia, wywiady 1989–1993*, Warszawa 1997, s. 124; *Да візіту К. Скубішэўскага*, „Свабода", кастрычнік 1990, № 11; В. Кебич, *Искушение властью. Из жизни премьер-министра*, Минск 2008, с. 188–189.

[19] Гл.: E. Mironowicz, *Polityka zagraniczna Białorusi 1990–2010*, Białystok 2011, s. 37–39; A. Chodubski, *Stosunki polsko-białoruskie w latach dziewięćdziesiątych* [w:] *Polska polityka zagraniczna w procesie przemian po 1989 roku*, red. A. Żukowski, Olsztyn 1999, s. 148; H. Głogowska, *Białoruś w polityce polskiej między Niemcami a Rosją* [w:] *Polska między Niemcami a Rosją*, red. T. Wallas, Poznań 1999, s. 176; R. Radzik, *Kim są Białorusini?*, Toruń 2002, s. 188–207.

[20] H. Głogowska, *Stosunki polsko-białoruskie w XX wieku*, s. 392.

[21] Падчас візіту Кебіча ў Варшаву ён меў сустрэчу з прэзідэнтам Польшчы Лехам Валэнсам і выступіў у польскім парламенце. Гл.: В. Кебич, *Искушение властью*, с. 312–313.

[22] M. Kępka, *Stosunki polsko-białoruskie*, „Rocznik Polskiej Polityki Zagranicznej", 1992, s. 149–150.

Найбольш важнай падзеяй беларуска-польскіх адносін стаў візіт у Варшаву (23–25 чэрвеня 1992 г.) Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслава Шушкевіча, падчас якога быў падпісаны двухбаковы дагавор „Аб добрасуседстве і дружалюбным супрацоўніцтве”[23]. У артыкуле 14 дакумента гаварылася: „Дагаворныя Бакі пацвярджаюць, што асобы, якія належаць да […] польскай меншасці ў Рэспубліцы Беларусь, маюць права індывідуальна ці сумесна з іншымі членамі сваёй групы на свабоднае захаванне, развіццё і выражэнне сваёй этнічнай, культурнай, моўнай і рэлігійнай самабытнасці без якой-небудзь дыскрымінацыі і ва ўмовах поўнай роўнасці перад законам”[24].

Дагавор гарантаваў польскай нацыянальнай меншасці магчымасць „ствараць, а таксама падтрымліваць дзейнасць уласных асветных, культурных і іншых устаноў, арганізацый і таварыстваў, якія могуць звяртацца за добраахвотнай фінансавай і іншай дапамогай, у т.л. дзяржаўнай, у адпаведнасці з нацыянальным заканадаўствам, мець магчымасць карыстацца сродкамі масавай інфармацыі, а таксама прымаць удзел у дзейнасці міжнародных няўрадавых арганізацый”[25]. Дамова таксама давала права выкарыстоўваць у напісанні польскамоўнае гучанне імя і прозвішча[26].

1992 год быў насычаны беларуска-польскімі кантактамі на ўзроўні прэм’ер-міністраў. У гэты год былі падпісаны пагадненні, якія зацвярджалі галоўныя прынцыпы транспамежнага супрацоўніцтва. Таксама былі адкрыты пасольствы Беларусі ў Польшчы (пасол Уладзімір Сянько) і Польшчы ў Беларусі (пасол Эльжбета Смулкова), адбыўся візіт у Менск польскага прэм’ер-міністра Ганны Сухоцкай, а ў Гродне была арганізавана яе сустрэча з польскім актывам[27].

Падчас перамоў з кіраўніцтвам СПБ у будынку галоўнага праўлення яна заявіла: „Жаданнем нашага ўрада з’яўляецца тое, каб Саюз палякаў Беларусі і далей умацоўваў свае пазіцыі, падтрымліваў польскасць, польскую культуру і польскія народныя традыцыі, быў своеасаблівым польскім лобі ў Беларусі”[28]. У гэты ж дзень позна ўвечары ў будынку Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра адбылася сустрэча прэм’ера Польшчы з польскім актывам. На сустрэчу сабралася каля тысячы чалавек. „З вялікім задаваль-

---

[23] A. Wierzbowska-Miazga, *Wybór dokumentów prawnych dotyczących mniejszości narodowych*, t. II: *Polacy na Białorusi*, Warszawa 2001, s. 254–259.

[24] *Договор между Республикой Беларусь и Республикой Польша о добрососедстве и дружелюбном сотрудничестве.* Вступил в силу 30 марта 1993 г. [w:] Национальный центр правовой информации Республики Беларусь, ИПС “Эталон”, версия 6.7 [11. 10. 2017].

[25] Тамсама.

[26] Гл.: A. Wierzbowska-Miazga, *Wybór dokumentów prawnych dotyczących mniejszości narodowych*…, s. 254–259.

[27] Гл.: H. Głogowska, *Stosunki polsko-białoruskie w XX wieku*, s. 385–402, 581.

[28] T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki. Odrodzenie polskości na Białorusi w latach 1987–2000*, Białystok 2003, s. 236.

неннем, — сказала Ганна Сухоцка, — мы назіраем, як ствараецца незалежная Беларуская дзяржава, а разам з тым адраджаецца польскасць у Беларусі. Можаце быць упэўненыя ў нашай добразычлівасці і дапамозе"[29].

Перыяд 1992–1994 гг. у адносінах паміж Беларуссю і Польшчай быў даволі плённым[30]. 28–29 чэрвеня 1993 г. Беларусь наведаў з афіцыйным візітам прэзідэнт Польшчы Лех Валэнса. Падчас візіту ён сустрэўся са Старшынёй Вярхоўнага Савета Станіславам Шушкевічам, прэм'ер-міністрам Вячаславам Кебічам, міністрам замежных спраў Пятром Краўчанкам, выступіў у беларускім парламенце, а таксама ўдзельнічаў у сустрэчы з палякамі ў Баранавічах і Наваградку[31]. У Баранавічах Лех Валэнса асобна сустрэўся з галоўным праўленнем СПБ, якое агучыла тыя праблемы польскай меншасці, у вырашэнні якіх СПБ спадзяваўся на дапамогу як прэзідэнта, так і польскага ўрада. Напярэдадні сустрэчы не абышлося без спрэчных і напружаных момантаў, якія прадэманстравалі, што кіраўніцтва Брэсцкай вобласці і г. Брэста непрыхільна ставілася да патрабаванняў беларускіх палякаў[32].



**Прэзідэнт Лех Валэнса на сустрэчы з сябрамі галоўнага савета СПБ у Баранавічах. Злева ад прэзідэнта — пасол Польшчы ў Менску Э. Смулкова. 29 чэрвеня 1993 г. Крыніца: архіў СПБ А. Борыс**

[29] Ibidem, s. 237.

[30] Каляндар падзей, звязаных з візітамі і сустрэчамі беларускіх і польскіх афіцыйных асоб, а таксама спіс мерапрыемстваў, якія праводзіліся ў гэты перыяд беларускай нацыянальнай меншасцю ў Польшчы і польскай – у Беларусі. Гл.: H. Głogowska, *Stosunki polsko-białoruskie w XX wieku*, s. 581–587.

[31] Тамсама, s. 403–404.

[32] Гл.: Т. Гавін, *Пад прэсінгам палітыкі…*, с. 335–336.

Як адзначалася вышэй, перыяд парламенцкага праўлення ў Беларусі ў 1991–1994 гг. для СПБ, нягледзячы на ўсе цяжкасці ў рэалізацыі статутных мэт і задач, быў найбольш спрыяльным часам. Былі відавочныя дасягненні ў справе адраджэння польскамоўнай адукацыі. Штогод павялічвалася колькасць школ, у якіх выкладалася польская мова. Улады далі дазвол на будаўніцтва і адкрыццё польскіх школ у Беларусі. Вялася культурная дзейнасць і развіваліся сродкі масавай інфармацыі, як друкаваныя, так і электронныя. Вялізнай палітычнай падзеяй стала адкрыццё ў Гродне Генеральнага консульства Рэспублікі Польшча і прызначэнне генеральным консулам у лістападзе 1994 г. Марыюша Машкевіча[33]. З яго непасрэднай падтрымкай і дапамогай СПБ усталяваў рабочыя кантакты з органамі самакіравання ў Польшчы, з дзяржаўнымі і грамадскімі арганізацыямі, якія неслі дапамогу польскім арганізацыям за мяжой. Консул Машкевіч здолеў выбудаваць канструктыўныя, сяброўскія адносіны з беларускімі дэмакратычнымі партыямі і грамадскімі арганізацыямі, што падтрымлівалі СПБ, на карысць узаемавыгаднага супрацоўніцтва.

Тым не менш нельга ўхіліцца ад пытання, чаму А. Лукашэнка, які публічна сцвярджаў, што будзе садзейнічаць развіццю польскамоўнай адукацыі, а таксама яго ўрад і старая постсавецкая наменклатура негатыўна паставіліся да польскага нацыянальнага адраджэння ў Беларусі.

Прычын такога стаўлення некалькі. Па-першае, прэзідэнт А. Лукашэнка, фарміруючы сваю адміністрацыю і новы ўрад, атачыў сябе кадрамі, дзе ўраджэнцы Беларусі былі ў меншасці. У асноўным гэта былі расіяне, накіраваныя сюды на працу яшчэ ў савецкі час.[34] Імкненне Польшчы ўступіць у Еўрапейскі саюз і НАТА трактавалася імі (таксама, як і кіраўніцтвам Расіі) як пагроза для бяспекі Беларусі. У сувязі з гэтым палякі Беларусі пад уплывам КДБ і іншых спецыяльных службаў разглядаліся імі ў якасці "пятай калоны". У асяроддзі як цэнтральнай, так і мясцовых улад стваралася атмасфера, якія не садзейнічала польскаму нацыянальнаму адраджэнню. Па-другое, кожная адкрытая ў Беларусі польская школа звужала прастору г. зв. "рускага свету"[35]. А гэта ўжо супярэчыла інтарэсам як Расіі, так і расіян, якія жылі ў Беларусі. Па-трэцяе, дэнацыяналізаваныя беларусы ў структурах улады, не заангажаваныя ў працэс развіцця беларускамоўнай адукацыі, прытрымліваліся прынцыпу: „Няма беларускіх школ у рэспубліцы — не дазволім стварэння і польскіх". У такіх умовах далейшае развіц-

[33] H. Głogowska, *Stosunki polsko-białoruskie w XX wieku*, s. 587.

[34] Гл.: M. Maszkiewicz, *Problemy ideologii państwowej na Białorusi* [w:] *Białoruś-dalsza droga ku demokracji.* Redaktor. M. Iwanow, Wrocław 2012; s. 34–71; wersja angielska tekstu: *State Ideology in Belarus: Main Problems and Concepts,* "Warsaw East European Review", vol. 11/2012, p. 79–100.

[35] Гл.: Е. Холмогоров, *Русский мир, что это такое*, [online] http://iamruss.ru/russkij-mir-chto-eto-takoe/, [доступ: 07.07.2021]; Н. Нарочницкая, *Русский мир*, Москва 2007; яна ж, *Сосредоточение России. Битва за русский мир,* Москва 2015.

цё польскамоўнай адукацыі ў Беларусі можна было ажыццяўляць толькі ў канфрантацыі з уладай, пры падтрымцы законных патрабаванняў СПБ з боку шырокіх колаў беларускай грамадскасці, апазіцыйных палітычных партый і грамадскіх арганізацый[36].

## Перыяд натхняльных поспехаў і горкіх паражэнняў. 1994–2000 гг.

Пасля абрання А. Лукашэнкі ў ліпені 1994 г. прэзідэнтам Беларусі беларуска-польскія кантакты і супрацоўніцтва працягваліся. У тэлеграме на яго імя з нагоды перамогі на выбарах Лех Валэнса пісаў: „Існаванне незалежнай беларускай дзяржавы з'яўляецца для Польшчы ўмовай падтрымкі стабільнасці ў Цэнтральнай Еўропе"[37]. Маршалак польскага Сейма Юзаф Алексы, які прысутнічаў на інаўгурацыі прэзідэнта Беларусі 20 ліпеня 1994 г., у сваім выступленні заявіў: „Польшча зацікаўлена ў тым, каб разам з Беларуссю ісці па шляху пераўтварэнняў да інтэграцыі з Еўропай"[38]. Візіт у кастрычніку 1994 г. польскай парламенцкай дэлегацыі ў Менск, у лістападзе — старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі Мечыслава Грыба ў Польшчу і яго сустрэчы з прэзідэнтам Польшчы, прэм'ер-міністрам, маршалкамі Сейма і Сената, а таксама візіт у Польшчу ў студзені 1995 г. А. Лукашэнкі з нагоды 50-годдзя вызвалення канцлагера Аўшвіц і яго сустрэча з Л. Валэнсам давалі надзею на тое, што польска-беларускае супрацоўніцтва будзе развівацца[39].

Кожная сустрэча на вышэйшым узроўні кіраўніцтва Беларусі і Польшчы станоўча ўплывала на дзейнасць СПБ. Не была выключэннем і сустрэча прэзідэнтаў гэтых краін 30 сакавіка 1996 г. у Віскулях у Белавежскай пушчы. Пасля яе прэзідэнт Аляксандр Квасьнеўскі ў Генеральным консульстве Польшчы сустрэўся з прадстаўнікамі беларускай дэмакратычнай апазіцыі. А ўвечары на прыёме ў польскім консульстве прысутнічалі старшыні Брэсцкага і Гродзенскага аблвыканкамаў, туды ж быў запрошаны старшыня СПБ. У грамадскай дзейнасці часта бывае так, што на працягу некалькіх месяцаў не можна дамовіцца з уладамі па якім-небудзь пытанні, а выпадковая сустрэча ў нефармальнай абстаноўцы вырашае ўсе праблемы[40].

Вяртаючыся да сустрэчы прэзідэнта Польшчы Аляксандра Квасьнеўскага з прадстаўнікамі беларускай апазіцыі, варта падкрэсліць, што жаданнем польскага боку было падключэнне да размовы прэзідэнта з апазіцыяй і старшыні СПБ. Тым самым прэзідэнт падкрэсліў, што Польшча падтрымлівае дзейнасць СПБ, накіраваную на супрацоўніцтва з беларускі-

36 Т. Гавін, *Пад прэсінгам палітыкі…*, с. 308–309.
37 „Biuletyn Białoruski", 1994, nr 1, s. 16.
38 Тамсама, с. 7.
39 H. Głogowska, *Stosunki polsko-białoruskie w XX wieku*, s. 405–407.
40 Гл.: T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki...*, s. 327–329.

мі палітычнымі партыямі і грамадскімі аб'яднаннямі, якія змагаюцца за ўсталяванне дэмакратыі ў Беларусі, а ўзамен чакае падтрымкі СПБ у яго барацьбе за нацыянальнае адраджэнне з боку дэмакратычнай супольнасці.

З восені 1996 г. беларуска-польскія адносіны пачалі пагаршацца. Рэферэндум 24 лістапада 1996 г., а перад гэтым зняцце з пасады старшыні Цэнтральнай камісіі па выбарах Віктара Ганчара выклікалі не толькі занепакоенасць у беларускай дэмакратычнай супольнасці, але таксама пратэсты ў Польшчы[41]. Акрамя польскіх афіцыйных структур і палітыкаў з заявамі з нагоды палітычнай сітуацыі ў Беларусі выступіў старшыня Саюза беларусаў у Польшчы Яўген Вапа[42].

Пасля рэферэндуму 1996 г. уся ўлада ў Рэспубліцы Беларусь належала аднаму чалавеку — прэзідэнту А. Лукашэнку. Створаны ім парламент павінен быў легітымізаваць гэту ўладу ў вачах беларускай і замежнай супольнасці. З гэтага часу ўсе дзеянні Лукашэнкі былі накіраваны выключна на ўтрыманне ўлады. Паколькі Польшча не толькі крытыкавала згортванне дэмакратыі ў Беларусі, але і аказвала як маральную падтрымку, так і матэрыяльную дапамогу[43] беларускай дэмакратычнай апазіцыі, то гэта не магло не паўплываць на беларуска-польскія адносіны і стаўленне беларускіх улад да СПБ.

Змены ў адносінах да палякаў Беларусі з боку прэзідэнта А. Лукашэнкі выявіліся падчас яго візіту ў Гродна ў жніўні 1996 г. На пытанні старшыні СПБ, які прысутнічаў на сустрэчы з прэзідэнтам, адказы не прагучалі[44]. Больш за тое, 3 верасня 1996 г. былі звольнены старшыня Гродзенскага выканаўчага камітэта Генрых Крупенка і загадчыца Ленінскага раённага аддзела адукацыі Людміла Маляўка, якія падтрымлівалі будаўніцтва польскай школы ў Гродне[45]. Стала зразумела, што ўлады будуць супрацьдзейнічаць будаўніцтву другой польскай школы ў Гродне і адкрыццю такіх школ у іншых гарадах Беларусі.

У 1997–1999 гг. улады пачалі праводзіць працу, накіраваную на дэзынтэграцыю СПБ, мяркуючы, што калі яны змогуць падпарадкаваць сабе самую актыўную і вялікую польскую грамадскую арганізацыю, то знікнуць шматлікія праблемы, звязаныя з яе актыўнасцю[46]. У гэтай працы прэзідэнт і ўрад раз-

41 Гл.: E. Mironowicz, *Polityka zagraniczna Białorusi 1990–2010*, s. 93–101.

42 E. Wappa, *Oświadczenie*, „Czasopis", 1996, nr 12, s. 2.

43 Адным з прыкладаў дапамогі можна лічыць фінансаванне беларускага транспамежнага радыё „Рацыя".

44 Гл.: R. Karaczun, *Jak w Grodnie witano Prezydenta,* „Głos znad Niemna", nr 34 (224), 26.08–01.09.1996.

45 *Указ президента РБ № 348 от 3 сентября 1996 г.,* "Сборник Декретов и Указов Президента Республики Беларусь за 1966 г.", Минск 1997.

46 М. Гаравы, *Палякаў збіраюцца заклікаць „к порядку"*, „Пагоня", № 37 (414), 3.06.1999. Аўтар аналізаваў ліст кіраўніка Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігіі і нацыянальнасцей, накіраваны ў Савет Міністраў Беларусі, у якім адзначалася, што трэба рабіць, каб паслабіць дзейнасць СПБ і прывесці яго да дэзынтэграцыі.

лічвалі на КДБ і Дзяржаўны камітэт па справах рэлігіі і нацыянальнасцей[47]. Кіраўніцтва СПБ, нягледзячы на тое, што беларуска-польскія адносіны пагаршаліся, працягвала камунікаваць як з цэнтральнай, так і з мясцовымі ўладамі, каб дасягнуць пастаўленых мэт польскага адраджэння[48].

У пэўнай ступені СПБ стаўся закладнікам сітуацыі. Ён нібыта адказваў за палітыку Польшчы і крытыку беларускага рэжыму. 22 студзеня 1999 г. Сейм Польшчы прыняў „Пасланне да народа Беларусі", у якім выказаў маральную падтрымку Вярхоўнаму Савету XIII склікання[49]. У пасланні гаварылася пра павагу да ўсіх дэмакратычных сіл, якія змагаліся з рэжымам[50]. У адказ беларускі ўрад заявіў пра магчымую адмову ў перарэгістрацыі СПБ[51]. Віну за гэта ўлады ўскладалі на СПБ, які ў сваёй дзейнасці нібыта парушаў беларускае заканадаўства. Камітэт па справах рэлігіі і нацыянальнасцей накіраваў ліст у Міністэрства юстыцыі Беларусі з прапановай адмовіць СПБ у перарэгістрацыі[52].

Вяршыняй незадаволенасці кіраўніцтва Беларусі падтрымкай з боку Польшчы беларускай грамадзянскай супольнасці, а таксама дзейнасцю СПБ было выступленне А. Лукашэнкі 18 верасня 1999 г. у тэатры оперы ў Менску з нагоды 60-годдзя далучэння Заходняй Беларусі да БССР. Ён заявіў: „Сотня-другая [апазыцыянераў] у Гродне і іншых гарадах Беларусі, якія высока аплачваюцца Захадам, спрабуюць навязаць уладам польскае пытанне, мы ім гэта не дазволім зрабіць"[53]. Аднак у падрыхтаваным да друку Беларускім тэлеграфным агенцтвам (БЕЛТА) артыкуле гэты фрагмент яго выступлення адсутнічаў[54].

Тым не менш гэта заява прэзідэнта была дырэктыўным указаннем структурам заканадаўчай і выканаўчай улады аб тым, якім чынам трэба будаваць адносіны з СПБ. Таксама гэта быў сігнал для кіраўніцтва Польшчы, які сведчыў, што працяг дапамогі беларускай грамадзянскай супольнасці

---

47 Гл.: T. Gawin, *Polska mniejszość narodowa na Białorusi w latach 1987–2005 a dyplomacja polska* [w:] Polska dyplomacja na Wschodzie w XX – początkach XXI wieku, red. H. Stroński, G. Seroczyński, Olsztyn-Charków 2010, s. 513; idem, *Historia niszczenia niezależności Związku Polaków na Białorusi (1988–2005)* [w:] *Białoruś trudna droga do demokracji*, red. M. Iwanow, Wrocław 2006, s. 83–103.

48 Гл.: T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki...*, s. 364, 368, 372–373.

49 Г. Барбарыч, *Палякі салідарныя з апазіцыяй,* „Пагоня", № 6 (383), 26.01.1999.

50 H. Głogowska, *Stosunki polsko-białoruskie w XX wieku*, s. 418–419.

51 У 1999 г. адбывалася планавая перарэгістрацыя ўсіх грамадскіх арганізацый і палітычных партый.

52 Міністэрства юстыцыі перарэгістравала СПБ, адзначыўшы адсутнасць парушэнняў заканадаўства. Гл.: T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki...*, s. 446–447; AK. (Andrzej Kusielczuk), *Viktoria! Dwudziestego czwartego września Związek Polaków na Białorusi został ponownie zarejestrowany,* „Głos znad Niemna", nr 39 (386), 1.10.1999.

53 А. Лукашенко, *Единство Беларуси: освящённое историей и устремлённое в будущее,* Минск 1999, с. 20–21.

54 *Уз'яднанне Беларусі стала гістарычна справядлівым дзеяннем,* „Звязда", № 180, 21.09.1999.



**Урачыстае адкрыццё польскай школы ў Гродне 21 верасня 1996 г. з удзелам прэм'ер-міністра Беларусі М. Чыгіра і прэм'ер-міністра Польшчы В. Цімашэвіча. Крыніца: архіў СПБ А. Борыс**

паўплывае на абмежаванне свабоды дзейнасці СПБ. Сур'ёзны канфлікт паміж прэзідэнтамі Польшчы і Беларусі адбыўся ў Стамбуле падчас сустрэчы лідараў 52 краін — членаў АБСЕ. Лукашэнка ў сваім выступленні крытыкаваў Польшчу і яе прэзідэнта А. Квасneўскага за ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы Беларусі[55].

Напружаныя адносіны паміж Беларуссю і Польшчай, якія пастаянна пагаршаліся, а таксама згаданая заява А. Лукашэнкі былі асноўнымі прычынамі таго, што 15 лістапада 1999 г. СПБ атрымаў ліст ад улад Гродна, у якім паведамлялася, што няма неабходнасці будаваць другую польскую школу ў горадзе[56]. З гэтага часу амаль усе адукацыйныя ініцыятывы СПБ не падтрымліваліся ўладамі.

Нягледзячы на ўсе цяжкасці ў дзейнасці СПБ, гэты перыяд у яго гісторыі быў самым плённым. Менавіта тады былі пабудаваны і здадзены ў эксплуатацыю польскія школы ў Гродне (1996) і Ваўкавыску (1999), Польскія

[55] Гл.: П. Мажэйка, *Лукашэнка зноў выкарыстаў палякаў,* „Пагоня", № 65, 25.11.1999; AD, [Andrzej Dubikowski], *Bezpieczny świat w nowym milenium. Słowa już padły czekamy na czyny,* „Głos znad Niemna", nr 47, 26.11.1999; N. Malinowska, *Bezpieczna Europa. Udział w szczycie OBWE delegacji z Białorusi,* „Głos znad Niemna", nr 46, 19.11.1999.

[56] Архіў СПБ, дакументы за 1999 г.; [Andrzej Dubikowski], *Bezpieczny świat w nowym milenium. Słowa już padły czekamy na czyny,* „Głos znad Niemna", nr 47, 26.11.1999.

дамы ў Гродне, Баранавічах, Лідзе і Шчучыне. „Głos znad Niemna" меў 8 330 падпісчыкаў. Квартальнік „Magazyn Polski" з 1998 г. выдаваўся сямітысячным накладам і бясплатна рассылаўся падпісчыкам газеты „Głos znad Niemna". Выходзілі штотыднёвыя польскамоўныя перадачы на гродзенскім абласным тэлебачанні і радыё. Акрамя наноў пабудаваных Польскіх дамоў, пад гэту дзейнасць былі прыстасаваны яшчэ 11 капітальна адрамантаваных будынкаў. У 1997–1998 навучальным годзе польская мова ў розных формах выкладалася ў 325 школах Беларусі. Усяго яе вывучалі 19 353 вучні[57].

Слушна заўважыў былы пасол Польшчы ў Менску Марыюш Машкевіч: „Найбольш каштоўным дасягненнем Саюза палякаў на Беларусі да 2000 г. было аб'яднанне ідэі польскага нацыянальнага адраджэння з актыўнай падтрымкай будаўніцтва незалежнай беларускай дзяржавы. […] Стала відавочным, што аспірацыі беларусаў і палякаў не супярэчаць адна адной, што імкненні абедзвюх нацый могуць узаемна дапаўняцца, а іх прадстаўнікі — падтрымліваць адзін другога"[58].

## Пад кантролем улады. 2000–2005 гг.

У лістападзе 2000 г. адбыліся сур'ёзныя кадравыя змены ў кіраўніцтве СПБ. На V пазачарговым з'ездзе старшынёй арганізацыі быў абраны дацэнт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта Тадэвуш Кручкоўскі[59]. Польская дыпламатыя ў Беларусі ўскладала на гэту кандыдатуру вялікія надзеі, разлічваючы на лепшыя вынікі дзейнасці СПБ, асабліва ў сферы польскамоўнай адукацыі. Многія польскія палітыкі лічылі, што ўсе праблемы СПБ былі звязаны з асобай дзейснага старшыні Саюза палякаў, які нібыта палітызаваў працу арганізацыі[60]. Верагодна, такога меркавання прытрымлівалася таксама Міністэрства замежных спраў Польшчы. Яно спадзявалася, што замена старшыні СПБ на чалавека больш лаяльнага ў стасунках з уладамі і не ангажаванага ў палітычную дзейнасць дазволіць наладзіць партнёрскія адносіны з беларускім кіраўніцтвам і вырашыць задачы арганізацыі.

Як паказала развіццё падзей, надзеі на гэты выбар ускладалі і беларускія ўлады, якія разлічвалі такім чынам падначаліць сабе самую вялікую грамадскую арганізацыю ў Беларусі. У пачатку 2001 г. падчас афіцыйнага візіту ў Гродна А. Лукашэнка на сустрэчы з актывам наменклатурных работнікаў Гродзенскай вобл. заявіў: „У сучасны момант грамадска-палітычная

[57] Т. Гавін, *Пад прэсінгам палітыкі…*, с. 327.
[58] M. Maszkiewicz, *Repatriacja czy repatriotyzacja? …*, s. 344.
[59] Гл.: H. Głogowska, *Stosunki polsko-białoruskie w XX wieku*, s. 485–487; *V Zjazd SZ ZPB. Ważna i wielka sprawa*, „Głos znad Niemna", nr 47, 24.11.2000.
[60] Першым кіраўніком СПБ, які ўзначальваў гэту арганізацыю да 2000 г., быў Т. Гавін *(заўвага рэд.)*.

сітуацыя ў Гродзенскай вобласці нармалізавалася, паколькі да кіраўніцтва Саюзам палякаў прыйшлі «нармальныя людзі»”[61].

Новы старшыня адразу пасля абрання зрабіў публічную заяву аб тым, што СПБ больш не будзе супрацоўнічаць з беларускай грамадзянскай супольнасцю, яе арганізацыямі і палітычнымі партыямі[62]. Праблему, якая так доўга непакоіла беларускія ўлады, ён вырашыў адной заявай. Пры гэтым ён не атрымаў і нават не паспрабаваў атрымаць ад улады пэўныя выгады для арганізацыі. Адной з іх мог быць дазвол на будаўніцтва польскай школы ў Наваградку.

У 2000–2005 гг. СПБ фактычна адмовіўся ад працягу барацьбы за будаўніцтва польскай школы ў Наваградку. Таксама не было рэалізавана аніводнай інвестыцыі, звязанай з будаўніцтвам і адкрыццём Польскіх дамоў. У 2005 г. наклад газеты „Głos znad Niemna” ў параўнанні з 2000 г. упаў больш чым у два разы. У 2002 г. абласное тэлебачанне спыніла трансляцыю штотыднёвых польскамоўных перадач[63]. Як слушна заўважыў Войцех Сляшынскі, „згодніцкая палітыка часоў Тадэвуша Кручкоўскага не спрыяла актывізацыі дзейнасці арганізацыі ў культурна-адукацыйнай сферы. […] Улады абмежавалі ўплыў на маладое пакаленне. Пасля 2000 г. у Беларусі не была адкрыта аніводная польская школа”[64]. Спадзяванні на Т. Кручкоўскага з боку дыпламатаў і грамадскіх дзеячаў Польшчы, якія бачылі праблему ў палітызацыі СПБ[65], не спраўдзіліся[66]. Саюз пазбыўся шэрагу дзеячаў, са-

61 Гл.: T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi 1988–2005. Historia działalności*, Białystok 2007, s. 328; T. Gawin, *Nasz los zależy od nas*, „Rzeczpospolita”, 02.05.2002.

62 „Głos znad Niemna”, nr 47, 24.11.2000 r., s. 5.

63 Гл.: T. Gawin, *Stan aktualny i perspektywy rozwoju Związku Polaków na Białorusi* [w:] *Polska mniejszość narodowa na Białorusi. Związek Polaków na Białorusi w 20-lecie działalności*, red. Z. J. Winnicki, T. Gawin, Białystok 2010, s. 276–277.

64 Гл.: W. Śleszyński, *Polityka historyczna a mniejszość polska na Białorusi w latach 1991–2016* [w:] *Polacy na Białorusi od końca XIX do początku XXI wieku. Wybrane problemy stosunków polsko-białoruskich*, red. T. Gawin, Warszawa 2017, s. 531.

65 Менавіта дзякуючы палітычнай актыўнасці ў 1995–2000 гг. СПБ дасягнуў найбольшых вынікаў у сваёй дзейнасці. У гэты перыяд кіраўніцтва СПБ падтрымлівала працоўныя кантакты як з цэнтральнай уладай у Менску, так і з мясцовым кіраўніцтвам. У перыяд супрацоўніцтва СПБ з беларускімі грамадскімі арганізацыямі і палітычнымі партыямі, у т.л. дзякуючы іх падтрымцы, атрымалася пабудаваць і адкрыць польскія школы ў Гродне (1996) і Ваўкавыску (1999). Таксама былі ўзведзены або адаптаваны да культурна-адукацыйнай дзейнасці 14 Польскіх дамоў, у якіх дзейнічалі польскія грамадскія школы. У гэты час выходзілі штотыднёвыя польскамоўныя перадачы на радыё і тэлебачанні Гродна. Поспеху дасягнула газета „Głos znad Niemna”, якая ў 2000 г. мела 8 330 падпісчыкаў. Гл.: T. Gawin, *Stan aktualny i perspektywy rozwoju Związku Polaków na Białorusi…*, s. 271–286.

66 Гл.: M. Maszkiewicz, *Między bezpieczeństwem a tożsamością. Rosyjskie, ukraińskie i białoruskie interpretacje idei i koncepcji w polskiej polityce wschodnie (1990–2010)*, Wrocław 2013, s. 434–436, 476–479.

праўды адданых справе польскага нацыянальнага адраджэння[67], і страціў раней заваяваныя пазіцыі.

Вопыт дзейнасці СПБ у справе адстойвання правоў палякаў (галоўным чынам у сферы польскамоўнай адукацыі) выразна паказаў, што арганізацыя развівалася і дасягала мэты толькі тады, калі дэманстравала сваю рашучасць і гатоўнасць не толькі да перамоў, але і да правядзення публічных пратэстаў. Іншымі словамі, спрацоўваў прынцып „не сіла ў законе, а закон у сіле". У перыяд 2000–2005 гг. было асабліва відавочна, што ў дачыненні да палякаў, якія імкнуліся аднавіць і развіваць польскамоўную адукацыю, беларускае заканадаўства не дзейнічае.

Паўстае пытанне: чаму старшыня СПБ Т. Кручкоўскі, прыхільнік інтэграцыі Беларусі з Расіяй[68], які варожа ставіўся да беларускага нацыянальнага руху, падтрымліваў палітыку беларускіх улад і падпарадкаваў ім дзейнасць СПБ, так і не здолеў атрымаць ад улады прэферэнцый у справе развіцця польскамоўнай адукацыі? Чаму ўсе ранейшыя здабыткі Саюза палякаў Беларусі за перыяд яго праўлення альбо былі страчаны, альбо знаходзіліся на стадыі ліквідацыі?

Адказ патрабуе больш грунтоўнага даследавання. Вядома адно: мэта, якую ставілі перад сабой беларускія ўлады (зніжэнне актыўнасці СПБ у справе адраджэння польскамоўнай адукацыі), была дасягнута. Незалежна ад таго, як развіваліся беларуска-польскія адносіны, улады мелі падначаленае ім кіраўніцтва СПБ. Гэта значыць, што дзейнасць польскай арганізацыі рэгламентавалася беларускімі ўладамі, яна не мела магчымасці самастойна прасоўваць ініцыятывы, звязаныя з нацыянальным адраджэннем.

## Перыяд дэзынтэграцыі. Дзейнасць пад кіраўніцтвам Анжалікі Борыс. 2005 — сакавік 2021 г.

Увесь папярэдні перыяд група актыўных дзеячаў СПБ, у якую ўваходзілі Тадэвуш Малевіч, Юзаф Пажэцкі, Анжаліка Борыс, Станіслаў Пачобут сеньёр, Мечыслаў Яскевіч, Тэрэза Селівончык, Віктар Мацулевіч, Зыгмунд Пелудзь ды інш., рабіла ўсё магчымае, каб вярнуць дзейнасць СПБ

67 У 2001 г. А. Кусяльчук быў пазбаўлены пасады галоўнага рэдактара газеты „Głos znad Niemna", пазней звольнены журналісты А. Пісальнік і А. Пачобут. Газета пачала страчваць сваю папулярнасць, яе наклад змяншаўся, а наступныя галоўныя рэдактары не садзейнічалі таму, каб газета адпавядала патрабаванням чытачоў. У выніку газета спыніла легальнае існаванне, што з'яўляецца вялікай стратай для польскай нацыянальнай меншасці ў Беларусі. Апрача таго, ад дзейнасці ў кіраўніцтве СПБ былі адхілены актыўныя дзеячы намеснікі старшыні арганізацыі Ю. Пажэцкі і В. Кеўляк.

68 M. Maszkiewicz, *Między bezpieczeństwem a tożsamością…*, s. 476–477.

у рэчышча статута, каб рашэнні прымаліся калектыўна, а не аднаасобна Т. Кручкоўскім. Аднак перайграць Кручкоўскага было амаль немагчыма, бо яго дзейнасць падтрымлівалася беларускімі ўладамі, пракуратурай, міліцыяй і КДБ[69].

Адразу пасля заканчэння кадэнцыі Кручкоўскага ў лістападзе 2004 г. беларускія ўлады ўключыліся ў перадвыбарчую гонку на пасаду старшыні СПБ. Пераканаўшыся ў тым, што Кручкоўскі не мае падтрымкі большасці сяброў арганізацыі, а таксама ў галоўным праўленні і галоўнай радзе, яны дазволілі перанесці з’езд на сакавік 2005 года, каб мець час змяніць сітуацыю на яго карысць. У гэты перыяд яны імкнуліся паўплываць на сяброў СПБ у нізавых арганізацыях праз залежных ад улады людзей. Перад самым з’ездам арыштавалі галоўнага прэтэндэнта на пасаду старшыні СПБ Юзафа Пажэцкага. Для вядзення выбарчай кампаніі дазволі Кручкоўскаму выкарыстоўваць орган Савета Міністраў Беларусі газету „Рэспубліка”. На яе старонках Кручкоўскі заявіў: „Грамадская дзейнасць займае шмат часу. Я ўжо думаў, можа, сапраўды ўсё кінуць і пайсці? Але, на маё няшчасце, я разумею, хто і навошта рвецца да ўлады ў СПБ. Гэта людзі, якія думаюць толькі пра сябе і пра свае амбіцыі. Іскра нацыяналізму ў апошні час падпаліла не адну былую савецкую рэспубліку, і, верагодна, нехта хоча „падпаліць” 400 тысяч этнічных палякаў у Беларусі. Я не змагаюся за пасаду, а супрацiўляюся ўцягванню СПБ у палітыку ў прынцыпе. Даказаць, што займаю правільную пазіцыю, зрабілася для мяне ўжо справай гонару”[70].

Сітуацыю павінна была змяніць Анжаліка Борыс, якая 12 сакавіка 2005 г. на VI з’ездзе СПБ была абрана на пасаду старшыні арганізацыі. Беларускія ўлады разумелі, што пасля абрання А. Борыс яны страцяць магчымасць не толькі накіроўваць дзейнасць СПБ у патрэбнае ім рэчышча, як было раней, але і кантраляваць яго. Гэта стала галоўнай прычынай прызнання Міністэрствам юстыцыі рашэнняў VI з’езда не адпавядаючымі беларускаму заканадаўству і статуту СПБ.

Гэтыя падзеі яшчэ больш абвастрылі адносіны паміж Польшчай і Беларуссю. Працягам пагаршэння беларуска-польскіх стасункаў стала правядзенне пры падтрымцы беларускіх улад і пры ўдзеле Т. Кручкоўскага паўторнага з’езда СПБ 27 жніўня 2005 г. у Ваўкавыску, дзе на пасаду старшыні СПБ абралі Юзафа Лучніка. Умяшальніцтва ўлады стварыла сітуацыю, пры якой дзейнічаў адзін Саюз палякаў Беларусі і два яго кіраўніцтвы: адно на чале з А. Борыс, другое — з Ю. Лучнікам. Польшча прызнала кіраўніцтва першай, а беларускія ўлады — апошняга.

69 Гл.: T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi. Historia niszczenia niezależności 1988–2005*, Białystok 2006, s. 116–129.

70 Гл.: Ibidem, s. 114-134; T.Malewicz, *Wewnętrzne i zewnętrzne przyczyny podziałów w Związku Polaków na Białorusi (albo jak zmarnowano ZPB)* [w:] *Polska mniejszość na Białorusi 1988–2009. Ocena minionego dziesięciolecia*, red. Z. J. Winnicki, T. Gawin, Białystok 2009, s. 116–117.

Адбылася дэзынтэграцыя найвялікшай у Беларусі нацыянальнай і грамадскай арганізацыі. Пры гэтым улады, звязаныя з імі беларускія даследчыкі, а таксама дзяржаўныя прапагандысты беспадстаўна абвінавацілі ў дэзынтэграцыі СПБ дэлегатаў з'езда, якія абралі А. Борыс нібыта з парушэннямі беларускага заканадаўства і статута СПБ[71].

Варта адзначыць, што гэту пазіцыю падзяляюць некаторыя польскія даследчыкі, якія дэзынтэграцыю СПБ звязваюць з выбарам А. Борыс на пасаду старшыні СПБ, з ангажаваннем яе і асобных сяброў СПБ у палітычную дзейнасць у Беларусі[72]. Гэта сцвярджэнне, як трапна заўважыў тагачасны маршалак польскага Сейма Владзімеж Цімашэвіч, не мае нічога агульнага з рэчаіснасцю, паколькі: „На пасаду старшыні СПБ была выбрана польская настаўніца з Гродна, дагэтуль палітычна не актыўная"[73].

"Нелегальнае" кіраўніцтва СПБ на чале з Анжалікай Борыс (менавіта такі статус яму прыпісалі ўлады) больш не магло адкрыта дзейнічаць дзеля адраджэння польскамоўнай адукацыі ў Беларусі. „Арганізацыя" Лучніка, як паслухмяная беларускай уладзе марыянетка, не праяўляла ініцыятывы ў развіцці польскай культурна-адукацыйнай працы. Час паказаў, што кіраўніцтва Беларусі не памылілася ў выбары, паколькі праўладная польская арганізацыя не толькі не прасунулася ўперад у справе польскага адраджэння, але і страціла тое, што незаконна прысвоіла[74].

Першая спроба нармалізаваць сітуацыю была зроблена польскім МЗС сумесна з беларускім бокам восенню 2008 г., але яна правалілася. Польскі цэнтральны друк абвінаваціў Міністэрства замежных спраў у Варшаве ў тым, што яно рэалізуе па ўказцы Лукашэнкі яго план адносна СПБ[75].

---

[71] На самой справе гэта была загадзя спланаваная і падрыхтаваная беларускімі ўладамі аперацыя па перадачы кіраўніцтва СПБ у рукі лаяльнага да ўлады чалавека. Пра гэта сведчыць факт узнагароды вышэйшых кіраўнікоў адміністрацыі прэзідэнта, цэнтральнага і мясцовага апаратаў КДБ, МУС, юстыцыі і іншых органаў улады з фармулёўкай „За ўзорную падрыхтоўку і правядзенне на найвышэйшым узроўні мерапрыемстваў, якія ўмацоўваюць стабільнасць у сферы міжнародных адносін". Кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта В. Шэйман, які падпісаў загад аб узнагароджванні, назваў так мерапрыемствы, накіраваныя на дэзынтэграцыю СПБ. Гл.: A. Poczobut, *Decydenci i marionetki*, „Głos znad Niemna", nr 21, 22.09.2005; T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi 1988–2005...*, s. 408–410.

[72] Гл.: J. Maroszek, *Działalność Związku Polaków na Białorusi pod kierownictwem Józefa Łucznika 2005–2009* [w:] *Polska mniejszość narodowa na Białorusi 1988–2009*, s. 102–107.

[73] Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi. Historia niszczenia niezależności 1988–2005,* s. 133–134.

[74] Падчас кіраўніцтва М. Лысага друкаваны орган СПБ „Głos znad Niemna" стаў банкротам, хаця ўлады абяцалі фінансавую падтрымку выдання. Заняпад газеты яшчэ раз засведчыў, што беларускія ўлады не зацікаўлены таксама ў развіцці польскамоўнага друку ў Беларусі.

[75] Гл.: H. Giebień, *Polska wobec mniejszości polskiej na Białorusi w latach 1991–2016 (do października 2016). Zarys problemu* [w:] *Polacy na Białorusi, s. 551–559*; „Rzeczpospolita", 20.09.2008 і 22.09.2008; M. Maszkiewicz, *Między bezpieczeństwem, a tożsamością...*, s. 387.

Другой спробай стала сустрэча міністра замежных спраў Польшчы Радаслава Сікорскага з прэзідэнтам А. Лукашэнкам у лютым 2010 г. у Кіеве[76]. Размова, якая тычылася выключна палякаў Беларусі і СПБ, доўжылася каля гадзіны. Пасля сустрэчы Сікорскі заявіў: „Прэзідэнт Беларусі ўпэўніў мяне ў тым, што можа быць створана група экспертаў, якая за кароткі тэрмін знойдзе рашэнне, што будзе задавальняць абодва бакі”[77]. Сікорскі звярнуўся да польскіх палітыкаў і СМІ з прапановай, каб яны ў сваіх выступленнях і публікацыях не абвастралі адносіны з Беларуссю. Такім чынам, лічыў міністр, магчыма было выпрацаваць карысныя для польскай нацыянальнай меншасці ў Беларусі рашэнні[78].

За некалькі дзён да гэтай сустрэчы прэзідэнт Польшчы Лех Качыньскі прыняў дэлегацыю СПБ на чале з А. Борыс і выказаў сваю салідарнасць з арганізацыяй, а таксама заклікаў Еўрапейскі саюз прызнаць СПБ пад яе кіраўніцтвам[79].

Аднак усе спробы нармалізаваць беларуска-польскія адносіны, а таксама сітуацыю ў СПБ па сённяшні дзень не прывялі да чаканага канструктыўнага выніку. На гэта было некалькі прычын. Трагічная смерць Леха Качыньскага 10 красавіка 2010 г. у авіяцыйнай катастрофе пад Смаленскам прывяла да страты вернага справам СПБ высокага ўзроўню дзяржаўнага дзеяча. Сфабрыкаваныя вынікі прэзідэнцкіх выбараў 2010 г. выклікалі негатыўную рэакцыю ў дэмакратычнай сусветнай супольнасці, у т.л. у Польшчы. Гэта зноў рэзка пагоршыла польска-беларускія адносіны і справы СПБ[80].

Акрамя таго, непаслядоўная палітыка польскага кіраўніцтва (SLD — 2005 г., PO-PSL — 2007–2015 гг.) спрыяла таму, што менавіта ў гэты перыяд беларускія ўлады разгарнулі актыўную кампанію па захопу Польскіх дамоў і перадачы іх ва ўласнасць непрызнаванага Варшавай СПБ. Кульмінацыяй гэтай палітыкі быў гвалтоўны захоп Польскага дома ў Івянцы ў лютым

76 Быў запрошаны на інаўгурацыю прэзідэнта Украіны В. Януковіча.

77 [online] http://www.newsweek.pl/swiat/sikorski-z-lukaszenka-o-polakach-na-bialorusi,54318,1,1.html [dostęp: 08.07.2021].

78 Гл.: A. Czwołek, *Władze polskie wobec problemów mniejszości polskiej na Białorusi w latach 1990–2010* [w:] *Polacy na Białorusi od końca XIX do początku XXI wieku. Tom II. Polityka-społeczeństwo-kultura*, red. T. Gawin, Warszawa 2018, s. 517–531.

79 [online] http://www.newsweek.pl/polska/spotkanie-andzeliki-borys-z-prezydentem-kaczynskim,54157,1,1.html, [dostęp: 08.07.2021].

80 Пытанне нармалізацыі сітуацыі ў СПБ было настолькі сур'ёзным, што знайсці рашэнне, якое б задавальняла абодва бакі канфлікту, было вельмі складана. Польскія грамадскія дзеячы, якія праследаваліся і арыштоўваліся (Ю. Пажэцкі, А. Пачобут, М. Яскевіч, А. Пісальнік, В. Кеўляк), не жадалі весці перамовы з тымі, хто быў уцягнуты беларускімі ўладамі ў палітычную дзейнасць, падтрымліваў рэжым Лукашэнкі і не займаўся праблемамі польскай меншасці. Гл.: T. Gawin, *Stan aktualny i perspektywy rozwoju...*, s. 271, 286.



**А. Борыс на прыёме ў прэзідэнта Польшчы Л. Качыньскага 22 лютага 2010 г. Крыніца: архіў СПБ А. Борыс**

2010 г.[81] Замест таго каб шукаць шляхі вырашэння канфлікту разам з беларускімі ўладамі ў 2005 г., прэм'ер польскага ўрада (і дзеяч SLD) Марэк Бэлька афіцыйна прапанаваў А. Борыс заняць пасаду ганаровага консула РП у Гродне, якую, як вядома, без дазволу беларускіх улад займаць нельга[82].

Таксама даволі часта польскі ўрад лічыў прыярытэтнымі інтарэсы бізнесу, а не інтарэсы польскай нацыянальнай меншасці[83]. Польскія сродкі масавай інфармацыі, асвятляючы канфлікт СПБ з беларускімі ўладамі, слушна заўважылі, што Польшча не брала пад абарону палякаў у Івянцы[84]. Раней падобная сітуацыя з захопам Польскіх дамоў была і ў іншых гарадах Беларусі. Слабая заангажаванасць Варшавы ў праблемы польскай супольнасці Беларусі ў перыяд з 2005 па 2015 г. была галоўнай перашкодай на шляху вырашэння канфлікту, які ўвесь час падаграваўся беларускімі ўладамі.

Пасля прыходу да ўлады ў Польшчы ў кастрычніку 2015 г. палітычнай партыі „Права і справядлівасць" аднавіліся беларуска-польскія перамовы

[81] Гл.: *Władze białoruskie przejęły Dom Polski w Iwieńcu,* [online] https://wydarzenia.interia.pl/zagranica/news-wladze-bialoruskie-przejely-dom-polski-w-iwiencu, nId,874839 [dostęp: 26.03.2022].

[82] H. Głogowska, *Stosunki polsko-białoruskie w XX wieku*, s. 603.

[83] Гл.: T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi. Historia niszczenia niezależności 1988–2005,* s. 200–201.

[84] Z. Wojtkowska*, Iwieniec: Polacy bez Domu,* „Newsweek", 09.02.2010.

на ўзроўні міністраў замежных спраў[85]. Ініцыятыва сыходзіла з польскага боку. 22 сакавіка 2016 г. падчас візіту міністра замежных спраў Польшчы В. Вашчыкоўскага ў Менск адбылася яго сустрэча з міністрам замежных спраў Беларусі У. Макеем.

Пасля сустрэчы на прэс-канферэнцыі Вашчыкоўскі заявіў: „Польшча гатовая дапамагчы Беларусі ва ўсіх накірунках будаўніцтва сучаснай, добра кіраванай, бяспечнай і суверэннай дзяржавы". Падчас сустрэчы міністраў закраналіся праблемы польскай нацыянальнай меншасці ў Беларусі[86]. Вашчыкоўскі адзначыў, што бакі дамовіліся далей размаўляць па гэтым пытанні і весці практычны дыялог[87].

На наступны дзень польскі міністр сустрэўся з прэзідэнтам А. Лукашэнкам. Пацяпленне беларуска-польскіх адносін, якое было ініцыявана міністрам Вашчыкоўскім, ужо 20 ліпеня 2016 г. прынесла першы сур'ёзны вынік у выглядзе падпісанай у Варшаве дамовы „Аб супрацоўніцтве ў сферы адукацыі паміж Беларуссю і Польшчай"[88]. Важным аспектам для СПБ і палякаў у Беларусі ў гэтым дакуменце было тое, што беларускі бок абавязваўся стварыць усе неабходныя ўмовы для развіцця польскай адукацыі. Дамова пашырыла магчымасці для актыўнай дзейнасці ў сферы польскамоўнай адукацыі для польскіх грамадскіх арганізацый.

Афіцыйны візіт маршалка Сената Польшчы С. Карчэўскага ў Менск 5 снежня 2016 г. і яго сустрэчы са старшынямі абедзвюх палат Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь і прэзідэнтам сталі чарговай спробай ліквідацыі дэзынтэграцыі СПБ, але чаканых вынікаў для польскага боку не прынеслі. Пры гэтым С. Карчэўскі заявіў, што ўлады Беларусі ведаюць праблему і гатовы яе вырашаць[89]. Варта заўважыць, што гатоўнасць беларускага боку не ішла далей за выстаўленне невыканальнага патрабавання

[85] Да гэтага ў Польшчы ўлада знаходзілася ў руках кааліцыі „Грамадзянская платформа" (ГП) – Польская сялянская партыя (ПСП).

[86] Трактаваць гэта варта як дыялог пра стан і лёс СПБ.

[87] [online] http://www.polskieradio.pl/5/3/Artykul/1598030, Witold-Waszczykowski-w-Minsku-Polska-gotowa-pomoc-Bialorusi, [dostęp: 08.07.2021].

[88] Дамову падпісалі намеснік міністра замежных спраў Беларусі Алена Купчына і намеснік міністра замежных спраў Польшчы Марак Зюлкоўскі.

[89] Падрабязней на гэту тэму гл.: R. Szoszyn, *Białoruś: Ważą się losy Związku Polaków*, [online] http://www.rp.pl/Polityka/311019934-Bialorus-Waza-sie-losy-Zwiazku-Polakow.html#ap-1 [dostęp: 07.07.2021]; *Karczewskiego i Miasnikowicza rozmowy o ZPB*, [online] http://znadniemna.pl/19971/karczewskiego-miasnikowicza-rozmowy-o-zpb/ [dostęp: 07.07.2021]; *Marszałek Senatu RP spotkał się z Łukaszenką*, http://znadniemna.pl/19958/marszalek-senatu-rp-spotkal-sie-lukaszenka/ [dostęp: 07.07.2021]; *Co dalej ze Związkiem Polaków na Białorusi,* [online] https://www.magnapolonia.org/lukaszenka-do-karczewskiego-zawsze-zylismy-w-zgodzie-i-przyjazni-mamy-bliska-a-czasem-wspolna-historie/ [dostęp: 07.07.2021]; A. Poczobut, *Ciepły człowiek i zabójstwa polityczne*, [online] http://wyborcza.pl/7,75968,21090890, cieply-czlowiek-i-zabojstwa-polityczne.html [dostęp: 07.07.2021].

пра аб'яднанне дзвюх арганізацый у адну, падкантрольную ўладам Беларусі[90]. Візіт маршалка Сената праблему дэзынтэграцыі СПБ не вырашыў, але стварыў спрыяльны клімат для правядзення IX з'езда СПБ у Гродне 10 снежня 2016 г. Яго дэлегаты ўпершыню з 2005 г. не зазналі прэвентыўных арыштаў і запалохванняў[91].

Нічога новага не ўнёс у дзейнасць СПБ візіт у Беларусь дэлегацыі на чале з віцэ-маршалкам Польскага сейма Р. Цярлецкім у жніўні 2017 г. Пытанні легалізацыі дзейнасці СПБ не былі вырашаны. Таксама не вырашылася пытанне пра ўключэнне польскага тэлебачання „Палонія" ў беларускую кабельную сетку. Беларускай умовай легалізацыі дзейнасці СПБ пад кіраўніцтвам А. Борыс было аб'яднанне дзвюх арганізацый.

Беларускія ўлады ставілі невыканальныя ўмовы ў справе легалізацыі дзейнасці СПБ, якім кіравала Анжаліка Борыс. Іх выкананне азначала страту самастойнасці і незалежнасці, падначаленне ўладзе. З гэтым, натуральна, ні польскі бок, ні СПБ Анжалікі Борыс пагадзіцца не маглі.

Пры гэтым варта прызнаць, што пасля прыходу да ўлады ў Польшчы „Права і справядлівасці" (2015) беларуска-польскія дачыненні пачалі паляпшацца. Новым у палітыцы Польшчы, як лічыць Яўген Мірановіч, стала яе адмова ад місіі дэмакратызацыі Беларусі. Падобна, што ў Польшчы прыйшлі да высновы пра яе безвыніковасць. Улады Польшчы дэманстравалі гатоўнасць прыняць Беларусь такой, якая яна ёсць[92]. Два гады добрых палітычных двухбаковых адносін не стваралі ніякіх перадумоў да іх пагаршэння ў новым 2018 г.[93]

---

[90] Гл.: *Спикер Сената Польши: Мы не будем „торговать" независимыми СМИ, белорусской оппозицией и польским национальным меньшинством,* [online] http://www.moyby.com/news/249463, [dostęp: 07.07.2021].

[91] Адзіным дэлегатам з'езда, якога беларускія ўлады не дапусцілі да ўдзелу, быў ксёндз Аляксандр Шэмет, капелан СПБ з 1990 г. Гл.: R. Szoszyn, *Andżelika Borys jednoczy Polaków na Białorusi*, „Rzeczpospolita", 12.12.2016.

[92] Палітыку польскіх улад у дачыненні да палякаў Беларусі ў перыяд з 2005 па 2017 г. грунтоўна даследаваў прафесар Аркадыюш Чволэк. Гэта дазваляе пакінуць гэта пытанне па-за межамі майго даследавання. Гл.: A. Czwołek, *Zmiana czy kontynuacja? Polityka władz polskich wobec środowisk polonijnych na Białorusi w latach 2010–2015* [w:] *Polacy na Białorusi od Powstania Styczniowego do XXI wieku, t. IV: Rok 1920 na tle przełomów politycznych XX wieku*, red. T. Gawin, Warszawa 2020, s. 611–624; A. Czwołek, *Polityka władz Polski wobec Związku Polaków na Białorusi w latach 2016–2017* [w:] *Polacy na Białorusi od Powstania Styczniowego do XXI wieku, t. V: Traktat ryski i jego konsekwencje dla Polaków i Białorusinów*, red. T. Gawin, Warszawa 2021, s. 611–636. Таксама гл.: *Rządowy program współpracy z Polonią i Polakami za granicą w latach 2015–2020*, [online] https://www.gov.pl/web/dyplomacja/rzadowy-program-wspolprac-z-polonia-i-polakami-za-granica-w-latach-2015–2020 [dostęp: 14.07.2021]; M. Maszkiewicz, *Polityka rządu RP wobec mniejszości polskiej na Białorusi w okresie 2008–2015. Wybrane zagadnienia* [w:] *Polacy na Białorusi. Od końca XIX do początku XXI wieku. Wybrane problemy stosunków polsko-białoruskich*, red. T. Gawin, Warszawa 2017, s. 507–512.

[93] Гл.: T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi 1988–2005. Historia działalności*, s. 410–418.

Варта адзначыць, што палітыка беларусіх улад у дачыненні да польскай нацыянальнай меншасці і яе галоўнага прадстаўніка СПБ у 2018–2020 гг. не змянілася. Не адбылося істотных змен і ў палітыцы Польшчы. Яна па-ранейшаму падтрымлівала дзейнасць СПБ, але пры гэтым не магла ніяк уплываць на кіраўніцтва Беларусі. Прычына такога становішча спраў заключалася ў тым, што польскі бок не меў ніякіх сур'ёзных механізмаў уплыву на беларускае кіраўніцтва. Польшча і Беларусь падтрымлівалі дзейнасць розных польскіх арганізацый у Беларусі.

Пералік нявырашаных праблем не змяншаўся, а павялічваўся. Улады падрыхтавалі комплекс паправак у Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адукацыі, якія павінны былі істотна паўплываць на далейшае функцыянаванне польскіх школ у Гродне і Ваўкавыску як польскамоўных. Не спыняўся працэс „выціскання" польскай мовы з беларускіх дзяржаўных школ, геаграфія яе выкладання звужалася з года ў год. У польскую школу ў Гродне, парушаючы беларускае заканадаўства, не прымалі ўсіх дзяцей, якія жадалі ў ёй вучыцца. У школе не вырашана пытанне з падручнікамі на польскай мове. Гэтыя і шэраг іншых праблем, у т.л. звязаных з выданнем папяровых і электронных сродкаў інфармацыі на польскай мове, сведчылі аб тым, што рэжым у дачыненні да польскай меншасці не змяніў палітыку, накіраваную на далейшую русіфікацыю і маргіналізацыю палякаў.

Такім чынам, няма нічога дзіўнага, што ў жніўні 2020 г. СПБ падтрымаў імкненне беларускага народа да перамен у палітычным і дзяржаўным ладзе Беларусі, а яго старшыня А. Борыс гэту падтрымку пацвердзіла 16 жніўня ў сваім публічным выступе на агульнагарадскім мітынгу ў Гродне. У Беларусі, якой кіруе А. Лукашэнка, у польскай нацыянальнай меншасці няма шанцаў на рэалізацыю сваіх канстытуцыйных палітычных праў, як і ў прадстаўнікоў тытульнай нацыі — беларусаў. Прычына — у адсутнасці ў краіне прававой культуры і законнасці, бо „часам не да законаў"[94].

У палітыцы польскіх улад і далей адным з галоўных застаецца пытанне дэзынтэграцыі СПБ, але яго вырашэнне магчымае толькі пасля дэмакратычных перамен у Беларусі.

## Шляхамі губернатара Мураўёва?

Падзеі сакавіка 2021 г., калі Міністэрства замежных спраў Беларусі выслала з краіны генеральнага консула Польшчы ў Гродне д-ра Яраслава Ксёнжэка, а пазней па абвінавачанні ў "распальванні нацыянальнай розні і гераізацыі нацызму" былі арыштаваны дзеячы СПБ Анжаліка Борыс, Анджэй Пачобут, Ірэна Бярнацкая, Марына Цішкоўская і Ганна Панішава, схіляюць да аналогіі паміж дзеяннямі сучаснай беларускай улады і царскай

[94] [online] https://nn.by/?c=ar&i=258800&lang=ru; https://news.21.by/other-news/2020/09/10/2117746.html [dostęp: 02.07.2021].

або сталінскай палітыкай вырашэння "польскага пытання". І гэта нягледзячы на тое, што палякі з'яўляюцца карэнным насельніцтвам Беларусі, якое жыве тут на працягу стагоддзяў.

На сённяшні дзень за кратамі застаецца толькі А. Пачобут. І. Бярнацкая, М. Цішкоўская і Г. Панішава былі высланы з Беларусі, а мера затрымання А. Борыс 25 сакавіка 2022 г. была заменена на хатні арышт.

На пачатку красавіка гэтага года бацькі дзяцей, якія навучаліся ў польскіх школах у Гродне і Ваўкавыску, даведаліся, што ў наступным навучальным годзе школы будуць працаваць на расейскай мове[95].




**Апошні выступ генеральнага консула РП у Гродне / д-ра Я. Ксёнжэка перад палякамі і гасцямі Гродна і вобласці. / 3 сакавіка 2021 г. Крыніца: архіў СПБ А. Борыс**

У заключэнне варта адзначыць, што ў сучасных палітычных умовах ніякія ініцыятывы з боку польскіх улад не ў стане змяніць становішча польскай нацыянальнай меншасці ў Рэспубліцы Беларусь. Палітыкі Польшчы не маюць аніякіх рычагоў уплыву на беларускае кіраўніцтва.

У сувязі з гэтым паўстае пытанне: што неабходна зрабіць для таго, каб палякі ў Беларусі маглі рэалізаваць гарантаваныя ім заканадаўствам правы на неабмежаванае нацыянальнае развіццё, а польскія ўлады маглі ім у гэтым дапамагчы? Адзіны спосаб вырашэння гэтай задачы — рэканструкцыя палітычнай сістэмы ў Беларусі. Змена палітычнага ладу, правядзенне свабодных выбараў, у т.л. і прэзідэнцкіх, арганізацыя ўлады народа, прынцып якой прапісаны ў Канстытуцыі Беларусі, стварылі б умовы для паляпшэння міждзяржаўных беларуска-польскіх адносін і забяспечылі б спрыяльны клімат для развіцця польскай культуры і польскамоўнай адукацыі ў Беларусі.

[95] [online] https://www.polskieradio.pl/396/7816/Artykul/2935510, Беларусь-Будзе-русіфікацыя-польскіх-школ, [dostęp: 17.04.2022].

## Polityka władz polskich wobec polskiej mniejszości na Białorusi w latach 1991–2021

W artykule podjęto próbę analizy polityki polskich władz wobec polskiej mniejszości narodowej na Białorusi w latach 1991–2021. Wskazano na jej pozytywne strony, prowadzące do określonych sukcesów w rozwoju polskiej mniejszości narodowej na Białorusi, a także na jej błędy i porażki. Oprócz tego sformułowano dwa ważne wnioski:

We współczesnych warunkach politycznych żadne inicjatywy polityczne władz polskich nie są w stanie doprowadzić do kardynalnych zmian w sytuacji polskiej mniejszości narodowej w Republice Białoruś. Władze Polski nie mają żadnych realnych instrumentów oddziaływania na władze białoruskie.

Polacy na Białorusi będą mogli skorzystać z gwarantowanego im przez ustawodawstwo białoruskie prawa do nieskrępowanego rozwoju, a polskie władze będą mogły im w tym pomóc tylko wtedy, gdy nastąpi rekonstrukcja politycznego systemu na Białorusi. Zmiana ustroju politycznego, wolne wybory, w tym prezydenckie, ustanowienie władzy ludu, zapisanej w Konstytucji Białorusi niewątpliwie stworzyłyby warunki do rozwoju stabilnych, dobrosąsiedzkich stosunków białorusko-polskich, tworzących sprzyjający klimat do rozwoju kultury polskiej i oświaty polskojęzycznej na Białorusi.

## The Policy of Polish Authorities towards the Polish Minority in Belarus in the years 1991–2021

The article attempts to analyze the policy of the Polish authorities towards the Polish national minority in Belarus in the years 1991–2021. Its positive sides were pointed out, leading to certain successes in the development of the Polish national minority in Belarus, as well as its mistakes and failures. In addition, two important conclusions were made:

1. In contemporary political conditions, no political initiatives of the Polish authorities have been able to bring about cardinal changes in the situation of the Polish national minority in the Republic of Belarus. The Polish authorities do not have any real instruments to influence Belarusian authorities.

2. Poles in Belarus will be able to take advantage of the right to unhampered development guaranteed by Belarusian legislation, and the Polish authorities will be able to help them only when the political system in Belarus is reconstructed. A change in the political system, free elections, including presidential elections, and the establishment of people's power, enshrined in the Constitution of Belarus, would undoubtedly create conditions for the development of stable, good-neighborly Belarusian-Polish relations, creating a favorable climate for the development of Polish culture and Polish-language education in Belarus.

# „W tej chwili rola humanistyki jest większa niż kiedykolwiek…” Z profesorem Leszkiem Zasztowtem rozmawia Aleksander Smalianczuk



**Leszek Zasztowt**

**AS**: Jesteś znanym w Polsce i za jej granicami historykiem. A jaki był początek? Co wyznaczyło ten wybór życiowy? Przecież w dzieciństwie prawie nikt nie myśli o tym, żeby zostać naukowcem.

**LZ**: Przede wszystkim powiedzmy sobie, że w gruncie rzeczy tak jak bardzo wielu młodych ludzi do ukończenia matury (czyli w moim przypadku, gdy miałem osiemnaście lat) także naprawdę nie wiedziałem, co dalej. Do tego, jak większość moich kolegów, nie miałem jakichś szczególnie sprecyzowanych zainteresowań. Zawsze interesowałem się historią, ale miałem również dużo innych zainteresowań. Czasami te inne zainteresowania były ważniejsze — w tym okresie właśnie, do osiemnastego, dziewiętnastego roku życia.

Jednym z tych zainteresowań lub pasji była idea zdawania na Akademię Sztuk Pięknych i zostania grafikiem. Chciałem zostać nie tyle malarzem sztalugowym, ale grafikiem. Dwa razy zdawałem na Akademię Sztuk Pięknych w Warszawie, dwa razy przeszedłem przez etap teczek, ale ostatecznie się nie dostałem. Jednak groziło mi rzeczywiste ryzyko pójścia do wojska i żeby nie pójść tam, zdawałem również na Uniwersytet.

I dwa razy dostałem się na historię. Za pierwszym razem była to historia z przysposobieniem obronnym, gdyż wykazałem się nie najlepiej: w ogóle się nie przygotowałem do tych egzaminów, tylko poszedłem tak z marszu, z ulicy, ponieważ miałem piątkę z przysposobienia obronnego. Skończyłem bowiem szkołę, która wtedy nazywała się imienia Ludowego Lotnictwa Polskiego (to jest XXXIX liceum w Warszawie) i podlegała, że tak powiem, siłom powietrznym kraju. I to

тывах службовай кар'еры на дзяржаўных і выбарных пасадах, а таксама ў доступе да некаторых відаў рэсурсаў (зямлі).

Прадметам аўтарскага вывучэння з'яўляюцца не толькі рэпрэсіўныя, забарончыя ці абмежавальныя захады царскай адміністрацыі ў дачыненні да жыхароў беларуска-літоўскіх зямель. У манаграфіі досыць шмат увагі надаецца дзейнасці па русіфікацыі краю. У першую чаргу гэта адносіцца да царкоўнага будаўніцтва, а таксама сістэмы адукацыі. Што тычыцца першага, то тут С. Вех прыйшоў да высновы, што крокі ў адносінах да праваслаўнай царквы былі цалкам супрацьлеглыя тым, што рэалізоўваліся ў дачыненні да каталіцкага касцёла і духавенства.

Шмат увагі аўтар удзяляе праблеме школьнага будаўніцтва. Менавіта сістэма адукацыі, згодна з логікай тагачасных улад, павінна была стаць ключавым элементам у фармаванні нацыянальнай самасвядомасці новага пакалення мясцовых жыхароў. У кнізе дэталёва разгледжаны не толькі мэты гэтай палітыкі, але і шляхі яе рэалізацыі ў галіне пачатковай, а таксама сярэдняй і сярэдняй спецыяльнай адукацыі. Таксама досыць важную ролю ў сістэме мерапрыемстваў па пераўтварэнні краю царызм адводзіў кадравай палітыцы, якая між іншым заключалася ў маштабнай акцыі па прыцягненні чыноўнікаў розных ведамстваў з тэрыторыі "вялікарускіх губерняў". Гэта пытанне ў той ці іншай ступені закранаецца ў кожным з раздзелаў.

Адначасна аўтар распрацоўвае сюжэты, якія наўпрост не тычацца абранай ім тэмы. Напрыклад, ён разглядае забарону ўлад на літоўскі друк (абмінаючы пры гэтым беларускі), некаторыя абмежавальныя меры ў дачыненні да яўрэяў. У тэксце вельмі часта сустракаюцца адсылкі да сітуацыі на землях Правабярэжнай Украіны, параўноўваюцца захады і метады барацьбы з "польскім элементам" у двух генерал-губернатарствах. У той жа час, як нам падаецца, тут было б вельмі дарэчы падключэнне больш шырокага геаграфічнага кантэксту. Справа ў тым, што многія рашэнні цэнтральнай улады ў рэгіёне былі абумоўлены той палітыкай, якую праводзіла аўстрыйская і нямецкая адміністрацыі ў дачыненні да зямель былой Рэчы Паспалітай, што апынуліся ў межах іх дзяржаў.

Важным складнікам кнігі С. Веха з'яўляецца разнастайны статыстычны матэрыял. Для лепшай візуалізацыі ён зведзены ў табліцы, якіх у манаграфіі налічваецца 50! Заснаваны на дадзеных розных галіновых ведамстваў, ён з'яўляецца каштоўнай крыніцай для ацэнкі і параўнання вынікаў асноўных накірункаў дзейнасці цэнтральнай і лакальнай расійскай адміністрацыі. Разам з тым да гэтых дадзеных трэба ставіцца досыць асцярожна. Знаёмасць з тагачаснай сістэмай іх збору і апрацоўкі патрабуе крытычнага падыходу да звестак з розных рапартаў ці справаздач. Адзіным выйсцем была б іх верыфікацыя з дапамогай іншых крыніц, што, на жаль, не заўсёды ўяўляецца магчымым.

Аналізуючы асаблівасці палітыкі новага генерал-губернатара, параўноўваючы яе з тымі мерамі, што былі рэалізаваны яго папярэднікамі, С. Вех вылучыў тыя сферы грамадска-палітычнага жыцця, у якіх А. Патапаў праводзіў курс аслаблення ці нават адмены загадаў М. Мураўёва і К. Каўфмана. Да іх ліку ён адносіць скасаванне ваеннага становішча, змяншэнне колькасці асоб, што падлягалі галоснаму і негалоснаму паліцэйскаму нагляду, скарачэнне прысутнасці жандарскага корпуса, зніжэнне і ліквідацыя г. зв. працэнтных падаткаў.

Апошняй праблеме ў кнізе прысвечана асобная глава. У ёй вельмі падрабязна аналізуецца ўся сістэма фінансавых спагнанняў, што была створана для землеўладальнікаў і домаўладальнікаў каталіцкага веравызнання. Абапіраючыся на новыя крыніцы, С. Вех аспрэчвае агульнапрынятае палажэнне аб тым, што норма падатку для першых складала 5% ад даходнасці іх маёнткаў і 1% ад кошту нерухомай маёмасці ў гарадах для другіх. Паводле падлікаў даследчыка, насамрэч 5% падатак у 1868 г. дасягаў 21,5%. Прычым больш за ўсіх плацілі памешчыкі Гродзенскай губ. Толькі за 1863–1867 гг. сума падобных спагнанняў перавысіла 11 млн. руб., што раўнялася кошту Аляскі, якую Расія прадала ЗША ў гэты ж час. Сабраныя з каталіцкага насельніцтва грошы сталі той крыніцай, адкуль царскія ўлады чэрпалі сродкі на правядзенне палітыкі русіфікацыі краю. Прапануючы зменшыць і нават адмяніць гэты рэпрэсіўны сродак, А. Патапаў, на думку аўтара, кіраваўся ў першую чаргу не палітычнымі, а эканамічнымі прычынамі. Ён імкнуўся не дапусціць татальнага банкруцтва памешчыцкіх гаспадарак на падуладных яму тэрыторыях. У выніку гарачых дыскусій па гэтым пытанні, што адбываліся ў Санкт-Пецярбургу, пачынаючы з 1871 г. сумы гэтага падатку былі зменшаны напалову.

Мяркуючы па вялікім аб’ёме бюракратычнай перапіскі, колькасці разнастайных адмысловых камісій, фондаў і кас падтрымкі, выдадзеных указаў і распараджэнняў, а таксама накалу публічных дыскусій, менавіта зямельная палітыка з’яўлялася найбольш прыярытэтным накірункам дзейнасці царскай адміністрацыі. Аналізу гэтага пытання ў рэцэнзуемай кнізе адведзена значнае месца. Захады расійскіх улад у гэтай сферы былі накіраваны на змяншэнне колькасці г. зв. “польскага” землеўладання і, адпаведна, павелічэнне памераў “рускага”. На падставе аналізу статыстычных дадзеных С. Вех паказаў дынаміку змены суадносін “польскага” і “няпольскага” землеўладання і прыйшоў да высновы аб запаволенні тэмпаў росту апошняга ў канцы 60-х — першай палове 70-х гадоў XIX ст. Таксама ў фокусе аўтарскай увагі апынуліся спробы царскай адміністрацыі прыцягнуць на землі Беларусі і Літвы расійскіх каланістаў-сялян. Роля віленскага генерал-губернатара ў рэалізацыі, а таксама распрацоўцы мер у гэтай галіне сапраўды была значнай, хоць і не выключнай. У некаторых выпадках ён быў вымушаны нават ісці на саступкі, калі ў гульню ўступалі іншыя чыноўнікі або інстытуцыі, якія мелі большую палітычную вагу ў сістэме імперскай улады.

У другой частцы кнігі прадстаўлена аўтарская падборка крыніц па тэме даследавання. Большую яе частку займаюць дзве разгорнутыя справаздачы (больш за 200 старонак) А. Патапава "па кіраванні краем" за 1868–1870 і 1871–1873 гг. Гэтыя дакументы змяшчаюць каштоўны матэрыял, які характарызуе погляды віленскай адміністрацыі (і самога генерал-губернатара) на грамадска-палітычную сітуацыю ў краі, утрымліваюць пералік мер па яе змяненні, а таксама механізмах іх ажыццяўлення. Акрамя таго ў справаздачах можна знайсці шмат статыстычных звестак адносна дынамікі пераўтварэнняў у розных сферах грамадска-палітычнага жыцця беларускіх і літоўскіх зямель канца 60-х — першай паловы 70-х гадоў XIX ст.

Безумоўна, кніга прафесара Станіслава Веха з'яўляецца значным унёскам у справу вывучэння надзвычай важнага перыяду гісторыі беларуска-літоўскіх зямель. У ёй адлюстраваны апошнія напрацоўкі польскай гістарычнай навукі па гэтым прадмеце. На высокім навуковым узроўні аўтар разглядае розныя аспекты царскай палітыкі, накіраванай на барацьбу з "польскім элементам", якая так ці інакш закранала ўсе нацыянальныя і рэлігійныя групы насельніцтва, што насялялі Беларуска-літоўскі край.

**Сяргей Токць,**
**доктар гіст. навук (Варшава)**
**ORCID: 0000–0003–4543–7903**

# Гуртом і кніжкі пісаць добра: метад праграмнага калектывізму ў сучаснай беларускай гістарыяграфіі

*Сацыяльна-эканамічнае развіццё Беларусі (канец XVIII — пачатак XX ст.),* рэдкалегія В. В. Даніловіч (гал. рэд.) [і інш.], Мінск 2020, 684 с.: іл.

Калектыўная гістарычная праца выйшла з друку ў выдавецтве “Беларуская навука”. Аб’ём кнігі складае амаль 700 старонак, і яна, несумненна, уваходзіць у топ самых аб'ёмных гістарычных кніг, выдадзеных у апошнія гады ў Беларусі. Усяго над ёй працавалі 24 аўтары. На самым пачатку пазначана, што праца (трэба думаць, збор і аналіз інфармацыі) была выканана ў рамках Дзяржаўнай праграмы навуковых даследаванняў на 2011–2015 гг. “Гісторыя, культура, грамадства, дзяржава” ў рамках задання “Сацыяльна-эканамічнае, палітычнае, канфесійнае развіццё Беларусі. Канец XVIII — пачатак XX ст.”, а падрыхтавана да друку ў рамках Дзяржаўнай праграмы навуковых даследаванняў на 2016–2020 гг. “Эканоміка і гуманітарнае развіццё беларускага грамадства”. Такім чынам, рэцэнзуемая кніга разам з працай *Грамадска-палітычнае жыццё ў Беларусі. 1772–1917 гг.* з’яўляецца галоўным вынікам дзесяцігадовай працы вядучых беларускіх акадэмічных гісторыкаў над перыядам Расійскай імперыі. Патрэбу выдання гэтай манаграфіі самі аўтары тлумачаць тым, што “да гэтага часу айчынная гістарыяграфія не мае абагульняючай працы, у якой сістэмна і паслядоўна былі б прасочаны важнейшыя вехі сацыяльна-эканамічнай гісторыі Беларусі падчас яе знаходжання ў складзе Расійскай імперыі”.

Кніга выдадзена вельмі якасна, забяспечана выдатнымі ілюстрацыямі, мапамі, запазычанымі з *Вялікага гістарычнага атласа Беларусі*. Але яе прачытанне (а гэта рэч вельмі няпростая з увагі на вялізны аб’ём) пакідае дваістае ўражанне. Адразу трэба аддаць належнае шматлікім аўтарам і рэдактарам, якія выканалі вялікую працу. Аднак даволі складана дакладна акрэсліць жанр рэцэнзуемай кнігі. Напэўна, гэта было няпростым і для саміх аўтараў. У кароценькай анатацыі (с. 555) кніга названа манаграфіяй. А ва *Уводзінах* (с. 6) аўтары называюць сваю кнігу абагульняючай працай. Але гэта ўсё ж розныя жанры гісторыяпісання. Манаграфіяй традыцыйна называецца навуковая праца, прысвечаная адной тэме ці праблеме. Мэтай

манаграфіі з'яўляецца поўнае і канчатковае на дадзены момант раскрыццё абранай тэмы і вырашэнне пастаўленай навуковай праблемы з дапамогай новых канцэпцый. Натуральна, што сёння паняцце манаграфіі часта трактуецца вельмі свабодна, але ў дадзеным выпадку гаворка ідзе пра салідныя навуковыя інстытуцыі.

Абагульняючая праца не прэтэндуе на навуковую навізну. Яе мэтай з'яўляецца асэнсаванне ўжо дасягнутага ў пэўнай сферы навуковага даробку і яго прэзентацыя прафесіяналам і аматарам гісторыі. Для такой працы характэрны цэласны наратыў і адзіны канцэптуальны падыход.

Рэцэнзуемая кніга паводле фармальных прыкмет прэтэндуе на статус навуковай манаграфіі. Гэта вызначае і крытэрыі яе ацэнкі. Ва *Уводзінах* аўтары заяўляюць, што задачай даследавання стала раскрыццё асноўных тэндэнцый сацыяльна-эканамічнага развіцця беларускіх зямель у складзе Расійскай імперыі. Такім чынам, ключавой праблемай з'яўляецца менавіта сацыяльна-эканамічнае развіццё. Аўтары апрыёры закладваюць, што гэта развіццё было. Да асноўных жа яго тэндэнцый, "якія патрабуюць глыбокага навуковага аналізу", імі (аўтарамі) былі аднесены: аграрная палітыка і эвалюцыйныя працэсы ў галіне сельскай гаспадаркі, развіццё прамысловасці і гарадоў, сацыяльная трансфармацыя беларускага грамадства, фармаванне камунікацыйнай і інфармацыйнай прасторы, фармаванне і развіццё фінансава-крэдытнай сістэмы, гандаль, прадпрымальніцтва і ўдзел замежных прадпрымальнікаў і фінансістаў у развіцці прамысловасці і транспарту на беларускіх землях. Між тым тэрмін "тэндэнцыя" паходзіць ад лацінскага *tendo* (накіроўваю, імкнуся) і азначае параўнальна ўстойлівы кірунак развіцця пэўнай з'явы. Усё вышэйпералічанае з вялікай нацяжкаю можа адпавядаць сэнсу тэрміна "тэндэнцыя".

Можна меркаваць, што тэмы былі размеркаваны паводле магчымасцей тых навуковых кадраў, якія меліся ў наяўнасці. Гэтыя тэмы аб'ядноўвае сацыяльна-эканамічная праблематыка ў самым шырокім яе разуменні. Аднак у рэцэнзуемай кнізе, на нашу думку, няма ні агульнай метадалогіі, ні агульнай канцэпцыі. Ва *Уводзінах* і першай главе метадалогія даследавання нават не ўзгадваецца. Аўтары нібыта ўжо не прытрымліваюцца марксісцкага падыходу, які шмат гадоў панаваў у беларускай сацыяльна-эканамічнай гістарыяграфіі, але ніякай іншай метадалогіі не прапаноўваюць. Нельга лічыць канцэпцыяй тэрміны "развіццё", "фармаванне", "эвалюцыя", якія бачым у назвах асобных глаў. Складваецца ўражанне, што аўтары зыходзяць з таго, што ўсё так ці інакш развівалася, пазбягаюць спрэчных, дыскусійных момантаў і адназначных ацэнак. Атрымалася такая класічна памяркоўная і адначасова, як на наш суб'ектыўны густ, трохі ніякаватая праца.

Дадзеная кніга сведчыць, на нашу думку, пра вычарпанасць марксісцкага канцэпту "сацыяльна-эканамічнае" і нават, магчыма, пра яго шкоднасць на сённяшні дзень для беларускай гістарычнай навукі. У выніку панавання

гэтага канцэпту мы так і не маем (за пэўнымі асобнымі працамі) нармальнай гаспадарчай (эканамічнай) гісторыі, што выдатна праявілася і ў рэцэнзуемай кнізе. Напрыклад, аўтарамі нават не ставілася пытанне пра спробу падлікаў агульнага даходу беларускіх губерняў і яго дынамікі ў разглядаемы перыяд. А як без гэтага разважаць пра эканамічнае развіццё? Наколькі вырас гэты даход з часоў падзелаў Рэчы Паспалітай, як выглядае яго дынаміка і паказчык на душу насельніцтва ў параўнанні з іншымі рэгіёнамі імперыі ды іншымі, а найперш суседнімі еўрапейскімі краінамі? Канешне, гэта задача надзвычай складаная і працаёмкая. Але ж, напрыклад, польскія гісторыкі ў сваіх абагульняючых працах такія паказчыкі прыводзяць. Аўтары ж рэцэнзуемай кнігі пра гэта пытанне нават не ўзгадваюць. Увогуле, асноўная статыстыка, датычная эканомікі Беларусі, якая прыводзіцца ў дадзенай кнізе, пераважна запазычана з прац, выдадзеных яшчэ ў савецкія часы.

Не разглядаюцца ў рэцэнзуемай калектыўнай працы і іншыя фундаментальныя для разумення эканамічнага развіцця пытанні. Напрыклад, няма аналізу падатковай палітыкі расійскіх улад у беларускіх губернях, за выключэннем кароткага, на тры старонкі, падраздзелу ў главе пра гандаль. Чытач не знойдзе ў кнізе інфармацыю, якімі грашыма карысталіся ў сваім штодзённым жыцці жыхары Беларусі ў першай палове XIX ст. Якія былі заробкі ў розных галінах гаспадаркі, на дзяржаўнай службе, у аграрным сектары? Няма статыстыкі цэн на асноўныя тавары і іх дынамікі. Без разгляду такіх базавых для эканамічнай гісторыі рэчаў разважанні пра развіццё не выглядаюць пераканаўчымі.

Кніга пачынаецца з гістарыяграфічнага агляду (*Гістарыяграфія і крыніцы*), які ўяўляе сабой пералічэнне таго, хто і калі пра што пісаў і хто і што даследаваў. Напрыканцы гэтага раздзела зроблена традыцыйная выснова, што “не разгледжаны ўсе пытанні”, як быццам калі-небудзь будуць нарэшце разгледжаны ўсе. Аўтары таксама пералічваюць гэтыя найбольш важныя “неразгледжаныя” пытанні. Да іх ліку, напр., адносяць вызначэнне ступені заняпаду памешчыцкай гаспадаркі напярэдадні сялянскай рэформы 1861 г., вызначэнне ролі мануфактурнай вытворчасці, а таксама пераадоленне “дыспрапорцыі ў даследаванні асобных відаў камунікацыі (відавочная перавага даследавання чыгункі на фоне слабой распрацаванасці праблем водных і сухапутных шляхоў зносін і амаль поўнай адсутнасці прац па гісторыі сувязі)” (с. 54).

Большая частка другой главы (*Сельская гаспадарка і зямельныя адносіны ў канцы XVIII — першай палове XIX ст.*) прысвечана аграрнай палітыцы расійскіх улад у сферы землеўладання і землекарыстання, якая, на думку аўтара, хаця і адкрывала большы прастор для развіцця таварнаграшовых адносін, але не закранала асноў феадальных парадкаў. Толькі апошні раздзел дадзенай главы прысвечаны стану сельскай гаспадаркі ў канцы XVIII — першай палове XIX ст. Само паняцце “стан” адносна

такого даволі працяглага перыяду запярэчвае канцэпцыі развіцця. Характэрныя рысы дадзенага раздзела, як і ўсёй кнігі, — бессістэмнасць і фрагментарнасць падачы статыстычных дадзеных. Напр., на с. 124–125 чытаем: "У канцы 50-х гадоў XIX ст. у беларуска-літоўскіх губернях пад бульбай было занята ўжо каля 160 тыс. дзесяцін зямлі, а агульны збор перавышаў 25 млн. пудоў". І гэта ўсё пра бульбу адносна дарэформеннага часу. А калі пачалі яе культываваць, якая была дынаміка росту, якое месца займала бульба ў харчаванні і вінакурэнні? Што значылі тыя ж 25 млн. пудоў у параўнанні з аб'ёмамі прадукцыі збожжа? Тут жа аўтары выказваюць спрэчную думку, што мяса-малочная жывёлагадоўля на працягу ўсяго азначанага перыяду не з'яўлялася яшчэ таварнай галінай. Але ж вінакурэнне было непарыўна звязана з адкормам цялят на продаж, пра што, напрыклад, пісаў адносна Гродзенскай губерні Павел Баброўскі, на працу якога спасылаюцца аўтары рэцэнзуемай кнігі.

На с. 127 аўтары сцвярджаюць, што "распаўсюджванне фальварачна-паншчыннай сістэмы гаспадаркі, скарачэнне сялянскіх надзелаў, рост паншчыны вялі не да ўзмацнення рыначных сувязей сялянскай гаспадаркі, а да яе разбурэння". І ў выніку, на іх думку, гэта "выклікала ўпадак сельскай гаспадаркі і ўсёй феадальнай эканомікі і прывяло да скасавання прыгоннага права — асноўнага тормаза эканамічнага развіцця краіны". Такая выснова для беларускай гістарыяграфіі традыцыйная. Іншая рэч, што аўтары не прыводзяць ніякіх канкрэтных доказаў разбурэння сялянскай гаспадаркі, ды і ўвогуле гэтую гаспадарку не разглядаюць, як, у прынцыпе, і фальварачна-панскую. Прычым гэта выснова супярэчыць выснове з наступнай главы, што патэнцыял фальварачна-паншчынай гаспадаркі напярэдадні рэформы яшчэ не быў канчаткова вычарпаны (с. 138).

Спроба памешчыкаў знайсці выйсце з крызісу шляхам развіцця таварнасці памешчыцка-паншчыннай гаспадаркі, як мяркуюць аўтары кнігі, была рэакцыйнай па сваім змесце, бо не забяспечвала развіццё прадукцыйных сіл сялянскай гаспадаркі. Наступны сказ адлюстроўвае стыль нарацыі дадзенай кнігі: "Нягледзячы на паступовае развіццё таварнай гаспадаркі ў канцы XVIII — першай палове XIX ст., у сельскай гаспадарцы паўсюдна панавалі феадальныя адносіны, але гэта зусім не азначала, што не адбылося змяненняў структуры феадальнага грамадства і грамадскіх адносін" (с. 128). Як той казаў, разумей як хочаш.

Як ужо адзначалася, у наступнай главе (*Адмена прыгону і эвалюцыя сельскай гаспадаркі*) аўтары ўжо даводзяць, што заснаваная на паншчыне памешчыцкая гаспадарка яшчэ не вычарпала свайго патэнцыялу: "…Нельга сцвярджаць, што да сярэдзіны XIX ст. усе магчымасці сацыяльна-эканамічнага прагрэсу на базе прыгонніцкіх адносін былі поўнасцю вычарпаны. Хоць крызісныя з'явы феадальна-прыгонніцкай сістэмы і мелі месца, гэта не быў абсалютны заняпад і эканамічны тупік" (с. 138). Толькі гэта выснова таксама ніякімі фактамі не па-

цвярджаецца, апрача таго, што вытворчасць зерня на душу насельніцтва была амаль роўнай, як у Аўстра-Венгерскай імперыі. Прычым аўтары не прыводзяць ні лічбаў гэтага паказчыку, ні крыніц, адкуль яны такі факт узялі. Але гэта дае ім падставы сцвярджаць, што “прыгоннае права, якім яно было ў сярэдзіне XIX ст., ва ўмовах земляробчай гаспадаркі магло яшчэ існаваць даволі доўга” (с. 138). Таксама галаслоўнай выглядае выснова, што сялянскі рух не стаў галоўнай прычынай адмены прыгону, затое такую ролю адыграў знешнепалітычны чыннік.

На с. 189 аўтары са спасылкай на Л. П. Ліпінскага пішуць, што пасля рэформы 1861 г. назіралася скарачэнне колькасці вінакурань (болей чым у два разы) і аб’ёмаў іх вытворчасці “да 2,1 млн. (не пазначана, чаго менавіта — С. Т.) і 1,5 млн. вёдзер спірту адпаведна”. Зноў жа, што гэтыя лічбы могуць сказаць чытачу без раскрыцця кантэксту. І ў тым самым абзацы аўтары сцвярджаюць, што ўсё большая доля зерня і бульбы ішла на перапрацоўку ў спірт (з 1862 да 1899 г. вырасла ў тры разы).

Статыстыка ў чацвёртай главе (*Развіццё прамысловасці*) запазычана з даследаванняў савецкіх часоў, асабліва з манаграфіі А. М. Лютага пра сацыяльна-эканамічнае развіццё гарадоў Беларусі (1987) і пятага тома “Гісторыі Беларусі перыяду капіталізму”. Прычым адносна апошняга выдання ў спасылцы не пазначана, што гэта вучэбны дапаможнік. Аўтары не прыводзяць паказчыкі аб’ёмаў прамысловай вытворчасці за першую палову XIX ст. Яны толькі адзначаюць адсутнасць такой статыстыкі адносна рамеснай вытворчасці, хоць называюць (без спасылкі на крыніцу) тыя месцы, якія займалі паводле валавой вытворчасці беларускія губерні сярод іншых губерняў імперыі ў канцы 1850-х гадоў. Таксама чытач не даведаецца, якую долю прамысловая вытворчасць займала ў гаспадарцы беларускіх губерняў у параўнанні з сельскай гаспадаркай.

Высновы главы пра прамысловасць у дарэформенны перыяд выглядаюць сумбурнымі і не маюць абгрунтавання ў тэксце кнігі. Так, аўтары сцвярджаюць, што пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі царскі ўрад рабіў спробы палепшыць шляхі зносін і паменшыць падатковы прыгнёт, а “ў 1830–1850-я гг. назіралася ўзмацненне не толькі палітычнага, але і эканамічнага прыгнёту”. Толькі не раскрываецца, у чым жа гэты прыгнёт заключаўся. Асноўнай жа прычынай слабога развіцця капіталістычнай прамысловасці (як і ўсёй эканомікі), на думку аўтараў, была супярэчнасць паміж неабходнасцю развіцця гандлёвай гаспадаркі і існаваннем прыгонніцкай сістэмы (с. 225). Тэрмін “гандлёвая гаспадарка” таксама ніякім чынам не расшыфроўваецца. Не ўзгадваюць аўтары пра ідэю суаўтара чацвёртага тома абагульняючай гісторыі Беларусі[1] гісторыка Ан-

[1] *Гісторыя Беларусі*: у 6 т., т. 4. *Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX ст.), рэдактары В. Яноўская і С. Рудовіч*. Мінск 2007, с. 122.

дрэя Кіштымава пра пачатак прамысловага перавароту ў Беларусі ў першай палове XIX ст.

Аўтары характарызуюць развіццё прамысловасці ў Беларусі ў першай палове XIX ст. як слабое. Галоўным аргументам выступае параўнанне з іншымі губернямі імперыі, паводле якога беларускія губерні саступалі большасці паводле паказчыка канцэнтрацыі прамысловасці. Але больш істотным быў бы паказчык вытворчасці на душу насельніцтва, падлічыць які аўтары не пажадалі ці не здолелі.

Адносна развіцця прамысловасці ў другой палове XIX — на пачатку XX ст. аўтары рэцэнзуемай кнігі прыводзяць лічбы аб'ёмаў вытворчасці ў рамесніцтве, на дробных прадпрыемствах, мануфактурах і фабрыках, але чамусьці не спрабуць падлічыць і прадставіць чытачу агульныя аб'ёмы прамысловай вытворчасці ў яе дынаміцы і паказаць яе долю ў эканоміцы краю. Цікавасць выклікае раздзел, прысвечаны прадпрымальніцтву і ўдзелу замежных прадпрымальнікаў і фінансістаў ў развіцці прамысловасці і транспарту, які ўтрымлівае новую фактаграфію. Здзіўляе, што чацвёртая глава зусім не мае высноў.

У пятай главе (*Урбанізацыйныя працэсы. Чалавек у гарадскім асяроддзі*) аўтары прапануюць уласную тыпалогію населеных пунктаў, шмат увагі надаюць дэмаграфіі, гарадской гаспадарцы, паліцыі і крымінагеннай сітуацыі ў гарадах. Разглядаюцца навучальныя і культурна-асветныя ўстановы, музеі, асаблівасці побыту гараджан. Глава ўтрымлівае шмат новай інфармацыі і цікава чытаецца. Але структурна яна не суадносіцца з папярэднімі главамі пра сельскую гаспадарку і вёску, дзе няма ні дэмаграфіі, ні навучальных устаноў, ні ўстаноў культуры, ні побыту. Дарэчы, у кантэксце сацыяльна-эканамічнай праблематыкі было б да месца даследаванне навучальных устаноў, якія рыхтавалі кадры для гаспадаркі. Маю на ўвазе прафесійныя, сельскагаспадарчыя, камерцыйныя вучылішчы. Яны, аднак, спецыяльна не вылучаюцца. Толькі на с. 360 такім установам прысвечаны адзін абзац тэксту. Не разглядаецца дзейнасць сельскагаспадарчых таварыстваў, сядзібы якіх знаходзіліся ў губернскіх гарадах.

У шостай главе (*Фарміраванне камунікацыйнай і інфармацыйнай прасторы*) адсутнічае нават тлумачэнне галоўных паняццяў, адлюстраваных у назве. Аўтары адразу пераходзяць да разгляду транспарту і шляхоў зносін. У главе разглядаецца водны транспарт і водныя шляхі зносін, сухапутны транспарт і дарожная гаспадарка, чыгуначны транспарт, а таксама пошта, тэлеграф і тэлефонная сувязь. Да інфармацыйнай прасторы аўтары адносяць перыядычны друк, даволі падрабязна разглядаюць інфармацыйную палітыку расійскіх улад, якую ацэньваюць як не вельмі паспяховую. Таксама ў гэтай главе разглядаецца журналістыка, інфармацыйныя агенцтвы, кінематограф.

У параўнанні з ранейшымі абагульняючымі працамі перыяду Расійскай імперыі вышэйакрэсленым пытанням прысвечана ў кнізе адносна больш

месца, што можна лічыць яе несумненным плюсам. Глава ўтрымлівае шмат новай інфармацыі. Але аўтары, як нам уяўляецца, часам імкнуцца штучна ўскладняць тэрміналогію. Напрыклад, акрэсленне “масавыя каналы інфармавання” для тагачаснага друку ўяўляецца не зусім адэкватным. У кантэксце сацыяльна-эканамічнага развіцця можна было б чакаць асобнага разгляду выдаўніцтва спецыяльнай прафесійнай літаратуры і гаспадарчых перыядычных выданняў, але гэтага ў главе няма.

Сёмая глава (*Фарміраванне і развіццё фінансава-крэдытнай сістэмы ў канцы XVIII — пачатку XX ст. Гандаль*) таксама ўтрымлівае шмат новай і цікавай інфармацыі. Даволі падрабязна разглядаецца банкаўская сістэма і крэдытныя ўстановы. Але галоўнай праблемай з’яўляецца тое, што тут адсутнічае разгляд самой грашовай сістэмы. Якімі грашыма ў штодзённым жыцці карысталіся жыхары Беларусі? Пытанне вельмі няпростае адносна першай паловы XIX ст. Чаму ў дарэформенны час большасць сялянскага насельніцтва фактычна не мела доступу да наяўных грошай?

Разглядаючы вывазны рачны гандаль, які адыгрываў галоўную ролю ў эканоміцы ў першай палове XIX ст., аўтары не спрабуюць вылічыць яго аб’ёмы ў маштабах усёй Беларусі. Таксама няма спробы параўнання рачнога і чыгуначнага гандлю і іх узаемаўплываў. Так на с. 546 прыводзяцца аб’ёмы рачного гандлю за 1900 і 1913 гг. Але што значылі гэтыя аб’ёмы ў параўнанні з папярэднімі часамі, як суадносіліся аб’ёмы рачного і чыгуначнага гандлю?

Апошні раздзел (*Сацыяльная трансфармацыя беларускага грамадства*) дакладна паўтарае назву манаграфіі аднаго з суаўтараў гэтага раздзела Генадзя Каханоўскага *Сацыяльная трансфармацыя беларускага грамадства (1861–1914 гг.)* (Мінск, 2013). Калі ў сваёй манаграфіі Каханоўскі даводзіў, што рэформы 1860-х гадоў адчынілі прастору для сацыяльнай трансфармацыі, дык у рэцэнзуемай манаграфіі няма ніякага тлумачэння таго, чаму аўтары лічаць увесь перыяд ад канца XVIII да пачатку XX ст. суцэльнай сацыяльнай трансфармацыяй. З такім жа поспехам сацыяльнай трансфармацыяй можна лічыць усю гісторыю Беларусі ад палеаліту да сучаснасці. Дарэчы, першы раздзел гэтай главы называецца *Эвалюцыя саслоўна-карпаратыўнай арганізацыі грамадства. Дынаміка колькасці і складу насельніцтва*. Чым адрозніваецца трансфармацыя ад эвалюцыі, якая паміж імі ўзаемазалежнасць, аўтары не тлумачаць.

Заключэнне рэцэнзуемай кнігі цяжка чытаць. Паводле стылю гэта тыповая справаздача па дзяржаўнай бюджэтнай навуковай тэме, якая прызначаецца для чыноўнікаў. Напэўна, ні самі аўтары, ні рэдактары, ні рэцэнзенты не прачыталі цалкам гэтае заключэнне, бо інакш як патлумачыць такія, напр., тэзісы, што ў выніку сталыпінскай аграрнай рэформы “назіраўся пазітыўны зрух, які ў найбольшай ступені праявіўся ў кааператыўным руху ва ўкраінскім сяле і ў значным маштабе (больш за 20%) выхаду гаспадарак на хутары і адрубы ў тых рэгіёнах, дзе перавы-

шала абшчыннае землекарыстанне, а не падворнае (напр., Харкаўская губерня)" (с. 645).

Некаторыя высновы з'яўляюцца даўно вядомымі для айчынных гісторыкаў, як, напр., сцвярджэнне, што "напярэдадні рэфрмы 1861 г. таварна-грашовыя адносіны ўсё больш пранікалі ў памешчыцкую гаспадарку Беларусі і спрыялі ўзмацненню прадпрымальніцкай дзейнасці, выкарыстанню машын і механізмаў, прымяненню наёмнай працы" (с. 645). А некаторыя высновы патрабуюць дадатковага тлумачэння: "Слабое развіццё эканомікі, панаванне фальварачна-паншчыннай сістэмы гаспадарання, характэрныя для тэрыторыі Беларусі ў канцы XVIII — першай палове XIX ст., вызначылі феадальны характар развіцця беларускіх гарадоў" (с. 646). Варта было б патлумачыць, што маецца на ўвазе пад "феадальным характарам" развіцця гарадоў.

Іншыя высновы здзіўляюць сваёй банальнасцю: "Былі выпадкі, калі злачынцы імкнуліся пазбегнуць пакарання і збягалі на тэрыторыю, што раней разам з беларускімі землямі ўваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай" (с. 647). А іншыя здзіўляюць сваёй катэгарычнасцю: "Усе, хто прайшоў школу работы па найме за мяжой і ў індустрыяльных рэгіёнах Расіі, адрозніваліся больш высокім узроўнем грамадзянскай свядомасці, адукаванасці". Узнікае пытанне: дык можа хоць хтосьці з гэтай катэгорыі не адрозніваўся такой ужо высокай грамадзянскай свядомасцю? Напрыклад, на пачатку XX ст. чыноўнікі Магілёўскай губ. часта скардзіліся, што моладзь, якая вярталася дадому з працы на шахтах Данбаса, вызначалася схільнасцю да п'янства, адрознівалася непаслухмянствам і хуліганскімі паводзінамі.

У сваім заключэнні хачу выказаць спадзяванне, што падобны "брыгадны спосаб" гісторыяпісання на сённяшні дзень сябе цалкам вычарпаў. У значнай ступені ён спароджаны сістэмай арганізацыі і фінансавання беларускай гістарычнай навукі, а таксама ўсеўладдзем чыноўнікаў ад навукі ў акадэмічным асяродку. Ствараецца ўражанне, што вялікія калектыўныя працы пішуцца не таму, што існуе вялікі попыт на такія працы з боку грамадства, а таму, што так зручней рабіць справаздачнасць акадэмічным установам. Між тым гэтыя працы часта з'яўляюцца калектыўнымі толькі па назве, а не па сутнасці, паколькі іх не аб'ядноўваюць ні агульныя метадалагічныя падыходы, ні агульная канцэпцыя, ні агульны стыль гісторыяпісання. Узнікае падазрэнне, што суаўтары нават не чытаюць тэксты сваіх калег па такой "калектыўнай" працы.

Сёння якраз запатрабаваны грунтоўныя манаграфічныя даследаванні, прысвечаныя асобным сацыяльным і эканамічным праблемам гісторыі Беларусі. Дастаткова прагледзець спіс манаграфій, выдадзеных у Беларусі за апошнія трыццаць гадоў. Гэтыя накірункі гістарыяграфіі вельмі працаёмкія і складаныя з пункту гледжання абароны дысертацыйных работ, таму і не вельмі прывабныя для маладых даследчыкаў. Між тым сёння ў грамадстве назіраецца цікавасць да гісторыі, у т.л. сацыяльнай і гаспадарчай, і вялікі попыт на добрыя навуковыя і навукова-папулярныя тэксты. Спадзяемся, што беларускія гісторыкі змогуць даць адказ на гэты выклік.

**Юры Грыбоўскі,**
**д-р габ. (Варшава)**
**ORCID 0000–0002–7359–487X**

# «Вайна ўсіх супраць усіх»: новае даследаванне нямецкай акупацыі Беларусі

E. Mironowicz, *Wojna wszystkich ze wszystkimi. Białoruś 1941–1944,* Kraków 2015, 248 s.

У польскай гістарыяграфіі праблематыка Другой сусветнай вайны заўсёды займала адно з ключавых месцаў. Яскравым сведчаннем гэтага з'яўляецца прысутнасць на кніжным рынку вялікай колькасці навуковай і навукова-папулярнай літаратуры, якая прысвечана шматлікім эпізодам ваеннай гісторыі. Разам з тым польскія навукоўцы канцэнтруюцца перадусім на тых аспектах і эпізодах, якія тычацца ўдзелу Польшчы і палякаў у ваенных падзеях. У сувязі з гэтым у большасці прац беларускія акцэнты з'яўляюцца эпізадычна і пераважна ў кантэксце таго, што адбывалася на паўночна-ўсходніх землях Польскай дзяржавы ў даваенных межах. Толькі нешматлікія даследаванні цалкам прысвечаны гісторыі Беларусі падчас Другой сусветнай вайны. На невялікую цікавасць да беларускай праблематыкі таксама ўплывае факт, што польска-беларускія ўзаемадачыненні ў разглядаемы час не мелі такога бурлівага характару, як, напрыклад, польска-ўкраінскія альбо польска-літоўскія.

Беручы пад увагу вышэйзгаданую акалічнасць, неабходна павітаць з'яўленне на польскім кнігавыдавецкім рынку манаграфіі прафесара Яўгена Мірановіча *Вайна ўсіх супраць усіх. Беларусь 1941–1944*. Кніга пабачыла свет у кракаўскім выдавецтве "Avalon". Аўтарам кнігі з'яўляецца вядомы даследчык гісторыі Беларусі і польска-беларускіх адносін у XX стагоддзі, пяру якога належаць ужо добра знаёмыя беларускаму чытачу працы: *Найноўшая гісторыя Беларусі* (Беласток 1999) і *Беларусы ў Польшчы (1918–1949)* (Вільня — Беласток 2010).

Кніга *Вайна ўсіх супраць усіх. Беларусь 1941–1944* ахоплівае храналагічнымі межамі перыяд нямецкай акупацыі Беларусі. Аўтар свядома адмовіўся ад разгляду падзей, якія адбываліся на беларускай зямлі ў пачатковай фазе Другой сусветнай вайны (верасень 1939 — травень 1941), а таксама ў перыяд пасля вызвалення Беларусі ад нямецкіх войск улетку 1944 г. Аднак гэта не ўплывае на навуковую вартасць працы, паколькі менавіта на час нямецкай акупацыі прыпадае найбольш драматычны перыяд у ваеннай

гісторыі Беларусі. Геаграфічна даследаванне датычыць тэрыторыі савецкай Беларусі ў фактычных межах напярэдадні нямецкай акупацыі, што дазволіла гісторыку таксама аналізаваць падзеі, якія адбываліся на Беласточчыне.

Манаграфія з'яўляецца плёнам шматгадовай працы аўтара ў айчынных і замежных архівах і бібліятэках. Даследчык выкарыстаў крыніцы, якія захоўваюцца ў зборах Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўнага архіва Брэсцкай вобл., Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобл., Літоўскага цэнтральнага дзяржаўнага архіва і Архіва новых актаў у Варшаве. Асноўную крыніцавую базу складаюць дакументы савецкага і польскага ўзброенага падполля, нямецкіх акупацыйных органаў і ўстаноў, а таксама беларускіх нацыянальных арганізацый, якія дзейнічалі падчас акупацыі.

Архіўная база ўражвае, але нягледзячы на гэта можна выказаць пэўнае шкадаванне, што па-за ўвагай даследчыка засталіся крыніцы цэнтральных органаў савецкай і нямецкай улад, якія знаходзяцца ў архівах Берліна і Масквы, а таксама каштоўныя і малавядомыя дакументы органаў сярэдняга і ніжэйшага ўзроўняў, што захоўваюцца ў іншых рэгіянальных архівах (напрыклад, у Менску і Баранавічах). Аўтар выкарыстаў выбраную навуковую літаратуру па ваеннай праблематыцы, якая выйшла ў Польшчы і Беларусі, а таксама пераклады прац некаторых нямецкіх даследчыкаў (Аляксандра Бракеля, Бернхарда К'яры).

Структура працы мае праблемна-храналагічны характар. Аўтар засяродзіўся на разглядзе асноўных, на яго погляд, аспектаў акупацыйнай рэчаіснасці ў Беларусі. Кнігу распачынае раздзел "Першыя месяцы нямецка-савецкай вайны ў Беларусі", прысвечаны пачатку ўзброенага канфлікту паміж Германіяй і СССР і працэсу ўсталявання нямецкага акупацыйнага рэжыму. Даследчык апісвае таксама абарончыя мерапрыемствы савецкіх улад, якія мелі на мэце затрыманне альбо запавольванне нямецкага наступу на беларускім напрамку. У полі зацікаўлення аўтара апынуліся такія праблемы, як эвакуацыя савецкіх устаноў і першыя спробы арганізацыі дыверсійна-партызанскай працы. Гісторык звяртае ўвагу на тое, што савецкі бок імкнуўся любым коштам рэалізаваць вышэйзгаданыя мэты, не звяртаючы ўвагі на магчымыя страты сярод цывільнага насельніцтва.

У другім раздзеле "Нямецкае панаванне ў Беларусі" разглядаюцца галоўныя мэты германскай акупацыйнай палітыкі і шляхі іх рэалізацыі. Аўтар адзначае, што няўдачы на фронце і зрыў тактыкі "маланкавай вайны" прымусілі немцаў арганізаваць сацыяльна-палітычнае і гаспадарчае жыццё на захопленым абшары такім чынам, каб яно адпавядала асноўным ваенна-палітычным патрэбам III Рэйха. Даследчык звяртае таксама ўвагу на існаванне розных падыходаў да рэалізацыі акупацыйнай палітыкі, што было вынікам пэўных тактычных разыходжанняў сярод тых, хто яе ажыццяўляў. У гістарыяграфіі, прысвечанай акупацыйнай праблематыцы, дадзеная праблема звычайна прадстаўляецца як спаборніцтва паміж "людзьмі Гімле-

ра" і "людзьмі Розенберга". Аўтар кнігі падзяляе гэты погляд, сцвярджаючы, што апошнія былі схільнымі да выкарыстання ў сваіх мэтах мясцовых антыкамуністаў і нацыяналістаў. Дэманстрацыя "дабрадзейства" асабліва праяўлялася ў галіне культуры і асветы (с. 65–66).

Уважлівае знаёмства з далейшымі часткамі кнігі дазваляе меркаваць, што аўтар не схільны пераацэньваць удзел ў гэтым працэсе кіраўніка нямецкай цывільнай адміністрацыі ў Беларусі Вільгельма Кубэ. На думку даследчыка, гэты нямецкі чыноўнік быў паслухмяным і паслядоўным выканаўцам дырэктыў свайго кіраўніка Альфрэда Розенберга, а не ініцыятарам захадаў, скіраваных на здабыццё даверу мясцовых нацыянальных сіл. Гэтым самым аўтар манаграфіі не пацвярджае тэзіса гісторыка Юрыя Туронка, які прыпісваў гаўляйтару выключную ролю ў кантактах з беларускімі нацыяналістамі. Адначасова гісторык падрабязна апісвае карныя і антыпартызанскія аперацыі, якія збіралі крывавае жніво сярод цывільнага насельніцтва.

У трэцім раздзеле "Беларусь у палітыцы савецкіх улад" аўтар аналізуе вайскова-палітычную і ідэалагічную дзейнасць Масквы ў дачыненні да акупаванай немцамі Беларусі. У гэтай частцы кнігі падрабязна разглядаецца нерэалізаваны праект стварэння ў 1942 г. па ініцыятыве Панцеляймона Панамарэнкі Беларускай асобнай арміі ў складзе Чырвонай арміі. Акрамя гэтага даследчык спыняецца на разглядзе стварэння і дзейнасці савецкай партызанкі ў Беларусі. Гісторык робіць выснову, што савецкі рух супраціву не толькі імкнуўся аслабіць вайсковы патэнцыял нямецкіх войск, але таксама меў на мэце забеспячэнне ідэалагічнага кантролю над насельніцтвам акупаваных абшараў і змаганне з праявамі супрацоўніцтва з немцамі.

Аўтар кнігі не пакінуў па-за ўвагай прычыны павелічэння колькаснага складу партызанскіх аддзелаў і стаўлення цывільнага насельніцтва да партызанскага руху. На думку гісторыка, на развіццё партызанскага руху ў канцы 1943 — пачатку 1944 г. значны ўплыў аказаў псіхалагічны фактар, калі ва ўмовах усё больш відавочнага паражэння нямецкіх войск сяляне папаўнялі партызанскія шэрагі, баючыся рэпрэсій з боку пераможцаў і намагаючыся прадэманстраваць уласную лаяльнасць (с. 123).

Чацвёрты раздзел "Нацыянальны лагер. Змаганне за беларускую дзяржаву" прысвечаны аднаму з найменш даследаваных і супярэчлівых эпізодаў гісторыі Беларусі ў разглядаемы час. У гэтай частцы даследавання аўтар спрабуе ахарактарызаваць паводзіны прадстаўнікоў беларускага нацыянальнага лагера. У савецкай і постсавецкай гістарыяграфіі дадзенае пытанне зводзіцца да паняцця "калабарацыі". Пры гэтым даследчыкі засяроджваюцца на наступствах супрацоўніцтва з акупантамі, не надаючы належнай увагі матывам, якімі кіраваліся "калабаранты".

У значнай ступені прафесару Мірановічу атрымалася запоўніць дадзены прагал, прасочваючы эвалюцыю стаўлення беларускіх незалежнікаў да Бер-

ліна. Аўтар пераканаўча даводзіць, што, беручы пад увагу сутнасць палітычнага рэжыму III Рэйха і ідэйныя ўстаноўкі яго кіраўнікоў, надзеі некаторых беларускіх дзеячаў на стварэнне Беларускай дзяржавы пры падтрымцы Берліна былі пазбаўлены якіх-колечы шанцаў. На прыкладзе стварэння і дзейнасці цывільнай адміністрацыі і дапаможных вайскова-паліцыйных фармаванняў аўтар дэманструе кардынальныя разыходжанні паміж акупантамі і беларускімі актывістамі ў поглядах на ваенную рэчаіснасць.

На думку даследчыка, ігнараванне немцамі інтарэсаў беларускіх дзеячаў і злачынствы супраць насельніцтва, якія здзяйсняліся з самага пачатку акупацыі, рабілі супрацоўніцтва з немцамі заганным як з маральнага, так і з палітычнага пунктаў гледжання (с. 165). Разам з тым гісторык паказвае ўсю складанасць сітуацыі беларускіх палітыкаў, якая не давала ім альтэрнатывы, паколькі сіл і сродкаў, каб прэтэндаваць на ролю саюзнікаў, яны не мелі (с. 143).

У пятым раздзеле “Міжнацыянальныя адносіны ў акупаванай Беларусі” аналізуецца сітуацыя асобных нацыянальных груп: палякаў, яўрэяў, літоўцаў, украінцаў ды інш. Аўтар спрабуе вызначыць уплыў нямецкай акупацыйнай палітыкі на ўзаемаадносіны паміж рознымі нацыянальнымі групамі. Шмат увагі гісторык надае польска-беларускаму і польска-савецкаму канфліктам падчас нямецкай акупацыі. Даследчык закрануў таксама становішча літоўцаў і ўкраінцаў у Беларусі ў кантэксце міжнацыянальных адносін і палітычнага супрацьстаяння на Віленшчыне і Палессі. У апошнім выпадку гаворка ідзе пра актыўнасць украінскага ўзброенага падполля АУН-УПА. У гэтым жа раздзеле разглядаецца пытанне Халакосту на тэрыторыі Беларусі і стаўленне мясцовага насельніцтва да яўрэяў (с. 186–192). Варта тут узгадаць, што дадзеныя эпізоды акупацыйнай рэчаіснасці ўжо з’яўляліся прадметам грунтоўнай увагі польскіх і беларускіх гісторыкаў (Імануіл Ёфэ, Леанід Смілавіцкі, Юры Туронак, Зыгмунт Барадзін, Дзмітрый Крывашэй, Юры Грыбоўскі ды інш.).

Апошні (шосты) раздзел “Правінцыя і сталіца — абразкі акупацыйнай штодзённасці ў Беларусі” прысвечаны штодзённаму жыццю ва ўмовах нямецкай акупацыі. Прадметам увагі аўтара з’яўляецца як гарадское, так і сельскае насельніцтва. Гісторык адзначае, што паколькі беларускія землі ўваходзілі ў склад некалькіх тэрытарыяльна-адміністрацыйных адзінак, таму ў розных кутках Беларусі існавалі розныя ўмовы функцыянавання грамадства.

На яго думку, найгоршая сітуацыя склалася ў беларускай вёсцы, жыхары якой амаль штодня зведвалі ціск з боку варагуючых бакоў. Аўтар падкрэслівае, што на працягу ўсяго перыяду акупацыі ўсе бакі канфлікту бязлітасна эксплуатавалі мясцовае сялянства, не пакідаючы яму шанцаў на захаванне нейтральнасці. Апынуўшыся ў сітуацыі паміж молатам і кавадлам, сяляне былі вымушаны змагацца за існаванне, супрацоўнічаючы з рознымі ба-

камі канфлікту, што ў сваю чаргу ў любы момант магло зрабіць іх ахвярай адных альбо другіх.

Увагі заслугоўваюць такія праявы ваеннага жыцця, як бандытызм і даносы. Аўтар падкрэслівае, што абедзве гэтыя з'явы пакінулі трывалы след на акупацыйным краявідзе (с. 209, 213). Гісторык аналізуе структуру і асаблівасці дзейнасці цывільнай адміністрацыі ў Беларусі, разглядае сацыяльныя і гаспадарчыя задачы, якія яна вырашала. Аўтар піша, што кіраўнікі мясцовай дапаможнай адміністрацыі не з'яўляліся маналітам. Былі сярод іх тыя, хто выслужваўся перад акупантамі і ўвасабляў штодзённы тэрор, але траплялiся таксама людзі, якія намагаліся аблегчыць суайчыннікам цяжкасці ваеннай нядолі (с. 208).

Адным з аспектаў, які застаўся па-за ўвагай аўтара, а мог бы значна ўзбагаціць працу, з'яўляецца рэлігійная актыўнасць насельніцтва, якая была ўласціва акупацыйнаму перыяду.

Уважлівае знаёмства са зместам кнігі пераконвае ў слушнасці і трапнасці выбару яе назвы. Складана не пагадзіцца з аўтарам, што гэта была "вайна ўсіх супраць усіх". У разглядаемы час Беларусь сапраўды ператварылася ў поле жорсткага і бязлітаснага канфлікту некалькіх бакоў. Кожны з іх рэалізоўваў уласныя вайскова-палітычныя інтарэсы, а найбольшую цану за канфлікт плаціла мясцовае насельніцтва. У выніку — пастаянны страх, тэрор і рэпрэсіі, смерць ад рук "сваіх" і "чужых", галеча і рабункі, пагроза прымусовага вывазу на працу ў Германію і роспачнае жаданне выжыць любым коштам… Усё гэта фармавала пануры вобраз ваеннай рэчаіснасці. Невыпадкова аўтар адзначае, што на "фронце беларускай грамадзянскай вайны гінула больш людзей, чым у баях з немцамі" (с. 18).

Падсумоўваючы, неабходна падкрэсліць, што многія праблемы, якія ў ёй разглядаюцца, прадстаўлены даволі тэзісна і павярхоўна. Гэта датычыць міжнацыянальных адносін, партызанскага руху, штодзённага жыцця, ваенных страт. Можна сцвярджаць, што разглядаемая кніга мае характар сінтэтычнай працы, а не даследавання асобна ўзятай праблемы. Кніга напісана выдатнай літаратурнай мовай, стыль якой дазваляе вельмі добра адчуць складаныя ваенныя рэаліі. Аўтар знаёміць польскага чытача з асноўнымі аспектамі акупацыйнай рэчаіснасці, запрашаючы да рэфлексіі над найбольш драматычнымі эпізодамі гісторыі ўсходніх суседзяў Польшчы.

Апрача таго манаграфія дапамагае прасачыць розніцу і падабенства ваенных лёсаў беларусаў і палякаў. Калі гэта было адной з задум гісторыка, дык належыць канстатаваць, што сваю гэтую задачу ён цалкам вырашыў.

Кніга *Вайна ўсіх супраць усіх. Беларусь 1941–1944* уяўляе таксама вялікую каштоўнасць для беларускай гістарычнай навукі. Беручы над увагу моцную ідэалагізацыю ваеннай праблематыкі ў сучаснай Беларусі, з'яўленне ў беларускім навуковым дыскурсе голасу незалежнага даследчыка мае вялікае значэнне. Многія яго высновы могуць выклікаць спрэчкі сярод

гісторыкаў. Асабліва гэта датычыць прыхільнікаў савецкай гістарыяграфічнай традыцыі, паколькі аўтар кнігі аспрэчвае многія дагматы і тэзісы, якія з'яўляюцца асновай савецкай гістарыяграфіі па праблеме Другой сусветнай вайны. Аднак гэта будзе толькі чарговым пацвярджэннем таго, што кніга выканала сваю ролю, даючы штуршок далейшай дыскусіі.

У сувязі з гэтым не будзе перабольшаннем, калі адзначым, што існуе патрэба беларускамоўнага выдання кнігі, каб яна была больш даступнай у краіне, гісторыі якой прысвечана. Будзем спадзявацца, што беларуская навуковая супольнасць дачакаецца такой магчымасці.

**Андрэй Чарнякевіч,**
**канд. гіст. навук (Варшава)**
**ORCID 0000 0003 1889 2820**

# Брацкія магілы айчыннай гістарычнай навукі: "юбілейныя" зборнікі Інстытута гісторыі НАН Беларусі, прысвечаныя гісторыі беларускай дзяржаўнасці

*Беларуская Народная Рэспубліка ў гісторыі беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці: зб. арт.* Уклад. С. А. Траццяк; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.], Мінск 2020, 222 с.

*Октябрьская революция в исторических судьбах белорусской государственности: сборник статей,* редкол.: А. А. Коваленя [и др.], Мінск 2020, 309 с.

*Гістарычны лёс беларускай савецкай дзяржаўнасці (да 100-годдзя абвяшчэння Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі)*: зб. арт., рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.], Мінск 2021, 374 с.

*Назаўжды разам (да 80-годдзя ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР)*: зб. арт., рэдкал.: А. А. Каваленя (старш.) [і інш.], Мінск 2021, 293 с.

Тое, аб чым мы папярэджвалі ў адной з мінулых рэцэнзій, адбылося. Прамінулі чарговыя юбілеі, а разам з імі — новыя навуковыя канферэнцыі ў сценах Інстытута гісторыі НАН Беларусі, пакінуўшы пасля сабе сціплы "ўраджай" у выглядзе зборнікаў артыкулаў[1]. Кожнай падзеі — па зборніку. Улічваючы, што айчынны кніжны рынак моцна пакутуе на адсутнасць навуковых выданняў, інтарэс да працы акадэмічных вучоных выглядае прадказальным і зразумелым. Як, на жаль, і прадказальным, з пэўным выключэннем, стала агульнае расчараванне пасля знаёмства са зместам гэтых выданняў.

Самі падзеі, якія былі абраны ў якасці навуковай праблемы, храналагічна стаяць блізка паміж сабою і ў айчыннай гістарыяграфіі прадстаўлены даволі шырока: Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 г., абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі ды Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі, уз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР. Пры гэтым ужо сама назва, якая вы-

[1] А. Чарнякевіч, *Юбілейная пастараль: крок у даследаванні гісторы БНР ці бег на месцы?,* "Беларускі гістарычны агляд", 2018, т. 25, № 1–2, с. 285–296.

несена ў якасці загалоўка кнігі, яскрава сведчыць пра выбар яе інтэрпрэтацыі: “рэвалюцыя”, а не “бальшавіцкі пераварот”, “уз'яднанне”, “Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусь” (апошні прыклад уяўляе вельмі цікавы сімбіёз гістарычнай і лінгвістычнай традыцый у іх ідэалагічным вымярэнні). То бок прадстаўлены фармат канферэнцый пазбаўляе чытача інтрыгі і прапануе загадзя ўжо вядомыя высновы.

Акрамя таго, што зборнікі вельмі блізкія па тэматыцы, іх аб'ядноўвае яшчэ і агульны алгарытм напісання. Усе, без выключэння, выданні падрыхтаваны ў рамках выканання Дзяржаўнай праграмы навуковых даследаванняў на 2016–2020 гг. “Эканоміка і гуманітарнае развіццё беларускага грамадства” пад кіраўніцтвам прафесара А. Кавалені (падпраграма № 1 “Гісторыя і культура”, навуковы кіраўнік — дацэнт В. Даніловіч, заданне 1.3.03 “Беларусь у гістарычным працэсе: сацыяльна-эканамічныя трансфармацыі і грамадска-культурныя змены. Канец XVIII — пачатак XXI ст.”, навуковы кіраўнік дацэнт М. Смяховіч).

У выпадку з “уз'яднаннем”, праўда, дадалася яшчэ адна перспектыўная дзяржаўная праграма навуковых даследаванняў на наступныя пяць гадоў: “Грамадства і гуманітарная бяспека беларускай дзяржавы” пад кіраўніцтвам усё таго ж прафесара А. Кавалені. Бяззменным застаецца і склад рэкалегіі: А. Каваленя (старшыня), В. Даніловіч, В. Лакіза, А. Салаўянаў, С. Траццяк, В. Мазец — і рэцэнзенты: У. Тугай, С. Шымковіч[2].

У выніку мы атрымалі разам каля 180 (!) артыкулаў з накладам кожнага выдання па 200 асобнікаў (наклад зборніка, прысвечаны БНР, найменшы — 152 асобнікі, мабыць таму, што і падзея для ўкладальнікаў куды менш важная). Можна б было палічыць гэта значным унёскам у развіццё айчыннай гістарыяграфіі, каб не той факт, што агулам атрымалася па шэсць з паловаю старонак на кожны тэкст. Зразумела, што гэтыя лічбы сярэднія, і ў разглядаемых выданнях дастаткова публікацый на тры і нават на дзве старонкі, як, напр., “артыкул” пра цяжкасці ў забеспячэнні войск Чырвонай арміі тапаграфічнымі мапамі ў верасні 1939 г.[3] У гэтым сэнсе “БНР-скі” зборнік аказаўся ці не самым змястоўным, хаця б таму, што пры найменшай колькасці аўтараў (усяго 26, што ў два з паловай разы менш за колькасць удзельнікаў выдання, прысвечанага юбілею ССРБ) самі тэксты ў ім куды бліжэйшыя па памерах да агульных акадэмічных стандартаў. Дарэчы, і геаграфічна ён ці не самы прадстаўнічы, уключаючы побач з тэкстамі беларускіх навукоўцаў даклады гісторыкаў з Украіны і Польшчы. Астатнія зборнікі можна акрэсліць “менскацэнтрычнымі”, паводле іх аўтараў, з выразным ухілам у бок нашага ўсходняга суседа — Расіі.

[2] Тут, аднак, ёсць два выключэнні. У выпадку з выданнем, прысвечаным падзеям 1917 г., рэдкалегія была пашырана за кошт А. Капліева, а ў якасці дадатковага рэцэнзента з'явіўся А. Вялікі.

[3] М. Музыченко, *Трудности обеспечения войск Красной армии топографическими картами во время похода в Западную Беларусь 17 сентября 1939 г.* [у:] Назаўжды разам (да 80-годдзя ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР), Мінск 2021, с. 235–236.

Зразумела, што ні памер надрукаваных артыкулаў, ні месца афіляцыі іх аўтараў не належаць да галоўных крытэрыяў у ацэнцы навуковага значэння публікацыі. Гаворка ў дадзеным выпадку ідзе пра пэўныя патрабаванні, якія вызначаюць агульны ўзровень навуковай дыскусіі. Той жа артыкул пра забеспячэнне мапамі Чырвонай арміі ў верасні 1939 г. падаецца вельмі цікавым паводле абранай тэматыкі. Аднак фактычна ён напісаны на падставе аналізу адной крыніцы — справаздачы Беларускай асобнай вайсковай акругі, пра што, на жаль, сам аўтар (як і рэдактары выдання) забыўся паведаміць у назве сваёй публікацыі, сфармуляваўшы яе максімальна шырока і амбіцыёзна.

Што ж тычыцца ўдзельнікаў канферэнцый, дык і ў гэтым выпадку дадзены крытэрый падаецца мэтазгодным, калі прыгадаць, што прадстаўленыя працы падрыхтаваны ў межах дзяржаўнай праграмы НАВУКОВЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ, а значыць, яны апрыёры былі арыентаваны на ДАСЛЕДЧЫКАЎ. Тым часам сярод аўтараў тэкстаў побач з імёнамі дактароў, прафесараў, кандыдатаў гістарычных навук, вядучых навуковых супрацоўнікаў архіваў мы знаходзім магістраў, студэнтаў 3-га, 4-га, а нават 1-га курсаў гістфака, слухача факультэта Генеральнага штаба, спашукальніка Інстытута нацыянальнай бяспекі, шэраг краязнаўцаў, паслушніцу, настаўніка ды нават першага сакратара гаркама і другога сакратара ЦК Камуністычнай партыі Беларусі. Нават калі не атаясамліваць кожнага кандыдата, а нават доктара навук з даследчыкам, разам з тым ад акадэмічнага выдання ўсё ж такі чакаеш пэўнага аб'ектыўнага адбору, які б быў абумоўлены навуковым аўтарытэтам, узроўнем ведаў ці метадалагічнымі падыходамі.

Падкрэслім, што гэта ні ў якім выпадку не закід у бок тых жа аўтараў. У рэшце рэшт, сам па сабе артыкул, калі ён сапраўды мае прыкметы навуковага даследавання, у стане аспрэчыць падобную крытыку. На жаль, у нашым выпадку менавіта такіх "прарыўных" публікацый мы бачым няшмат. Замест гэтага маем вельмі арыгінальнае прызнанне ад імя рэдакцыйнай калегіі наступнага зместу (мова арыгінала): "…В сборнике представлены статьи, подготовленные как известными учеными, так и начинающими исследователями, поэтому издание в полной мере отражает современное состояние изучения истории советского и постсоветского общества. […] Ответственность за оригинальность и научную обоснованность выводов, содержащихся в статьях сборника, полностью лежит на авторах данных материалов. Редакционная коллегия может не разделять взгляды, отраженные в публикуемых статьях, однако из уважения к исследователям все материалы печатаются в полном объёме и без сокращений, с сохранением оформления научно-справочного аппарата и стиля авторов"[4].

[4] *От редакционной коллегии* [у:] *Октябрьская революция в исторических судьбах белорусской государственности*, редкол.: А. А. Коваленя [и др.], Мінск 2020, с. 3–4.

Пасля гэтага агульная для ўсіх выданняў выснова аб тым, што ў зборнік увайшлі матэрыялы, якія выклікалі найбольшую цікавасць і адлюстроўваюць сучасны стан вывучэння "феномена Беларускай Народнай Рэспублікі", "феномена беларускай савецкай дзяржаўнасці" ці "праблематыкі існавання беларускага народа ў часы нацыянальнага падзелу і ўз'яднання падзеленых частак Беларусі ў адзінай нацыянальнай дзяржаве", гучыць малапераканаўча. Насамрэч, верагодна, у зборнікі ўвайшлі ўсе дасланыя тэксты, у поўным памеры і без мінімальнага навуковага рэцэнзавання! Тады як адказ на пытанне, наколькі такі падыход адлюстроўвае "сучасны стан навуковага даследавання" кожнай з абраных праблем ды, агулам, адпавядае ўзроўню Акадэміі навук, здаецца відавочным. Далейшае знаёмства са зместам саміх выданняў толькі паглыбляе гэтае ўражанне.

Разглядаемыя кнігі — гэта мазаіка розных тэм і перыядаў, часам даволі выпадкова сабраных пад адной вокладкай. Пра гэта сведчаць назвы асобных разделаў, якія сфармуляваны максімальна шырока: "Октябрь 1917 года и процесс национально-государственного строительства", "Октябрьская революция в исторических судьбах народов мира", "100 лет социально-экономических и социально-культурных преобразований: достижения и проблемы"[5], "БССР: гістарычны вопыт сацыяльных, эканамічных і культурных пераўтварэнняў"[6], "Сацыяльна-эканамічнае становішча, грамадска-палітычнае жыццё, развіццё культуры і беларускі нацыянальны рух у Заходняй Беларусі", "Геапалітычнае становішча ў Еўропе…"[7]. У выніку мы бачым самы шырокі спектр заяўленых праблем, ад кадэтаў на тэрыторыі Беларусі ў 1917 г. да асноўных напрамкаў распрацоўкі моладзевай жыллёвай палітыкі ў Беларусі ў 1991–2000 гг..[8]

У гэтым сэнсе зноў хацелася б вызначыць зборнік "БНР у гісторыі беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці". Ён атрымаўся найбольш прадстаўнічым па складзе аўтараў, вытраманы тэматычна і храналагічна, з простай і лагічнай структурай. Хутчэй за ўсё, гэта заслуга С. Траццяка, бо гэтая кніга адзіная, дзе ўзгадваецца прозвішча ўкладальніка[9].

Ацэньваць змешчаныя ў зборніках артыкулы даволі цяжка. Яны, сапраўды, вельмі розныя па ўзроўні ды змесце, што ў дадзеным выпадку сведчыць хутчэй пра адсутнасць рэдактарскай працы, чым з'яўляецца прыкладам навуковага плюралізму. Ёсць артыкулы, што маюць характар

---

5 *Ibidem*, с. 307–309.

6 *Гістарычны лёс беларускай савецкай дзяржаўнасці (да 100-годдзя абвяшчэння Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі)*, рэдкал.: А. А. Каваленя (старш.) [і інш.], Мінск 2021, с. 3–5.

7 *Назаўжды разам (да 80-годдзя ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР)*, рэдкал.: А. А. Каваленя (старш.) [і інш.], Мінск 2021, с. 291–293.

8 *Октябрьская революция в исторических судьбах белорусской государственности*, с. 307–309.

9 *Беларуская Народная Рэспубліка ў гісторыі беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці*, Уклад. С. А. Траццяк; рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.], Мінск 2020, с. 2, 221–222.

аўтаплагіяту[10]. У іншых у якасці спасылкі падаюцца артыкулы з "Вікі"[11]. Публіцыстычны характар, як па форме, гэтак і па змесце, некаторых тэкстаў наогул не дазваляе аднесці іх да катэгорыі навуковых публікацый[12].

Разам з тым гістарыяграфічна ды метадалагічна большасць публікацый дэманструюць аднолькавы аўтарскі спосаб гістарычнай нарацыі. Гэтак, на некалькі дзясяткаў артыкулаў, прысвечаных Кастрычніцкай рэвалюцыі, мы агулам маем толькі адну спасылку на англамоўную крыніцу, адну — на польскамоўную, ды яшчэ ўзгадваюцца дзве кнігі ў перакладзе, працы Адрыяна Ракуччы ды Стывена Коэна. Як падаецца, гэтага недастаткова, каб вызначыць месца дадзенай падзеі ў "гістарычных лёсах народаў свету".

Дзеля аб'ектыўнасці трэба адзначыць, што агулам пераважная большасць аўтараў у сваіх поглядах на савецкі перыяд гісторыі Беларусі далёкая ад яго апалагетыкі. Напр., у гэтым жа зборніку, прысвечаным 1917 г., друкуюцца побач два артыкулы, якія адстойваюць не проста розныя, а — узаемавыключальныя падыходы, ды яшчэ і разыходзяцца па сваёй тэрміналогіі, дзе адзін з аўтараў выкарыстоўвае катэгорыю "бальшавіцкая контррэвалюцыя", тады як іншы піша пра "замежную ваенную інтэрвенцыю" з мэтай падаўлення рэвалюцыйных пераўтварэнняў бальшавікоў[13].

Разам з тым некаторыя з аўтарскіх высноў паспелі нават ужо састарэць і згубілі сваю актуальнасць. Напрыклад, адзін з даследчыкаў у артыкуле, прысвечаным пытанню беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці, упэўнена сцвярджае наступнае: "…Доўгі перыяд — да 2011 г. — 25 сакавіка каля Акадэміі навук збіраліся грамадзяне, якія ладзілі мітынгі, дэманстрацыйнае шэсце пад лозунгамі "Няхай жыве БНР", гэта значыць, гісторыя БНР была фактарам дзеючай палітыкі. І толькі пасля таго, як навукоўцамі Інстытута гісторыі была распрацавана і рэалізавана новая канцэпцыя гісторыі беларускай дзяржаўнасці, гісторыя БНР перастала быць фактарам палітыкі […]"[14].

Магчыма, што яшчэ некалькі гадоў таму, калі напярэдадні святкавання юбілею БНР у падыходах дзяржаўных інстытутаў Беларусі з'явіліся прыкметы ідэалагічнай "адлігі" адносна ацэнкі гэтага перыяду айчыннай

---

[10] В. Кривчиков, *Обеспечение войск 10-й армии горючим и смазочными материалами в ходе освободительного похода 1939 г.* [у:] *Назаўжды разам…*, с. 230–234.

[11] М. Стрелец, *Рижский мирный договор 1921 г. и национальные интересы Белорусской Советской Социалистической республики* [у:] *Назаўжды разам…*, с. 166–170.

[12] С. Третьяк, *Разделенная нация: Беларусь в 19121–1939 гг. в исторической памяти* [у:] *Назаўжды разам…*, с. 117–122; Г. Атаманов, *Роль белорусских коммунистов в воссоединении Западной Беларуси с БССР в единое государство (к 80-летию воссоединения)* [у:] *Назаўжды разам…*, с. 276–281; У. Ягорычаў, *У адзінай дзяржаве* [у:] *Назаўжды разам…*, с. 281–287.

[13] Н. Семенчик, *Октябрь 1917 г. в Беларуси: большевистская контрреволюция?* [у:] *Октябрьская революция…*, с. 18–25; М. Смольянинов, *Октябрьская революция и начало иностранной военной интервенции в Беларуси* [у:] *Октябрьская революция…*, с. 25–32.

[14] М. Смяховіч, *Беларуская нацыянальная дзяржаўнасць у 1917–1918 гг.: падзеі, народ, эліты* [у:] *Беларуская Народная Рэспубліка…*, с. 109.

гісторыі, падобныя развагі можна было неяк абгрунтаваць. Але нават тады, як падаецца, тэзіс пра “дэпалітызацыю” спадчыны БНР гучаў даволі непераканаўча. Што ж тады казаць пра сённяшні дзень, калі нават выпадковае выкарыстанне колераў, аналагічных сімволіцы БНР, з’яўляецца прыкметай крымінальнага злачынства?!

З іншага боку, выклікае шчырае захапленне ў сэнсе грамадскай смеласці сцвярджэнне гэтага ж самага даследчыка пра “геапалітычную барацьбу сучасных **імперыялістычных** (А. Ч.) дзяржаў: **Расіі**, Еўрасаюза, ЗША, — за тэрытарыяльны, эканамічны і ваенна-палітычны перадзел свету”[15]. Асабліва ў кантэксце выказанай старшынёй Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі акадэмікам У. Гусаковым перасцярогі аб недапушчальнасці праявы ў навуковым асяроддзі “…ідэалагічнага і палітычнага экстрэмізму”[16]. А раптам гэтае вызначэнне, якое патрапіла на старонкі акадэмічнага выдання, таксама кваліфікуецца як праява “эктрэмізму”?

Агульна кажучы, чарговыя “юбілейныя” зборнікі Інстытута гісторыі НАН Беларусі, прысвечаныя пытанням нацыянальнай дзяржаўнасці, замест плюралізму поглядаў пакідаюць пасля сабе адчуванне суцэльнага рэлятывізму пры аналізе разглядаемых падзей, дзе мы атрымліваем мяшанку ўзаемавыключальных высноў і падыходаў, нават без намёку на навуковую дыскусію.

---

15 *Ibidem*, с. 110.

16 *Гістарычны лёс беларускай савецкай дзяржаўнасці*…, с. 10.

# Анатацыі

**В. М. Мятліцкая,** ***На пагранiччы эпох і дзяржаў. Старонкі гісторыі Гомеля (1917–1918),*** **Гомель 2021, 224 с.**

Напрыканцы мінулага года ў гомельскім выдавецтве “Барк” выйшла з друку апошняя кніга Валянціны Мятліцкай, прысвечаная палітычнай гісторыі Гомеля ў 1917–1918 гг. Аўтарка працы найбольш вядомая даследаваннямі, прысвечанымі жыццю і дзейнасці славутага гісторыка, этнографа, эканаміста Мітрафана Доўнар-Запольскага (1867–1934). Менавіта яна на працягу многіх гадоў была галоўным арганізатарам “Доўнараўскіх чытанняў”, якія праходзілі ў Гомелі, Рэчыцы і Кіеве. Часта на гэтых чытаннях працавала секцыя па гісторыі Гомеля і Гомельшчыны. Згаданае выданне сведчыць пра вялікі інтарэс даследчыцы да мінуўшчыны горада на Сожы, што між іншым праяўлялася ў шматгадовай навукой працы ў архівах і бібліятэках Беларусі, Украіны і Расіі.

Кніга “На пагранiччы эпохі і дзяржаў” надзвычай грунтоўна распавядае пра тыя палітычныя перамены, якія адбываліся ў лёсе Гомеля ў 1917–1918 гг. Тут знайшлі сваё адлюстраванне ўрбаністычная рэвалюцыя па-гомельску канца XIX — пачатку XX ст., пачатак Расійскай рэвалюцыі і крах самаўладдзя, спробы лібералізацыі палітыкі Часовага ўрада і рэзкая радыкалізацыя настрояў сацыяльных “нізоў”, перамога бальшавікоў, беларускае нацыянальнае Адраджэнне і ўкраінская нацыянальная рэвалюцыя. Прычым аўтарскую характарыстыку падзей узбагачаюць патрэты гістарычных персанажаў, дзеянні якіх, з аднаго боку, былі адлюстраваннем дамінуючых гістарычных тэндэнцый, а з іншага — надавалі гэтым тэндэнцыям пэўную адметнасць.

У гісторыі Гомеля гэтыя гады былі надзвычай важнымі. Гісторык Андрэй Кіштымаў заўважыў у прадмове: “Ніколі раней, ды і пазней, гэты рэгіён не станавіўся месцам, дзе вырашаліся гістарычныя лёсы не толькі былой Расійскай імперыі, але і праблемы еўрапейскай і сусветнай палітыкі. У гэтыя гады назву Гомель добра ведалі ў Петраградзе і Маскве, у Берліне і Кіеве, прысутнічала яна і ў палітычным лексіконе вядучых дзяржаў таго часу”. Але ў найбольшай ступені тут перасякліся інтарэсы Расіі, Украіны (УНР, Украінская Дзяржава) і Беларусі (БНР).

Перыяд 1917–1918 гг. можна лічыць вызначальным для далейшай гісторыі не толькі Гомельшчыны, але таксама ўсёй Беларусі, Украіны і Ра-

сіі. Між тым у гістарыяграфіях гэтых краін практычна адсутнічаюць грунтоўныя даследаванні тагачаснай лакальнай і рэгіянальнай гісторыі. Кніга Валянціны Мятліцкай — адна з першых, якая патрабуе ад паслядоўнікаў высокага ўзроўню прафесіяналізму. Яе выданне — важная веха для беларускай гістарыяграфіі Найноўшага часу.

**Аляксандр Смалянчук**

## В. В. Карнялюк, *Міграцыя беларускага насельніцтва, выкліканая Першай сусветнай вайной*, Гродна 2019. 329 с.

Пачатак XX стагоддзя для беларусаў, як і для большасці народаў Еўропы, звязаны з катастрофай Першай сусветнай вайны. Беларусь апынулася ў самым гушчары баявых дзеянняў, і насельніцтва краіны адчула на сабе ўвесь іх цяжар. Адным з самых драматычных працэсаў, выкліканых гэтай вайной, для беларускіх губерняў Расійскай імперыі стала масавае перамяшчэнне насельніцтва, якое атрымала назву "бежанства". Перыяд знаходжання больш мільёна беларусаў у "бежанстве" ахапіў увесь перыяд вайны і доўжыўся да фактычнага завяршэння рээвакуацыі бежанцаў на радзіму ў 1923 г. Працяглае знаходжанне ў вымушанай міграцыі аказала істотны ўплыў на светапогляд сотняў тысяч жыхароў Беларусі, а таксама і на сам ход гістарычных падзей на іх радзіме ў лёсавызначальныя для нашай краіны гады.

Азначанай праблеме, недастаткова даследаванай у беларускай гістарыяграфіі, прысвечана манаграфія гродзенскага гісторыка Віталя Карнелюка, якая выйшла ў свет у 2019 г. Праца грунтуецца на вельмі шырокай базе гістарычных крыніц. Прычым шматлікія архіўныя дакументы ўпершыню ўведзены аўтарам у навуковы ўжытак.

Першы раздзел кнігі прысвечаны аналізу літаратуры і крыніц па праблеме даследавання. У другім аўтар разглядае "вымушаную міграцыю" насельніцтва ў беларускіх губернях у 1914–1917 гг. і міграцыйную палітыку ўлад Расійскай імперыі. Гэты тэрмін — "вымушаная міграцыя", які Віталь Карнялюк ужывае для навуковага акрэслення "бежанства", — напэўна, выкліча дыскусіі сярод гісторыкаў. Трэці раздзел кнігі прысвечаны разгляду жыцця бежанцаў-беларусаў па-за межамі сваёй радзімы. І апошні, чацвёрты, раздзел прысвечаны рээвакуацыі бежанцаў у Беларусь у 1918–1923 гг.

Аўтар бачыць у бежанцах асобную сацыяльную групу, якая сфармавалася падчас вайны і была ўключана ў падзеі палітычнага, сацыяльна-эканамічнага і культурнага пераўтварэння і нацыянальнага дзяржаўнага будаўніцтва. В. Карнялюк грунтоўна аналізуе палітыку расійскіх улад адносна бежанцаў-беларусаў, у т.л. створаную прававую базу. Аўтар звяртае ўвагу, што часта прычынай бежанства з'яўлялася прымусовая дэпартацыя, якая ажыццяўлялася вайсковымі ўладамі пры набліжэнні фронту.

Аўтар прыйшоў да высновы, што дзяржаўная міграцыйная палітыка ў дачыненні да бежанцаў з Беларусі ў 1915–1923 гг. не ставіла спецыяльнай задачы сацыяльнай адаптацыі гэтых вымушаных мігрантаў на месцах іх часовага знаходжання. Аднак частка бежанцаў-беларусаў пасля завяршэння вайны засталася ў Расіі.

У беларускіх палітычных і грамадскіх арганізацый на працягу ўсяго часу вымушанай міграцыі, выкліканай падзеямі Першай сусветнай вайны, не было магчымасцей рэальнага ўплыву на бежанцаў-беларусаў, што фактычна пазбаўляла беларускі рух шырокай палітычнай падтрымкі з боку гэтай шматтысячнай групы насельніцтва.

**Сяргей Токць**

## J. Żyndul, *Żydzi i Piłsudski. Wybór źródeł do historii stosunków polsko-żydowskich w okresie międzywojennym*, Warszawa 2021, 435 s.

Для складанай гісторыі польска-яўрэйскіх адносін праблематыка "Пілсудскі і яўрэі" мае вялікае значэнне. Укладальніца і ў пэўным сэнсе аўтар гэтай кнігі прафесар Ёланта Жындуль паспрабавала з дапамогай гістарычных дакументаў яўрэйскага паходжання паказаць стаўленне яўрэяў да Юзафа Пілсудскага як найважнейшага польскага палітыка міжваеннага перыяду. Кім быў для яўрэяў Пілсудскі ў тыя часы? Як ацэньвалі яго дзейнасць і асобу? Чаго ад яго чакалі? Чаму смерць Пілсудскага выклікала амаль што роспач у многіх яўрэяў?

Пэўны адказ на гэтыя пытанні прапанаваны ў дакументальнай манаграфіі, якая складаецца з дзвюх частак. У першай апублікаваны лісты да Юзафа Пілсудскага як фармальнага, а пазней нефармальнага кіраўніка Польскай дзяржавы. Змешчаныя тут дакументы датычыць праблем, важных для ўсёй яўрэйскай супольнасці, як, напрыклад, праяў антысемітызму, дзяржаўнай палітыкі ў адносінах да яўрэяў, іх юрыдычнага статусу. У другой частцы ("Яўрэі пра Пілсудскага") — тэксты выступаў прадстаўнікоў яўрэйскай супольнасці падчас дзяржаўных свят, імянін Маршалка або жалобных урачыстасцей, публіцыстыка і аповеды пра сустрэчы з Пілсудскім.

Дакументы датычаць перыяду 1918–1935 гг. У цэнтры ўвагі даследчыцы апынулася не пазнейшая "легенда Пілсудскага", а тыя рэальныя кантакты і ўзаемаадносіны, якія мелі месца пры яго жыцці.

Дакументальная манаграфія пра стасунак яўрэяў да Юзафа Пілсудскага адначасна сведчыць пра іх адносіны да Польскай дзяржавы. Не менш важна і тое, што апублікаваныя дакументы ўтрымліваюць шмат каштоўнай інфармацыі пра розныя сацыяльныя аспекты як жыцця яўрэяў, так і польска-яўрэйскіх адносін. Прыватныя лісты даносяць да нас галасы "простых людзей", сведчаць пра ментальнасць, звычаі і балячкі штодзённага жыц-

ця, што адсутнічаюць у крыніцах, якія выкарыстоўваюцца для напісання палітычнай гісторыі. Напрыклад, у лістах з віншаваннямі з нагоды імянін выразна відаць, што іх шматлікія яўрэйскія аўтары папросту не разумелі карані гэтага хрысціянскага звычая, які адсутнічае ў іх традыцыі. А гэта сведчыць пра тую вялікую культурную дыстанцыю, якая дзяліла польскіх католікаў і яўрэяў.

Трэба адзначыць, што кніга Ёланты Жындуль запаўняе пэўную нішу ў польскай гістарыяграфіі. Як адзначае яе аўтар, да гэтага часу адносінам яўрэяў да Пілсудскага фактычна былі прысвечаны толькі дзве публікацыі. Так, Anna Landau-Czajka ахарактарызавала культ Маршалка сярод спаланізаваных яўрэяў, а Natalia Aleksiun апублікавала цікавае даследаванне лістоў яўрэяў да Пілсудскага з фондаў Цэнтральнага ваеннага архіва.

Таксама трэба адзначыць, што прафесар Яўрэйскага гістарычнага інстытута (Żydowski Instytut Historyczny) у Варшаве Ёланта Жындуль належыць да найбольш вядомых даследчыкаў польска-яўрэйскіх адносін у XIX–XX стст. Яна аўтар кніг *Zajścia antyżydowskie w Polsce w latach 1935–1937* (1994), *Państwo w państwie? Autonomia narodowo-kulturalna w Europie Środkowo-Wschodniej w XX w.* (2000), *Kłamstwo krwi. Legenda mordu rytualnego na ziemiach polskich w XIX i XX wieku* (2011). У планах даследчыцы падрыхтоўка манаграфіі, прысвечанай адносінам Пілсудскага да яўрэяў, да "яўрэйскага пытання" і антысемітызму.

Упэўнены, што гэта выданне зацікавіць таксама даследчыкаў з Беларусі і Украіны, у гісторыі якіх "яўрэйскае пытанне" ў перыяд Найноўшай гісторыі з'яўляецца адным з найбольш важных і недастаткова даследаваных.

**Аляксандр Смалянчук**

## *Bronisław Piłsudski. Dziennik. 1882–1885*. Opracowanie Jolanta Żyndul, Warszawa 2021, 592 s.

14 студзеня 2022 г. у Музеі Юзафа Пілсудскага ў Суляюўку пад Варшавай адбылася прэзентацыя выдання дзённіка Браніслава Пілсудскага ў апрацаванні др габ. Ёланты Жындуль. Галоўнымі героямі гэтай прэзентацыі былі сама даследчыца, рэцэнзенты праф. Лешак Заштаўт (Варшаўскі ўніверсітэт) і д-р Рымантас Мікніс (Інстытут гісторыі Літвы), а таксама… Браніслаў Пілсудскі.

Старэйшы брат Юзафа Пілсудскага нарадзіўся ў Зулаве на Віленшчыне ўвосень 1866 г., а ў 1887 г. за ўдзел у замаху на жыццё імператара Аляксандра III быў высланы на востраў Сахалін на 15 гадоў. Браніслаў Пілсудскі ў высылцы стаў адным з піянераў сусветнай этнаграфіі. Шмат гадоў ён збіраў і публікаваў матэрыялы пра культуру мясцовых народаў айнаў, оракаў і ніўхаў (гілякоў), а таксама спрабаваў палепшыць іх матэрыяльнае і сацыяльнае становішча. У 1906 г. праз Японію і ЗША даследчык ра-

зам з вялізнай калекцыяй этнаграфічных матэрыялаў прыехаў у Галіцыю. Вывучэнне культуры жыхароў Татраў пацвердзіла яго высокі навуковы ўзровень, і ў 1911 г. ён узначаліў Народазнаўчую секцыю Татранскага навуковага таварыства.

Пасля пачатку Першай сусветнай вайны Б. Пілсудскі выехаў у Швейцарыю, дзе далучыўся да палітычнай дзейнасці. У 1917 г. ён пераехаў у Парыж і стаў сябрам Польскага нацыянальнага камітэта, які ўзначальвалі Раман Дмоўскі і Ігнацы Падэрэўскі. Падобна, што праграма камітэта, які імкнуўся да незалежнасці Польшчы ў саюзе з краінамі Антанты, была яму бліжэй, чым планы малодшага брата. Жыццё абарвалося трагічна 17 мая 1918 г.

Дзённік Браніслава Пілсудскага, які ён вёў у часы навучання ў адной з віленскіх гімназій, быў добра вядомы даследчыкам у выглядзе машынапісу, які захоўваецца ў Інстытуце Ю. Пілсудскага ў ЗША. Аднак Ёланта Жындуль карысталася з арыгіналу, які быў знойдзены ў фондах Бібліятэкі імя Урублеўскіх Літоўскай акадэміі навук у Вільні. Даследчыкі ведалі пра яго, але, магчыма, усведамленне той велізарнай працы па падрыхтоўцы тэксту дзённіка да публікацыі (вычытка тэксту, напісанага па паўночна-польскім дыялекце польскай мовы і насычанага русізмамі, шматлікія каментары і тлумачэнні і г.д.) перашкаджала яго выданню. Ёланта Жындуль выканала гэтую працу на самым высокім узроўні.

Апошняе якраз адначылі рэцэнзенты. Д-р Рымантас Мікніс звярнуў увагу, што ў выніку працы даследчыцы юнацкі дзённік Браніслава Пілсудскага стаў нагадваць мініэнцыклапедыю штодзённага жыцця Вільні ў першай палове 1880-х гг. Апрача таго дзённік дае шмат інфармацыі пра жыццё вялікай сям'і Пілсудскіх і іх сваякоў. Яго матэрыялы натхнілі даследчыцу на стварэнне генеалагічных табліц усіх згаданых у тэксце сваякоў сям'і Пілсудскіх і сям'і Білевічаў (маці Браніслава Пілсудскага).

Выданне дзённіка па ўзроўні навуковай апрацоўкі, а таксама паліграфічнай якасці кнігі можна лічыць узорным.

**Аляксандр Смалянчук**

## *Umysł miał jasny i serce miłujące. Edward Woyniłłowicz w dokumentach i materiałach.* Wybór, opracowanie, wstęp i przypisy Roman Jurkowski, Olsztyn 2021, 743 s.

Прафесар Раман Юркоўскі з Вармінска-Мазурскага ўніверсітэта ў Ольштыне належыць да найбольш грунтоўных знаўцаў гісторыі польскай эліты ў Беларусі і Літве ў другой палове XIX – пачатку XX стагоддзя. Такія яго кнігі, як *Ziemiaństwo polskie Kresów Północno-Wschodnich 1864–1904: działalność społeczno-gospodarcza* (2001), *Sukcesy i porażki: ziemiaństwo polskie Ziem Zabranych w wyborach do Dumy Państwowej i Rady Państwa 1906–1913* (2009), сталі настольнымі для многіх беларускіх даследчыкаў. Яны вылучаюцца ба-

гатай дакументальнай базай, а таксама глыбокай аналітыкай, якой спрыяе веданне беларускай, літоўскай і расійскай гістарыяграфіі. Таксама варта прыгадаць кнігу пра Пятра Сталыпіна *Kowieński marszałek, grodzieński gubernator: kresowe początki kariery politycznej Piotra Stołypina (1889–1903)* (2015), у якой аўтар паспрабаваў паглядзець на праблемы сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларуска-Літоўскага краю праз біяграфію вядомага палітыка Расійскай імперыі.

Асаблівае месца ў даследаваннях Рамана Юркоўскага займае постаць шматгадовага кіраўніка Менскага таварыства сельскай гаспадаркі, дэпутата расійскай Дзяржаўнай рады (1906–1909) і сябра Рады БНР (1918) Эдварда Вайніловіча (1847–1928). Ведаючы пра гэта, даўно чакаю ад калегі біяграфічнага даследавання, прысвечанага Э. Вайніловічу. Гэтыя спадзяванні сталі больш пэўнымі пасля выдання зборніка дакументаў *Umysł miał jasny i serce miłujące*…

Кніга выйшла як том II выдавецкай серыі Źródła do dziejów Europy Środkowo-Wschodniej, рэдактарам якой з'яўляецца сам Раман Юркоўскі, і была прысвечана пробашчу касцёла Св. Сымона і Алены ў Менску ксяндзу Уладзіславу Завальнюку, які надзвычай шмат зрабіў дзеля ўшанавання памяці пра Эдварда Вайніловіча.

Прафесар Юркоўскі ў прадмове даволі сціпла сфармуляваў свае задачы як укладальнік: "Po pierwsze, zebrać w jednym tomie rozproszone materiały dotyczące E. Woyniłłowicza i przedstawić je Czytelnikowi w opracowanej naukowo i edytorsko formie. Po drugie, zaznajomić Czytelnika, przyszłego badacza ze źródłami, dotąd nieznanymi, lub znanymi tylko fragmentarycznie" (s. 10).

Але насамрэч атрымаўся свайго роду дакументальны жыццяпіс Эдварда Вайніловіча, які складаецца з пяці раздзелаў: *Życie i działalność. 1847–1928; O Edwardzie Woyniłłowiczu po jego śmierci (lata 1928–1931); O Edwardzie Woyniłłowiczu i jego pamiętnikach, po ukazaniu się I części Wspomnień 1847–1928, lata 1931–1935; Edward Woyniłłówicz w memuarystyce; Pierwsza drukowana biografia Edwarda Woyniłłowicza, 1938 rok*.

У зборніку бачым дзве асноўныя катэгорыі крыніц. У першую ўвайшлі крыніцы, створаныя Э. Вайніловічам. Яны істотна дапаўняюць яго ўспаміны, першая частка якіх выйшла з друку яшчэ ў 1931 г., а другая — у 2016. Гэта лісты Э. Вайніловіча, артыкулы ў перыядычным друку, тэксты прамоў, тэстаменты, падпісаныя ім звароты і дэкларацыі. Крыніцы дапамагаюць зразумець погляды Вайніловіча па найбольш важных сацыяльна-эканамічных і палітычных праблемах эпохі. Хоць варта адзначыць, што ў адрозненне ад многіх сваіх калег нязменны кіраўнік Менскага таварыства сельскай гаспадаркі аддаваў перавагу практычнай дзейнасці і быў даволі скупы на публічнае праяўленне ўласнай пазіцыі. Другая катэгорыя крыніц прадстаўлена ацэнкамі, меркаваннямі і заўвагамі сучаснікаў, датычнымі да жыцця і дзейнасці галоўнага героя выдання.

Публікацыя дакументаў суправаджаецца вялікай колькасцю каментароў і заўваг укладальніка, якія разам са спасылкамі наблізіліся да 1700. Месцамі зборнік нагадвае сапраўдную энцыклапедыю жыцця эліты польскай супольнасці Беларуска-Літоўскага краю падчас палітычных перамен эпохі нацыяналізмаў. Упэўнены, што кніга *Umysł miał jasny i serce miłujące…* зойме важнае месца ў гістарыяграфіі вывучэння польскага руху і праблематыкі польска-беларускіх адносін на рубяжы XIX–XX стст.

**Аляксандр Смалянчук**

***Мінскі магістрат і гарадская рада ў дакументах (1919–1920 гг.)*. Падрыхтавалі да друку, прадмова і каментары А. Г. Дашкевіч, А. А. Скеп'ян; пераклад з польскай А. А. Скеп'ян, Мінск 2020, 396 с.**

Адно з апошніх выданняў на гістарычную тэматыку выдавецтва „А. М. Янушкевіч" змяшчае пратаколы пасяджэнняў Менскіх магістрата і гарадской рады за перыяд 1919–1920 гг., якія захоўваюцца ў фондах Дзяржаўнага архіва Менскай вобл.

Кніга складаецца з прадмовы і кароткай гісторыі Менскага магістрата, дзе складальнікі абгаворваюць галоўныя падыходы пры выбары і публікацыі дакументаў, а таксама знаёмяць з кароткай гісторыяй дзейнасці органаў мясцовага самакіравання ў "перыяд польскай акупацыі" (цікава, што тэрмін "акупацыя" ў кнізе не выкарыстоўваецца); саміх пратакалоў, якія падаюцца паводле храналогіі на польскай мове арыгінала і ў перакладзе на беларускую, а таксама — каментароў, імяннога, геаграфічнага і прадметнага паказальнікаў. У якасці дадатку прыводзіцца рэпрынтны план Менска за 1910–1920 гг.

Усяго зборнік змяшчае 59 пратаколаў, якія ахопліваюць перыяд ад 15 жніўня 1919 г., калі ў горад увайшлі польскія войскі, і да 10 мая 1920 г. У дакументах адлюстраваны арганізацыйная структура магістрата, яго асабовы склад, асноўныя кірункі дзейнасці, пытанні ўзаемадзеяння з польскай ваеннай уладай і органамі цывільнай адміністрацыі.

Як адзначылі ўкладальнікі зборніка, дакументы дазваляюць прааналізаваць дзейнасць медыцынскай, пажарнай, паліцэйскай, падатковай, ветэрынарнай і іншых службаў, а таксама вызначыць асаблівасці палітыкі польскіх органаў кіравання ў Менску і Менскай акрузе.

Кніга выдадзена пры падтрымцы Польскага інстытута ў Менску агульным накладам 99 асобнікаў.

**Андрэй Чарнякевіч**

## *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі*. Уклад., прадм., камент. А. Бучы, А. Горнага, Мінск 2021, т. 2., кн. 1, 272 с.

Яшчэ адзін прыклад працы незалежнага выдавецтва і прыватнай ініцыятывы асобных даследчыкаў, вынікам чаго стала публікацыя чарговай часткі дакументаў гэтак званага “Архіва БНР” — корпуса матэрыялаў аб палітычнай дзейнасці структур Беларускай Народнай Рэспублікі.

Фармальна кніга падаецца як працяг серыі, якую запачаткаваў яшчэ ў 1998 г. журналіст і гісторык Сяргей Шупа, выдаўшы матэрыялы Рады міністраў БНР з фондаў Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Літвы. У другі том серыі ўвайшла частка дакументаў з маскоўскіх збораў па гісторыі БНР, а дакладна — афіцыйныя пратаколы пасяджэнняў Народнага сакратарыята БНР за 1918 г., якія былі выяўлены Аляксандрам Горным у Дзяржаўным архіве Расійскай Федэрацыі.

Усяго ў выданні змешчаны 121 пратакол за перыяд ад 21 лютага 1918 г., з моманту ўтварэння кіруючага органа БНР, і да 26 лістапада таго ж года, калі прадстаўнікі беларускага ўрада былі вымушаны пакінуць Менск. Дакументы ахопліваюць перыяд паўстання ды дзейнасці ўрадаў БНР пад кіраўніцтвам Язэпа Варонкі, Рамана Скірмунта і Янкі Серады, а таксама стварэнне ўрада Антона Луцкевіча.

У апублікаваных дакументах адлюстраваны абставіны і галоўныя этапы фармавання органаў беларускай дзяржаўнасці, а таксама міжнародная, унутрыпалітычная і эканамічная сітуацыя ў краі ў перыяд іх дзейнасці.

*Архівы БНР* выйшлі накладам 200 асобнікаў.

**Андрэй Чарнякевіч**

## А. В. Шарков, Е. И. Хорошевич, *По следам Польско-советской войны, 1919–1920*, Минск 2020, 232 с.

Рэдкае для беларускай гістарыяграфіі выданне, прысвечанае ваенным падзеям Польска-савецкай вайны, пабачыла свет напярэдадні стагоддзя з яе заканчэння ў дзяржаўным выдавецтве “Звязда” накладам у 700 асобнікаў (!).

Фактычна кніга прадстаўляе сабою ілюстраваны пуцяводнік па вайсковых пахаваннях савецкіх ды польскіх жаўнераў, а таксама ахвяр “белапольскага тэрору” і ваеннапалонных чырвонаармейцаў. Геаграфічна яна ахоплівае абшар сучаснай Рэспублікі Беларусь і фрагментарна Польшчы. У апошнім выпадку аўтары засяроджваюцца галоўным чынам на вайсковых мемарыялах на месцах былых лагераў для ваеннапалонных і інтэрнаваных чырвонаармейцаў.

Аўтары кнігі — палкоўнік міліцыі Анатолій Шаркоў і лаўрэат прэміі “За духоўнае адраджэнне” Алена Харашэвіч — раней ужо выдалі некалькі сумесных прац: *Жить и помнить. Советские воинские захоронения в Ев-*

*ропе* (2015), *Святые родники Белой Руси* (2017), *Ставка Верховного главнокомандующего Русской армией в годы Первой мировой войны в событиях и лицах* (2017), *Обелиски памяти Русской императорской армии* (2018).

Кніга складаецца з прадмовы, трох раздзелаў, спіса літаратуры і дадатку. Яна пачынаецца зваротам Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Рэспублікі Польшча ў Беларусі Артура Міхальскага і прафесара Аляксандра Кавалені.

У прадмове і першых раздзелах аўтары даволі агульна пераказваюць сам ход вайны і засяроджваюцца галоўным чынам на ахвярах сярод ваеннапалонных чырвонаармейцаў, якія трапілі ў польскі палон. Цікава, што значная частка апісання вайсковых дзеянняў адведзена пад "Палескі паход" генерала С. Балаховіча ды ягонай Народна-добраахвотніцкай арміі.

У найбольш цікавым трэцім раздзеле змешчаны апісанні вайсковых мемарыялаў. Большасць з іх тычыцца пахаванняў на тэрыторыі Беларусі, якія прадстаўлены ў алфавітным парадку паводле абласнога адміністрацыйнага дзялення: асобна па Брэсцкай, Гродзенскай ды інш. абласцях, — а таксама праілюстраваны аўтарскімі здымкамі.

У апісаннях прыводзяцца звесткі пра месца, прыкладную колькасць загінулых, абставіны іх гібелі, прычым пераважна без прозвішчаў. Апісваецца сучасны стан пахавання. Агульнай карты мемарыялаў або планаў могілак аўтары не публікуюць.

**Андрэй Чарнякевіч**

# IX Міжнародны кангрэс даследчыкаў Беларусі 1–3 кастрычніка 2021 г., Універсітэт Вітаўта Вялікага, Коўна

Калі Кангрэс быў запачаткаваны, то ён рэалізоўваў амбітную ідэю — штогод праводзіць самыя буйныя форумы даследчыкаў Беларусі. Гэта адразу выклікала крытыку і запатрабавала шмат намаганняў ад арганізацыйнай каманды. Першыя сем гадоў гэта ідэя ажыццяўлялася, але са з'яўленнем задумы зрабіць Кангрэс у Менску рэгулярнасць знікла. Упершыню не атрымалася правесці Кангрэс у Менску ў 2018 г., а чарговы IX форум быў запланаваны на кастрычнік 2020 г. і таксама ў Менску. Ужо ў жніўні стала зразумела, што яго правесці не атрымаецца.

Агулам будучыня самога мерапрыемства апынулася пад пагрозай, паколькі ў Беларусі абрынуліся рэпрэсіі на грамадзянскую супольнасць (ад якіх моцна пацярпела і навука), а ўвесь свет завязнуў у няспыннай барацьбе з каранавірусам, што таксама ставіла пад пытанне ажыццяўленне масавых імпрэз.

Тым не менш было прынята досыць рызыкоўнае рашэнне правесці ў 2021 г. Кангрэс максімальна ў традыцыйным жывым ("афлайн") рэжыме, паколькі для такога буйнога мерапрыемства вельмі важная непасрэдная камунікацыя, усталяванне сувязяў. У анлайн-фармаце губляецца значная частка вартасці такога мерапрыемства. Але любыя жаданні натыкаюцца на рэчаіснасць, і, на жаль, галоўным чыннікам стала тое, што Літва яшчэ больш узмацніла кавідныя абмежаванні, з абавязковым 10-дзённым каранцінам для тых, хто не мае еўрапейскай вакцынацыі. Разам з абмежаваннямі на выезд з Беларусі гэта прывяло да таго, што з Беларусі на сам Кангрэс дабралася каля дзесяці чалавек. Але калі раней гэта было б трагедыяй для Кангрэса, то зараз гэта стала толькі тэхнічнай цяжкасцю.

Па-першае, згаданыя вышэй рэпрэсіі прывялі да значнай міграцыі даследчыкаў і экспертаў з Беларусі, змушаных шукаць лепшай долі ў іншых краінах. І гэта давала магчымасць значнай колькасці патэнцыйных удзельнікаў патрапіць на Кангрэс.

Па-другое, змушанае сядзенне ў каранцінах і лакдаўнах значна павысіла нашы навыкі валодання новымі камунікацыйнымі тэхналогіямі. Усе мы прывыклі да заняткаў праз інтэрнэт, анлайн-семінараў і канферэнцый, і ў дадзеным выпадку вялікая падтрымка была з боку Універсітэта Вітаўта Вялікага ў Коўне, дзе была магчымасць скарыстацца тэхнічна падрыхтаванымі аўдыторымі ў новаадбудаваным корпусе. Практычна ўсе панэлі праходзілі ў гэтак званым гібрыдным фармаце, калі некалькі ўдзельнікаў знаходзіліся ва ўніверсітэцкай аўдыторыі, а астатнія маглі падключацца праз інтэрнэт. Некаторыя мерапрыемствы (адкрыццё і закрыццё Кангрэса) праходзілі з жывой трансляцыяй.

Падаецца, што гэта ўжо стала рэчаіснасцю, якая нікуды не знікне, і наступны Кангрэс будзе адбывацца ў такім жа гібрыдным фармаце. Але і тут варта бачыць новыя магчымасці, бо гэта, сапраўды, дазволіла выступіць удзельнікам, якія з-за кавідных абмежаванняў не здолелі прыехаць у Коўна, значна пашырылася геаграфія ўдзельнікаў. Упершыню з дакладамі выступалі навукоўцы нават з такіх краін, як Бразілія, Сальвадор ці Аўстралія. І таксама гэты фармат стварае магчымасць рабіць прамыя трансляцыі пасяджэнняў на асобных панэлях для ўсіх зацікаўленых, што павялічвае аўдыторыю мерапрыемства.

Калі перайсці да лічбаў, то заканамерна гэта быў самы шырокі па геаграфічным ахопе Кангрэс, дзе былі прадстаўлены ўдзельнікі з 25(!) краін. Апроч магчымасці дыстанцыйнага ўдзелу, гэтаму, безумоўна, паспрыяў рост зацікаўленасці Беларуссю ў міжнароднай навуковай супольнасці пасля палітычных пратэстаў 2020 г.

Агулам прыняло ўдзел 145 “жывых” удзельнікаў і 212 — “віртуальных”. Гэта значна менш, чым на апошніх кангрэсах у Вільні і Варшаве, але трэба ўлічваць усе неспрыяльныя абставіны, палітычныя і кавідныя. Пры гэтым практычна атрымалася захаваць напрацаваны тэматычны спектр сацыяльных і гуманітарных навук, але з некалькімі стратамі: філасофія, гісторыя царквы, гендарныя даследаванні. Да апошняга спадзяваліся, што адбудзецца секцыя па гендарных даследаваннях, якая рыхтавалася, але самі ініцыятары змушаны былі адмовіцца ад ажыццяўлення па прычынах рэпрэсіўнага пераследу арганізацый гэтага сектару ў Беларусі. З іншага боку, у гэтым годзе вельмі моцнай была паліталагічная частка з падсумаваннем пратэстаў, з’явіліся і некаторыя новыя накірункі, напрыклад, антрапалогія харчавання. Так ці інакш, Кангрэс застаецца люстэркам таго, што адбываецца ў беларускай навуцы.

Адной з традыцый Кангрэса стала штогадовае падсумаванне вынікаў конкурсаў за лепшыя навуковыя публікацыі па гуманітарных і сацыяльных навуках, якія праводзіліся і ў тыя гады, калі форумы не адбываліся. Калі ў мінулым годзе падсумаванне Прэміі адбывалася віртуальна, то ў гэтым годзе — у вялікай аўдыторыі, што стварала атмасферу свята. Варта згадаць і імёны пераможцаў: Андрэй Мацук (манаграфія па гісторыі *Грамадска-*

*палітычнае жыццё Вялікага Княства Літоўскага ў час бескаралеўя 1733–1735 гг.*, Мінск 2020), Аляксандр Гужалоўскі (артыкул па гісторыі *Культ Сталіна ў беларускім савецкім фальклоры*, "Беларускі гістарычны часопіс", 2020, № 2), Дзмітрый Смалякоў (манаграфія па гуманітарных навуках *Сацыяльна-філасофскія погляды рэлігійных палемістаў у Беларусі канца XVI — сярэдзіны XVII ст.*, Мінск 2020), Вераніка Курцова (артыкул па гуманітарных навуках *Беларускія гаворкі Падляшша: з назіранняў над марфалагічнымі асаблівасцямі, іх эвалюцыяй і ступенню захаванасці* [у:] *Беларуская дыялекталогія*. Навук. рэд. В. М. Курцова, Л. П. Кунцэвіч, Мінск 2020, вып. 6), Таццяна Кулакевіч (артыкул па сацыяльна-палітычных навуках *National Awakening in Belarus: Elite Ideology to 'Nation'*, "Practice SAIS Review of International Affairs", Vol. 40, Num. 2, Summer-Fall 2020).

Ва ўмовах заняпаду інстытута рэцэнзій і акадэмічнай крытыкі ў Беларусі конкурс Кангрэса выконвае вельмі важную функцыю вызначэння якасці навуковых прац у Беларусі.

**Аляксей Ластоўскі (Вільня)**

# БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ ДА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

## Да 30-годдзя абвяшчэння Рэспублікі Беларусь

### VII Міжнародная анлайн-канферэнцыя Цэнтра беларускіх студыяў Варшаўскага ўніверсітэта. 26–27 лістапада 2021 г.

Васіль Быкаў аднойчы напісаў, што кожнаму наканавана прайсці ўласны шлях да свабоды. У 1991 г. палітычная мара стваральнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі (1918) ператварылася ў рэчаіснасць. Беларуская дзяржава стала фактам палітычнага жыцця. Аднак палітычныя падзеі лета і восені 2020 г. зрабілі відавочным і тое, што незалежная дзяржава сама па сабе не з'яўляецца гарантам свабоды і дэмакратыі. Сёння пытанне палітычных свабод кожнага грамадзяніна краіны наўпрост звязана з яе далейшым існаваннем, з яе незалежнасцю.

Якую ролю адыграла ў гэтых падзеях гістарычнае мінулае? Ці беларусам сапраўды была наканавана гэта „доўгая дарога дадому"? І калі так, дык чаму? Менавіта на гэтыя ды іншыя пытанні паспрабавалі адказаць з нагоды чарговага юбілею ўдзельнікі анлайн-канферэнцыі, арганізаванай Цэнтрам беларускіх студыяў Варшаўскага ўніверсітэта.

Канферэнцыя была прысвечана светлай памяці выбітнага беларускага гісторыка Уладзіміра Ляхоўскага (5 лютага 1964–7 верасня 2021), далсед-

чыка гісторыі беларускага нацыянальнага руху ды многіх іншых праблем гісторыі і культуры Беларусі.

Пачаткам беларускай дзяржаўнасці ў еўрапейскім кантэксце быў прысвечаны рэферат Аляксандра Краўцэвіча (Варшава). Ігар Бортнік (Полацк) прадставіў свае разважанні па праблеме народнага суверэнітэту ў грамадска-палітычнай думцы ВКЛ у другой палове XVI — першай палове XVII ст. У выступленні Віктара Якубава (Вільня) была разгледжана праблема права на супраціў тыраніі ў спадчыне Януша Радзівіла і Льва Сапегі. Даследчык Вадзім Аніпяркоў (Варшава) акрэсліў стэрэатыпы, якія існуюць адносна Канстытуцыі 3 мая 1791 г. Рэферат Вячаслава Шведа (Варшава) быў прысвечаны дзяржаўнаму становішчу ВКЛ перад канчатковай стратай незалежнасці ў 1795 г.

Разгляд праблематыкі гісторыі дзяржаўнасці на землях Беларусі ў XX ст. распачаў Станіслаў Рудовіч (Менск) рэфератам на тэму: "Беларуская Народная Рэспубліка як дэмакратычная альтэрнатыва бальшавіцкай дыктатуры ў Беларусі". Украінскі гісторык Віталь Скальскі (Кіеў) падсумаваў 100-гадовы юбілей рэвалюцыі ва Украіне. Расійскі даследчык Ігар Барынаў (Масква) распавёў пра ідэю беларускай дзяржавы ў палітычнай думцы Германіі 1914–1944 гг., Яўген Мірановіч (Беласток) прадставіў аналіз ідэі дзяржаўнасці ў праграмах беларускіх палітычных плыняў у 1989–1991 гг. Лявон Баршчэўскі (Менск) распавёў пра палітычныя падзеі ў перыяд ад 25 жніўня па 21 снежня 1991 г. Амбасадар Польшчы ў Беларусі ў 1998–2002 гг. Марыюш Машкевіч разважаў пра незалежнасць Беларусі з перспектывы польскага дыпламата. Кацярына Крывічаніна (Варшава) закранула праблему лёсу «чарнобыльскіх» валютных сродкаў Беларусі пасля распаду СССР. Рэферат Таццяны Касатай-Герасюк (Варшава) быў прысвечаны рэлігійным і грамадскім практыкам баптыстаў ва ўмовах распаду СССР і абвяшчэння незалежнасці Беларусі. Уладзімір Снапкоўскі (Менск) акрэсліў свае прапановы па перыядызацыі гісторыі Рэспублікі Беларусь, зыходзячы з яе знешнепалітычнага становішча.

Падчас працы секцыі "Радавод беларускай дзяржаўнасці: памяць і мова" прагучалі рэфераты Алены Маркавай (Прага) пра ролю беларускай мовы ў нацыянальным Адраджэнні 1990-х гг., Тадэвуша Гавіна (Варшава) пра лёс польскай адукацыі ў Беларусі ў 1991–2021 гг., Генадзя Сагановіча (Варшава) аб генеалогіі беларускай дзяржаўнасці ў гістарыяграфіі БССР эпохі "адлігі", Івана Пляхімовіча (Менск) аб праблемах нацыянальнай ідэі і філасофіі. Праблематыку гістарычнай памяці ўздымалі ў сваіх выступленнях Андрэй Чарнякевіч і Іна Соркіна (абодва з Варшавы), Ірына Раманава (Вільня), Ірына Кашталян (Брэмен), Аляксандр Смалянчук (Варшава), Аляксандр Фрыдман (Берлін).

Гісторыкі Аляксей Шаланда (Варшава), Дарота Міхалюк (Торунь), Вольга Лабачэўская (Менск), Сяргей Токць і Генадзь Семянчук (абодва з Варшавы) абмеркавалі пытанні гісторыі беларускай нацыянальнай і дзяржаўнай сімволікі ў адмысловай дыскусіі.

**Іна Соркіна (Варшава)**



# Адам Мальдзіс (1932–2022)

Дзеля таго каб атрымаць дабратворны ўплыў Адама Мальдзіса, навукоўцу не абавязкова было ведаць яго асабіста. Хапала знаёмства з навуковымі працамі таленавітага даследчыка. Прачытаўшы кнігу Мальдзіса *Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя*, я зразумеў, што даследаванні самых складаных праблем можна пісаць не "казённай" мовай, а ў вольным ад савецкіх догмаў палёце, з прыцягненнем цікавых фактаў, выкарыстоўваючы метафарычнасць і нават інтрыгу. Пад уздзеяннем прачытанага я пачаў працу над кнігай *Мінск. Старонкі жыцця дарэвалюцыйнага горада*. Але мне таксама пашчасціла блізка пазнацца са знаным па кнігах Мальдзісам і працаваць пад яго кіраўніцтвам.

Напрыканцы існавання СССР сярод навукоўцаў вялася гаворка, што Адаму Мальдзісу ўдалося вырвацца за мяжу, каб папрацаваць у лонданскай бібліятэцы імя Францыска Скарыны і там здабыць каштоўныя матэрыялы. З гэтым поспехам я павіншаваў знакамітага навукоўца пры выпадковай сустрэчы ў гарадскім транспарце. Так мы пазнаёміліся.

1991 год выдаўся ў Беларусі бурлівым, а ў маім жыцці — пераломным. Нечакана для сябе я пакінуў акадэмічны Інстытут гісторыі і перайшоў на працу ў акадэмічны Інстытут літаратуры, дзе Адам Мальдзіс стварыў рабочую групу для арганізацыі Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францыска Скарыны, або скарочана — *Скарынаўскага цэнтра*. Адбылося гэта ў студзені 1991 г., яшчэ пры існаванні Савецкага Саюза. Запрашэннем на працу да Мальдзіса, відаць, я абавязаны сваёй кнізе пра Менск.

Былы мой начальнік Міхась Біч крыўдаваў, што я не параіўся з ім. Чаму, нават цяжка сказаць. Можа таму, што інтэлектуальнае поле Мальдзіса было для мяне такім прыцягальным. Адразу ж адчуў перамены ў сябе — нейкую палёгку ад абцугоў акадэмічнай гісторыі і асалоду вяртання да матчынай

беларускай мовы. На новым месцы ўсе гаварылі па-беларуску, ішла мабілізацыя да нейкай, пакуль малавядомай мне новай і вялікай справы. Адносна Міхася Біча я ўсё ж паступіў бестактоўна. Дагэтуль шкадую.

Мальдзіс узяўся за наватарскі, але рызыкоўны праект. Яго, мабыць, цешыла надзея на дэмакратызацыю Беларусі. Жадаючых падтрымаць праект была жменька. Навукоўцы не стаялі ў чарзе да Мальдзіса. Конкурс на залічэнне ў будучы Скарынаўскі цэнтр не спатрэбіўся. З дыпламаваных навукоўцаў у рабочую групу перайшлі Уладзімір Конан, Генадзь Каханоўскі, Алесь Жлутка і я. Пасля стварэння ў верасні 1991 г. Скарынаўскага цэнтра да яго далучыліся Вячаслаў Рагойша, Лідзія Кулажанка, Мая Яніцкая, Эдуард Дубянецкі, Алесь Анціпенка. Цесна супрацоўнічаў з намі Генадзь Цыхун. Але там віравала моладзь: Ігар Бабкоў, Сяргей Шупа, Галіна Дубянецкая, Сяргей Абламейка, Марыя Міцкевіч, Мікола Матрунчык, Віталь Зайка, Юры Вашкевіч, Янка Войніч. Многія з іх зараз вядомыя асобы. Мальдзіс не памыліўся. Ды і таленавітыя маладыя людзі самі хіліліся да яго. Яны пастаянна ўліваліся ў працоўны калектыў Скарынаўскага цэнтра.

Скарынаўскі цэнтр ствараўся пасля перадыслакацыі — з-пад крыла Акадэміі навук пад крыло Міністэрства адукацыі. Акадэмічная бюракратыя новую структуру не прыняла. Не думаю, што Мальдзіс быў у захапленні, бо статус асобнай установы атрымаць не ўдалося. Адна апека замянялася на другую. Новая ўстанова магла стаць другараднай, на што і разлічвалі кіраўнікі ад навукі і народнай асветы. Але з Мальдзісам гэта не прайшло.

Ён і ў такой падвешанай сітуацыі зрабіў Скарынаўскі цэнтр надзвычай прэстыжным, надаўшы яму самы значны ў постсавецкай Беларусі міжнародны аўтарытэт. Гэта быў зорны час і для самога стваральніка. Дагэтуль здзіўляюся, як яму на пасадзе дырэктара ўдалося за такі кароткі час — з верасня 1991 па снежань 1998 г. — зрабіць так шмат для беларусістыкі. Нездарма акадэмічнае кіраўніцтва асцерагалася канкурэнцыі Мальдзіса. Ды і для міністра адукацыі пасля стварэння Скарынаўскага цэнтра на чале з няўрымслівым дырэктарам пачаліся невядомыя раней клопаты. Кожны год міністэрства старалася ўрэзаць фінансаванне чужой для яго ўстановы, і кожны год Мальдзісу прыходзілася "выбіваць" неабходныя сродкі сваёй аргументацыяй, аўтарытэтам і майстэрствам дыпламатыі. А мы знаходзіліся пад яго надзейным парасонам і маглі спакойна працаваць.

Мальдзіс разглядаў Скарынаўскі цэнтр папярэднікам і пераемнікам Інстытута беларускай культуры (Інбелкульта), які б мог стаць такой жа вольнай супольнасцю беларускіх навукоўцаў, якую ўдалося стварыць у 1920-х гадах. Зараз такая ідэя падаецца фантастычнай, але не варта забываць пра ўзнёслы настрой беларускіх патрыётаў у першыя гады суверэннай Беларусі.

Невыпадкова першым маім заданнем ад Мальдзіса стаў збор матэрыялаў і напісанне гістарычнай даведкі пра Інбелкульт. Тады я дакументальна пацвердзіў, што супрацоўнікі той установы вялі сталую працу ў ацалелым

будынку па вуліцы Рэвалюцыйнай, 15. І наш кіраўнік дабіўся перасялення туды. Але быццам для здзеку Скарынаўскаму цэнтру адвялі толькі адзін паверх таго невялікага будынка, узведзенага ў другой палове XIX ст. Прыходзілася працаваць у цеснаце. Усе намаганні Мальдзіса пашырыцца засталіся непачутымі. Над намі месцілася пракуратура Цэнтральнага раёна горада. Адзінае, што ўдалося дырэктару Скарынаўскага цэнтра, дык гэта ўсталяваць на будынку мемарыяльную дошку пра Інбелкульт.

Адпаведна інбелкультаўскай традыцыі, Мальдзіс быў ініцыятарам распрацоўкі курса беларусазнаўства і абавязковага выкладання яго ў навучальных установах ушчэнт зрусіфікаванай Беларусі. Фактычна беларусаведчую працу на пачатку 1990-х гг. трэба было пачынаць з такога ж узроўню, як і супрацоўнікам Інбелкульта ў 1920-я.

Навуковае кіраўніцтва распрацоўкай новага курса Мальдзіс даверыў мне, як загадчыку аддзела беларусазнаўства. Неабходнае фінансаванне яго стараннямі было атрымана ад Фонда фундаментальных навук пры АН Беларусі. Для стварэння часовага творчага калектыву мы сабралі вядомых навукоўцаў: У. Конан, В. Рагойша, А. Жлутка, М. Яніцкая, Э. Дубянецкі А. Анціпенка, Ю. Вашкевіч і запрошаныя з іншых устаноў Язэп Юхо, Павел Церашковіч, Яўген Сахута, Андрэй Кіштымаў, Галіна Сяргеева, Вінцук Вячорка, Генадзь Семянчук. У выніку атрымалася навукова-папулярная праца для шырокага кола чытачоў. Міністэрства адукацыі гэта не задавальняла. Калектыўны твор не быў апублікаваны.

Мне пашчасціла, што Мальдзіс прымаў удзел ў распрацоўцы праекта напісання паралельнай гісторыі Беларусі, Польшчы, Украіны і Літвы і ўключыў мяне ў міжнародны аўтарскі калектыў. Дзякуючы яму, я змог наблізіцца да навукоўца еўрапейскага светапогляду. Першая навуковая і стылістычная рэдакцыя маіх нарысаў гісторыі Беларусі XIX–XX стст. належала зноў жа Мальдзісу. Адбылося гэта не пазней за 1998 г.

Кансалідацыя, каардынацыя і мабілізацыя навукоўцаў свету для вывучэння Беларусі стала адным з галоўных накірункаў дзейнасці Скарынаўскага цэнтра. Створаная па ініцыятыве Мальдзіса ў 1991 г. яшчэ ў складзе Акадэміі навук Міжнародная асацыяцыя беларусістаў (МАБ) разгарнула беспрэцэндэнтную дзейнасць. Для мяне гэта быў выхад у шырокі свет беларускай дыяспары. Дарадцамі і дабрадзеямі для маёй дзейнасці сталі Вітаўт і Зора Кіпелі.

Пад кіраўніцтвам Мальдзіса я прайшоў добрую школу рэдагавання навуковых тэкстаў, калі ўдзельнічаў у падрыхтоўцы да друку матэрыялаў міжнародных кангрэсаў беларусістаў і ўваходзіў у 1996–1998 гг. у склад рэдкалегіі штомесячнага бюлетэня МАБ “Кантакты і дыялогі”.

Мальдзісу патрабаваўся памочнік. Ён імкнуўся прылучаць мяне да арганізацыйнай працы. Удзел у арганізацыі кангрэсаў беларусістаў і з’ездаў беларусаў свету быў для мяне сапраўдным святам. Памятую мае шматра-

зовыя паходы ў Міністэрства юстыцыі для перазацвярджэння статута Скарынаўскага цэнтра і яго дапрацоўку па міністэрскіх заўвагах. Мальдзіс нават даверыў мне выкананне абавязкаў свайго намесніка і час ад часу пасылаў на "планёркі" ў Міністэрстве адукацыі.

Праўда, гэту пасаду я займаў на працягу толькі года (1993–1994), а потым у сувязі нібыта са скарачэннем штатаў міністэрства згубіў яе. Да мяне даходзілі звесткі, што не дагадзіў нечым міністру. Тым не менш Мальдзіс прапаноўваў мне стаць сваім пераемнікам. Я не быў гатовым да таго і не ўяўляў, што Мальдзіса можа нехта замяніць. Ды і адносіны да мяне міністра рабілі такі транзіт улады ў Скарынаўскім цэнтры нерэальным.

Я быў сведкам, як працаваў Мальдзіс. Ён бесперапынна нешта пісаў і рэдагаваў, складаў картатэку беларускіх выданняў і рабіў выразкі з перыядычных выданняў, прымаў гасцей, наведвальнікаў і даваў інтэрв'ю, шукаў фундатараў і падтрымкі вышэйшага начальства. Ён стаў першым у Беларусі паспяховым менеджарам у навуковай дзейнасці. Яму прыходзілася зацята даказваць важнасць існавання створанай ім установы і сваёй справы для Беларусі.

Кожны тыдзень мы збіраліся ў кабінеце дырэктара для абмеркавання таго, што зроблена і што трэба зрабіць. Як дырэктар, ён быў надзвычай тактоўным, а як мужчына — вельмі шляхетным. Пры незадаволенасці эмацыянальна тлумачыў нашы памылкі і застрашваў нейкімі нядобрымі чуткамі ад нейкіх асоб, якія, як мне падаецца, часам зусім не існавалі.

Пачэсных гасцей Мальдзіс прымаў і частаваў беларускім "крупнікам" уласнага прыгатавання ў музеі "Беларусь у свеце", створаным у 1993 г. Музей займаў самы вялікі пакой на адведзеным для нас паверху. На адной з такіх сустрэч маё выступленне пра Інбелкульт спадабалася вядомаму беларускаму палітыку Генадзю Карпенку. Там жа ў памяшканні музея адбываліся пасяджэнні Кангрэса МАБ і святочныя сходы скарынаўцаў, дакладней будзе сказаць — мальдзісаўцаў.

Мальдзіс пакінуў кіраўніцтва Скарынаўскім цэнтрам у 67-гадовым узросце, зусім не нямоглым. Яго фактычна адхілілі ад кіраўніцтва. Беларуская бюракратыя не чакала такога каласальнага поспеху мальдзісаўскага навукова-грамадскага праекта. Ён здзівіў усіх. Яго поспехі станавіліся для ўлады ўсё больш непатрэбнымі. Мальдзіс не займаўся палітыкай, хоць яго справы мелі палітычны рэзананс.

Мальдзіс жыў у сусветнай беларускасці і ўжо не мог ад яе адмовіцца. Яго ўладкаванне на новую працу ў газету "Голас Радзімы", якая выдавалася для беларусаў свету, было працягам такога жыцця. Разам з ім і я пакінуў Скарынаўскі цэнтр без шкадавання. Шкадую толькі страту сталых кантактаў з маім кумірам. Расстанне з выбітнымі асобамі, такімі як Адам Мальдзіс і Міхась Біч, збядняла мяне.

І ўсё ж дагэтуль асоба Мальдзіса застаецца для мяне загадкавай, асабліва ў апошнія чатыры гады нашага супрацоўніцтва. Вядома, што рабіў, і не-

вядома, што думаў. Гаварыў ён намёкамі, алегарычна, расказваючы розныя байкі. Умоў для шчырасці не было. Над Скарынаўскім цэнтрам навісала пракуратура. Чамусьці зараз мне падаецца, што Мальдзіс жыў, як пад акупацыяй, усведамляючы гэта ці не.

Беларускі патрыёт так і не дачакаўся вольнай Беларусі. Але можна з упэўненасцю сказаць, што інтэлектуальная спадчына вялікага вучонага, асветніка і арганізатара навуковай дзейнасці, безумоўна, спатрэбіцца пераемнікам і паслужыць разняволенню беларускага народа. Пра яго яшчэ напішуць кнігі.

**Захар Шыбека (Хайфа)**

У першыя дні пасьля сьмерці прафэсара Адама Мальдзіса пішуцца і яшчэ напішуцца шмат тэкстаў і водгукаў пра яго. Будуць згадваць яго кнігі, яго самога, нехта, магчыма, пачне пісаць успаміны.

У мяне ж сёньня хапае сіл падзяліцца з чытачамі толькі некалькімі прыватнымі думкамі пра постаць нашага вялікага падзьвіжніка. Поўную сіл забірае боль — звычайны чалавечы боль за тое, што гэты навуковец усё жыцьцё павінен быў прадзірацца праз сьцяну савецкага агітпропу, праз інтрыгі прарасейскіх і пракамуністычных дзеячаў Акадэміі навук і супраціў дурных мясцовых і цэнтральных чыноўнікаў; за тое, што хоць Адам Іосіфавіч і нямала пражыў, і нямала зрабіў, але ўсё ж сышоў не да канца рэалізаваным, без сваёй навуковай школы і вучняў, практычна недаацэненым.

Але хочацца верыць, што цёмныя часы мінуцца і што Беларусь усё ж ацэніць гэтага падзьвіжніка і яго даробак належным чынам, што некалі выйдзе і шматтамовы збор ягоных твораў, і вуліцы будуць названыя яго імем, зьявяцца помнікі ў Астраўцы і Менску. Ня ведаю, ці будзе некалі ў Беларусі свой пантэон, але калі будзе, то ганаровае месца для прафэсара Адама Мальдзіса там ужо забраніравана.

У 1991 г. пасьля заканчэньня БДУ і двух гадоў выкладаньня гісторыі ў школе я працаваў загадчыкам сэктару цэнтральнай Беларусі ў Беларускім дзяржаўным музэі народнай архітэктуры і побыту. Аднойчы на маім працоўным стале зазваніў тэлефон. Прафэсар Адам Мальдзіс прапанаваў сустрэцца і пагаварыць.

Мы сустрэліся, і Адам Іосіфавіч запрасіў мяне на працу ў Акадэмію навук, у Нацыянальны навукова-асьветны цэнтр імя Францішка Скарыны, які ён тады ствараў і дырэктарам якога ўжо быў прызначаны. Гэта было ганарова, адказна і троху страшнавата. Я, вядома, згадзіўся, і прафэсар Мальдзіс стаў маім начальнікам на наступныя пяць гадоў.

Гэта былі шчасьлівыя гады — і мае, і краіны. Я працаваў малодшым навуковым супрацоўнікам у аддзеле тэорыі і гісторыі беларускай культуры пад кіраўніцтвам іншага волата беларускай навукі прафэсара Ўладзімера Конана і пад агульным наглядам дырэктара Цэнтру і кіраўніка яго навуковай рады прафэсара Адама Мальдзіса.

Тады не было забароненых тэм і ўсё здавалася магчымым. Наш аддзел, напрыклад, у 1993 г. заплянаваў напісаньне і выданьне амбітнага 4-тамовага дасьледаваньня *Нарысы гісторыі рэлігіі ў Беларусі*, праца над якім неўзабаве пачалася, але так і не была скончаная, бо сытуацыя вакол Скарынаўскага цэнтру і палітычная сытуацыя ў краіне вельмі хутка зьмяніліся.

Неяк увосень я мусіў здаць кіраўніцтву гадавы плянавы тэкст, каб адсправаздачыцца за некалькі навуковых камандзіровак у архівы. Замест гэтага я прынёс яму 150-старонкавы рукапіс дысэртацыі пра нацыянальны аспэкт нэауніі ў Заходняй Беларусі ў 1920–1930-я гады. Назаўтра Адам Іосіфавіч з тоўстым стосам дысэртацыі ў руках усхвалёвана хадзіў па паверхах левага крыла цэнтральнага корпусу Акадэміі навук, дзе тады разьмяшчаліся Інстытут літаратуры і Скарынаўскі цэнтр, і з гонарам казаў калегам: “Во, Абламейка прынёс цагліну, я цэлую ноч чытаў, будзе добрая дысэртацыя і кніга”. Яшчэ праз пару дзён ён пачаў паседжаньне навуковай рады цэнтру словамі: “Дарагія калегі, дазвольце павіншаваць вас са знамянальнай падзеяй. У Беларусі зьявіўся новы гісторык. Прашу вітаць і шанаваць — Сяргей Абламейка”.

Я гэта пішу не для таго, каб пахваліцца, але для таго, каб паказаць найважнейшую якасьць навукоўца і чалавека Мальдзіса — яго абсалютна шчырую, глыбінную бескарысьлівасьць і адданасьць навуцы. Галоўнай каштоўнасьцю для яго была Беларусь, беларушчына, беларуская навука і культура. І калі ў падмурку гэтага беларускага дому зьяўлялася чарговая цаглінка (кніга, тэкст, знаходка), ён не раўнаваў, не зайздросьціў, не крытыкаваў, але шчыра радаваўся, бо адчуваў адказнасьць за увесь дом. Адам Мальдзіс быў адным з айцоў тагачаснай (і сучаснай) беларушчыны, якой жыў і дыхаў.

Тым часам прыйшоў 1994 год, адліга пачатку 1990-х заканчвалася, і вельмі хутка высьветлілася, што ВАК маю дысэртацыю на такую тэму не прапусьціць. Адам Іосіфавіч накіраваў мяне ў дактарантуру ў Люблінскі каталіцкі ўнівэрсытэт, да свайго сябра прафэсара Ежы Клачоўскага, куды я пасьпяхова і паступіў. Але гэта, як кажуць, ужо зусім іншая гісторыя.

27 сьнежня 1956 г. “ЛіМ” зьмясьціў агляд чытацкай пошты пад назвай “Ахоўваць помнікі культуры”. Былі там і такія радкі: “…Але больш за ўсё рэдакцыя атрымлівае пісем аб тым, што ў многіх раёнах нашай рэспублікі ўсё яшчэ дрэнна ахоўваюцца помнікі культуры беларускага народа. Тав. Мальдзіс з Радашковіцкага раёна паведамляе, што ля вёскі Краснае захавалася арыгінальная драўляная будоўля XVIII стагоддзя, якая цяпер разбураецца…”.

Гэта быў выпускнік журфаку БДУ таго ж 1956 г. Адам Мальдзіс, які па разьмеркаваньні трапіў на пасаду сакратара радашковіцкай раённай газэты “Сцяг Ільіча”. Ужо тады ён дбаў пра помнікі культуры і з тых самых часоў пачынаецца яго асабістая бітва за беларускую мову, культуру і гісторыю, якая цягнулася 67 гадоў, бо першую публікацыю ён зрабіў яшчэ студэнтам у 1954 г.

Пасьля былі асьпірантура ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук і шмат дзесяцігодзьдзяў плённай навуковай і асьветнай працы. Два дзясяткі кніжак і сотні навуковых і навукова-папулярных публікацый у газэтах і часопісах.

Усе знаходкі і дасягненьні Адама Мальдзіса пералічыць цяжка, гэта павінны зрабіць яго біёграфы. Назаву тут усяго некалькі. Так, менавіта ён знайшоў беларускі верш *Всем многі век в новой хаці*, напісаны ў сярэдзіне XVIII стагодзьдзя апошнім канцлерам Вялікага Княства Літоўскага Яўхімам Храптовічам, і цяпер мы ведаем, што найвышэйшыя ўрадоўцы ВКЛ пісалі вершы па-беларуску перад расейскай акупацыяй гэтай дзяржавы. Ён знайшоў зборнік старадаўняй беларускай музыкі “Полацкі сшытак”, без мэлёдыяў якога цяпер цяжка ўявіць канцэрты старадаўняй беларускай музыкі і сьпеваў. І, нарэшце, ён напісаў доктарскую дысэртацыю, якая выйшла асобнай манаграфіяй *На скрыжаваньні славянскіх традыцый*, за сьціплай назвай якой хаваецца магутны інтэлектуальны чын — клясыфікацыя вялікіх стыляў для нашай літаратуры і мастацтва. Гэта дакладна — навуковы подзьвіг. Ды, зрэшты, усё ягонае жыцьцё, навуковая праца, сотні яго адкрыцьцяў і знаходак, дзясяткі кніг — гэта навуковы і чалавечы подзьвіг.

Прафэсар Адам Мальдзіс стаў містычным падарункам гісторыі беларусам. Этнагенэз беларусаў апошнюю тысячу год праходзіў праз асыміляцыю балтаў славянамі. У гістарычным і этнічным сэнсе “Русь” і “Літва” — дзьве крыніцы, зь якіх выцякае паўнаводная рака сучаснай беларушчыны, гэта дзьве асновы мадэрнай беларускай ідэнтычнасьці.

Адам Іосіфавіч Мальдзіс нарадзіўся ў 1932 г. на этнічным беларуска-літоўскім памежжы ў Астравецкім раёне. Ён любіў расказваць, што ў яго роднай вясковай хаце гучалі адначасова дзьве мовы — ягоныя дзед з бабуляй размаўлялі па-літоўску, а бацькі перайшлі ўжо на беларускую мову, якая стала роднай і для маленькага Адама. І вось гэты аславянены балт зь літоўскім прозьвішчам стаў адным са слупоў сучаснай беларускай культуры і навукі. Ці ня цуд гэта і ці ня містыка гісторыі?!!

Часам мне думаецца, што містыка прысутнічае і ў пакліканьні выбітных людзей да іх чыну. Чым як не містыкай назваць той факт, што 60 гадоў назад два сябры, Уладзімер Караткевіч і Адам Мальдзіс, паехалі ў Вільню ў архіў і там пазнаёміліся з маладым супрацоўнікам гісторыкам Генадзем Кісялёвым, якога пасьля перацягнулі жыць і працаваць у Менск?

Яны сталі найбліжэйшымі сябрамі і, здаецца, моцна паўплывалі адзін на аднаго і на асабісты даробак кожнага зь іх. І гэта таксама, відаць, містыка нябёсаў, што ім было наканавана пазнаёміцца і сысьціся разам, разам падчас працы, у падарожжах і застольлях абмяркоўваць родную гісторыю і культуру, яе праблемы і выклікі, яе герояў і антыгерояў.

У выніку сёньня кожны з членаў гэтага трыюмвірату — Караткевіч, Кісялёў, Мальдзіс — зьяўляецца асобным слупом беларушчыны, безь якога нельга ўявіць сабе сучасную Беларусь, яе гісторыю, яе навуку і культуру.

Іх даробак і чын ляжаць у аснове беларускага палітычнага адраджэньня другой паловы 80-х гадоў XX стагодзьдзя.

Пра такіх людзей пішуць навукова-папулярныя біяграфіі. Ніхто апрача біёграфа не згадае, не ацэніць і не пералічыць усе знаходкі, адкрыцьці і дасягненьні такога чалавека-глыбы. Трэба вывучыць яго архіў, яго раскіданыя ў дзясятках выданьняў публікацыі, ліставаньне. Там адкрыецца процьма неверагодных і займальных фактаў і гісторый. Жыцьцё і навуковая дзейнасьць Мальдзіса, пра якую я ведаю ня толькі зь яго публікацый, але і непасрэдна зь ягоных словаў, — вартыя ўвагі бэлетрыстаў.

Толькі адзін факт. Ён усё жыцьцё шукаў беларускамоўныя вершы Адама Міцкевіча, у існаваньні якіх ніколі не сумняваўся. І вось аднойчы ў 1970-я гады, калі ён быў у камандзіроўцы ў Польшчы, да яго ў гатэльны нумар пазваніў чалавек, які сказаў, што хоча перадаць яму цэлы сшытак беларускіх вершаў Адама Міцкевіча, якія польскія навукоўцы-нацыяналісты хаваюць 100 гадоў ад часу сьмерці вялікага песьняра. Былі прызначаныя час і месца сустрэчы, але той чалавек туды так і не прыйшоў. Мальдзіс лічыў, што сшытак маглі перахапіць і нават зьнішчыць польскія спэцслужбы, якія праслухоўвалі гатэльныя тэлефоны. А такіх падзеяў у навуковым жыцьці Мальдзіса было не адна і ня дзьве.

Прафэсар Адам Мальдзіс быў апантаным шукальнікам беларускіх скарбаў за мяжой. Можна сказаць, што сэнсам яго навуковага жыцьця быў пошук. Ён хацеў знайсьці і вярнуць у Беларусь як мага больш фактаў і артэфактаў нашай гісторыі і нашай спадчыны. Вярнуць ня толькі ў пераносным, але і ў простым сэнсе слова. У 1987 г. ён стварыў і ўзначаліў камісію "Вяртаньне" ў Беларускім фондзе культуры, якая, паводле задумы, павінна была весьці ўлік, шукаць і спрабаваць вярнуць у Беларусь нашы культурныя скарбы. Было наладжана выданьне зборнікаў дакумэнтаў пра вывазы і страты, а таксама пра месца знаходжаньня вывезеных і скрадзеных скарбаў.

Усё жыцьцё ён шукаў крыж Эўфрасіньні Полацкай і новыя дакумэнты пра Францішка Скарыну. Ён не складаў рукі і не паддаваўся адчаю, бо як нейк мне сказаў: "Нязнойдзенага пакуль больш, чым знойдзенага. У нас усё наперадзе". Таму бяз рызыкі памыліцца можна назваць навуковы пошук яго асноўным запаветам для будучых пакаленьняў беларусістаў. У пацьверджаньне нястомнай дасьледчыцкай энэргіі прафэсара Мальдзіса прывяду яго словы з нашага апошняга інтэрвію. Ужо моцна хворы, ён марыў пра навуковыя падарожжы: "Паводле маіх уяўленьняў, невядомыя дакумэнты пра Францішка Скарыну могуць яшчэ быць знойдзеныя ў архівах усіх краінаў Эўропы, дзе Скарына жыў, працаваў або вучыўся. Гэта Аўстрыя, Італія, Данія, Чэхія, Польшча і Літва… Нават у Варшаве нібыта шмат знойдзена, але каб сказаць, што там усё дасьледавана, — нельга. Каб я меў сілы і магчымасьці (я цяпер моцна хварэю), то я паехаў бы найперш у Данію, Польшчу і Італію, паехаў бы ў Вэнэцыю, бо Падуя ўваходзіла ў Вэнэцыянскую рэспу-

бліку. Ды нават паехаў бы ў Вільню. Скарына ж быў сакратаром віленскага біскупа Яна, а дакумэнты пра гэта ніхто пакуль не знайшоў".

У нармальнай сытуацыі ў нармальных краінах такія навукоўцы, як прафэсар Адам Мальдзіс, ствараюць свае навуковыя школы і кіруюць імі. Яны да самай сьмерці ўзначальваюць катэдры ці інстытуты і накіроўваюць сваіх асьпірантаў і маладзейшых калегаў туды, куды самі не дацягнуліся ці на што ў іх не хапіла часу. Вядома, Адам Мальдзіс павінен быў бы да скону заставацца дырэктарам Нацыянальнага навукова-асьветнага цэнтру імя Францішка Скарыны, а цэнтр гэты павінен быў існаваць і цяпер і зьяўляцца складовай часткай Акадэміі навук Беларусі.

Але так ня сталася. Яшчэ ў часы маёй працы ў Скарынаўскім цэнтры гэтую навуковую ўстанову ворагі беларушчыны і зайздросьнікі Мальдзіса празь інтрыгі выкінулі са складу Акадэміі навук і далучылі да Міністэрства асьветы, дзе яна пасьпяхова і сканала. Мальдзіса ў 1998 г. звольнілі з працы, а праз пару гадоў яго яшчэ і жорстка зьбілі на вуліцы маўклівыя людзі ў чорным.

Яго ніколі не абралі акадэмікам. Як не абралі акадэмікамі і іншых волатаў навукі — Генадзя Кісялёва, Уладзімера Конана, Валянціна Грыцкевіча. А тым часам па лініі аддзяленьня гуманітарных навук акадэмікамі рэгулярна абіраліся іншыя людзі, якія практычна ніякага сьледу ў беларускай гуманітарнай навуцы і культуры не пакінулі.

Таму і просіцца на заканчэньне сумная выснова: калі Адам Мальдзіс ня быў акадэмікам, значыць у Беларусі няма Акадэміі навук. А калі нехта лічыць, што яна ўсё ж ёсьць, то адсутнасьць у ліку яе членаў прафэсара Мальдзіса — незмывальная ганьба такой акадэміі.

**Сяргей Абламейка (Прага)**



# Валянціна Мятліцкая (Лебедзева) (1955–2022)

Не атрымліваецца пісаць і думаць пра Валянціну Мятліцкую (Лебедзеву) у мінулым часе. Яна побач, калі думаеш пра трагедыю Украіны, якая для яе была б найвялікшай асабістай бядой, або калі чуеш пра некаторых былых калег, што рэалізуюць рэжымную гістарычную палітыку ў шэрагах сяброў вядомай партыі "КВД" ("Куды вецер дзьме") і пасьпяхова псуюць уласную біяграфію. Яе ўспамінаеш, трымаючы ў руках яе апошнюю кнігу *На пагранічч**ы** эпох і дзяржаў. Старонкі гісторыі Гомеля* (1917–1918) (2021) з цёплым дарчым надпісам, датаваным першым днём гэтага года. Таксама Валянціна прыгадваецца з кожнай згадкай гісторыка, этнографа і эканаміста Мітрафана Доўнар-Запольскага (1867–1934), вяртанне якога ў беларускую гістарыяграфію і гістарычную памяць у вялікай ступені было менавіта яе заслугай.

Толькі цяпер, пасля сыходу Валянціны, многія ўсвядомілі яе асабісты ўнёсак у развіццё беларускай гістарычнай навукі на пачатку XXI стагоддзя. Дастаткова прыгадаць славутыя Доўнараўскія чытанні (Рэчыца – Гомель – Кіеў), якія былі цалкам яе ініцыятывай і заслугай. Гэтыя сустрэчы былі важныя як для вывучэння навуковай дзейнасці Мітрафана Доўнар-Запольскага, так і для пашырэння кантактаў паміж беларускімі і ўкраінскімі гісторыкамі. Апошняе моцна паспрыяла развіццю гістарычнай навукі ў Беларусі. Фактычна Валянціна рабіла тое, чаго не маглі ці не жадалі рабіць буйныя навуковыя і акадэмічныя асяродкі ў нашай краіне.

Украінскія гісторыкі часта скардзіліся на ўласную сітуацыю, бо матэрыяльныя ўмовы іх жыцця і дзейнасці ніколі не былі задавальняючымі, але ў адрозненне ад калег з Беларусі і Расіі яны мелі СВАБОДУ як навукоўцы. Дзяржава, магчыма, не дапамагала, але і не перашкаджала гістарычным даследаванням. Значэнне гэтага факта беларускія навукоўцы заўсёды добра разумелі, а гістарычная палітыка ў Беларусі, галоўным суб'ектам якой у апошнія гады стала Генеральная пракуратура, гэта разуменне зрабіла яшчэ больш вострым.

Валянціна таксама выбрала свабоду. Магчыма, менавіта таму яна так і не абараніла дысертацыю, у Гомельскім універсітэце працяглы час выкладала курсы, далёкія ад гісторыі, а пасля сыходу на пенсію павінна была шукаць дадатковага заробку. Але якраз гэты выбар забяспечыў яе навуковыя дасягненні, а таксама павагу сяброў і калег па цэху гісторыкаў.

Наша знаёмства адбылося на адной з першых канферэнцый Беларускага гістарычнага таварыства, якое паўстала на рубяжы стагоддзяў як супольнасць даследчыкаў, гатовых працаваць у межах нацыянальна-дзяржаўнай канцэпцыі гісторыі Беларусі, прапанаванай групай прафесара Міхася Біча яшчэ ў першай палове 1990-х гг., і схільных да яе далейшай распрацоўкі. Валянціна ўдзельнічала амаль ва ўсіх канферэнцыях БГТ і была адным з найбольш актыўных сяброў таварыства. Навуковыя кантакты перараслі ў сяброўства. На яе заўсёды можна было разлічваць у складаных сітуацыях, нават далёкіх ад навуковай ці грамадскай дзейнасці.

Апошняя сумесная праца была звязана з падрыхтоўкай зборніка *Мітрафан Доўнар-Запольскі: асоба ў дакументах і ўспамінах*. У архівах і бібліятэках Беларусі, Расіі, Украіны, Азербайджана, Польшчы і Літвы Валянціна сама і з дапамогай калег-гісторыкаў і архівістаў адшукала шмат раней невядомых дакументаў і ўспамінаў. Не маючы вялікай надзеі на выданне кнігі, яна ўсё ж пачала набіраць і каментаваць тэксты. Праблему фінансавання вырашылі, дзякуючы падтрымцы *Orsa-Romano Cultural and Educational Foundation Inc.*

Да падрыхтоўкі зборніка ў якасці навуковых рэдактараў далучыліся мы з Андрэем Кіштымавым. Супраца працягвалася больш за год, і не заўсёды яна была лёгкай і прыемнай. Валянціна была перфекцыяністкай і прад'яўляла высокія патрабаванні таксама да працы рэдактараў. Наогул маю даволі багаты досвед рэдакцыйнай дзейнасці, але магу прызнацца, што супраца з ёй яго значна ўзбагаціла.

Дзякуючы намаганням Валянціны, зборнік, які выйшаў з друку напрыканцы 2020 г. у выдавецтве "Лімарыус", стаў важнай пазіцыяй у вывучэнні жыцця і дзейнасці М. Доўнар-Запольскага. На жаль, пандэмія і палітычны крызіс не дазволілі належным чынам прадставіць гэта выданне цікаўнаму да гісторыі беларускаму чытачу. У 2021 г. прэзентацыі прайшлі ў Менску, Гродне і Чарнігаве, а ў студзені гэтага года — у Кіеўскім нацыянальным універсітэце імя Т. Шаўчэнкі. У апошніх прэзентацыях Валянціна ўжо не здолела прыняць удзел…

Пра яе хваробу я даведаўся напрыканцы верасня. Валя не адразу падзялілася гэтай інфармацыяй, а таксама тым, што лячэнне ўжо не мела аніякіх шансаў. Мы даволі часта кантактавалі ў тыя восеньскія і зімовыя месяцы. Тэлефонныя размовы звычайна тычыліся нейкіх незакончаных навуковых спраў. Вельмі хвалявалася, ці патрымае ў руках сваю кнігу пра Гомель у 1917–1918 гг., якая рыхтавалася да друку ў выдавецтве "Барк", і была вельмі ўсцешаная, калі напрыканцы 2021 г. атрымала першыя асобнікі.

Пра стан яе здароўя гаворка заходзіла зрэдку. У тых размовах Валя трымалася вельмі мужна і спакойна. Колькі каштаваў гэты спакой і як яна жыла, адчуваючы набліжэнне смерці, ніхто ўжо не даведаецца. Але нават у тыя апошнія тыдні і дні жыцця яна таксама думала пра іншых, перажывала за калег, якія страцілі працу, а некаторыя — і свабоду. Яна верыла ў воль-

ную Беларусь, бо сама была свабодным чалавекам. А яшчэ мела пэўнасць, што сябры і калегі не здрадзяць сваёй прафесіі, а сярод новых кніг абавязкова з’явіцца грунтоўны жыццяпіс М. Доўнар-Запольскага.

**Аляксандр Смалянчук**

[1]Валентина Лебедєва (Метлицька) народилася 10 березня 1955 р. За власним твердженням її захоплення білоруською історією та мовою формувалося під впливом рідних сіл батька та матері — Ларища, що на півдорозі між Гомелем та Добрушем (прикордоння, з української сторони — Городнянщина), та Остроглядово, що на Брагинщині. “Я поліщучка”, “білоруськість надана мені природою” — не без сентименту можна було часом почути від Валентини Михайлівни. Але переконаною білорускою її зробила Москва — опосередкований наслідок двотижневої музейної практики на четвертому курсі історичного факультету та ближчого знайомства з досягненнями національної культури.

Понад три десятиліття дослідниця працювала в Гомельському університеті ім. Франциска Скорини, однією з перших на початку 1992 р. розпочала викладати історію Білорусі рідною мовою. “Валентина Михайлівна принесла до аудиторії дух білоруськості”, — писатимуть про неї студенти. А сама вона казатиме: “Мова — підстава до мого гонору. Та моя біль”.

“Я зв’язана з життям та творчістю Митрофана Довнар-Запольського”, — так пані Валентина говорила про свої дослідження одного з ідеологів білоруської державності, відомого нам також як засновник нинішнього КНЕУ ім. Вадима Гетьмана. Про нього вона могла розповідати годинами, а пошуку різноманітних документів присвятила понад два десятиріччя життя. Для неї Довнар — втілення духа білоруськості, тобто — власних уявлень також. Пані Валентина стала відповідальним редактором культової для нашої північної сусідки “Истории Белоруссии” авторства Довнар-Запольського. Підсумком її роботи стала книга “Мітрафан Доўнар-Запольскі (1868–1934): Асоба ў дакументах і ўспамінах”, що побачила світ 2020 року.

А ще були міжнародні конференції “Довнарівські читання”, що проводилися на батьківщині науковця в місті Речиця. В 1997 р. дослідниці вдалося спокусити керівництво небідного міста (центр видобутку нафти в Білорусі), аби таким чином використати відоме ім`я для привернення до себе додаткової уваги, навіть заплющити очі на очевидний його зв`язок із БНР (офіційно не толерується в Білорусі). Дуже сучасний підхід, зі складовою економіки, чи не так? Це Валентина Лебедєва. Вона ж стала не лише автором ідеї, а й головним організатором низки згаданих наукових форумів, що проводилися через рік до вересня 2017 р. Унікальне поєднання.

---

[1] Поўная версія гэтага тэксту была апублікавана 14 лютага 2022 г. у газеце “День” (Чарнігаў). Передрук са згоды аўтара (заўвага рэд.).

Як науковець Валентина Михайлівна була переконана, що історія лише національна, це завжди національний погляд. Між іншим, це, на її думку, причина з якою не може бути спільних підручників історії навіть таких близьких і дружніх народів як білоруси й українці — завжди знайдеться те, що шокуватиме. А от поєднання зусиль для розробки близьких тем — справа дуже перспективна. До речі, до таких належить її дослідження Гомеля початку XX ст.

У січні 2019 р. під час презентації книги, що присвячувалася 100-річчю міждержавних взаємин України та Німеччини, пані Валентина зазначила: "Редактори дипломатично перестаралися, коли написали "Чернігово-Сіверщина та північне прикордоння". Гомельщина історично — це Сіверщина". Між іншим історикиня звернула увагу на стратегічне значення залізниці в Гомелі для організації наступу червоних наприкінці 1918 р.: це ключ до Чернігова, захоплення якого відкривало шлях на Київ. "На пагранiччы эпох i дзяржаў. Старонкi гiсторыi Гомеля (1917–1918)", — це її остання книга, що вийшла друком у січні цього року, вона містить розділи про перебування Гомельщини в складі Української Народної Республіки та Української Держави.

Історичні розвідки нагадують розслідування, ніколи наперед не знаєш із чим зіткнешся та до чого прийдеш, — наголошувала Валентина Михайлівна, та попереджала: "Не поспішайте, поки жива пам'ять, треба розібратися". Адже поруч люди, яким можна зробити боляче. В тому її сутність — надзвичайно високі вимоги до власної роботи, блискуча ерудиція та делікатність до свого оточення, феноменальна обов'язковість та вдячність. Як у професії, так і в повсякденному житті. В моїй родині було відомо про загибель дядька Івана, під час II світової війни десь у Білорусі. Однак знайти місце поховання солдата не вдалося попри можливим попри наявність документів — поховання змінювалися через ліквідацію сіл. Валентина Михайлівна взялася за справу, провела справжнє дослідження та вивела на братську могилу в селі Полісся, зрештою, забезпечила меморіалізацію.

Здавалося, вона притягує до себе добротою, з нею ставало тепліше та спокійніше. Мабуть тому часом її приватна оселя перетворювалася на неформальне осердя цвіту білоруської історичної науки, якому міг позаздрити будь-який університет.

Своїм переконанням та цінностям пані Валентина намагалась бути вірною навіть у деталях. Дуже показово — вона жила в приватному будинку свого батька, прикрашеному чудовим різьбленням по дереву, та попри явні незручності в обслуговуванні зберігала його зовнішній, дуже колоритний, типовий для місцевості вигляд. А допомагали їй в тому на дружніх волонтерських засадах співробітники музею старообрядців із Ветки.

І знову про особисте. Дивовижним чином ми не познайомилися в 2007 р. Тоді спільно з Білоруським державним університетом редагував збірник статей, присвячених Михайлу Грушевському. Серед інших була й стаття Андрія Киштимова та Валентини Лебедєвою про співпрацю українського

історика й політика з Митрофаном Довнар-Запольським. Тож все відклалося аж до 2014 р., коли ми зустрілися на одному з семінарів, що проводився для підготовки проєктів транскордонного співробітництва в рамках політики ЄС Східне партнерство. Згідно одного із завдань українці та білоруси мали знайти собі партнерів. Що ми й зробили. Тоді ж автору цих рядків спало на думку похвалитися перед колегою з Гомеля згаданим виданням — факт що тут же відкрився неабияк потішив обох співрозмовників.

В наступні роки Валентина Михайлівна взяла участь в одному з проєктів, спрямованих на розвиток туризму в прикордонних областях Білорусі та України, широкому загалу він відомий під короткою назвою "Дніпровський паром". Ба більше — в останні роки свого життя вона як професійний гід доволі часто очолювала туристичні групи й, поки було це можливо, намагалася зацікавити білорусів поїздками до України, зокрема, до Чернігова, не лише на шопінг. Аби більше знали та розуміли сусідів. Вона щиро любила Україну та хотіла передати свої почуття землякам.

У суспільному житті Валентина Михайлівна позиціонувала себе як громадянин та науковець, в жодному разі — не політик. Хоча останньою неабияк цікавилася, білоруську національну символіку захищала, а її оцінки були абсолютно відвертими та зрозумілими. 2020 року, разом із багатьма іншими білорусами, вона протестувала у відповідь на фальсифікацію президентських виборів Олександром Лукашенком. Тоді відчувалося неймовірне емоційне піднесення. "Ми самі від себе такого не очікували", — зазначила вона під час однієї з розмов. То був єдиний раз, коли ми розійшлися в оцінках — Валентина наполягала на виключно поміркованих методах у відстоюванні своїх прав, хоча й не виключала іншого перебігу подій. "Можливо, Білорусь ще чекає своя Небесна сотня", — сказала вона.

З огляду на професійні інтереси (робота в архіві, бібліотеці) Валентина Михайлівна часто бувала на Чернігівщині. Брала участь й у наукових заходах, у тому числі щорічних "Розумовських зустрічах", конференціях у Ніжинському університеті. В результаті стала цілком своєю, рідною. Існувала мовчазна домовленість — вона розмовляє білоруською, а ми (колеги-історики) — українською. Чим всі були дуже задоволені. Востаннє Валентина відвідала Київ та Чернігів у листопаді 2019 року. Планували зустрітися в січні наступного, але не склалося. А потім був ковід, небачені ускладнення для поїздок, що якось компенсувалися ледь не щотижневими розмовами за допомогою різних мобільних додатків. І приголомшлива звістка у вересні 2021 р.: "Ми більше не побачимося".

Коли людина поруч часто не усвідомлюєш, хто поруч. Тепер, через тиждень після невідворотного, біль та відчуття втрати лише посилюються. Але Валентина Лебедєва (Метлицька) не даремно прожила життя за що дяка та шана. Пам'ятаємо про неї!

**Володимир Бойко (Чернігів)**

# ЗВЕСТКІ ПРА АЎТАРАЎ

**Łukasz Adamski**, PhD, historyk i politolog, specjalizujący się w historii krajów Europy Wschodniej oraz analizie ich bieżącej sytuacji politycznej. Od 2016 r. zastępca dyrektora Centrum Polsko-Rosyjskiego Dialogu i Porozumienia.

Główne publikacje: *Nacjonalista postępowy, Mychajło Hruszewski i jego poglądy na Polskę i Polaków*, Warszawa 2011; *Myślą i słowem. Polsko-rosyjski dyskurs ideowy XIX w.*, Ł. Adamski, S. Dębski (red.), Warszawa 2014; *Wbrew królewskim aliansom. Rosja, Europa i polska walka o niepodległość w XIX wieku*, Ł. Adamski, S. Dębski (red.), Warszawa 2016; *O ziemię naszą, nie waszą. Ideowe aspekty procesów narodowotwórczych w Europie Środkowej i Wschodniej*, Ł. Adamski (red.), Warszawa 2017; *Kręgi rewolucji. Rok 1917 w Rosji*, Ł. Adamski, B. Gajos (red.), Warszawa 2019.

**Alfredas Bumblauskas**, dr historii, profesor, zajmuje się historią i historiografią Wielkiego Księstwa Litewskiego. Od roku 1993 założyciel i kierownik katedry teorii historii i historii kultury na Uniwersytecie Wileńskim.

Autor *Senosios Lietuvos istorija: 1009–1795* (*Historia Dawnej Litwy: 1009–1795*, 2005), historii Litwy (2018), historii Żmudzi (2018), historii Uniwersytetu Wileńskiego (2020).

Najnowsze i aktualniejsze publikacje: *Wielkie Księstwo Litewskie: wspólna historia, podzielona pamięć*, Warszawa 2013; *Historia Litwy: koncepcje historyków a dominujące wizje przeszłości* [w:] *Dialog kultur pamięci w regionie ULB*, Warszawa 2014, s. 63–82; *The University of Vilnius and its „Golden Age": Introduction into the 1803–1832 Epochs, Archiwum Emigracji* (we współautorstwie z Loreta Skurvydaitė), Toruń, R. 2018/2019, Zeszyt 1–2 (26–27), s. 79–111; *Епоха Вітовта в історії України: 1387–1430* (we współautorstwie z Генутє Кіркєнє, Борис Черкас, Дмитро Ващук, Лорета Скурвідайте). Київ, 2020.

**Piotr Cichoracki**, historyk, profesor, dr hab. z Uniwersytetu Wrocławskiego. Zajmuje się historią polityczna Polski pierwszej połowy XX wieku, zwłaszcza dziejami obozu sanacyjnego, województw północno-wschodnich II Rzeczpospolitej, kwestiami bezpieczeństwa wewnętrznego w okresie międzywojennym.

Najważniejsze publikacje: *Polesie nieidylliczne. Zaburzenia porządku publicznego w województwie poleskim w latach trzydziestych XX wieku*, Łomianki 2007; *Droga ku anatemie. Wacław Kostek-Biernacki (1884–1957)*, Warszawa 2009; *Województwo poleskie 1921–1939. Z dziejów politycznych*, Łomianki 2014; *Oblicza buntu społecznego w II Rzeczypospolitej doby wielkiego kryzysu (1930–1935). Uwa-*

*runkowania, skala, konsekwencje*, Kraków 2019 (wspólnie z J. Dufrat i J. Mierzwą); *Rzeczpospolita niedoskonała. Dokumenty do historii buntu społecznego w latach 1930–1935*, Łomianki-Kraków 2019 (wstęp i opracowanie wspólnie z J. Dufrat, J. Mierzwą i P. Rucińskim).

**Tadeusz Gawin**, dr hab., adjunkt w Studium Europy Wschodniej Uniwersytetu Warszawskiego. Historyk. Zainteresowania badawcze: historia polskiej mniejszości narodowej oraz Kościoła katolickiego na Białorusi od 1864 roku po XXI wiek.

Najważniejsze publikacje: *Związek Polaków na Białorusi 1988–2005. Historia działalności* (2007); *Polskie odrodzenie na Białorusi 1988–2005* (2010); *O bycie Polakiem. Polacy w Białoruskiej Socjalistycznej Republice Sowieckiej 1944–1991* (2013); *Пад прэсінгам палітыкі. Польская нацыянальная меншасць у Беларусі ў 1919–2017 гг.* (2013); *Polskość wyjęta spod prawa. Polska mniejszość narodowa na Białorusi 1919–2017* (2020) Redaktor naukowy pięciu tomów wydanych przez SEW UW pod tytułem *Polacy na Białorusi od końca XIX do początku XXI wieku* (2017–2021).

**Andrzej Zakrzewski**, profesor, dr hab., historyk prawa, specjalizuje się w historii ustroju i społeczeństwa Wielkiego Księstwa Litewskiego.

Napisał m. in: *Sejmiki Wielkiego Księstwa Litewskiego XVI–XVIII w. Ustrój i funkcjonowanie — sejmik trocki*, Warszawa 2000; *Wielkie Księstwo Litewskie (XVI–XVIII w.). Prawo, ustrój, społeczeństwo*, Warszawa 2013.

**Aleksander Zasztowt**, profesor, dr hab., historyk w Studium Europy Wschodniej Uniwersytetu Warszawskiego. Specjalizuje się w badaniach dziejów Europy Środkowo-Wschodniej i Rosji XVIII–XX w., w tym historii nauki i kontaktów naukowych.

Współprzewodniczący Komisji Historyków Polski i Rosji (od 2007). Przewodniczący Komitetu Historii Nauki i Techniki PAN oraz Prezes Kasy im. Józefa Mianowskiego — Fundacji Popierania Nauki (od 2010), a także wiceprezes Towarzystwa Naukowego Warszawskiego (od 2020).

Autor monografii: *Popularyzacja nauki w Królestwie Polskim 1864–1905* (1989), *Kresy 1832–1864. Szkolnictwo na ziemiach litewskich i ruskich dawnej Rzeczypospolitej* (1997), *Europa Środkowo-Wschodnia a Rosja XIX–XX w. W kręgu edukacji i polityki* (2007), *Melting Puzzle. The Nobility, Society, Education and Scholarly Life in East Central Europe (1800s-1900s)* (2018), a także redaktor prac zbiorowych m.in.: *East and West. History and Contemporary State of Eastern Studies* (2009; z Janem Malickim), *Kasa Mianowskiego* (2011), *Historia nauki polskiej 1945–1989*, t. X: części I–III (wspólnie z Joanną Schiller-Walicką) (2015).

*******

**Сяргей Абламейка**, PhD. Скончыў гістарычны факультэт БДУ і дактарантуру Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта. Журналіст. Выдаў кнігі

*Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі* (2019), *Невядомы Менск. Гісторыя зьнікненьня* ў 2 т. (2021) і інш.

**Вадзім Аніпяркоў**, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, ад'юнкт Універсітэта Мікалая Каперніка ў Торуні, супрацоўнік Студыяў Усходняй Еўропы пры Варшаўскім універсітэце. Сфера навуковых інтарэсаў: канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага ў другой палове XVIII ст.; развіццё прававой і палітычнай думкі; фармаванне і дзейнасць рэгіянальных эліт; унутраныя і знешнія фактары падзелаў Рэчы Паспалітай.

Апошнія публікацыі: «*Наш партизан*»*: личность и служебная карьера Шимона Коссаковского в свете российской дипломатической и военной корреспонденции (1790–1794 гг.)* [w:] *XVIII amžiaus studijos*, t. 7: LDK Giminė. Bendrija. Grupuotė, Lietuvos istorijos institutas, Vilnius 2022, p. 97–156; *Starp Krieviju un Žečpospolitu: Augusta Plātera Politiskās Darbības Metamorfozes (1792–1793)* [w:] *Vācieši Latgales teritorijā 16. gs. — 20. gs. sākumā: vēsture un recepcija*. Kolektīvā zinātniskā monogrāfija (sast. Alīna Romanovska). Daugavpils 2021, p. 82–98; *Случарэцкі павет (1791–1792): стварэнне, адміністраванне, скасаванне* [w:] *Парламентарызм у Вялікім Княстве Літоўскім у XVIII ст*. Вып. 2, складальнікі А. Мацук, Р. Юргайціс, Мінск 2020, с. 300–360; *Под маской сотрудничества: конфликты российских войск и пророссийских конфедераций на землях Великого княжества Литовского в 1792–1793 гг.*, „Исторический вестник", 2020, т. XXXIII, с. 138–181; *Instrukcje i reskrypty do ambasadorów rosyjskich w Rzeczypospolitej w latach 1772–1794*, oprac. A. Danilczyk, J. Kordel, V. Anipiarkou, S. Łuczak, współpraca Z. Zielińska, Warszawa 2019.

**Наталія Білоус,** кандидат історичних наук, старший науковий співробітник Інституту історії України НАНУ.

Сфера наукових інтересів: соціальна історія Волині і Наддніпрянщини XVI–XVII століть, історична урбаністика, тестаментологія, сфрагістика. Є автором чотирьох монографій, двох брошур (каталогів), близько 100 наукових статей. Серед них: *Київ наприкінці XV — в першій половині XVII ст. Міська влада і самоврядування*, Київ 2008; *Тестаменти киян середини XVI — першої половини XVII ст.*, Київ 2011; *Привілеї Києва кінця XV — середини XVII ст. Дослідження. Тексти*, Київ 2013; *Urzędnicy miejscy Łucka w XV–XVII wieku. Spisy* [w:] *Spisy urzędników miejskich z obszaru dawnej Rzeczypospolitej, Śląska i Pomorza Zachodniego*, t. VII: Ziemie Ruskie, z. 3, Łuck — Toruń 2017; *Testamenty mieszkańców miast Wołynia od końca XVI — do początku XVIII wieku. Katalog*, Warszawa 2017; *Unia lubelska we współczesnej ukraińskiej historiografii oraz dydaktyce* [w:] *Unia Lubelska 1569 roku i unie w Europie Środkowo-Wschodniej*, red. Jacek Krochmal, Warszawa 2020, s. 273–291; *За крок до Вічності. Мешканці міст Волині у світлі тестаментів кінця XVI–XVII століть*, Київ 2021.

**Володімір Бойко**, кандидат історичних наук. Директор Чернігівського регіонального центру підвищення кваліфікації. Сфера наукових інтересів — період Української революції 1917–1921 рр., насамперед — діяльність органів місцевого самоврядування.

Публікації: *Участь українських партій у муніципальній кампанії 1917 р.* „Укр. іст. Журнал", 1997, № 5, с. 25–40; *Виступ полуботківців: чернігівський слід* [w:] *Українська революція: погляд із сьогодення*, Київ 2013, с. 301–312; *Українське місто в публіцистиці революційної доби Сергія Єфремова* [w:] *Гарадзенскі соцыум. Город і яго жыхары: партрэт на фоне эпохі. X–XX стст.* Пад рэд. А. Ф. Смаленчука, Мінск 2016, с. 162–174; *Відображення регіональної історії Української революції в «Детройтських зошитах» Романа Бжеського* [w:] *Революція, держаність, нація: Україна на шліху самоствердження (1917–1921 рр.)*. Упоряд. Владислав Верстюк (відп. ред.), Київ — Чернігів 2017.

**Юры Грыбоўскі (Jerzy Grzybowski)**, д-р габ., гісторык, прафесар кафедры міжкультурных даследаванняў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы Варшаўскага ўніверсітэта. Сфера навуковых даследаванняў: палітычная, вайсковая і рэлігійная гісторыя Беларусі XX ст.; польска-беларускія ўзаемадачыненні ў 1918–1945 гг.; беларуская дыяспара на Захадзе; гісторыя праваслаўнай царквы ў Беларусі і Польшчы.

Найважнейшыя публікацыі: *Беларусы ў польскіх рэгулярных вайсковых фармаваннях у 1918–1945 гг.*, Санкт-Петербург 2006, 2-е выданнне, Warszawa 2007; *Pogoń między Orłem Białym, Swastyką i Czerwoną Gwiazdą. Białoruski ruch niepodległościowy w latach 1939–1956*, Warszawa 2011; *W służbie Rzeczypospolitej. Duszpasterstwo wojskowe wyznania prawosławnego w Wojsku Polskim w latach 1919–1949,* Warszawa 2016; *Emigracja zarobkowa z Polski na Łotwę i do Estonii w latach 1928–1939*, Warszawa 2021; *Arcybiskup generał brygady Sawa (Sowietow) 1898–1951: duszpasterz, żołnierz, obywatel,* Warszawa 2021;

**Аляксандр Краўцэвіч**, гісторык, доктар гістарычных навук, сябар Цэнтра беларускіх студыяў Студыюма Усходняй Еўропы Варшаўскага ўніверсітэта. Займаецца гісторыяй Беларусі і Вялікага Княства Літоўскага.

Найважнейшыя публікацыі: *Кароткая гісторыя Беларусі,* Мінск 2022; *Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага. 1248–1377 гг.*, Гародня — Уроцлаў 2015; *Краіна Пагранічча: выбраныя творы*, Смаленск 2014; *Белорусы: нация Пограничья*, Вильнюс 2011, (у суаўт.); *Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага*, Менск 1998, 2-е выданне, Rzeszów 2000; *Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV–XVIII стст. (планіроўка, культурны слой)*, Менск 1991.

**Уладзімір Лобач**, доктар гістарычных навук, ад'юнкт Інстытута славістыкі Польскай акадэміі навук, сфера навуковых інтарэсаў: этнасеміётыка, палявая этнаграфія, вусная гісторыя, антрапалогія вайны.

Выбраныя працы: *Міф. Прастора. Чалавек: беларускі традыцыйны ландшафт у семіятычнай перспектыве*, Мінск 2013; *Феномен вайны ў міфапаэтычнай карціне свету беларусаў* [w:] *Беларускі фальклор: матэрыялы і даследаванні*. Навуковы зборнік. Вып. 1, Мінск 2014, с. 58–91; Святыя крыніцы Беларусі, Пад рэд. У. А. Лобач, Т. В. Валодзіна, Мінск 2016; *Вясковыя святыні Беларусі і савецкая ўлада: вандалізм і святатацтва ў антрапалагічным вымярэнні*, „Веснік ПДУ", серыя А. Гуманітар. навукі, 2019, № 1, с. 2–12; *German Soldiers in the Period of the Nazi Occupation in the Memories of the Belarusian Villagers*, „Studia Białorutenistyczne", 2019, vol. 13, s. 72–89.

**Уладзімір Ляхоўскі (1964–1921)**, кандыдат гістарычных навук. Даследаваў праблемы гісторыі культуры і адукацыі, развіцця беларускага нацыянальнага руху і станаўлення грамадскай супольнасці Беларусі ў XIX–XX стст., гісторыю беларускай даваеннай эміграцыі, сацыяльна-палітычныя і гуманітарныя наступствы Першай сусветнай вайны для Беларусі, гісторыю мытнай справы, геапалітычныя і геаэканамічныя аспекты глабальнай і рэгіянальнай інтэграцыі.

Адзін з укладальнікаў зборніка *Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакумэнтах і ўспамінах* (2001, з А. Гесь, У. Міхнюком), зборніка *Национальная академия наук Беларуси. 1928–2008. Документы и материалы* (2008), калектыўнай манаграфіі *Гісторыя Пінска: ад старажытнасці да сучаснасці: да 915-й гадавіны з першага летапіснага ўпамінання* (2012). Аўтар манаграфій: *Школьная адукацыя ў Беларусі падчас нямецкай акупацыі 1915–1918 гг.* (2010) і *Ад гоманаўцаў да гайсакоў. Чыннасць беларускіх маладзёвых арганізацый у 2-й палове XIX — першай трэці XX ст.* (2012).

**Мікалай Мязга**, доктар гістарычных навук, прафесар, загадчык кафедры ўсеагульнай гісторыі Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны.

Сфера навуковых інтарэсаў: міжнародныя адносіны ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе ў перыяд ад Першай да Другой сусветнай вайны, знешняя палітыка СССР, Польшчы, Германіі, роля і месца Беларусі ў савецка-польскіх адносінах 1918–1939 гг., уплыў гістарычнай палітыкі на развіццё гістарычнай навукі, гістарыяграфія савецка-польскіх адносін.

Асноўныя публікацыі: *В тисках Рапалло: германский фактор в польско-советских отношениях 1921–1926 гг.*, Гомель 2010; *Советско-польские отношения 1921–1926: новый этап противостояния*, Гомель 2019; *Западная Беларусь в советско-польских отношениях: от Рижского договора до воссоединения с БССР* [w:] „Журнал БГУ. История", 2019, № 4, с. 17–26; *Kształtowanie się wersalsko-ryskiego systemu stosunków międzynarodowych i miejsce w nim Białorusi* [w:] *Polacy na Białorusi. Od Powstania Styczniowego do początku XXI wieku. Wybrane problemy stosunków polsko-białoruskich*, red. T. Gawin. Warszawa 2020, s. 157–173.

**Аляксандр Радзюк**, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, навуковы супрацоўнік Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта. Сфера навуковых інтарэсаў: палітычная гісторыя Беларусі XIX ст., гісторыя штодзённасці.

Асноўныя публікацыі: *Пад скіпетрам Расейскай імперыі. Рэпрэсіўная палітыка царызму на землях Беларусі ў канцы XVIII — першай палове XIX ст.*, Гародня — Кракаў 2017; Sauczuk A., Radziuk A., *Album powstańców 1863 roku z Grodzieńszczyzny*, red. W. Caban, Kielce 2021, 232 s.; *Дзейнасць следчых і судовых камісій на тэрыторыі Беларусі ў 1863–1867 гг. (на прыкладзе Гродзенскай губ.)* [w:] *Паўстанне 1863–1864 гг. у Польшчы, Беларусі, Літве і Украіне: гісторыя і памяць,* Мінск 2014, с. 208–223; *Represyjna polityka caratu na ziemiach białoruskich (1863–1864)* [w:] *Powstanie Styczniowe 1863–1864. Historia i analizy,* Kraków 2017, s. 211–238.

**Генадзь Сагановіч,** доктар габілітаваны, запрошаны прафесар Варшаўскага ўніверсітэта, сябар Цэнтра беларускіх студыяў Студыюма Усходняй Еўропы.

З апошніх публікацый: *Конфессиональная конфронтация и локальные сообщества в восточнославянских землях ВКЛ в конце XVI — первой половине XVIII в.* [w:] *Религия и Русь, XV–XVIII вв.* Отв. сост. А. В. Доронин, Москва 2020, с. 270–290; *Па слядах змагання з адным гістарычным міфам* [w:] *Др. Марыя Паўліна Сурвіла (1964–2020): Даследчыца і адвакат беларускай культуры = Dr. Maria Paula Survilla (1964–2020): A Scholar and Advocate of Belarusian Culture*. Укл., прадм. З. Гімпелевіч, Мінск 2021, с. 165–174; *Іншадумства акадэмічнай інтэлігенцыі ў БССР эпохі адлігі*, „Беларускі гістарычны агляд", 2021, т. 28, с. 163–193.

**Аляксандр Смалянчук**, доктар гістарычных навук, прафесар Інстытута славістыкі ПАН, сябар Цэнтра беларускіх студыяў Студыюма Усходняй Еўропы Варшаўскага ўніверсітэта. Галоўны рэдактар гадавіка антрапалагічнай гісторыі „Homo Historicus" (з 2008), „Гадавіка Цэнтра беларускіх студыяў" (з 2020). Праблематыка даследаванняў датычыць гісторыі нацыянальных рухаў у Беларусі і Літве ў XIX–XX стст., палітычнай гісторыі Беларусі ў XX ст., гістарычнай урбаністыкі, memory studies (вусная гісторыя, *lieux de memoire*).

Найважнейшыя публікацыі: *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 — люты 1917,* Санкт-Пецярбург 2004; *Краёвая ідэя ў беларускай гісторыі,* Мінск 2017, *Раман Скірмунт (1868–1939): жыццяпіс грамадзяніна Краю,* Мінск 2018; *Мітрафан Доўнар-Запольскі (1867–1934): асоба ў дакументах і ўспамінах* (рэд.), Мінск 2020; *Za pierwszych Sowietów. Pogranicze polsko-białoruskie w latach 1939–1941 w relacjach ustnych mieszkańców Białorusi* (red.), Warszawa 2021 ды інш.

**Іна Соркіна**, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, Цэнтр беларускіх студыяў Варшаўскага ўніверсітэта. Сфера навуковых інтарэсаў: гістарычная ўрбаністыка, гісторыя яўрэяў Беларусі. Аўтар каля 130 публікацый, у тым ліку манаграфіі *Мястэчкі Беларусі ў канцы XVIII — першай палове XIX ст.*, Вільня 2010.

**Наталя Старченко**, докторка історичних наук, старша наукова співробітниця Інституту української археографії та джерелознавства ім. М. С. Грушевського НАНУ. Сфера наукових зацікавлень: історія шляхти українських теренів Речі Посполитої, передусім Волинського воєводства, історія судочинства, парламентаризму (особливо періодів безкоролів'я), історична конфліктологія.

Публікації: *Честь, кров і риторика. Конфлікт у шляхетському середовищі Волині. Друга половина XVI — початок XVII століття*, Київ 2014 (2-е видання 2016); *Стратегії та ритуали конфлікту. Шляхетський соціум Волині зламу XVI і XVII ст. Джерела та інтерпретації*, Київ 2020; *Українські світи Речі Посполитої. Історії про історію*, Київ 2021; *II Statut Litewski versus konstytucje sejmowe. Województwa ukrainne w walce o „swoje" prawo na sejmach i w praktyce sądowej na przełomie XVI i XVII wieku* [w:] *Sejm Królestwa Polskiego i Rzeczypospolitej Obojga Narodów a europejskie reprezentacje stanowe*, Warszawa 2019, s. 126–156; *Люблінська унія як ресурс формування концепту політичного «народу руського» (1569–1648 рр.)*, „Український історичний журнал", 2019, № 2, с. 4–46.

**Уладзімір Падалінскі**, кандыдат гістарычных навук, працуе ў Беларускім дзяржаўным універсітэце.

*Асноўныя публікацыі: Прадстаўніцтва Вялікага Княства Літоўскага на Люблінскім сойме 1569 года: удзел у працы першага вальнага сойма Рэчы Паспалітай*. Навук. рэд. А. А. Радаман, Мінск 2017; *The Representation of the Grand Duchy of Lithuania in the Final Stage of the Seym of Lublin (June — August 1569)* „Zapiski Historyczne", 2014, t. 79 (4), s. 27–51; *Шляхта Вялікага Княства Літоўскага ў дыпламатычных місіях Рэчы Паспалітай (апошняя трэць XVI ст.*, „Studia Historica Europae Orientalis = Исследования по истории Восточной Европы, 2010, № 5; *Stanowisko szlachty Wielkiego Księstwa Litewskiego wobec instytucji sejmu walnego w końcu XVI wieku* [w:] *Kultura parlamentarna epoki staropolskie*, Warszawa 2013, s. 143–156; *Szlachta Wielkiego Księstwa Litewskiego w misjach dyplomatycznych Rzeczypospolitej (ostatnie trzydziestolecie XVI w.)* [w:] Polska wobec wielkich konfliktów w Europie nowożytnej. Z dziejów dyplomacji i stosunków międzynarodowych w XV–XVIII wieku, Warszawa 2009; *Да характарыстыкі персанальнага складу гарадзенскага земскага суда ў канцы XVI — пачатку XVII ст.* [w:] *Гарадзенскі палімпсест: асоба, грамадства, дзяржава, XV–XX стст.*, Минск 2012, с. 135–147; *Тэстамент троцкага ва-*

